АПОВЕСЦЬ
ПРА МАЛАДЫХ
СУЧАСНІКАЎ

УСПАМІНЫ
ПРА АПАЛЕНАЕ
ВАЙНОЙ
ЮНАЦТВА

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ
У ВЫЯЎЛЕНЧЫМ
МАСТАЦТВЕ

ДЗЕСЯЦІКЛАСНІКАМ,
ЯКІЯ ЦІКАВЯЦЦА
МАТЭМАТЫКАЙ І ФІЗІКАЙ

НАРАДЖЭННЕ
БЕЛАРУСКАЙ
ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ

МЕТЭАРЫТЫ
НА БЕЛАРУСІ

АФРЫКАНСКАЕ
КІНО

АЛЯКСАНДР МЯДЗВЕДЗЬ
ПРА ПАЕЗДКУ
Ў МЕХІКА



1

СТУДЗЕНЬ

МІНСК, 1969

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС*

●

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

## У НУМАРЫ:



**Выдавецтва «Звязда»**

Вокладка **Г. Скамарохава.**

Шмуцтытулы **В. Шаранговіча** (стар. 3) і **В. Косціна** (стар. 93).





# ПРОЗА ПАЭЗІЯ

● ПЯТРУСЬ БРОЎКА ● ЭДУАРД ЯРАШЭВІЧ ● АНАТОЛЬ ГРАЧАНІКАЎ ● ЮРАСЬ СВІРКА ● АЛЕСЬ ЛІПНЁВЫ ● СЯРГЕЙ ПАНІЗНІК ● ЮРАСЬ ПІСАРЭНКА ● УЛАДЗІМІР МЕХАЎ ● КАНСТАНЦЫЯ БУЙЛА ● АЛЯКСАНДР КАЗАНЦАЎ

ПАЭЗІЯ



# Наперакор



**Пятрусь БРОЎКА**



●

Казалі — куля тваё сэрца
У бойцы навылёт прайшла...
А ты прыйшоў
І ўжо ў бяссмерці
Стаў пасярэдзіне сяла.

Гаворыш з цэлай грамадою
Пра ўсе паходы,
Бітвы ўсе...
А плашч-палатка за спіною
Цябе, што крыллі, ўвысь нясе.

●●

Ваш, аж пад неба, стан выносны,
З высока ўзнятай галавой —
Я захапляўся вашай, сосны,
Гвардзейскай выпраўкай лясной.

Мядзяны бляск, а моц, як сталі,
Гадам нялёгка вас разбіць.
Не раз грудзьмі абаранялі
Вы нас ад бур і навальніц.

Але прайшло гадоў ці мала
І старасць сумная прыйшла,
І вас ссівелых даканала
Зубчастым языком піла.

Гляджу на здзёртае убранне,
Як аскабалкі рук тырчаць...



Здаецца, паўшыя ў змаганні,
Застыўшы, волаты ляжаць.

●●●

Мы слёз не бачым у герояў,
Яснота дадзена вачам.
Але і ў іх жыве такое,
Што ў звычаі смяротным нам.

У кожнага свая прычына,
Што йдзе да кожнага ўсяляк,
Бывае, на душу нахлыне,
Што не стрымацца аніяк.

Не сціснеш сэрца абцугамі.
І дзе той мужнасці мяжа?
І ў Леніна, было часамі,
З вачэй кацілася сляза.

●●●●

Прамчаліся дні, адшугалі,
Звароту ў былое няма.
Другімі з табою мы сталі,
Якімі — ты бачыш сама.

Здаецца — ранейшае неба,
Запал жа, у грўдзях, не той.
Мне многа сягоння не трэба,
Хоць дзень, ды пабыць бы з табой.

Не трэба тваіх абяцанкаў,
Юнацкіх не звернем мы дзён —
А слова ласкавае ўранку,
Ласкавае слова на сон.

●●●●●

Наперакор настроям хмурым
Прайду бадзёры па жыцці.
Наперакор вятрам і бурам
Наперад буду я ісці.

Наперакор пустым, гуллівым
Цяжар не скіну я з пляча.
Наперакор сябрам хлуслівым
Я буду шчырым да канца.

Наперакор мятлюгам зімнім
Хачу я сэрцам палымнець,
Наперакор гадам нястрымным
Я не збіраюся старэць.

Наперакор начы да сонца
Я буду рукі уздымаць,
Наперакор людской гамонцы...
А што? Ды лепш не адкрываць!

●●●●●●

Хмурнеюць мае напевы,
Пачуўшы, як стогне зямля,
Калі на цвітучае дрэва
Раптам насунецца тля.

Пакутуе дрэва замнога,
Бо можа і лісце згубіць,
А хтосьці гаворыць: — Нічога!
Не трэба трывогі біць.

Навошта знішчаць адразу,
Бо тля — усяго не кране,
Што гэта хвароба часу,
Што гэта само міне.

Дык вось як умеюць са спрытам
Туманіць, кружыць, віхляць...
Давайце ж, будзем адкрыта
Чорнае чорным зваць.

●●●●●●●

І не дайду я галавою,
Адкуль сягоння ён узнік?..
Ну, невядома, што такое —
Ані студэнт,
Ні працаўнік.

Аброс.
На малпу выглядае,
Ані клапот, ані тых дум.
Асфальты клёшам падмятае,
Гітараю наводзіць сум.

Імкне юнацтва ўвысь праз буры,
Будуючы жаданы свет,
Яго ж адкінуць, як акурак,
Яшчэ і плюнуць злосна ўслед.



ПРОЗА



● Эдуард ЯРАШЭВІЧ
● Мал. Ф. БАРАНОЎСКАГА

# СЦЕНЫ СВАЙГО ДОМА

АПОВЕСЦЬ

1



Пабудзіў яго стук у фортку. І ў той жа момант Генка пачуў галасы за акном і ціхае гудзенне матора. Няўжо прыехаў Раман? Генка саскочыў з ложка, кінуўся да акна. У святле ліхтара ўбачыў «Волгу», мужчыну, што абышоў яе спераду і сеў за руль. «Волга» кранулася, і тады Генка пачуў, што хтосьці ішоў па двары. Ён перабег да другога акна і — памчаў адчыняць дзверы. Адны, другія... Ганак... І Раман перад ім!

— Гена, ты? Раздзеты! Бяры чамадан і хутчэй у хату!

— Нічога са мной не будзе! — Генка знарок стаяў на ганку.

Раман абняў яго, пацалаваў і лёгенька падпіхнуў у сенцы:

— Хутчэй, а то прастудзішся!

Генка падхапіў чамадан і першы зайшоў у пакой — уключыць святло. Але ў прыцемку ўбачыў ля выключальніка маці. І тут жа ярка ўспыхнулі лямпачкі...

Маці папраўляла валасы, і неяк адразу згасла радасна-разгубленая яе ўсмешка, ледзь толькі Раман ступіў да яе, абняў. Маці заплакала, і Раман часта заміргаў, і ў яго, Генкі, раптам зашчымела ў вачах. Ды зноў яны ўсе заўсміхаліся, і Раман прыхінуў Генку да сябе.

— Як вырас! Дагнаў мяне! Ты зірні, мама! Не чакаў, не думаў... Малайчына!

— Сынок, апраніся,— сказала маці.

Генка апранаўся хутка. Ён паспеў нацягнуць на сябе світэр і штаны хутчэй, чым Раман зняў паліто. Вось гэта было ў навіну: стаў Раман марудны ў руху... Ён павесіў паліто, прычасаў свае мяккія чорныя валасы і пайшоў вокал стала, узіраючыся ў малюнак шпалераў, у партрэты зусім маладых маці і бацькі і ў кожную драбніцу, што трапляла на вочы.

— Вось такі я і ёсць. Пастарэў? — вымавіў Раман.

Ён стаў па другі бок стала, высокі, плячысты. Ён, вядома, сам ведаў, што за чатыры гады крыху змяніўся ў твары: памужнеў, займеў зморшчынкі між броваў, ля куточкаў вуснаў. Але хіба гэта тое слова— «пастарэў»?

— Ты зусім дзед,— засмяяўся Генка.

А маці толькі ўсміхалася. Яна была рада, што Раман здаровы, дужы: яна,— Генка не сумняваўся,— паглядзела ўжо на Рамана і вачыма медыка са стажам у дваццаць дзевяць год. Нядужасць яна заўважала ў людзей адразу. Але хіба магла яна заўважыць яе ў гэтым волаце?

Маці села на крэсла, спытала:

— Як жа дабіраўся, Рома? Чакалі днём цябе.

— Самалётам. Затрымаліся з вылетам. Таму так позна. А з горада на таксі. Па мястэчку, думаў, буду ехаць, то хоць адну знаёмую душу ўбачу. Ды дзе ж такой парой! Толькі парачкі прахаджваюцца. А як у цябе, Гена, з гэтым? — Раман прыжмурыў вочы.— Таксама зоркі лічыш?

— Пералічыў ужо...

Генку не збянтэжыў усмешлівы позірк маці. Ад яе ён мала што таіў і ўсё раскажа яму, Раману. Можа нават тое, чаго не сказаў маці і чаго не гаварыў яшчэ самой Тані... Раскажа, толькі трэба на гэта іншая хвіліна.

— Што ж гэта я...— маці ўстала..— Чай яшчэ, Рома, будзе гарачы, пап'еш з дарогі.

— Не-не! — Раман абышоў вакол стала, узяў маці за плечы, пасадзіў.— Я ў рэстаран заходзіў, выпіў і гарачага і халоднага. Сядзі, сядзі. Мы лепш з выпадку сустрэчы...

Раман ступіў да сумкі, якую пакінуў на падлозе ля дзвярэй, вярнуўся з ёю і выклаў на стол пачкі пячэння, цукерак, паставіў дзве бутэлькі віна.

— Сядай, Гена,— сказаў ён.— Пагляджу зараз, як ты ўмееш...

*Ці ёсць хто з маіх аднагодкаў, каб не памятаў вайну? Яна многа адабрала ў нас. Але калі я ўспамінаю пасляваенныя школьныя гады, то заўжды чую вясёлы смех. Ён звінеў на школьным двары, над Волмай-ракой, у нашым старым мястэчковым парку... Яшчэ ў восьмым класе мы, трое сяброў, вызначылі сабе жыццёвы шлях. Адзін з нас стаў інжынерам, сёння ён кандыдат тэхнічных навук, другі — марак, ужо дванаццаць гадоў плавае па морах ды акіянах.*

*Ці ж збылася мая мара?*

*Пісаць і друкавацца пачаў я ў васемнаццаць год. Цікавіў і цікавіць мяне, перш за ўсё, той чалавек, якога чамусьці ў нас прынята называць простым. Ён, гэты просты савецкі чалавек, добра бачыць мяжу паміж дабром і злом, прыгажосцю і пачварствам. Ён змагаецца за светлае.*

*Героі гэтай аповесці — у сэрцы маім. Калі яны стануць у нечым блізкімі і табе, дарагі чытач, то я буду лічыць, што галоўная мара мая збылася.*

*Эдуард ЯРАШЭВІЧ.*



— Умею,— адказаў Генка, сеўшы ля стосіка сваіх кніг.

— Зарана яму ўмець,— прагаварыла маці.— Не цягнецца яшчэ да гэтага. І не курыць.

Генка ўсміхаўся. Маці расхвальвала яго Раману, нібыта малазнаёмаму чалавеку. Яму захацелася падражніць яе.

— А ўспомні Новы год! А восьмае Сакавіка! А дзень нараджэння твой! Хіба я адмаўляўся? А не куру толькі таму, што дым горкі, горла дзярэ. Так што не рабі мяне маленькім!

— Хха-ха!..— разрагатаўся Раман.— Сапраўды, Гена, ты ўжо мужчына. А станеш курыць, то я сам цябе прапясочу. Не варта. Я ў дзесяць год пачаў, таму не магу і кінуць. А інакш — гатоў бы і не нюхаць..

— Падай, Гена, кілішкі,— сказала маці.

Генка прынёс з буфета кілішкі. І яны ўсе выпілі салодкага малдаўскага віна. Раман сказаў:

— Ну, як вы тут? Парадак?

— Жывем, Рома, памаленьку,— загаварыла маці.— Дзякуй табе, што не забываў, памагаў нам. Мне ўжо два гады да пенсіі засталося. А на здароўе скардзіцца не магу: яшчэ папрацую і там, за пенсіяй...

— Да пенсіі, і — кропка! — рашуча сказаў Генка.

Ён бачыў, якой стомленай вяртаецца маці штодзень з работы. І, заходзячы да яе ў бальніцу, бачыў, што ёй даводзіцца рабіць. Безліч уколаў, перавязак, працэдур, размоў з хворымі — яна ўвесь дзень была на нагах. Тое, што ёй будзе сумна без работы — гэта праўда. Але ж яна думае працаваць потым яшчэ з-за таго, што хоча, каб яму лягчэй жылося, Генку. Вытрывае ён, калі і цяжэй будзе, абы здаравейшая была яна.

— Ну, яшчэ два гады. А там будзе відаць...— лагодна сказала маці.

— Правільна. А ў цябе, Гена, якія планы? — спытаў Раман.

— Тыя самыя,— усміхнуўся Генка.

— Па-ранейшаму хочаш урачом стаць?— шчыра здзівіўся Раман.

— Хачу. Не перадумаў.

— І не палохае цябе ўсё такое...— Раман пакруціў у паветры пальцамі.— Кроў там, няшчасці розныя? Выклікі па начах?

Генка паціснуў плячыма.

— Працуюць людзі... І я змагу.

— Значыць, сямейная традыцыя?.. Ну, калі ты гатовы ўсё такое цярпець, то давай, Геша. Урач Галубовіч — гэта гучыць! — Раман падаўся да чамадана і неўзабаве палажыў перад маці адрэз тканіны.

— Табе, мама.

— Дзякуй, Рома, дзякуй,— маці расчулена ўсміхнулася.

— А гэта, Гена, табе.

Раман працягнуў да яго далонь, на якой ляжаў прыгожы наручны гадзіннік. Генка ўзяў, падзякаваў і разгублена зірнуў на Рамана.

— А ў мяне ўжо ёсць гадзіннік... Вунь, бачыш, на століку.

— Летам яшчэ купіў. Зарабіў на будаўніцтве і купіў,— сказала маці.

— Ха! Якая ж бяда? Няхай два будзе. А гэты, магу паручыцца — ідзе не горш за атамны. Сам па дэтальцы сабраў,— не без ганарлівасці прагаварыў Раман.

— Як — сам? — Генка недаўменна зірнуў на Рамана.

— Сам! — усміхнуўся Раман.— Вось гэтымі рукамі. Прайшоў і такую навуку. Я цяпер працую ў майстэрні па рамонту гадзіннікаў.

— Ты ўжо не шахцёр?!..— спытаў Генка і перавёў позірк на маці.
Яна таксама здзіўлена пазірала на Рамана. І заклапочана спытала:
— Ты, можа, хварэў, Рома? Па здароўю перастаў на шахце працаваць? Скажы, як ёсць... Чаго таіць...
— Ды не хварэў я! І не збіраюся. Ці ж вы не бачыце? — Раман варухнуў плячыма.— Проста, па душы мне гэта работа. Падвучваўся памалу, працуючы на шахце, а потым і перайшоў у майстэрню.
Генка зірнуў на Раманавы рукі. Вось гэта дзівата! Быў праходчыкам — і тыя ж рукі робяць такую тонкую работу...
Раман сеў і зноў акінуў позіркам пакой, па чарзе паглядзеў на маці, на яго, Генку. Ён нібы дзівіўся, што бачыць іх.
— Тут ты ўжо, дома. Заплюшчы вочы,— загадаў Генка, і Раман паслухаўся.— А цяпер расплюшчы. Каго бачыш?
Яны ўдвух пасмяяліся. Маці ж пазірала на Рамана задуменна. Ціха сказала:
— На бацьку ты падобны, Рома. Цяпер больш, як калі...
Ён, Генка, не помніць бацькі, ён толькі партрэт яго памятае да драбніц. Раман падобны на бацьку: гэтак жа крута назад, як і бацька, зачэсвае ён валасы, вочы і густыя чорныя бровы такія, як у бацькі. А вусны Раман цяпер таксама сціснуў, і на момант здалося Генку, нібы там, на сцяне, вісеў партрэт самога Рамана.
А ён, Генка? Ён падобны на маці. Высокі лоб, шэрыя вочы. Толькі валасы ў яго русявыя.
Твар у Рамана адразу неяк памаладзеў, калі маці спытала:
— Ці надоўга ты да нас?
— А пакуль не надакучу,— адказаў ён з усмешкай. І дзелавіта дадаў: — Гэта не водпуск у мяне. Я ж у майстэрні ўсяго тры месяцы. Але загадчык мне добры прыяцель. Я яму памагаў, вось і ён... Доўга не гаварылі. Сказаў, што хачу дадому паехаць, ну і тут...
— Я думала, можа, застаўся б з намі. Пара б ужо разам. Колькі год усё далёка...— сказала маці.
Раман памаўчаў.
— Пабачым. Па праўдзе кажучы, пара на якар. Пацягнула мяне да вас моцна. Можа так і будзе.
— А цябе там... ніхто не трымае? — спытала маці.
— Не, мама. Такой, каб жаніцца, няма,— не задумваючыся, адказаў Раман. І весела спытаў: — А старыя сябры мае, значыць, усе перажаніліся? Як ім жывецца?
— Як каму, Рома. У Андрэя ўсё добра. Жонка ў яго настаўніца. Я ж табе пісала.
— Матэматычка! Толькі не наша. А Андрэй Сцяпанавіч у нас класны,— дадаў Генка.
— Андрэй Сцяпанавіч...— раздумліва ўсміхнуўся Раман.— Я ўсё Раман, а ён — Сцяпанавіч. Строгі, мусіць?
— І строгі, і не...— адказаў Генка.— Ён, калі не на ўроку, з намі — на «ты»... Свой...
— Ну, а Сяргей як?
— Верасаў? Ты пабачыў бы, колькі набудаваў ён за гэтыя гады! — апярэдзіў маці Генка.— І школу-інтэрнат, і ў тэхнікуме — цэлы гарадок, і магазіны новыя. Ён нас з Ігарам летам на работу прымаў...
— Гэта з Малінцом? Сябры па-ранейшаму?
— А як жа? Паўтара месяца працавалі. Падсобнымі, канешне. Нічога прараб. Што трэба.



— Сынок у яго. Два гады ўжо. Праўда, хваравіты...— сказала маці.
— Праведаю. Усіх праведаю. Нагаворымся за ўсе чатыры гады,— сказаў Раман. Ён пазяхнуў, прыкрыў рот рукой.— Ноч амаль не спаў.
Маці ўстала.
— Будзем класціся. Дзе ты, Рома, хацеў бы? Як на ложку, то Гена ляжа на канапе.
Генка доўга ўгаворваў Рамана легчы на яго ложку, але той адмовіўся. А калі палеглі, калі маці, глянуўшы на іх, выключыла святло і зайшла ў спальню, Раман, пакруціўшыся на канапе, спытаў:
— А Валя Каранёва... другі раз замуж не выйшла?
Па гучным Раманавым голасе Генка зразумеў, што гэтае пытанне адносіцца больш да маці, чым да яго, і маўчаў.
Маці адазвалася з-за перагародкі:
— У Валі, Рома, цяжка жыццё склалася. Той яе кінуў, а месяцы праз два і без маці засталася. Жыве з дачкой тут, у мястэчку. Працуе ў дзіцячым садзе... Людзі шкадуюць яе.
«Валю шкадуюць. І я сам...— думаў Генка.— Але мне і цябе, Раман, шкода. Так яе любіў, а яна... Не шанцуе ні табе, ні ёй...»
Больш Раман нічога пра Валю не пытаў. Пацікавіўся, як жывуць суседзі, і Генка наперабой з маці расказвалі яму. Маці ўсё пахвальвала тых, што сталі за гэтыя чатыры гады дарослымі, «выйшлі ў людзі». І Раман на яе словы кінуў:
— І мы не горшыя за іншых! Так, Гена?
— Мусіць, так,— весела адказаў Генка.
Праз хвіліну ён пачуў роўнае Раманава дыханне.

## 2

Уначы зіма зрабіла вылазку. Яна прагула над мястэчкам мяцеліцай, пакінуўшы на дахах, на зямлі ладнаваты слой снегу. Цяпер снег раставаў. Маладому сакавіцкаму сонцу было за прыемную забаву пяшчотным дотыкам праменняў зганяць з зямлі рэшткі зімы. Дзесяткамі ручаінак бегла па вуліцах вада, і Генка наскакаўся ў сваіх туфлях, пакуль дабраўся дадому.
Хоць ён і спяшаўся, але на дзвярах убачыў замок: Раман некуды пайшоў. Магчыма, блукаў дзесьці адзін? Той, хто доўга не быў у родных мясцінах, мае вялікую патрэбу прайсціся па вуліцах у адзіноце — гэта Генка ведаў па сабе. Ён пакідаў мястэчка ўсяго на два тыдні, калі ўсім класам ездзілі на Украіну, але, вярнуўшыся з падарожжа, пайшоў паблукаць па вуліцах, па парку адзін, без Ігара і нават без Тані.
Генка вырашыў, што ісці шукаць Рамана не варта. А каб час прайшоў хутчэй, можна тое-сёе зрабіць.
Ён пасядзеў над падручнікамі, потым прыйшла маці, і яны разам чакалі Рамана. Ды ўрэшце селі абедаць без яго. І толькі калі Генка ўзяўся калоць дровы, Раман паказаўся на двары. Ён быў вясёлы, паказаў кулак з паднятым угору вялікім пальцам. Падышоў, спыніўся, паглядзеў на сякеру.
— Рубім, значыць? Колем?
— Ды вось, размінка. А ты дзе быў?
— Прайшоўся. Сустрэў старых знаёмых... А давай я паспрабую...
Раман прыставіў палена да калоды, злёгку ўскінуў сякеру — і

палена распалася на дзве роўныя часткі. Ён ударыў яшчэ і яшчэ, пакуль не пайшла зусім тонкая шчапа, і кінуў сякеру.

— Ф-фух, горача...— сказаў задаволена.— Бачыў, якая рука? А я ж выпіў. Ну, пайду ў хату. І ты тут канчай. Ёсць размова... маленькая.

— Я зараз! Складу толькі.

Калі Генка зайшоў у хату, Раман сядзеў на канапе, пацягваў са шклянкі кампот.

— А есці не хачу,— гаварыў ён.— Сустрэў Шурэйчыка, пасядзелі ў сталоўцы. Незайздроснае ў яго жыццё. Сам вінаваты. П'е бязбожна. Кажу, меру трэба ведаць. Я ж таксама выпіваю, але трымаю сябе ў руках, розуму не губляю, не...

Генка заўважыў: калі Раман успомніў Шурэйчыка, маці насцярожылася, але наступныя словы Рамана супакоілі яе.

— Так і трэба, Рома. Так і трэба,— прагаварыла яна.— Шурэйчык даўно сябе ў руках не трымае. За п'янства адусюль гоняць яго. Цяпер качагарам у тэхнікуме. Але ці надоўга... Не раўня ён табе...

Сеўшы на кукішкі, Генка пачаў распальваць у грубцы. Звыклым быў гэты занятак, і рабіў ён усё хутка, спрытна. Здзівіла яго цішыня, што раптам запанавала ў хаце. Генка зірнуў на маці, на Рамана — і адчуў, што вось гэты момант запамятаецца яму назаўсёды. З ім часта здаралася такое, асабліва перад сном: раптам успамінаўся нейкі выпадак далёкіх дзён і, як на экране, бачыў ён сябе, бачыў кожную дробязь, што ўвабраў тады зрок. Ніколі ён не ведаў, што тое асядзе ў яго памяці і паўстане жывым малюнкам праз многа год. А тут быў упэўнены: гэты момант будзе паўставаць уваччу, колькі яму жыць.

Яны абое, маці і Раман, пазіралі на яго. Ім думалася нешта прыемнае, і няйнакш, як пра яго, Генку. Маці сядзела за сталом, падпёршы рукой галаву, задумлівай была яе ўсмешка, а шэрыя прыгожыя вочы свяціліся пяшчотай, спакоем.

Раман курыў. І ён усміхаўся, і задаволенасць усім, што ёсць, была ў яго ўсмешцы. А позірк нагадаў Генку чутыя недзе словы: «Эх, братуха ты мой... Ну-ну, давай... Мы яшчэ з табой такое зробім... Ого!..»

І ўсё астатняе запомнілася Генку: і чысціня пакоя, залітага сонечным святлом, і тое, што маці ў сіняй шарсцяной кофце, і што ў каштанавых з сівізной валасах яе б'юцца сонечныя іскрынкі. І запала ў памяць вольная поза Рамана, і пачуццё гонару за яго, такога моцнага хлопца, і жаданне падысці і падужацца з ім, крыху паваляць яго ў гэтым шэрым, па апошняй модзе пашытым касцюме.

— Гарыць там у цябе ўжо... Ну, то давай сюды,— вымавіў Раман.

Лучынкі ўзяліся агнём. Генка прычыніў дзверцы і сеў за стол на сваё ўлюбёнае месца — спіной да шафы. Раман падняўся з канапы, сеў таксама на крэсла — супраць маці — і ляпнуў далонню па стале.

— Усё да лепшага. Работа мне будзе і тут.

Ён глядзеў на іх з выглядам чалавека, якому ўсё ўдаецца, які ўпэўнены, што інакш быць не можа.

— А якая работа? — апярэдзіла Генку маці. Радасна-разгублена пазірала яна на Рамана.

— Ну, вядома, гадзіннікі рамантаваць буду. Заходзіў я да Малініна. Аднаму яму цяжка ўпраўляцца з рамонтам. Стары ўжо, не той тэмп... Ды і многа нясуць...

За нейкае імгненне Генка ўявіў усё: і тое, як раніцай Раман спяшаецца ў майстэрню, і як пасля расказвае пра сваю работу, як размаўляюць яны ўсе, седзячы за гэтым сталом і праз месяц, і праз два, і праз год. Раман заўсёды будзе тут, з імі!..

А Раман, адкінуўшыся да спінкі крэсла, працягваў:

— Памагу яму рамантаваць. Толькі не ў майстэрні. Тут, дома. І справа вось за чым. Трэба, каб людзі ведалі, што з'явіўся новы майстар. Чым везці гадзіннік у горад,— а многія туды возяць на рамонт,— то хутчэй жа сюды прыйдуць. Ты, Гена, у школе сябрам так і скажы: «Мой брат рамантуе гадзіннікі». Давай гарантыю: на рамонт — дзень-два. Гэта вялікі плюс. А ты, мама, са свайго боку. Знаёмыя табе тут усе. Я госць, людзі ўсялякае могуць падумаць. А вас ведаюць, і ваша слова будзе мець вагу. А што кліент, то і грошы. Падвучу і цябе, Гена. Ні поту, ні пылу. А капейку заўжды зможаш мець...

Пакуль Раман гаварыў, папяроса згасла, і ён зноў пачаў пстрыкаць запальнічкай.

«Што ж гэта?... Ён не жартуе... не жартуе...» Генка, апантаны, перавёў позірк на маці. Твар яе пацямнеў. Шклянка з недапітым кампотам адкідвала сонечны зайчык у вочы ёй, але яна толькі часта міргала і не ўхілялася, як не здагадваючыся, што ёй перашкаджае.

— Ну, як мой план? — Раман зноў пусціў убок струмень дыму.

Генка нічога не мог сказаць — нібы адняло ў яго мову.

— Не ведаю я, Рома... Нечакана гэта,— вымавіла, як праз сілу, маці.

Раман засмяяўся — гэтак заўсёды смяюцца з наіўнасці блізкіх: адкрыта, бяскрыўдна.

— Вы, можа, не верыце, што грошы будуць? — паблажліва загаварыў ён.— А дзе ж ім быць? Я там, у Вугальску, таму і ўзяўся за гэтую работу, што прыбытковая. Праўда, не ў сябе дома рамантаваў, а ў Ганчарэнкі. Майстар ён там вядомы. Ён мяне і падвучыў. Удзень у майстэрні пасядзім, а потым у яго дома. Тут ужо квіткі не выдаеш, усе грошы твае. Хапала і яму, і мне. Менш, як на шахце, ды затое потам вачэй не заліваеш. А тут таксама можна пакласці ў кішэню. Я папярэдзіў Ганчарэнку, што магу і затрымацца. Згадзіўся. Дзе яму падзецца... А там пабачым, пойдзе ўсё ладна, то і зусім застануся тут.

Раман змоўк, адпіў са шклянкі, уважлівей зірнуў на маці, на Генку.

— Што задумаліся? Ці зробіце рэкламу... Зробім! Яно і Шурэйчык бы памог. Ды якая ў яго слоў вага? Абыдземся. Толькі не марудзьце. Ды і я маўчаць не буду. І пацякуць... А паказаць вам маю амуніцыю? Пакажу...

Раман падышоў да чамадана, што стаяў ля шафы, і выцягнуў з яго партфель. Вярнуўся да стала і выклаў з партфеля некалькі пластмасавых карабкоў.

— Вось бачыце,— тыцкаў ён у карабкі пальцам.— Гэта пінцэты. А гэта адвёрткі. Без іх на гадзіннік паглядзі ды пакладзі. Першы час цяжкавата было з імі ўпраўляцца. Што ў ім вагі? — Раман падкінуў на далоні пінцэт. Потым падчапіў пінцэтам ледзь бачную дэталь.— Анкерная вілка гэта. Паставіш у гадзіннік, і — траячку ў кішэню... Нішто сабе? А няспраўныя гадзіннікі будуць заўсёды. Так што не прападзем.

Сунуўшы карабкі ў партфель, Раман прыўзняўся, але зноў апусціўся на крэсла.

— Пакладзі, Гена, партфель. Туды, на чамадан. А мяне такі размарыла крыху. Парадкам выпілі.

Генка паклаў партфель на чамадан. І не мог ужо зірнуць Раману ў вочы. Прайшоў за яго спіной да грубкі, стаў падкідаць у агонь паленне.

«Што я Тані скажу?» — білася ў ім думка.
А Раман зняў пінжак, гальштук, кінуўся на канапу.
— Паляжу трохі.— І дацягнуўся да этажэркі: — Ты бач, і «Таямнічы востраў» тут! Мой яшчэ. У Шурэйчыка некалі за пачак папярос выменяў. Памятаеш, мама, газу па кроплях збіраў, каб дачытаць?
— Помню, Рома,— ціха сказала маці.
Яна пайшла ў спальню, і Генка са спалохам чакаў, што вось зараз пачуецца яе плач. Але не, плачу ён не пачуў, толькі ўбачыў, калі выйшла, што вочы ў яе пачырванелі. Яна несла падушку, паклала яе Раману пад галаву.
— Я таксама паляжу,— сказала і зноў пайшла ў спальню.
— Я пайду, мама. Мне трэба... да хлопцаў,— кінуў Генка.
Калі апранаўся, пачуў Раманаў голас:
— Пагавары там з хлопцамі, Гена, няхай памогуць. Галоўнае — рэклама!
Генка спыніўся на ганку.
«Вось ты які... Вось які...» І шукаў ён у сумятні думак хоць адну, што ўтрымала б у ім ранейшы настрой. Ды не, ад святочнага пачуцця нічога не засталося. Нічога...

## 3

Ён доўга блукаў па вуліцах. Нарэшце, заўважыўшы, што цямнее, падышоў да Танінага дома. Узяў з лаўкі жменьку снегу, укінуў у рот. І стаяў, думаў... Як зайсці да Тані? Столькі гаварыў ёй пра Рамана... Яна лічыць за шчасце пазнаёміцца з ім... А сказаць праўду — хіба яна, Таня, захоча знаёміцца?
Генка зайшоў у двор. Ля ганка густа пасыпана пяском. Гэта Таніна работа. У Паўла Іванавіча, замест левай нагі, пратэз. Ён гаворыць, жартаўнік, што стаіць на пратэзе гэтак моцна, як не стаяў у маладосці на дзвюх нагах, але Таня не забывае пасыпаць дарожку пяском...
Генка прайшоў па дарожцы, зазірнуў у акно. Таня нешта чытала, прыклаўшы свае маленькія кулачкі да шчок. І Павел Іванавіч сядзеў за сталом, трымаў у руках газету.
Будзе так, як заўсёды, калі ён, Генка, зараз зойдзе ў дом. Радасна зірне на яго Таня, і ветліва прывітаецца Павел Іванавіч, а потым адкладзе газету — ён любіць пагаварыць з імі пра ўсё на свеце.
Ды не, не зойдзе ён, бо не мінуць размовы пра Рамана. Сорамна за яго будзе перад Паўлам Іванавічам, сорамна і перад Таняй. Але ж толькі цяпер і гаварыць. Скажа ўсё, як ёсць: інакш — перастане сябе паважаць...
Генка ўзіраўся ў Таню, і пачуццё замілаванасці ахоплівала яго. Сядзела за сталом, нібы зусім маленькая дзяўчынка, у чырвонай кофтачцы, з доўгай цёмнай касой, і не было на свеце нікога прыгажэйшага за яе...
Генкаў позірк прыкмеціў гадзіннік на тонкай Танінай руцэ. І ён успомніў пра свой. Ад ранку адчуваў гэты абручык, а потым прывык, забыўся пра яго...
Ён адшпіліў раменьчык, кінуў гадзіннік у кішэню.
Калі зноў зірнуў у акно, убачыў, што Таня ўстала, пайшла з кнігай у свой пакой.
Ён хутка адбегся назад, пераскочыў у кветнік. Дабраўся па снезе да крайняга акна, ціха пастукаў у шыбіну. І яшчэ раз. Фіранкі расхінуліся, і проста перад ім за дзвюма шыбамі здзіўлены Танін твар. Яна адчыніла фортку.



— Чаму ты тут? Заходзь!
— Не магу. Ты выйдзі.
Таня затрымала на ім позірк, як бы гадаючы, што перашкаджае яму зайсці, і кіўнула:
— Іду!
Яна выйшла. Крыху прыжмурыўшы вочы, угледзелася ў яго твар.
— Што-небудзь здарылася? Нядобрае?
— Мала добрага.
— Што ж гэта?.. З кім?..
— Не палохайся, усе жывыя і здаровыя. У цябе ёсць час? Я не хацеў бы... тут стаяць.
Таня ўсміхнулася. З ёю адбылося тое, што Генка ўжо не аднойчы заўважаў: Таня нібы адчула сябе больш сталай, чым ён.
— Зараз ты мне ўсё і скажаш. І разам мы нешта прыдумаем, каб усё было добра,— сказала яна.
Выйшлі на вуліцу.
— Ты бачыш, Гена?
Ён не адразу зразумеў, што яе ўразіла. Вуліца была як вуліца... Ды ўрэшце заўважыў. Нанач падмарозіла, і танюткія ручаі па абодва бакі вуліцы застылі, лёд скрозь блішчаў у святле ліхтароў, як хто рассыпаў па зямлі мірыяды іскраў.
— Таня...— як бы праз сілу сказаў Гена,— я цябе знаёміць з Раманам не буду.
— Чаму? — збянтэжана працягнула яна.
— Ён не той, якога мы чакалі...
— Ты ўпэўнены? Які ж ён? — у голасе Тані гучала надзея.
— Ты помніш, мы гаварылі пра яго. Ты тады сказала, што ён рамантык. І я так лічыў. А на самой справе... ніякі ён не рамантык.
— А хто ж?
Як цяжка гаварыць. Якую хвіліну Генка маўчаў, шукаючы словы, і сказаў:
— Так... пералётны птах.
Але Таню не задаволіў адказ.
— Гена, я не разумею. Ты скажы, як ёсць. Ясней.
— Ён ужо не на шахце працуе. Рамантуе гадзіннікі. Знайшоў нарэшце работу... без поту і пылу.
— Ён сам так сказаў?
— Сам.
— А ты не памыляешся? Людзі часта гавораць лішняе. Так і складваецца не лепшае ўражанне аб чалавеку.
Таня ўзіралася ў яго твар, чакала адказу. Генка з хвіліну думаў.
— Па-мойму, што б ні сказаў чалавек, усё яго паказвае. Кожны думае, калі гаворыць... Ну, няхай па аднаму-двух словах яшчэ нельга рабіць вывады. Ды і то, гледзячы па якіх. А Раман усё сказаў. Куды ўжо больш...
— Што яшчэ?
— Ён папрасіў нас... зрабіць яму рэкламу. Каб неслі сапсаваныя гадзіннікі да яго.
— Дзіўна,— прагаварыла яна, камечачы пальчаткі,— столькі паездзіў, столькі людзей пабачыў і...
Таня раптам змоўкла.
— Што ты хацела сказаць? — спытаў Генка.
— Не трэба...

Не, яму вельмі важна было ведаць кожную яе думку.
— Гавары. Чуеш? Гавары! — Ён узяў яе руку ў сваю і сціснуў.
— Ох, Гена... Ну, добра... Мне дзіўна, як Раман, столькі паездзіўшы і пабачыўшы, не разумее, што проста непрыгожа ўсё гэта... Ён жа не быў такі раней? Ці ты не заўважаў?
— Мы рэдка бачыліся. Прыязджаў ён аднойчы ў водпуск з арміі, потым пасля арміі пабыў месяц з намі і паехаў. Я нічога такога не памятаю. Ды колькі мне было тады... дванаццаць, трынаццаты... Маці ўсё пісала яму, каб не сыходзіўся абы з кім, а мне смешна было. Ён жа дарослы ўжо. Ён і супакойваў, пісаў, што галаву на плячах мае, хваляванца няма чаго. У мяне і думак ніякіх не было... Я цяпер успомніў. Маці аднойчы расказвала, як не пусціла яго ў Карэлію. Да арміі гэта было. Нехта нагаварыў, што там грошы лёгка даюцца...
Яны ўзышлі на мост. Тут, на вышыні, заўсёды дзьмуў вецер. Цяпер ён быў моцны, пранізлівы. Таня замарудзіла крок.
— Вернемся? Ці далей пойдзем? — спытаў Генка.
— Думаеш, прастуджуся?.. Пастаім...
Яны падышлі да парэнчаў, зірнулі ўніз. Нядаўна яшчэ рака была пад ільдом, дні чатыры назад яны прыходзілі сюды паглядзець крыгаход, а цяпер пад мостам ішла вада.
— Хутчэй бы май. Так ужо хочацца паплаваць.
Генка змоўчаў. Вядома, хутчэй бы лета. Добра было б паплаваць.
— Гена, зірні на агні. Праўда, прыгожа?
Агнёў было многа па абодва бакі ракі. Цягнуцца гірляндамі ў розных кірунках, а там, у далечыні, ужо не агні мястэчка, а зоркі — позіркам лёгка перабегчы ад адной да другой, усё вышэй, вышэй, і ўглядзецца хаця б у Паўночную... Усё прыгожа, як заўсёды, толькі не тыя сёння думкі.
— Я люблю глядзець з вышыні... Як далёка відаць!.. Толькі вецер гэты... Але яшчэ пастаім.
Генка маўчаў, слухаючы Танін голас. Пастаялі. І павярнулі назад. Сышлі з моста і пайшлі між дамоў, дзе было зацішней. Таня перасмыкнула плячыма.
— Прабяжым? — яна падала руку.
Генка моцна трымаў Таню за руку: проста было на слізгаце і ўпасці. Таня бегла і смяялася, і ён урэшце засмяяўся, і здалося яму, што ёсць на свеце толькі гэта: Таня, яе смех, яе рука. І ён бег і бег і спыніўся толькі тады, калі адчуў, што Таня ўжо змарылася.
— Вось і горача стала,— сказала яна.
— Ага. Горача,— сказаў і ён.
Яны доўга ішлі моўчкі, дыхаючы на ўсе грудзі. І раптам Таня прыпынілася:
— Гена, пазнаём мяне з Раманам...
Генка здзіўлена зірнуў на яе.
— Якая цяпер табе радасць... з ім знаёміцца?
— Не радасць... Проста хацела б з ім пагаварыць. Разумееш?
— Думаеш, Рамана пераканаеш? Пасмяецца ён з цябе...
— Мяне нічога не палохае. Дзівак ты! — яна ўсміхнулася.— Ты ведаеш, на каго падобны. На маю маму. Яна таксама хацела б, каб мяне ўсё дрэннае абмінала. А я ж ведаю, што з мяне атрымалася б. Пакаёвая раслінка — вось што. Ты гэтага не хочаш?
Генка сумеўся. Такога павароту ён не чакаў.
— Не, вядома.
— Бачыш, як я хутка цябе пераканала. Раман — не ты, але...
Вось і Танін дом.





— Пайшлі да нас. Чуеш?
Таня ўзяла Генку за руку, пацягнула за сабой.
— Не, Таня. Не пайду.
— Чаму?
Генка пачуў, што стукнулі дзверы: нехта выходзіў з хаты.
— Я сам яму ўсё скажу! — І, паціснуўшы Тані руку, Генка выскачыў на вуліцу.
Ля сваіх вокан ён стаіўся на момант, прыслухаўся, ціха было ў хаце. І ўзрадаваўся, убачыўшы, што няма на вешалцы Раманавага паліто.
Не паспеў ён узяцца за клямку дзвярэй, як іх адчыніла маці.
— Ты, Гена?
Ніколі ён не бачыў яе такой разгубленай, бездапаможнай. Яе вочы пацямнелі і запалі так, нібы не гадзіны прайшлі пасля размовы з Раманам, а многа часу. Генка зжахнуўся: упершыню ўбачыў, як старэе чалавек. Упершыню ён адчуў злосць на Рамана. Злосць...
Маці адышла, прытулілася плячыма да грубкі. Ён разумеў, што чакала яго, што лягчэй цяпер ёй будзе — не адной. Ён распрануўся, сеў на канапу, спытаў:
— А дзе Раман?
— Пайшоў... Хоць куды, кажа, прайдуся...— Вочы яе раптам павільгатнелі, яна ціха дадала: — Што ж рабіць, Гена? Думала я, усё ён ужо разумее... Дваццаць восем год...
Генка ўспомніў, з якой радасцю маці чытала Раманавы лісты, гаварыла пра яго з жанчынамі, як шчаслівa ўсміхалася, калі тыя пахвальвалі яго — так клапоцiцца пра іх, такі сталы, самастойны чалавек Раман... Не, не думала маці, што Раман гатовы рабіць нешта такое, што можа ганьбіць яго.
Генка хацеў суцешыць маці:
— Усё ён зразумее! Паглядзіш! Не буду яму рэкламу рабіць! Так і скажу. І ты скажы.
— Як жа, Гена, сказаць? — маці выцерла хусцінкай вочы, з нейкім спалохам зірнула на яго.— Раман лёгкі на крыўду. Раззлуецца, можа і назад паехаць. А што потым? Ты падумай, што потым... Няхай застаецца з намі! Памалу мо і перайначыцца... тут, ля нас. А паедзе зноў да таго Ганчарэнкі, то чаго ж чакаць? Не трэба сварыцца з Раманам, Гена. Можаш нікому не гаварыць... тое, што ён прасіў нас... Але няхай і ён не ведае гэтага.
Генка маўчаў. Ён і разумеў маці і не мог пагадзіцца з ёю.
А яна падышла, паклала гарачую ад грубкі руку на галаву яму — як малому — і сказала.
— Ты ўжо не маленькі. Зразумей усё. Не чакала і я такога, але ж куды дзенешся? Свае мы... як-небудзь...

## 4

«Ну, куды пойдзем?» — весела спытаў у сябе Раман, ідучы вуліцай, амаль бязлюднай, слаба асветленай рэдкімі ліхтарамі.

Думаў ён паказацца з Генкам і маці ў кінатэатры, але ж Генка недзе загуляўся, а ў маці галава нешта забалела. Можа б завітаць да Андрэя Закрэўскага? Ці да Сяргея Верасава?

І само сабой узнікла пытанне: «А якой была б сустрэча з Валяй?»

«Што ж рабіць?» — разважаў Раман. І надумаў — пойдзе да Валі.

...Усё ён памятаў.

Тая пара была ці не самай шчаслівай у яго жыцці. Яму ішоў дзевятнаццаты год. Ён працаваў фрэзероўшчыкам на аўтазаводзе, жыў у інтэрнаце. І меў амаль усё, аб чым марыў падлеткам, бо зарабляў добра. Пяць вечароў на тыдні весяліўся з сябрукамі ў горадзе, а суботні вечар і нядзелю праводзіў дома, у мястэчку. Ехаў дадому заўсёды ў прыўзнятым настроі, бо ведаў, што будуць рады і маці, і Генка. Якіх толькі прысмакаў не прывозіў ён маломў! Не забываўся на падарункі і маці. Але яе больш радавала тое, што заўсёды памятаў пра Генку, які рос без бацькі...

Работа не была яму ў цяжар, і ўвогуле жылося бесклапотна. У бесклапотнасці той чакаў кахання, упэўнены, што будзе яно ўсім на зайздрасць. Яно прыйшло, і ніяк не мог ён падумаць тады, што самая шчаслівая пара жыцця ўжо ззаду.

Прыязджаючы з горада дадому, ён калі-нікалі сустракаў танклявую дзяўчынку з вельмі прыкметным сваёй сур'ёзнасцю позіркам. Ведаў, што яна дачка бухгалтара сельпо Каранёвай, што завуць яе Валя, што вучыцца ў дзесятым класе — і ўсё. Ніколі не гаварыў з ёю, рэдка бачыў, але аднойчы прызнаўся сабе, што з усіх местачковых дзяўчат часцей за ўсё ўспамінае яе.

Ранняй вясной надарыўся выпадак зблізку доўга бачыць яе,— гэта было ў фае кінатэатра перад сеансам,— і з таго вечара яна запала ў душу. Ён штодзень стаў прыязджаць дадому, спадзеючыся, што стрэне Валю ў парку, дзе падсохлі ўжо алеі і пакручастыя дарожкі. Збіралася ў парку вечарамі ўся местачковая моладзь, і ён чакаў, што ўрэшце з'явіцца там і Валя... Здаралася, злаваўся на сябе: «Чаго прыліп? Школьніца, «пяцёркі» адны ў галаве. Недзе над кніжкамі сядзіць». І праводзіў каторую са студэнтак, а ўсё роўна думаў пра Валю.

Той дзень ярка свяціла сонца і людзям не сядзелася дома. У парк панайшло народу, як на свята. Пад вечар на алеях засталася адна моладзь. Гэтым часам ён і ўбачыў Валю. Была яна ў невялікім гурце дзесяцікласніц. Ён зводдаль сачыў за ёю, баяўся, што так і не ўдасца падысці, загаварыць. Але дзесяцікласніцам хацелася патанцаваць: раз-пораз зіркалі яны ў бок «пятачка» і, калі там стала густа, разбіўшыся на пары, пайшлі танцаваць. Вось калі Раману стала не па сабе. Звычайна яму проста было запрасіць дзяўчыну, да Валі ж асмеліўся падысці толькі тады, як пачуў, што яе ўгаворваюць: «Апошні раз! І — дадому». Танцавала Валя не так ладна, як іншыя. Але што з таго, калі ён трымаў яе руку ў сваёй! Гарэў яго твар, вусны былі як не свае, сухія, цвёрдыя, і пуста было ў галаве. Пад канец танца, ледзь не заікаючыся, ён сказаў, што дзяўчаты спяшаюцца дадому, а ў яго ёсць час правесці яе. «Ой не, я з дзяўчатамі пайду», пачуў у адказ. І мусіў ісці следам і зводдаль углядацца ў Валіну постаць.



На другі дзень Валя зноў прыйшла ў парк з дзяўчатамі, і ён адразу ж падышоў да іх гурту. Хоць сэрца яго калацілася, але досціпу хапіла на лёгкую жартаўлівую размову. У яго набралася цярпення запрашаць на танец усіх па чарзе Валіных сябровак, і за вечар ён стаў сярод іх амаль сваім чалавекам. Аднаму праводзіць Валю не ўдалося. Але, ідучы поплеч з ёю, думаў, што надыдзе час, калі ніякіх спадарожніц побач не будзе. І праўда, заўважыўшы, што Раман хінецца да Валі, дзяўчаты ў наступны раз хутка пакінулі іх дваіх. Ён узрадаваўся. Валя была побач, яна не пабаялася ісці з ім адна — яна, значыць, прымала яго, як роўнага сабе! І не было бяды, што ля дома Валя хутка развіталася з ім. Іншага ён пакуль і не чакаў.

Прыйшоў май. У Валі пачаліся экзамены. Усе яны, хлопцы і дзяўчаты дзесятага, удзень сядзелі над падручнікамі, а вечарам выходзілі асвяжаць галаву. Валя трымалася з Раманам па-ранейшаму: не пазбягала сустрэч, але і не хінулася да яго. І яму рабілася балюча, крыўдна да злосці ад яе абыякавасці. Хто яшчэ пакахае яе, як ён?

Пасля выпускнога вечара Валя неяк павесялела, была радасна-ўзбуджаная, часта паўтарала: «Я ўжо зусім дарослая!» Яна ніколі не гаварыла яму пра свае жыццёвыя планы, а тут раптам і без яго роспытаў прызналася, што хоча працаваць выхавацелькай. Не, не там, дзе дзеці ўжо вялікія, школьнікі, а ў дзіцячым садзе. Ён дзівіўся, з якой шчырасцю яна гаварыла пра сваё патаемнае — пра любоў да маленькіх. Яму здалося, што гэтая шчырасць ад перамены ў адносінах да яго. І не змог ён ужо стрымаць сябе. Абняў яе, прыпаў вуснамі да яе вуснаў, хоць яна імкнулася вырвацца з яго рук. Адступіўшы ад яе, ён тут жа зразумеў, што памыліўся. Валя не ўдарыла яго, не сказала ні слова. Яна пайшла хуткім крокам, яна ўжо не заўважала яго, не азвалася на ўгаворы не сердавацъ, не злавацца, на просьбы даравацъ. Як бы ў жарт, ён папярэджваў, што заступіць дарогу, не пусціць у хату, калі не даруе, але не асмеліўся затрымаць яе. І колькі вечароў потым прастаяў ля яе вокан... У парку Валя не паказвалася.

Высочваў яе на вуліцах, зноў прасіў даравацъ. Урэшце яна яму адказала: «Я стану гаварыць з табой пры ўмове, што не кранеш мяне і пальцам». А яму і гэта было шчасцем — хоць бачыцца, гаварыць.

Горкае было такое шчасце, але не думаць пра Валю не мог. Не так часта, як раней, але зноў вечарамі праводзіў ён з парку, а потым дома, уначы, скрыгатаў зубамі ад прыніжанасці, кляў сябе за сваё каханне. Ні фільмы, глядзець якія так любіў, ні футбол, калі героем насіўся па полі, ні вясёлая размова ў гурце хлопцаў — нішто не ішло ў параўнанне з тымі хвілінамі, калі мог пазіраць на бялявы, чысцюткі Валін твар, лавіць хоць драбнюткую праяву яе прыязнасці.

Перад Валіным ад'ездам на курсы ён спытаў, чаму яна так трымалася з ім. Валя адказала ціха: «У мяне няма да цябе таго, што называюць каханнем. А проста так я нічога не магу». «Чаму, чаму нельга мяне пакахаць?» — днямі і начамі не давала спакою гэтае пытанне.

І быў яшчэ адзін пацалунак — калі адыходзіў ён у армію.

Ён праводзіў Валю з вечара дадому. Развітваючыся, яна падала руку, а потым,— ён зразумеў, што пашкадавала яго,— пацалавала ў вусны. Імгненне тое ён часта ўспамінаў у далёкім Забайкаллі. Валя, як абяцала, адказвала яму на пісьмы — гэта было яе адзінае абяцанне. Яна закончыла праз год свае курсы і стала працаваць у мястэчку ў дзіцячым садзе. На другім годзе службы ён атрымаў дзесяці-

дзённы водпуск. Ехаў дадому ў надзеі, што Валя ўрэшце ацэніць яго. Ды Валя з ранейшай шчырасцю сказала, што ён можа разлічваць толькі на сяброўства, а падабаецца ёй, вельмі падабаецца, зусім другі чалавек. «Кахаеш яго?» — спытаў ён. «Мне здаецца, што так»,— адказала яна, і твар яе ззяў, і спяшалася яна туды, дзе быў той чалавек — на рэпетыцыю хору ў Дом культуры. Хлопцы расказалі яму пра новага загадчыка Дома культуры Віталя Барко. Год дваццаці шасці, высокі, прыгожы, музыка, спявак, ён за кароткі час займеў у мястэчку многа прыяцеляў. Але гаварылі і нядобрае: хітрун, ліслівец, чалавек ненадзейны. Убачыўшы яго, Раман сэрцам адчуў, што гэта вораг — не толькі яму, але і Валі. Ды нічога нельга было ёй давесці, загадала, каб і словам не чапаў Віталя. У часць вяртаўся, несучы ў сэрцы найцяжэйшае з усяго, што перажыў: рэўнасць, пачуццё прыніжанасці ад таго, што немажліва было што-небудзь паправіць. Пісаць Валі перастаў. А пад час дэмабілізацыі дазнаўся, што Валя выйшла замуж і паехала за сваім мужам, які знайшоў работу недзе ў сталіцы. Адно таму, што Валі не было ў мястэчку, ён пасля дэмабілізацыі паехаў дадому. Але не вытрываў, з'ехаў скора ў белы свет, каб не бачыць тых вуліц, па якіх хадзіла Валя. І там, у Казахстане, многа ў яго было яшчэ бяссонных начэй, калі да болю сціскаў зубы і, здараласся, біў кулаком па сцяне ў злосці на сябе за тое, што не можа заставацца абыякавым да яе...

Раман ішоў сярэдзінай вуліцы, зіркаючы на свой цень, які то карацеў, то выцягваўся. Уяўляў стрэчу з Валяй. Цяпер не яму, а ёй бянтэжыцца. Цяпер яму не многа ад яе трэба. Ён ужо вольны ад думак пра яе. Успамінаць успамінаў, але з адчуваннем задавальнення — усё цяпер яму ні па чым. Каханне, пакуты — усё ў мінулым. Засталося адно: пачуццё прыніжанасці. Урэшце, гэта дробязь, але варта пазбавіцца і ад гэтай дробязі. Хіба ты, Валя, не раскайваешся, не клянеш сябе за мінулае, успомніўшы пра яго, Раманава, каханне? Не, ты гэта пакажаш, гэтага ты не схаваеш. І я не стану ўпікаць цябе. Цяпер мы можам быць нават прыяцелямі, толькі цяпер ужо — на роўнай назе, як гаворыцца...

На плошчы, залітай святлом ліхтароў, было людна. Але Раман убачыў толькі аднаго знаёмага. Гэта быў Шурэйчык. Стаяў ён з нейкім дзядзькам на ганку сталовай. І выгляд Шурэйчыка, шапка-вушанка набакір, скуранае паўпаліто наросхрыст, твар чырвоны, і голас, і жэсты — усё выдавала, што ён па абедзе зноў прыкладваўся да чаркі. Шурэйчык нешта даводзіў дзядзьку і, адвярнуўшыся ад яго ў раздражнёнасці, убачыў Рамана. І тады кінуў:

— Ідзі, стары. З табою не дамовішся.

— Чым ён табе не дагадзіў? — спытаў Раман, зірнуўшы ўслед дзядзьку, што з палёгкай сігануў з ганка.

— Ха!.. Чым!.. Скнара...

— Ты скажы, Пятро, дома хоць быў?

— Быў, ды тут весялей,— Шурэйчык рагатнуў.— І тваю душу сюды пацягнула?

— Мяне, скажу табе праўду, не сюды пацягнула. Да Валі пайду. Вазьму тое-сёе і пайду. А ты, Пятро, дадому ішоў бы. Колькі тут людзям вочы мазоліць?

— Прамазоліў ужо. Яны мяне як і не заўважаюць.— Шурэйчык зноў рагатнуў.

— Выпіць яшчэ хочаш.



— Здагадлівы ты.

— Не, Пятро. Хопіць на сёння. Ідзі лепш спаць. Правесці цябе? Ці сам пойдзеш?

— А можа мне цябе правесці? За кампанію. Чаго там, розуму яшчэ не страціў.

— Не, Пеця, не той выпадак.

— Не туды ты ідзеш.— Шурэйчык тыцнуў пальцам на постаць афіцыянткі за акном: — Да Палінкі б схадзіў. Спадабаўся ты ёй. Распытвала. А Валя што... Валя як манашка жыве.

— Памаўчы, Пятро.

— Я ж табе, як сябру...

— Калі я табе сябар, то паслухай: пакуль яшчэ з ног не валішся, ідзі дадому.

Шурэйчык падумаў, гледзячы сабе пад ногі, і працягнуў Раману руку.

— Угаварыў. Пайду. Нікога я не прызнаю, а цябе... Ты, Ромка, разумны. Ідзі сабе да Валі.

Шурэйчык сышоў з ганка і пакіраваў на сваю вуліцу. Раман хвіліну пазіраў яму ўслед. «Страціў ты, Пятро, арыентацыю на гэтым свеце,— думаў ён.— Не, співацца я не буду. Шапка набакір — можна паправіць, а мазгі набакір... тут і медыкі не памогуць».

З шампанскім і карабком цукерак Раман неўзабаве падышоў да знаёмага дома. Ярка свяціліся два акны, і на фіранках бліжэйшага да весніц акна, як і даўно-даўно, колькі ён памятаць мог, адбіваліся цені лісцяў фікуса. «Вось і я, Валька. Не чакала ты мяне». Раман паглядзеў на вокны, усміхнуўся. І рушыў у двор. На стук у дзверы ён пачуў прыглушаны далёкі голас:

— Заходзьце.

У прыхожай было цёмна, але тут жа дзверы зальчыка адчыніліся, і Раман, ледзь не аслеплены яркім святлом, ступіў у пакой. Валя — гэта яна адчыніла дзверы — пазірала на яго здзіўлена, разгублена. І гэтак жа разглядвала яго з-за стала маленькая дзяўчынка ў блакітнай сукеначцы.

— Добры вечар, Валя.

— Добры вечар... Раман.— На Валіным твары прабілася ветлая, бадай, радасная ўсмешка.— Такі нечаканы госць.— Валя працягнула яму руку — выдалася тонкае запясце з рукава чорнай кофтачкі.

— Нечаканы госць — не самы горшы госць,— усміхнуўся Раман.— Мусіць, не прагоніце?

— Што ты, Раман! Распранайся, праходзь.

— А гэта, значыць, дачушка Валіна.— Раман паклаў на стол пакункі і падаў дзяўчынцы руку.— Як жа цябе завуць?

— Наташа,— вымавіла дзяўчынка танюткім галаском.

— Будзем знаёмы, Наташа. Мяне Раманам завуць. Не ведала ты, што ёсць такі дзядзька на свеце, а ён вось перад табой,— гаварыў Раман, міжволі заўважаючы, што ўсё ў дзяўчынцы Валіна: і твар, і вочы, і ледзь кірпаты носік. Толькі броўкі і валасы яе, акуратна ля шыі падрэзаныя, былі светлыя. «Пацямнеюць з часам»,— зазначыў у думках Раман і павярнуўся да Валі:

— Копія — ты...

— Яна ў мяне арыгінал.— Валя засмяялася.

Раман зняў паліто, кепку, сеў насупраць Валі і яе дачушкі. І зноў усё паўтарылася: ён разглядваў іх, яны — яго. «Як ты, Валя, прымеш мяне? — думаў Раман.— Ведаю, што такое — пакінутая жанчына... А ты ці такая? Пабачым. А змянілася... Само сабой, як і я. Мар-

шчынкі вунь ля вуснаў... У каго ад смеху, а ў цябе? І вочы... павекі нібы пацяжэлі... Ды яшчэ прыгожая. Амаль такою і снілася. Ідыёт ён, напэўна, калі такую цябе пакінуў. Няўжо лепшую знайшоў?»
— Што... заглядзеўся? — Валя сумелася, кранула рукамі валасы — яны ў яе былі скручаны ў важкі вузел.
— Даўно бачыў.
— Даўно,— згадзілася яна.
— Як жывем-можам?
— Добра жывем. Праўда, Наташа? — Валя зазірнула ў твар дачцы.— Мы з ёю не расстаемся. І разумеем адна адну. Не сумуем.
«Вядома, што яшчэ казаць. Гордая ты, Валя, як і была... А калі шчыра?» — падумаў Раман і сказаў:
— Правільна. Жыць трэба весела, як яно ні ёсць. Так, Наташа?
— Так,— вымавіла дзяўчынка. І тонкім сваім галаском дадала: — Плачам не паможаш.
— Што ты гаворыш, Наташка? От такая: пачуе дзе і паўтарае... Ох ты, дзіця маё! — Валя, збянтэжаная, павярнулася да дачкі.— Табе пара ўжо спаць. Бяры вось цукерку і развітайся з дзядзем.
Раман застаўся ў пакоі адзін. Позіркам прабег па сценах, па мэблі. «Вось як... Думаў некалі стаць тут гаспадаром... не ўдалося. Ды што ж, ужо не бяда. Не бяда...»

Валя выйшла са спальні, шчыльна зачыніўшы за сабою дзверы, села на сваё месца.
Маўчала.
— Дык што ж, адзначым сустрэчу? — сказаў Раман весела.— Як-ніяк — старыя знаёмыя мы з табой.
Валя ўстала, прынесла фужэры.
— Крыху... Толькі не трэба тостаў.— І, адпіўшы, спытала: — Як сам жывеш?
— Жыву. Усяк бывае. Але маладосць у кішэні не нашу. Як бачыш, здаровы і вясёлы. А то не — на твой погляд?
— Чаму ж... Ты вясёлы, гэта відаць. А што ўсё-ткі прывёз за душой?
— Як разумець?
— Жывеш — чым?
— Некалі жыў табой. А цяпер...— Раман развёў рукі, засмяяўся.— Сам не ведаю. Вечарам зваліш дзень з плячэй, адпачнеш, а раніцой новы — за грудкі. Што-небудзь ды возьмеш з яго.
— Ты ўсё жартуеш. Мусіць, сяброў па ўсім свеце...
— Ёсць. Але розных пабачыў. І харошых, і... не давядзі божа!
— Хто табе харошыя? Калі не сакрэт.
— Ды ўсе. Акрамя тых, што ў душу могуць наплюваць, і тых, што бяруцца перайначыць яе. Былі такія... павучальнікі. Не так, не гэтак... Цябе ніхто не павучаў, як жыць?
— Здаралася.
— Вось-вось. Ёсць такія. Настырныя. Махнеш у другую мясціну — а яны і тут. Уся і розніца, што новае аблічча. А наогул, скажу табе, зямля вялікая, а людзі усюды аднолькавыя. Адным абы работа па душы, другім абы пабольш зарабіць. А ёсць і такія... і работы не трэба і грошай — заваліцца б!
— А ты сябе...— Валя ўсміхнулася,— да якіх адносіш?
— Мяркуй сама. Ад работы не ўцякаю, але шукаю такую, каб капейкі не лічыць.
— Цяпер ты з Данбаса прыехаў?
— А ты адкуль ведаеш?



— Маці твая гаварыла, дзе ты.
— А ты яе пыталася калі?
— Ну а як жа...
— І за гэта дзякуй.
— Як жа табе на шахце працуецца?
— А я не шахцёр. Праўда, месяцы чатыры пабыў у праходчыках, так што і падземную спецыяльнасць маю. А цяпер гадзіннікі майструю. Там, у Вугальску. І на жыццё не магу паскардзіцца...
— Рада за цябе.— Валя ўсміхалася.— А што далей? Колькі наперадзе новых месц?
— Я цябе разумею. Вераб'ю аднаго двара мала — гэта маеш на ўвазе?
— Не крыўдуй. Дзіўна толькі, што ты такі непаседлівы.
— Ну, сама ведаеш, рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек, дзе лепш. А па-другое... Калі б склалася ўсё інакш, то не бачылі б мяне ні на цаліне, ні ў Данбасе.

Валя прыкрыла вочы рукой. Раман пазіраў на яе і не шкадаваў, што ўпікнуў. «Непаседлівы»,— трэба ж так сказаць. Няўжо ты не памятаеш, як я тады прасіў цябе адумацца, не кідаць мяне, як гатовы быў не тое што жаданне, а кожнае жаданейка тваё выканаць! А ты толькі і старалася пераканаць, што кахаеш яго, таго — хлюста... Як жа,— спяваць умеў, пагаварыць, а найбольш прыкідвацца... Хацела, каб я паверыў, што не жартачкі, што кахаеш. Паверыў. Як жа было ўжо не верыць? Вось табе і «непаседлівы»...

— Я ведаю, ты тады, мусіць, зненавідзеў мяне.— Валя трымала руку над вачыма.— А што я магла зрабіць? Было так, як я табе гаварыла.
— А цяпер?
— Колькі можна...
Два словы — а яму ўсё было зразумела. Вытравіў той хлюст яе каханне. І не хочацца ёй успамінаць перажытае, і не будзе ён больш нічога пытацца. Хопіць і гэтага. Той, ранейшы Раман, заскакаў бы ад такой навіны, а гэты вось — спакойны, зусім спакойны.

— А я, як бачыш, нежанаты.— Раман устаў, прайшоўся да фікуса, спыніўся, разглядаючы лісце.— Без раманаў яно-то не абышлося. У Рамана — раманы! Сам бог падпіхае. Але да жаніцьбы не дайшло. Сустракаліся і расставаліся, як тое перакаці-поле сярод стэпу. Абрыдла ўжо ўсё. Адну,— каб на руках насіць хацелася,— ды і ўсё, кропка. Ведаеш такую прыпевачку? «Мне не трэба пуд гароху, мне адну гарошыну, мне не трэба дзевак многа, мне адну харошую». Калі ажанюся, то жыць буду... Карацей, з'явіцца яшчэ адзін прыкладны муж і бацька.
— Магчыма...— ціха вымавіла Валя.
Ён не вытрымаў, падышоў, адняў яе руку ад вачэй.
— Ды не хавайся ты ад белага свету!..
— Я так... задумалася... Ну, добра. Што ж ты там, у Вугальску, прыстаў на пастаяннае жыхарства? Маці твая гаварыла, хоча, каб да яе вярнуўся.
— Яно нават з ахвотай. Пагуляю, а там пабачу. Можа і замкну круг. Усюды добра, а дома лепш. Дома людзі свае.
— Брат у цябе харошы. І ад людзей чула, і сама заўважаю.
— Генка? Хлопец — што трэба.
Валя схіліла ў задуменнасці галаву.
— Між іншым, доўга пазіраў на мяне скоса.
— Гэта чаму?
— Ну... што так усё ў мяне з табой выйшла. За цябе перажываў.

— Перажываў, значыць? А ў пісьмах пра гэта ні слова. Ну што ж, будзем жыць з ім душа ў душу. Я ў яго адзіны брат, і ён у мяне адзіны. А між іншым, Валя... у цябе ж у горадзе сваякі... Чаму сюды вярнулася? Не засталася там? Сталіца — не мястэчка, як-ніяк.

Перш, чым адказаць, Валя кіўком галавы паказала на бутэльку.

— Выпі. А то, бачу, гаворыш і губы аблізваеш. Ці вады падаць?

Раман засмяяўся.

— Ты не падумай чаго. Горача ў цябе тут. Можна і глынуць. А што вада, што віно, тым больш, шампанскае, мне адно.

Ён наліў і Валі і сабе. Яна толькі памачыла вусны.

— Чаму сюды прыехала? — загаварыла.— Прычын многа. Тут вырасла. І людзі... Калі цябе ведаюць з дзяцінства і ты ўсіх, то многія амаль — як родныя... На новым месцы патрэбен час, каб блізка зжыцца. А тут усе ўсё ведаюць, і — ніякіх роспытаў... Не люблю роспытаў. І яшчэ... хоць мамы няма, але пакуль я ў гэтым доме, у мяне такое адчуванне, быццам яна са мной.

У Валіным голасе прабілася туга, і твар яе спахмурнеў. Каб неяк адвесці ад яе невясёлы ўспамін, ён загаварыў:

— Яно ўсё так. І мяне вось цягне пад сваю столь. Я то звыкся, у любых абставінах магу жыць і не тужыць, але душа свайго просіць. Бывала, вяртаецца нехта ў мястэчка, то дзівішся! «От дурны чалавек!» — думаеш. Здавалася, куды ні паедзь, усё цікавей, чым тут. Цікава то цікава, а потым і мала табе адной цікавасці. Ну, як каму, але я такі. Старэць тут буду. Праўда, не ўяўляю сябе старым. А ты, Валя?

Валя ўсміхнулася:

— З барадой цябе бачу.

— Ды ну? А можа... закруціць у галаве, то і бараду адпушчу. А пакуль што мы маладыя, не да барады. Жыць, лічу, трэба як найвесялей. Выпадае добрая хвіліна, то не зявай, не праспі яе. І табе, Валя, гэта раю.

— Як жыць, я, Раман, думала.

— Значыць, і на добрае не забывалася.

Валя пацiснула плячыма.

Потым пагаварылі пра перамены ў мястэчку.

— Ну, здаецца, мне пара.— Раман устаў. Валя зірнула на свой гадзіннік, і ён спытаў: — Які ў цябе? Рамонцік яму не патрабуецца?

Ён абышоў вакол стала, нахіліўся над ёй, падбародкам ледзь не кранаючыся яе валасоў.

Валя паказала гадзіннік.

— Вось, пяты год нашу.

— Добры гадзіннічак, добры...

Тонкі, ледзь улоўны, ужо забыты ім, ішоў пах ад Валіных валасоў. Ён адхінуўся. Ясна, выразна ўспомніў вечар, калі першы і апошні раз пацалаваў яе...

Валя кінула на яго позірк. Пырхнулі ўгору вейкі, разгладзіліся ледзь прыкметныя зморшчынкі ля вачэй.

— Эх, Валя, Валя...

Ён апрануў паліто. Валя правяла яго з хаты.

— Заходзь, Раман, пакуль тут будзеш.

— Дзякую. Зайду яшчэ. Спакойнай ночы, Валя.

— І табе.

Ён крочыў па вуліцы і нібы рады быў нечаканым адчуванням.

Нічога не засталося ў ім ад помслівых пачуццяў.

Цяпер ён адно шкадаваў Валю...



## 5

Генка марудзіў: да дома заставаліся лічаныя крокі. Ступіў да плота, ухапіў пяцярнёй снегу з асеўшага сумёта і шыбануў снежку ў тэлеграфны слуп — той аж зазвінеў. Мокрай далонню крануў шчаку — яна была гарачая.

Раман, напэўна, дома... Як жа маўчаць, нічога не сказаць яму? Маці ўчора вельмі прасіла не чапаць Рамана. Каб не хвалюваць маці, Генка ўчора вечарам не загаварыў з Раманам, зрабіў выгляд, што спіць. А сёння — таксама прытварацца?

Раман, босы, у саколцы, якая шчыльна абляпіла яго шырокія грудзі, стаяў перад люстэркам, вадзіў электрабрытвай па шчацэ. Ён весела загаварыў:

— Са школы, Гена? А я, брат, заспаў. Нядаўна падняўся. Колькі ж урокаў у цябе было?

Генка прайшоў да этажэркі, паклаў папку. Коратка кінуў, ступіўшы да акна:

— Пяць з паловай.

— Чаму з паловай?

— Ды так... Прагнала з урока Лідзія Маркаўна.

— Цябе? Прагнала? — Раман засмяяўся.— Ну і прыгода! А я думаю, чаго ты такі невясёлы... Ну, не бяры да сэрца. Усё гэта дробязі жыцця. А нешта я не ведаю... Лідзія Маркаўна новенькая?

— Першы год пасля інстытута. Хімічка.

— Строгая, відаць. А якога ж коніка ты выкінуў?

— Не чуў пытання. Потым... з Ігарам размаўлялі. І абодвух нас...

— Гора на двух — паўгора. Мяне некалі таксама выправоджвалі. Успомню — смехата!

Раман паклаў брытву ў карабок. І спытаў:

— А як яно з гэтым самым? Гаварыў у школе наконт гадзіннікаў?

Генка пазіраў туды, за акно, ён не бачыў Раманавага твару, але адчуваў яго позірк. Раман чакаў адказу... Дастаткова сказаць толькі адно слова «гаварыў», каб усё заставалася вось так: ласкавы голас, вясёлы настрой.

Генка павярнуўся да Рамана.

— Я нікому не гаварыў.

— Як... не гаварыў? Чаму? — Раман разгублена ўсміхнуўся.

— Я не хачу нікому гаварыць пра гэта. Не буду!

Генка бачыў: Раман пачынаў разумець.

— Так... Перадумаў, значыць.

— Я не перадумаў, Раман. Мне адразу гэта не спадабалася.

— Адразу мог і сказаць.

— Не чакаў такога.

— Цікава,— Раман павысіў голас.— Чаго ж ты ад мяне чакаў? Не таго ж, што я перастану клапаціцца пра вас, дапамагаць вам? А як я змагу памагаць, калі вось гэтымі рукамі не буду работу рабіць? Ты пра гэта падумаў?

— Я пра ўсё думаў. На тваім месцы, не стаў бы такога заробку шукаць. І наогул, усё б не так, калі хочаш ведаць. А ты... ты збіраешся вось так усё жыццё пражыць?

— Гэта ўжо мая справа, друг! — Раман сеў, пачаў абувацца.— І ніхто мне не ўказ! Калі хочаш ведаць, я розных указчыкаў адпраўляў... можаш здагадацца куды. А табе скажу... Папрацуй сам, тады пагаворым. Шкада, шкада, што ты такі... Не спадзяваўся. Ну што ж... Будзем ведаць.

Раман устаў і, спяшаючыся, пачаў надзяваць кашулю, пінжак. Генка скоса назіраў за ім. Здарылася, як і чакаў: Раман пакрыўдзіўся. А можа, неяк інакш трэба было сказаць? Як? Не, не ўмее ён гаварыць, просячы, амаль умольваючы, баючыся, як маці, пакрыўдзіць. І ніякай ён памылкі не зрабіў! Цяпер Раман ведае праўду — і гэта галоўнае. Няхай крыўдзіцца. Няхай...

Працяжна прарыпелі весніцы. Генка ўбачыў на двары Шурэйчыка і высокага мужчыну ў доўгім паліто, скуранoй вушанцы. Генка пазнаў яго: гэта быў майстар з тэхнічнага вучылішча, у мястэчка прыехаў ён з год назад і адразу ўсім кінуўся ў вочы сваім высокім ростам. Шурэйчык убачыў праз акно Рамана і прывітальна ўзняў руку.

— Давай сюды! — узрадавана крыкнуў Раман і пайшоў адчыняць дзверы.

— Дзень добры ў хату! — прабасіў Шурэйчык, паціснуў Раману руку і кіўнуў Генку.— Вось, пазнаёмся, Раман: Іван Палікарпавіч, майстар з вучылішча. Кліентам да цябе.

Майстар доўга сцягваў пальчатку і нарэшце падаў Раману даўгапалую руку.

— Кліентам. Кліентам да вас,— загаварыў ён голасам больш басавітым, чым у Шурэйчыка.— Правільна сказана. Па яго вось, нашага агульнага прыяцеля, рэкамендацыі.

— Праходзьце. Сядайце. Як гаворыцца: кліенты шукаюць, а кліентаў чакаюць.

Раман падпіхнуў Шурэйчыка да канапы, сеў з ім побач. А майстар неяк з асцярогай апусціўся на крэсла ля стала, зняў шапку, адкрыўшы гладка зачасаныя на правы бок чорныя, як смоль, валасы. Кінуў позірк на Генку.

— А гэтага маладога чалавека я бачыў. Толькі не ведаю, як завуць.

Майстар пазіраў прыхільна, з павагай, але Генка маўчаў. Калі б гадзіну назад хто сказаў, што ён узненавідзіць спакойнага, прыветнага майстра, ён бы пасмяяўся. А цяпер ведаў, што ніколі не падумае пра гэтага чалавека добра.

Раман спахапіўся:

— Генкам яго завуць.

— Вельмі сур'ёзны малады чалавек. Начальнікам будзе.— Рот майстра пакрывіўся ва ўсмешцы.

— Усяляк можа быць,— кінуў Раман і тут жа спытаў: — Дзе ваш гадзіннік?

— Ёсць, ёсць.— Майстар заварушыўся, аж но пачырванеў, пакуль патрапіў рукой у кішэню пінжака. І выцягнуў наручны гадзіннік.— Упаў ён у мяне на падлогу. Скажу вам, першы раз у жыцці такі выпадак. Колькі жыву, гадзіннікі ў мяне з рук не падалі. Гэта ўжо не-э! А тут — на табе! І не ідзе. Зірніце,— падаў ён гадзіннік Раману.

Раман дастаў партфель, папоркаўся ў ім і, вярнуўшыся з адвёрткай, пачаў калупацца ў гадзінніку. Майстар сачыў за ім, і абветраныя, тонкія яго вусны ўздрыгвалі ва ўсмешцы; з іх гатова было сарвацца нейкае слова, ён нібы да пары да часу прыхаваў тое слова.

— Усё ясна,— сказаў Раман.— Маятнік зламаўся.

— Ага, такі зламаўся.— Майстар адкінуўся да спінкі крэсла.— Як жа скора, скажыце, паправіце гадзіннічак? Мо цяпер, калі не доўгая справа?

— Не, не цяпер. Але заўтра такой парой можаце прыйсці. Зраблю без аніякіх. Не сумнявайцеся,— сказаў Раман.

— Веру, веру вам. Жонку маю вось так ваша маці аднойчы



выручыла. Укол ёй трэба было зрабіць. На край мястэчка не кожны пайшоў бы цемрай ды ў галаледзіцу. А яна пайшла. Спачувальны чалавек... Ну, а як гаворыцца, які колас, такое і зерне. Ага ж... Яшчэ да вас пытаннейка. Якая ж ваша такса ў параўнанні... гэта... з казённай?

Раман паморшчыўся. І раптам засмяяўся.

— Вам, як першаму тут кліенту, бясплатна зраблю.

— О, не! Не! — майстар выставіў далонь.— Мне ўсё роўна, каму плаціць, вам ці гэта... па квітку. То вышэй казённай, ці як?

— Не вышэй,— кінуў Раман.

— А дарэмна! Калі выпадае, то, параю вам, варта хоць капейку накідаць. На чым ні ёсць. Ну, мы, значыць, дамовіліся. Заўтра я прыйду.

Майстар устаў, нацягнуў на галаву скуранку, падаў руку Раману і Шурэйчыку.

Генка павярнуўся да акна, калі майстар павінен быў ужо зважыць і на яго. І пачуў, як той хэкнуў недаўменна — і пайшоў з хаты.

— Але ж і ты! — загуў Шурэйчык.— Бясплатна! За якое ліха бясплатна? Галава ж у цябе, Раман!

— Каму што, а пеўню курку,— сумна ўсміхнуўся Раман.— Гэта, Пятро, дробязь. А родны брацік во хоча, каб і зусім я ні капейчыны ў кішэню не паклаў. Як табе гэта падабаецца?

— Жартуе,— махнуў рукой Шурэйчык.— Ці не скумекаў чаго...

— А ты спытай.

— Ды кінь ты, Раман. Што ён — малы? Дзесяты клас заканчвае. Гэта ўжо чалавек! З галавой.— Шурэйчык як бы пасміхаўся з Рамана, што ён не сцяміў, не зразумеў роднага брата, і было іншае ў тоне яго: калі ты, Генка, і ўсур'ёз нешта сказаў, то можна перавесці ўсё на жарт, самая цяпер пара. Скажы яму, Генка! Цяльпук Раман, хіба не?

Генка пазіраў на Шурэйчыка з тою пагардай, якую даўно да яго адчуваў. Шурэйчык жа ўсміхаўся, як і не бачачы пагарды, як і не памятаючы яго, Генкавай, кплівасці пры выпадковых размовах.

— Жартаваць я не збіраўся.

Шурэйчык паціснуў плячыма.

— Не даходзіць да мяне. Ты хочаш, каб Раман усім рамантаваў бясплатна? Усім за добрага дзядзьку быў?

Генка ўбачыў, што Раман, які пачаў хадзіць па пакоі, спыніўся.

— Раман ведае, чаго я хачу,— адказаў Генка Шурэйчыку.

— Здагадваюся, Геначка,— кпліва сказаў Раман.

Ён абышоў стол і спыніўся насупраць Генкі.— Ты ведаеш жыццё? Ты бачыў яго? Кветачкі ты пакуль што бачыў! І павучаць мяне табе яшчэ ранавата. От так, друг!

— Што праўда, то праўда. Тут памаўчаць ды паслухаць. Чалавек свет праехаў,— з дакорам, але лагодна прагаварыў Шурэйчык.

— Пеўнік! Яны, пеўнікі, любяць задзірацца,— тонам і позіркам Раман як бы прабачаў яму, Генку.— Я ў яго гады, Пятро, таксама доўга не раздумваў.

Генку раптам стала весела. Ён падумаў, што Шурэйчык і Раман, сталыя мужчыны, зараз не знойдуць, што сказаць.

— Ага. Я яшчэ пацан. Зялёны. Сяджу на шыі,— загаварыў ён.— Толькі і папрацаваў, што на практыцы ў калгасе ды летам на будаўніцтве. Але я ўжо бачыў такіх, што ўзростам папракаюць. Чуў не раз: «Малы ты яшчэ!» А ад каго? Станілевіч... як толькі вып'е, дык і гоніць сваю Маню на вуліцу. Я яму сказаў аднойчы, што трэба. Дык ён:

«Малы ты яшчэ павучаць! Малако з губ вытры!» А вы ж ведаеце, чаго ён варты. А потым... Быў на рэчцы. Бачу, рыбу травяць двое. Дзядзьку аднаму год сорак, і другому мала меней. Я ім крыкнуў, каб канчалі. А яны: «Малады ты яшчэ! Бяжы да мамкі!» І ўсё такое... Ды мала хто хапаўся за гэтае «малы». І ўсё толькі тыя, хто за сабой грэх адчувае! З талковых ні адзін такога не гаварыў. Ні адзін! Можаце паверыць.

Хвіліну Шурэйчык і Раман маўчалі.

Раман апамятаўся першы.

— Значыць, мы не з тых, што талковыя? Ну-ну...— Ён крыва ўсміхнуўся.— Гэта зусім шчыра.

Ён пайшоў з пакоя. Вярнуўся ў паліто, з кепкай на галаве.

— Пайшлі, Пятро. Няма чаго тут доўга гаварыць.

Шурэйчык устаў.

— Эх ты! Госцю такое...

Раман адчыніў перад ім дзверы і сказаў:

— Запамятай, Генка. У сваім доме сцены памагаюць. Так яно вядзецца.

І ляснуў дзвярыма — зазвінелі ў буфеце шклянкі.

«Вось ты чаму...» Генка падышоў да крэсла. Сеў. А позірк яго не мог адарвацца ад дзвярэй.

## 6

Яны селі за столік пры акне. Было нямала незанятых столікаў, але гэтак захацелася Раману — сесці ля акна. Ведаў ён ужо, што прасядзіць тут доўга, а пазіраць увесь час на тых, што п'юць ды відэльцам у талеркі торкаюць — не вялікае задавальненне. Туды, за акно, пазіраць было прыемней. Яму міжволі прыгадалася плошча ў першыя гады пасля вайны. Тады ўсюды ляжалі груды бітай цэглы. Першая новая будыніна была з дошак, у ёй прадавалі хлеб. Потым на плошчы збілі два рады доўгіх сталоў з лаўкамі пры іх. Па нядзелях да гэтых сталоў сыходзіліся жыхары навакольных вёсак і местачкоўцы. Пасля базару Раман, разам з іншымі хлапчукамі, бегаў басанож па гэтых сталах, пераскокваючы даволі шырокія праходы. Няма тых сталоў даўно-даўным, на іх месцы сквер.

Раман пазіраў на дзверы, на людзей — ён нікога не пазнаваў. Напружваючы зрок, чытаў надпісы на шыльдах: «Савет», «Кнігі», «Прамтавары»... Ён спыняўся думкай на чым папала, але забыцца на размову з Генкам не мог. Шурэйчыку надакучыла яго маўклівасць.

— Ды кінь ты думаць! Было пра што...

— Што ты разумееш... Спадзяваўся, будзем жыць душа ў душу. Вось і паспрабуй...

— Ці мала ў мяне з кім разыход! А мне пляваць!

— І мне было пляваць. Толькі там — што чалавек, то чужы. Сёння ложкі побач, а заўтра я ад цябе за тысячы кіламетраў. А свае — гэта свае. Калі і на іх пляваць, то ці варта на свет нараджацца.

— Ды яно так,— згадзіўся Шурэйчык.— Але якая тут ужо трагедыя? Па мне...— ён усміхнуўся,— не так трэба зайграць, каб за сэрца браць. А з цябе хапіла. Ужо і скіс.

— Не вельмі. Ну, і — кончана! Так, дык так...

— Гэта лепш. Вунь на каго звярнуў бы ўвагу,— прыцішана вымавіў Шурэйчык, павёўшы вачыма.

Да іх падыходзіла Паліна. Раман стрэў вясёлы, з непрытоенай прыхільнасцю да яго позірк. Гэтак Паліна пазірала і ўчора, але ён





толькі пасміхаўся сам сабе: ці мала жанчын страляла вачыма ў яго бок? Ды цяпер яе прыхільнасць узрадавала. Ён, павесялеўшы, спытаў:

— Як, Палінка, дзень праходзіць?

— Весела. Вельмі. А ў вас? — у сваю чаргу спытала Паліна, стаўляючы на стол піва, закусь.

— А ў нас не вельмі... Падсалодзім вось дзянёк гэты,— Раман выняў з кішэні бутэльку.

— Гарэлкай?

— А чым яшчэ?

— Ці мала чым...— Паліна засмяялася і пайшла.

Закусваючы, Шурэйчык сказаў:

— Вось ажаніўся б з ёю, не прапаў бы...

— Ага,— толькі і кінуў Раман: было аб чым гаварыць!

Амаль кожны раз, калі ён зіркаў на Паліну, заўважаў яе позірк. Яна быццам увесь час сачыла за ім. І ён пачынаў бачыць сябе недзе на адзіноце з ёю, вечарам... І думаў: а чаму б і не? Што страціш? Знойдзеш — гэта хутчэй. Ёсць горыч на душы — гарэлкай не зальеш, а ў пяшчотах, ласках забудзешся на ўсё. Гэтак не аднойчы было — выручала жаночая ўвага.

— Пры кім жыве Паліна?

Шурэйчык рагатнуў:

— Гэта пытанне! Маці ў яе дома, бацька... Стары, ды вартаўніком яшчэ працуе. Жывуць на Паштовай. Дом, сад, і злосны сабака. Як прывядзе, то і выведзе...

— Быў у яе?

— Не. Я ёй не па натуры... Падбіваўся, ды не атрымалася. Ёй замуж трэба. А які я жаніх? Вось ты! Давай... Жыццё будзе за маліну. І на людзі з такой выйсці не пасаромеешся. От скажы чэсна, падабаецца яна табе?

Раман усміхнуўся. Ён ужо заўважыў, што падабаецца Паліна не толькі яму.

І ўжо зусім весела Раман падумаў, што трэба будзе як-небудзь падысці сюды вечарам, калі Паліна закончыць свой рабочы дзень.

Ён глянуў у акно. Ішлі па плошчы машыны, некаторыя спыняліся ў зацішным месцы, і тады вылазіў з кабіны шафёр і, агледзеўшы скаты, папраўіўшы шапку на галаве, шыбаваў у сталовую. І дзверы магазінаў не зналі спачыну. Раман адрозніваў вяскоўцаў і жыхароў мястэчка. Рознакаляровасцю хусцінак, шапачак, паліто свяціліся чародкі студэнтак тэхнікума, і адзін і той жа сіні колер адзення быў у навучэнцаў тэхнічнага вучылішча.

Людна было на плошчы. І раптам проста за акном Раман убачыў Валю. Была яна ў белай хустцы, цёмна-барвовым паліто, і побач з ёю драбнюткімі крокамі ступала Наташа.

«З дзіцячага сада»,— мільганула ў Раманавай галаве. І штосьці як абарвалася ў яго грудзях.

Учора нічога падобнага з ім не было, а вось убачыў Валю нечакана — і вярнулася даўняе, амаль забытае, адчуванне.

«Так... значыць, так... Выйду»,— сказаў ён сам сабе.

— Ты куды? — Шурэйчык утрапёна зірнуў на Рамана.

— Вярнуся.

Насадзіўшы кепку на галаву, не зашпільваючы паліто, Раман хуткім крокам выйшаў на ганак і, збегшы па прыступках, дагнаў Валю.

— Прывітанне маленькім і дарослым!

Валя ўсміхнулася, зусім яму не здзівіўшыся.

— Добры дзень, Раман.



А Наташа маўчала. Раман зазірнуў у паружавелы яе тварык.

— Пазнаеш мяне, Наташа?

— Пазнаю.

— Ага, парадак. І, мусіць, так будзе лепш. Давай тваю лапку, Наташа.

Дзяўчынка падала руку. Раман адчуў, як яна ледзь-ледзь ахаладзіла яго далонь. Ён зірнуў на Валю — як ёй гэта падабаецца? Валя адвяла вочы, але ён паспеў заўважыць іх выраз: быццам загадвала яна штосьці, быццам штосьці вырашала.

— Валя, шчыра толькі... Што ты зараз пра мяне падумала?

— Пра цябе?

— Цікаўнасць, чуў, не ўпрыгожвае мужчыну. І ўсё ж... што пра мяне можна думаць?

— Нічога сур'ёзнага..— Але перш, чым дагаварыць, Валя засмяялася.— Прабач, я хацела сказаць, што думка была несур'ёзная. Проста так... глупства.

— Магчыма. З намі гэта здараецца.

Але ён быў упэўнены, што зразумеў яе. Раптам уявілася: яна, Валя, яго жонка, і ідуць яны ўтрох дадому. «Ці хацеў бы такога? — падумаў.— Некалі хацеў. А цяпер што ж... Цяпер усё не тое...»

— А от наша вуліца,— працяжна вымавіла Наташа і зірнула на Рамана.

— Ваша, ваша вуліца. Бачу. Самая прыгожая. Так, Наташка?

— Так,— адказала дзяўчынка.

Раман усміхнуўся. Некалі і ён лічыў, што гэтая вуліца самая прыгожая, хоць сваімі дамамі з пафарбаванымі аканіцамі, кветнікамі і дзе-нідзе старымі разгалістымі ліпамі ці клёнамі нічым не адрознівалася ад іншых вуліц.

Хлюпала пад нагамі снежнае месіва. Трапляліся лужынкі, і Наташка, ухапіўшыся за матчыну і Раманаву рукі, з радасным смехам пралятала над вадой.

— А дзе ж вам лепш, у дзіцячым садзе ці дома? — спытаў Раман у Валі.

— Нам? — весела прагаварыла Валя.— Усюды добра! А ў дзіцячым садзе сёння падзея. Угадай!

Раман здзівіўся: учора ў яе голасе не было такіх інтанацый. Нешта ад гарэзнасці далёкіх дзён прагучала ў ім, і позірк яе быў вясёлы амаль па-дзіцячы.

— Загадчыцай цябе прызначылі?

— Што я кажу... Канешне, не адгадаеш. Дык вось... У маёй групе ёсць хлопчык. Віця Ерафееў. Ён вельмі любіць маляваць. А сёння нам сказалі, што адзін яго малюнак паслалі на выстаўку ў Чэхаславакію. Там з усяго свету будуць дзіцячыя малюнкі. І Віцеў. Усе так рады...

— Талент, значыць, у хлопца... Ну, а яшчэ што ў цябе харошага?

— Што? На сёння хопіць. Але наогул... Вось прыйдзем дадому. Управімся з тым-сім... Потым уключым тэлевізар. Наташка мультфільмы любіць. Патрабуе, каб і я глядзела. Адной, гаворыць, не хочацца смяяцца.— Валя ўсміхнулася: — Як бачыш, нараджаецца пачуццё калектывізму.— І нахілілася да дачкі: — Пасмяёмся, Наташа? Так?

— Так,— коратка адказала дзеўчанё.

— А потым,— працягвала Валя,— пойдзем у бібліятэку, возьмем штo-небудзь новае. Потым будзем чытаць. Радасцей у нас яшчэ многа.

Раман слухаў яе голас, узіраўся ў яе твар і верыў, што гэта не прытворства. Усё ёй у радасць... І даўняе пачуццё зайздрасці да яе адчу-

ванняў варухнулася ў яго душы. Заўжды яе справы, заняткі выглядалі больш значнымі ў параўнанні з ягонымі, заўжды яму хацелася адчуваць тое, што адчувае яна, здавалася, тады ён стане іншым, незалежным ад яе, роўным ёй, і такога, мусіць, яна пакахала б...

— Хто цябе ведае, Валя,— вырвалася ў яго.— Не магу зразумець, ты нібы... як глянуць на цябе... самы шчаслівы чалавек.

Валя гарэзліва прыжмурылася.

— Не, Раман, я не прэтэндую на званне самага шчаслівага чалавека. Аддаю яго табе.

— А ты... не развучылася здзекавацца...

— Ты мае словы прымаеш за здзек? Ой, Рома!— яна як бы пашкадавала яго.— Значыць, ты не лічыш сябе шчаслівым? У мяне склалася іншае ўражанне.

— Лічу ці не лічу, няважна. Як ёсць... А ты ўсё ж скажы шчыра: табе работа ў дзіцячым садзе не надакучыла? Штодзень адно і тое ж?

Зірнула, здалося яму, паблажліва. Вось так пазірала яна, калі ў адказ на яго запэўніні, што толькі ён варты яе кахання, трэці раз вымавіла «не». Даўно тое было, а ўспамін апёк, як застарэлы боль.

Валя паківала галавою, сказала:

— Не, Раман. Не надакучыла.— І раптам голас яе зноў ажыў, зазвінеў: — А ты ведаеш, якія цяперашнія дзеці?

— Ведаю. Усе — як пампушкі.

— Ну, гэта так. Але я другое маю на ўвазе. Цяперашнія дзеці ведаюць больш, чым некалі мы. Кола іх разуменняў куды шырэйшае.

— Мы ж не сядзелі штовечар перад тэлевізарамі,— кінуў Раман.

— Я, ведаеш, што думаю? Можна было б з шасці год адпраўляць дзяцей у школу. У маёй групе ўсе чытаюць. Спачатку літары ім забава, а потым, глядзіш, давай новую кніжку. Магу пахваліцца? Я пытаю ў настаўнікаў пра сваіх. Кажуць, што ўсе добра вучацца. Як табе гэта падабаецца?

«Ты мне падабаешся»,— ледзь не сказаў ён. Услых вымавіў:

— Усё табе, Валя, дзіва...

— А ты што ж, як паездзіў па свеце, то нічым ужо цябе і не здзівіш?

— Не вельмі. А вось ты мяне здзіўляеш. Столькі за гэтыя гады ўсяго зведала, а цяпер быццам тая, семнаццацігадовая...

Валя маўчала ў задуменнасці. Раман падумаў, што, можа, гэтыя словы непрыемныя ёй, але зразумеў: яна не крыўдзіцца, нават у ахвоту ўспамінае сябе тую, семнаццацігадовую. Урэшце яна загаварыла:

— Здараецца, чалавеку сорак год, а ў яго нешта ад пяцігадовага праб'ецца. А семнаццаць не так і даўно было. Толькі цяпер, Раман, я ўжо падробку за золата не прыму. Раней магла... Паразумнела.

Яны падышлі амаль да яе дома. Раман падумаў, што гатовы будзе згадзіцца, калі Валя запросіць зайсці, але тут жа вырашыў не заходзіць — не варта дакучаць. І ля брамы выпусціў руку Наташкі — ужо цёплую, амаль гарачую, як і ягоная.

— Ну, пайду назад.

— Мог бы і зайсці,— сказала Валя проста.

— Не. Там Шурэйчык чакае. Без мяне ж не разлічыцца.

— Шурэйчык?— Цень набег на Валін твар.— Чалавекам быць бы яму... А то і сам... і другіх зводзіць. Загубіў ён сябе... Мо хоць цябе паслухаўся б... Скажы яму...

— Гаварыў,— Раман сунуў рукі ў кішэні паліто.— Праўда, мала пакуль... Кожны, Валя, сам сабе гаспадар. Можа, яму ў тым шчасце. І другога не жадае. Дык чаго да яго чапляцца?



Валін позірк быў доўгі, уважлівы.

— Паслухай. А ты ж не Шурэйчыка абараняеш. Цікава... Я памятаю, ты заўжды быў за поўную асабістую незалежнасць. Ты і цяпер на гэтым стаіш?

Ён усміхнуўся.

— Цяпер? З папраўкай. За поўную — пры поўнай яснасці ў галаве. Ну, як? Табе падабаецца мой прынцып?

Валя пазірала так, нібы бачыла яго наскрозь. Да густой сіні пацямнелі яе вочы, хоць яна ледзь-ледзь прыжмурыла павекі.

— Ты кажаш — «поўная яснасць у галаве». Гэта як бы гарантыя, што ты заўжды ўсё будзеш рабіць правільна,— гаварыла яна, не зводзячы з яго позірку.— Але я бачу другое. Як бы табе сказаць... Ты знаходзіш у гэтай яснасці ў галаве апраўданне таму, каб адасобіць сябе ад людзей, быць незалежным ад іх.

Ён няпэўна варухнуў брывом.

— А гэта ўсё эгаізм,— вывела Валя.— Вось табе і правільныя ўчынкі, суадноснасць з інтарэсамі іншых!— Валя пераможна ўсміхнулася.

— Пакінем гэта,— махнуў Раман рукой.— Ты заўсёды мяне ў спрэчках пабівала. Але... разважанні разважаннямі, а жыццё жыццём.

— У цябе, бачу, не паменшала самаўпэўненасці,— ужо сумнавата кінула Валя.

Яна змоўкла. І яму стала прыкра. Ведаў, што Валя зараз застанецца адна з нейкімі думкамі аб ім, і не хацелася, каб з благімі.

— Між іншым, Валечка, ты амаль не змянілася. Чатыры гады якніяк... Больш таго, нават папрыгажэла...

Ён зразумеў яе позірк: жартуеш ты ці не?

— Ты мне не верыш? Дарэмна! Табе хто хочаш гэта скажа.

У куточках Валіных вуснаў прабілася ўсмешка.

— Нешта падобнае гаварылі.

— Усяго — падобнае? А я табе кажу: папрыгажэла!

— Ну, добра, Раман. Хопіць. Буду памятаць пра гэта.

— Не забывай!

Ён нахіліўся да Наташкі, якая разглядала прахожых, машыны, паціснуў ёй пальчыкі, сказаў, каб слухалася маці, а Валі паабяцаў як-небудзь зайсці. Развітаўся і пайшоў назад, поўны сумятлівых думак.

## 7

Маці не спала. Ужо каля гадзіны яна ляжала ў ложку і не магла заплюшчыць вочы. Прыслухоўвалася да крокаў за акном.

Раман яшчэ не клаўся. Ёй было чутно, як час ад часу шархацелі старонкі — чытаў.

А Генкі ўсё няма. Ён нярэдка прыходзіў дадому позна, але яна ведала, што ён недзе з сябрамі, не адзін. Ён прасіў яе ніколі не хвалявацца, і яна амаль не хвалявалася, калі дзе затрымліваўся. А цяпер неспакойна ў яе на душы.

Яна адчувала, яна была ўпэўнена, што Генка не стане адмоўчвацца. Раман у крыўдзе на яго. Ён, праўда, весела расказаў пра іх размову, але крыўда была за кожным яго словам. Супакойвала яго, гаварыла, што Генка вялікі ўжо вырас, што горды ён, прасіць не ўмее, таму і не хоча нікому кланяцца. Гаварыла, хоць нясцерпным было жаданне сказаць іншыя словы, і дала б ім волю, калі б упэўненасць, што Раман зразумее ўсё, не пакрыўдзіцца, не адаб'ецца ад іх. Што

будзе, як зноў паедзе ён надоўга? Затоіць яна свае думкі, схавае ад яго, толькі б не пакінуў іх...

Расхадзіўся нанач вецер. Гулі правады за акном, парыпвалі аканіцы, стукалі аб сцяну — гукі глухія, не моцныя, але частыя, нудлівыя.

Чужыя крокі на вуліцы... Той даўні выпадак усё трымаецца ў яе памяці. Разбіў Генка мячом акно ў суседзяў, і яна выцяла яго сваім поясам. Ён тады выбег на вуліцу, вярнуўся позна вечарам і потым часта пазіраў на яе, быццам пытаўся: «Няўжо ты не магла інакш?» Ён горды, вельмі горды, і можа таму, што рана зразумела яго, ён і ўважлівы, і ласкавы з ёю цяпер. Не, пасля таго выпадку ніколі не падымалася рука на яго...

Раман нічога не сказаў, але ці не пакрыўдзіў Генку сам нядобрым словам? Як жа быць? Што зрабіць, каб хораша было ім усім?

Слёзы набягалі на вочы... Быў бы жывы іх бацька, яе муж Антон... Генку ён і не пабачыў, памёр ад ран сваіх за тры месяцы да яго нараджэння. Усялякае бывае з дзецьмі і пры бацьку, але ёй думаецца ўсё: быў бы жывы ён, Антон, толькі добрае спадарожнічала б сям'і. Ён гаварыў, наказваў, каб прыглядала за Раманам, бо Раман дзёрзкі, зласлівы — на тое вайну ў такія гады перажыў, а трэба і можна зрабіць з яго харошага чалавека... Што ж, Раман клапатлівы, даражыць і ёю, і Генкам, але сама яна, адна, не змагла зрабіць таго, чаго хацеў бацька. Ніколі Антон не кідаўся за лёгкім, выпадковым заробкам, не забываўся на годнасць сваю...

Вера Міхайлаўна прыўзняла галаву — крокі за акном ёй пачуліся знаёмыя. Так, гэта Генка. Зачыніў за сабой весніцы, ціха зайшоў у хату. П'е ваду. Распранаецца. Зайшоў у пакой. Чутно, як Раман павярнуўся да яго.

— Ці не са спаткання?— Раманаў голас і ветлы, і ў той жа час адчужанасць у ім.

— Быў у Ігара. Урокі рабілі.

— Гэта ў Малінца? Кволы быў некалі хлапчук. А цяпер, мусіць, як ты? Спартсмен?

— Валейбаліст. Сёння трэніраваліся.

— Ага... А я вось ужо з гадзіннікам управіўся. Між іншым, ты чаму свой зняў? Чаго яму ляжаць на этажэрцы?

— Не хачу насіць.

— З прынцыпу?

— Зняў, ды і ўсё.

— Дэманструеш, значыць... Ну, добра! Ідзі паеш там. Чакалі цябе доўга.

— Я ў Ігара павячэраў.

Вера Міхайлаўна чула — Генка ўзяўся складваць падручнікі ў папку. Потым стаў распранацца.

— Спаць будзеш?— спытаў Раман.

— Спаць.

— Бадай і мне пара.

Улегліся абое. Цішыня. І зноў Раманаў голас:

— Паслухай, у цябе дзяўчына ёсць?

Генка адказаў не адразу:

— Ёсць.

— Яна чыя?

— Бандарына.

— Гэта не выкладчыка тэхнікума дачка? Таго, што ў вайну лётчыкам быў?

— Так.



— Ведаю яго. А яе не памятаю. Пазнаёміш? Цікава глянуць.

Зноў Генка маўчыць.

— Ды ты што? Нібы спалохаўся чаго?

— Нішто мяне не палохае.— Голас у Генкі крыху раздражнёны.— Калі хочаш ведаць, мы пра цябе гаварылі. Быццам жартуючы... Але і не толькі... Дамовіліся, што я цябе пазнаёмлю з ёю і ты будзеш ёй... ну, як брат. Але яна думала, што ты зусім іншы. А цяпер... я не хачу вас знаёміць.

— Паслухай. Ды я што, па-вашаму? Калі гадзіннікі рамантую, то я і не чалавек? Касманаўтам трэба стаць, каб вы мяне за чалавека прымалі?

— Не выдумляй. Я не прафесію маю на ўвазе. Ты чалавек... Але я лічыў, што ты з моцных... І хлопцы распытвалі пра цябе заўжды. Ведалі, што на цаліне быў, што на шахце стаў працаваць. Я ім гаварыў гэта і ганарыўся табой. А цяпер бачу, што цябе нічога, акрамя грошай, не цікавіць. Не паспеў прыехаць, а ўжо прыдумаў камбінацыю... І цябе гэта не прыніжае, як ты іх бярэшся здабываць?..

— Так... Зразумела. Бач ты, суддзя! Грошы... А ты цану ім ведаеш?— Раман, чутно было, сеў.— Не, ты не ведаеш! Табе добра. Сыты, абуты, адзеты, у цябе ёсць усё. У цябе няма разумення, што значыць не мець нічога. Ты вайну бачыў? А як я пасля вайны жыў? Ты ведаеш, што я з хлопцамі ў сорак шостым хадзіў вясною па полі і шукаў бульбу, якая ў зямлі зімавала.... Якая згніла... Спытай у маці, ці смачныя аладкі з гнілой бульбы? Цябе вадзіла з боку ў бок ад голаду? Ты круціў калі жорны? А я ў адзінаццаць год хадзіў вунь з двума-трыма кілаграмамі жыта ці ячменю да Забаўскага, слесара, і жорны круціў! Ледзь жывы тую муку дадому нёс. У цябе лыжы — бачыў я іх! А ў мяне якія былі? На самаробках катаўся. У цябе вунь пад ложкам два мячы, а я біў босымі нагамі па мячы з ануч! Набівалі анучы ў старую пакрышку і гулялі ў футбол! Я тады, пацаном, вырашыў, што пайду працаваць, як толькі гадамі выйду. Каб мець усё! Каб не зайздросціць нікому! Будуць грошы — куплю ўсё, што захачу! Я ім цану зведаў! Табе такой цаны не знаць!.. А з неба не пасыплюцца! І не табе вучыць, як іх мець. Сам яшчэ пашукаеш спосаб, як паменей укалваць ды паболей зарабляць.

— Ты за мяне не вырашай. Я не ў тым бачу сэнс жыцця, у чым ты! Спосабы ў цябе пазычаць не стану!

— Сэнс жыцця!.. Во-во... Вы ўсе, цяперашнія, акрамя вучобы, нічога не ведаеце, то высока і ўзлятаеце! Сэнс... У тым і сэнс, каб жыць, а не існаваць.

— Ты ўпэўнены, што такое жыццё, як тваё, не існаванне?

— Я? Не, галубок. Што мне трэба, маю.

— Не многа ж табе трэба.

— Бач ты яго, энтузіяст!.. Запал у цябе ёсць. Ды ці надоўга хопіць? Пабачым яшчэ, дажыві да маіх год. Паразумнееш.

— Не аднаму табе дваццаць восьмы! Не адзін ты перажыў вайну. Нам Андрэй Сцяпанавіч расказваў... і пра бульбу гнілую, і пра чаргу за хлебам, пра ўсё... Яму таксама не соладка было, але ён не такі, як ты. Думаеш, у школе лёгка працаваць? Мы бачым. А ён працуе, бо не толькі пра сябе думае.

— Ты ўпэўнены? А мне вось думаецца, ён таму настаўнікам і працуе, што гэта яму лёгка. На што здатнасці, тое і лёгка чалавеку. Не, скажаш? А што думае не толькі пра сябе — такая прафесія. Цяжка гаварыць тое, што трэба? Дык не гаварыў бы і грошы не атрымоўваў. А вы вушы паразвешваеце. Усё за чыстую манету прымаеце.

— Ты хочаш сказаць, што Андрэй Сцяпанавіч... не шчыры?

— А ты прыгледзься, то сам убачыш, у чым яна, шчырасць. Усе ведаюць цану грашам, кожны і здабывае іх, як умее.

— Значыць, ён, па-твойму, такі, як і ты?

— Усе мы аднолькавыя. І, па-мойму, не горшыя за вас, маладых. Нам трэба грошы зарабляць. Пра цябе маці думае, а я сам пра сябе павінен клапаціцца. І ў Андрэя тое самае! Адзін у нас клопат.

— Няпраўду ты гаворыш!

— Абараняй. Толькі, мне лепей ведаць.

Генка змоўк. І Раман больш не азваўся.

Вера Міхайлаўна працягнула руку да шклянкі, адпіла глыток: перасохла ў горле...

Усё змяшалася ў думках яе за гэтыя хвіліны. «Не злуй яго, Гена, не злуй!» — хацелася ёй крыкнуць, як толькі Генка пачынаў гаварыць. І тут жа, услухоўваючыся ў яго словы, думала: «Гавары, пераканай яго. Твая праўда... Я не магу сказаць, але ты гавары, сынок...»

І не вытрывала, слёзы пайшлі з вачэй, калі Раман успомніў дзяцінства. Нялёгка было яму, мала радасцей спазнаў у тыя гады... І зноў жа падтрымлівала ў думках Генку: «Так, сынок, так... Усім было цяжка, усім хапала нягод».

І хацелася ёй устаць, падысці да Рамана, сказаць усё, што думала сама.

Але ж не — няхай лепш на аднаго крыўдзіцца. Лепш — на аднаго...

## 8

Шум у класе сціх, як толькі Андрэй Сцяпанавіч адчыніў дзверы. Генка міжволі ўпіўся ў яго вачыма.

Андрэй Сцяпанавіч прывітаўся, як заўсёды, спыніўшыся ля стала. Адзін з усіх настаўнікаў ён не патрабаваў дакладу дзяжурнага — заўважаў сам, хто адсутнічае. Ён заўважаў і значна больш: хто не ў настроі, каму весела, была спрэчка на перапынку ці ўсяго пажартавалі, пасмяяліся. У яго пільны позірк і вочы такія, што вінаватаму цяжка зірнуць у іх, хоць, бадай, для кожнага Андрэй Сцяпанавіч «свой хлопец».

Сёння ён быў у добрым настроі. Ад стала пайшоў да акна, спыніўся там, загледзеўся на неба, жмурачы вочы. І расшпіліў пінжак,— у класе было цёпла, а ён не любіў гарачыні. Ён таму лёгка выседжваў па паўдня на рыбалцы і ў моцны мароз. Ён і гальштукаў не любіў, бо яны сціскалі шыю, надзяваў іх у рэдкіх выпадках, і сёння белая кашуля яго на верхні гузік не зашпілена.

Андрэй Сцяпанавіч раптам весела сказаў:

— А вясна ўжо не адступіць!

І вярнуўся да стала.

Генка не зводзіў вачэй з настаўніка. Раманавы словы не забываліся, чуліся Генку зноў і зноў. Яны былі новым болем, такім нечаканым...

Калі Андрэй Сцяпанавіч пачаў тлумачыць новы матэрыял, Генка раптам адчуў у сабе жаданне падысці пасля ўрока да яго і расказаць пра Рамана. Але, калі ўрок закончыўся, усё здарылася інакш. Андрэй Сцяпанавіч дазволіў усім выйсці, а Генку папрасіў застацца. І калі Генка падышоў да стала, ён сказаў:



— Мне гаварылі, Раман прыехаў?

— Прыехаў, Андрэй Сцяпанавіч.

— Нарэшце... Чатыры гады, здаецца, не быў дома? Так, чатыры... Памятаю, як ён ад'язджаў. Дзе ён прападае? Хачу ўбачыцца з ім.

Вось у гэты момант Генка і зразумеў, як яму дайсці да праўды: яны ж абавязкова сустрэнуцца, Раман і Андрэй Сцяпанавіч. Які Раман — ён, Андрэй Сцяпанавіч, убачыць сам. Вось потым можна будзе і спытаць, як яму Раман спадабаўся. Калі спадабаўся — значыць, Раман сказаў праўду. І тады... тады ён перад усім класам Андрэю Сцяпанавічу Закрэўскаму скажа, што такое крывадушша. Мільгнула думка, што ўсё можа быць наадварот, і Генка адчуў, як пагана, сорамна будзе яму. Але і так пагана на душы, і галоўнае яму цяпер — дайсці да праўды.

— Што Раману сказаць?— толькі і вымавіў ён, хаваючы вочы.

— Вечарам я прыйду да вас.— І, устаючы з-за стала, Андрэй Сцяпанавіч спытаў: — А ты чаму, Гена, невясёлы? Сакрэт? Не?

— Я? Усё нармальна.

Андрэй Сцяпанавіч ледзь-ледзь усміхнуўся:

— Што ж, нармальна дык нармальна. Пойдзем.

Ля настаўніцкай Андрэй Сцяпанавіч развітаўся даволі халодна. І Генка ў думках сказаў яму: «Няхай я хітрую. Але хто вінаваты?»

Ціха, пуста было ў школе пасля апошняга званка. І на двары нікога не было. А за брамай тырчала знаёмая постаць. Ігар стаяў на тратуары, пазіраў сабе пад ногі. Думаў, значыць.

Генка, не спяшаючыся, падышоў да яго.

— Мяне чакаеш?

— Вашу светласць. Каго мне яшчэ чакаць?

Яны пайшлі плячо ў плячо.

— Пра што гаварылі?— спытаў Ігар.

— Пра што гаварылі, а пра што і не заікаліся.

— Па першым пункце?

— Я пацвердзіў нашаму класнаму, што яго колішні сябар прыехаў. Ён папрасіў перадаць, што вечарам зойдзе да яго.

— Ясна. Пра што ж не заікаліся?

— Я палічыў за лепшае ні словам не характарызаваць колішняга сябра.

— Ну, вядома: так гэта раптам выдаваць характарыстыку... неяк яно не клеіцца. Але ты нешта задумаў. Не памыляюся?

Генка міжволі ўсміхнуўся.

— Можна аслупянець ад тваёй назіральнасці.

— Само сабой. У чым жа сутнасць... інтрыгі?

— Апошняе слова не тое. Забудзь. А сутнасць... Я хачу ведаць на ўсе сто працэнтаў, што за чалавек наш класны. Ты гаворыш адно, а Раман другое. Вось па тым, як ён прыме Рамана, я і буду меркаваць, які ён сам. Таму і ўтрымаўся ад размовы пра Рамана. Вось і ўсё. Усе мае грахі.

— Усё?—Ігар ажно спыніўся.—Усё, ты гаворыш? Хітрыкі твае— дзіцячыя. А грахі... Як ты дапускаеш гэта? Думку, што Андрэй Сцяпанавіч крывадушны? Ты ж маліўся на яго, і з такой лёгкасцю паварот на сто восемдзесят...

— На дзевяноста.

— Раманавы словы для цябе маюць большую вагу, чым...

— Чым твае, хочаш сказаць?

— І мае! І ўсіх астатніх! Ад каго ты чуў такое, акрамя Рамана? Ага, маўчыш!

— А ты цішэй,— Генка паморшчыўся.— Крыкам не пераконваюць.

Пайшлі далей. Ігар маўчаў не доўга.

— Дажылі. Я цябе павінен пераконваць, што Андрэй Сцяпанавіч... адным словам, далей твае ж эпітэты. Калі хочаш ведаць, гэта мяне прыніжае. І цябе.

— Я пачынаю шкадаваць, што быў з табою шчыры. Не хацеў бы, каб цябе нешта прыніжала.

— І толькі аб гэтым ты шкадуеш?

— Лічы так.

— Значыць, ты да Андрэя Сцяпанавіча... усё так? Ніколькі сябе не асуджаеш?

— Гэта потым. Пабачым, хто будзе варты асуджэння.

— Я ўжо бачу. Ну што ж... Сам сабе робіш горш. Рабі. Я больш нічога не скажу.

Ігар замоўк і не абазваўся да самага дома. Ля веснiц прыпыніўся, нібы хацеў нешта сказаць, але рэзка павярнуўся і пайшоў у двор.

«Так... яшчэ адзін канфлікт. Як хочаш, Ігарок... Як хочаш... У цябе свая галава, у мяне свая...»

## 9

Раманава сэрца поўнілася радасцю, так добра сустрэў яго Андрэй. Гарачай была і сустрэча з Сяргеем, выпадковая — ішоў Сяргей з работы дамоў. І вось яны сядзяць утрох у Андрэевай хаце, і вельмі добра на душы ў Рамана. Тут яму вальней, як дзе. Дома — сутычка з Генкам, Валя змушае ўспамінаць невясёлае. А чаго не падзяліў ён з хлопцамі? Тут — поўная лагода, бо ніколі між імі не прабягаў чорны кот. Эх, хлопцы, хлопцы...

Андрэй сядзіць па левую руку ад яго. Ён у белай кашулі. А твар яго нязвыкла новы, пакруглелы, і парадзелі за чатыры гады мяккія чорныя валасы. Пасмяяліся з гэтага: маўляў, разумная галава рана лысее. А і не ведаючы, лёгка здагадацца, якая ў Андрэя работа, бо адклалася ўжо тое на яго твары, што і ў кожнага настаўніка — нешта ад launched ператомленасці, ад турбот.

На Сяргеевым жа твары паклалі адметціны вецер, сонца, маразы. Прараб... На дзіва спакойныя шэрыя вочы ў Сяргея. У твары ён хударлявы, але цеснавата яго плячам пад простым, на будзень, пінжаком.

Хвіліну назад гучаў у пакоі і яшчэ адзін голас — Андрэевай жонкі Людмілы. Людміла пабегла на ўрокі ў вячэрнюю школу. Яна пасмяялася з іх: трэба ж, колькі год не бачыліся, а разгаварыліся перш за ўсё пра міжнароднае становішча! Ну, на тое яны мужчыны, а ўсяму іншаму свая чарга.

Змяркалася, і Андрэй уключыў святло. Заззялі, засвяціліся фарбамі невялікія карціны, што віселі на прасценках і на перагародцы над канапай. Раман углядзеўся ў пейзажы і пачаў пазнаваць у іх нешта знаёмае.

— А дуб гэты... Чакай, чакай... Ці не той гэта, што за супрацьтанкавым ровам?

— Той,— усміхнуўся Андрэй.— У цябе добрая памяць.

— Дык ты ж яго як ёсць выпісаў! А чаму... рову таго не відаць? Раўнюткае ў цябе поле...

— А рову таго ўжо няма,— кінуў Сяргей.— Зараўнялі.



— Нарэшце зараўнялі. А прайшло ці мала год...

— Дзіва што... Немцы яго на кіламетр ад шашы ў абодва бакі пракапалі. Не так проста было раўняць,— задуменна сказаў Сяргей. І раптам ажывіўся: — А я памятаю той дзень, нібы вось учарашні. Як нашы танкі ўвайшлі ў мястэчка. Шашой, улабавую прайшлі.

— А каб не ўлабавую, то спалілі б немцы ўсё мястэчка,— заначыў Андрэй.

— Колькі нам год тады было? Па шэсць? А я ж таксама памятаю той дзень,— загаварыў Раман.— І ведаеце, што памятаю? Смак цукру. Салдат той ці жывы, што даў цукар? Сустрэць бы яго... Ну, нічога б не пашкадаваў!

— Дзіва... шкадаваць!— вымавіў Сяргей з усмешкай.— Давайце, хлопцы, за тое, каб нам да ста год страчацца. Вось так, за круглым сталом. За якім, як вядома, усе роўныя. Хто за — падняць келіхі!

Выпілі, паспыталі ўсяго патрошку, чым заставіла стол Людміла. Сяргей гаварыў:

— Мы тут, Раман, жывем па-ранейшаму, калі ціха, калі з шумком... У мяне на будоўлях шуму хапае. Што дзень — то новая прычына... Жыццё, адным словам, мястачковае. А ў Андрэя? Таксама то зацішак, то шторм. А ты раскажы пра сваё, Раман. Гэта цікавей. Як яно, ці добра па свету гулялася?

Андрэй падтрымаў:

— Раскажы, Рома... пра адысею сваю. Ты за чатыры гады нават ніводнага пісьма не напісаў.

Андрэй паківаў галавой.

— Не адмаўляюся, хлопцы. Не пісаў. Але і сваім амаль што не пісаў. Адно, што жывы, здаровы, і — чарговы перавод... — Раман уздыхнуў.— Гавару вам, як на духу, не хацеў пісаць. Я з'ехаў тады, каб хутчэй забыць яе... Валю. Вы можа і не пісалі б мне пра яе, але само пісьмо было б напамінкам пра мястэчка, а значыць — і пра яе. І так часам жыць не хацелася. Ну, заставалася адно з двух...— Раман бачыў, як патупіў вочы Андрэй, як глыбока зацягнуўся Сяргей, і спытаў вачыма: «А як цяпер?» — Дык вы не шкадуйце мяне, хлопцы,— усміхнуўся ён.— Было. Цяпер не тое. Хутчэй яе пашкадую, чым сябе. Ну, дык так... Трапіў я тады ў Акцюбінскую вобласць. Сёмы год ішоў, як цаліну разварушылі. Тэхнікі ў саўгасах процьма. А людзей не хапала. Я і прапанаваў паслугі. Спачатку ні аб чым не думаў, абы ў работу кінуцца, забыцца неяк... Вясна на падыходзе: работы — завалися. А ведаеце, калі ў арміі танкіст, то пасля службы трактарыст. Мяне за мілую душу ў майстэрню, на рамонт. А слясарная работка была якраз пад мой настрой. Усё на пуп трэба браць... З работы вернешся, пад'еў ды і спаць. Сон браў, а мне гэта за шчасце. Ну, вось так першы год і цягнуў.

— Уяўляю...— уздыхнуўшы, кінуў Сяргей.

— Ну, зарабляў добра,— гаварыў Раман.— А час ішоў, сваё рабіў. Палягчэла крыху на душы, дык работа пачала ціснуць. Не, думаю, зарабіць можна і лягчэй. Адбыў год — хопіць. Не пускалі. Але вырваўся, паехаў у суседні раён, Карабутакскі. Саўгас там ёсць «Баскудук», значыць, «галоўны калодзеж». Жывёлагадоўчы. А проса там дзіўнае расце. Проса — падаліца. Аднойчы пасееў, а ўраджай знімеш не раз. Папрацаваў я шафёрам у гэтым саўгасе. Лягчэй было, чым на трактары. А на кватэры стаяў у адной... У канторы працавала. Маладая, нашых гадоў. Ёй толькі дзякуй: памагла Валю забыць. Але неяк яно падбіралася і да жаніцьбы. А жаніцца я не хацеў. Так і ў трэці саўгас трапіў. А там наехалі з горада ахвотнікі падзарабіць на сама-

не. Да іх і прыстаў. Работа цяжкая, ды сезон парабіў — год можна жыць. А на зіму падаўся ў Данбас. Грошай на самане сабраў крыху. Думаю, папрацую на шахце, куплю машыну і тады ўжо сюды, да вас, прыкачу. Ну, прыехаў у Вугальск, разабраўся, дзе што, і — у аддзел кадраў. Накіравалі на дзесяць дзён у вучэбны пункт. Там першае знаёмства з шахтай, на слове. Вывучаў штукі розныя... самавыратавальнік, прыбор для замеру газу. Нарэшце — і ў шахту. Цягаў штодзень крапёжны матэрыял, стойкі, зацяжкі, рэйкі.

— Праходчык ты, значыць? — спытаў Сяргей.

— Быў. Але я ўжо не праходчык. Кінуў такую работу, хлопцы. Вось якія павароты...— усміхнуўся Раман.

— Гэта чаму? Боязна хіба стала?— хмыкнуў Сяргей.

Раман дакорліва глянуў на іх:

— Што вы, хлопцы? Я — ды баязлівец? Не было такога.

— Адчайны ты ў дзяцінстве быў. На цябе не падобна. Я, Рома, жартую,— сказаў Сяргей.

— Вось-вось. Ніякага д'ябла не баюся, але калі табе падвярнулася работка з меншай аддачай калорый, то не на пальцах гадаць: перакінешся.

— Дзе ты цяпер працуеш?— спытаў Андрэй.

— Рамантую гадзіннікі, хлопцы. Падвучыў мяне адзін вугальскі майстар. Калі б папрацаваў на шахце, то мог бы па часе і машыну купіць. Ды ліха з ёй, машынай! Не хачу косці свае ламаць. Вось, Андрэй, і ўся мая адысея. — Раман устаў, прайшоў па пакоі, разганяючы рукой клубы дыму, і спыніўся ля акна.— Свет пабачыў, спецыяльнасць не адну займеў. Але — як падумаю... Я тады, перад арміяй, збіраўся ў Карэлію паехаць, на лесараспрацоўкі. Ужо дамовіўся быў з хлопцамі. І няхай бы паехаў, дык не, паслухаўся маці. А паехаў бы, то не сустрэў бы Валю, і ўсё яно інакш склалася б... Пасля арміі дома застаўся б і жыў увесь час тут, сярод вас...

— Гэтак было б можа і лепш...— задуменна вымавіў Андрэй.— А якія планы ў цябе цяпер?

— Вось думаю ўсё: асталёўвацца тут ці ў Вугальску заставацца. Там у мяне парадак наконт работы. А тут... не такі заход, які хацеў бы. Генка настрой сапсаваў...

— Генка?— здзівіўся Сяргей.— Дзіўна...

— Хлапчанё. Не разумее яшчэ нічога. Я дома кажу: трэба пусціць пагалоску, што я майстар. Каму трэба хутчэй паправіць гадзіннік, каб да мяне нёс. Малінін па два тыдні марынуе. Стары, зрок аслабеў, дзе там хутка ўпраўляцца. А я за дзень-два зрабіў бы і меў нешта. Такі мой хлеб. Дык не, не да спадобы яму...

У пакоі на хвіліну ўсталявалася цішыня. Андрэй курыў, час ад часу памхваючы перад тварам рукой, а Сяргей сядзеў, апусціўшы галаву.

Набегла думка, і Раман не прамаўчаў:

— Ты там, Андрэй, скажы Генку ў школе. Як педагог, псіхолаг, так сказаць... паўздзейнічай на яго. Не люблю я са сваімі кантакты губляць: не падабаецца мне гэта.

— Як педагог? Псіхолаг?— перапытаў Андрэй. Ён сунуў рукі ў кішэні штаноў, прайшоўся па пакоі.— Не, Раман. У тым кірунку, якога ты хочаш, уздзейнічаць на яго я не буду.

Раман усміхнуўся:

— Што, аўтарытэт баішся страціць? А ты скажы так, каб аўтарытэт твой застаўся пры табе. Пара яму ведаць, што ў жыцці мае цану.

— Што ты маеш на ўвазе?— зірнуў яму ў вочы Андрэй.



Раман пацісnуў плячыма.

— Само сабой зразумела.

— Больш канкрэтна можаш?

— Калі хочаш, магу. Ты нядаўна сам гаварыў, як цярпеў ад нястач, пакуль вучыўся. Усе мы цярпелі: ты, я, Сяргей. Усе без бацькі раслі, адно нам усім дасталося. Адно ўсе і цэнім цяпер...

Андрэй паморшчыўся, уздыхнуў, застукаў пальцамі па стале. Ціха кінуў:

— Дрэнна ты, Раман, пра мяне думаеш.

— Дрэнна? Што ты, Андрэй! Гэта ўсё, па-мойму, самае чалавечае.

На імгненне вусны Андрэя кранула ўсмешка.

— Вось так і гаварыў бы, што — па-твойму. А па-мойму... Я моцна ненавіджу, Рома, вельмі моцна ненавіджу духоўнае ўбоства. Ад яго — бяздушша, хцівасць, эгаізм у крайняй ступені — усё магчымае зло. Ненавіджу, бо ёсць бескарыслівасць, чуласць, высакародства, пачуццё абавязку перад людзьмі. Гэтае — самае чалавечае. Гэта ў жыцці цаню больш за ўсё. За яго і змагаюся.

— Ну, добра. А калі ты надумаўся вучыцца на настаўніка, хіба не трымаў у галаве, што сёння будзеш жыць без нягод?

Андрэй устаў, прайшоўся. З тою ж усхваляванасцю сказаў:

— Жыць без нягод — найэлементарнейшае жаданне. Але калі на гэтым спыніцца, тады, часцей за ўсё, чалавекам авалодвае прага нажывы. І тут ужо чалавека няма. Ён — усяго істота...

Раман маўчаў, адчуўшы сябе абяззброеным. Успомніўся яму раптам Ганчарэнка. «Шэф» быў такі — хітры, сквапны, гатовы свет падабраць пад сябе. Што ж, ён, Раман, яму роўня? Не! Яму столькі не трэба, яму трэба на пражыццё з тым лішкам, што дазваляў бы памагчы маці, Генку. А «шэф» выклікаў іншы раз агіду, такую, што хацелася ўзяць загрудкі... Не, ён не роўня Ганчарэнку!

— Мне не так многа трэба.

Андрэй здзіўлена зірнуў на яго:

— Прабач, Раман, я не цябе меў на ўвазе. Ход думкі...

— Я так цябе і зразумеў. А ты сказаў — я «шэфа» ўспомніў. Ліха з ім!

Яны памаўчалі.

— Ну, нам пара вярнуцца да Генкі. Ты не супраць, Раман? — спытаў Андрэй, усё пахаджваючы па пакоі.

— Не, чаго ж. Пачалі, то трэба канчаць,— сказаў Раман, хоць рады быў бы не гаварыць ужо пра Генку.

— Я не ведаю, Рома, у якой ступені асабіста я меў уплыў на Генку. Магчыма, самы нязначны. Але я рады, што ён у вас такі. Ты лічыш, ён лунае недзе. А я бачу адно: ён моцна стаіць на зямлі. І няхай толькі гэтай яго трываласці большае.

— Адным словам, ты ў першую чаргу настаўнік. Пе-да-гог!— па складах вымавіў Раман, надаўшы голасу вясёлую бесклапотнасць.

— А ў другую?— кінуў Андрэй, прыплюшчыўшы, што здаўна меў у звычцы, левае вока.

— Бадай, і ў другую. Іншага ў цябе не відаць.

— Ды заўжды ён быў педагогам,— умяшаўся Сяргей.— Нас з табой да дырэктара вадзілі за тое, што лупілі дзяўчат. А яго — не. Ад дырэктара вярталіся, дык і ён яшчэ перцу падсыпаў. У трынаццаць год! Ну, пагаварылі вы моцна: атмасфера патрабуе разрадкі.— Сяргей наліў чаркі і, калі выпілі, сказаў: — Гаварылі вы шчыра. Цяпер скажу і я. Чаму табе, Раман, не пайсці да Малініна, не працаваць у майстэрні?

— Не ўсё так проста, Сяргей. Па-першае, каб у майстэрню трапіць, трэба, каб далі другую рабочую адзінку. А па-другое, пакуль што гэта і не ў маіх інтарэсах. Дома лягчэй задаволіць гэтае...— Раман весела кінуў позірк на Андрэя,— «найэлементарнейшае жаданне».

Сяргей сцяў вусны і потым сказаў:

— Эх, Рома!.. Быў рабочым класам, а падаўся ў саматужнікі-адзіночкі...— Ён раптам зірнуў на гадзіннік: — А мы абяцалі Людміле сустрэць яе. Муж! Што гэта ты забываеш?

— А што? Ужо?— разгублена спытаў Андрэй.— Дык вы пасядзіце, а я сустрэну.

— Як жа! Абяцалі ўсёй гвардыяй сустрэць,— вымавіў Сяргей.

— Ну, вядома,— падтрымаў Раман.— Пойдзем.

Ён першы ўстаў з-за стала, пачаў апранацца. Ён рады быў хутчэй выйсці на вуліцу.

Яны выйшлі на вуліцу, і ён сам мусіў загаварыць, бо хлопцы маўчалі. Загаварыў пра надвор'е, пра тое, што там, у Вугальску, вясною вельмі гразка: як ідзеш, то па пуду на кожнай назе цягнеш, бо такая зямля. Андрэй сказаў, што скора ў школе вясновыя канікулы: парыбаліць ён уволю. А Сяргей выказаў радасць за тое, што яго рабочым-будаўнікам лягчэй стала працаваць: вясна не тое, што зімовая сцюжа.

Яны сустрэлі Людмілу на плошчы. Шчымлівае пачуццё зайздрасці ахапіла Рамана, калі Андрэй, не паспеўшы слова сказаць, узяў з рук Людмілы партфель.

— Вось і я,— загаварыла Людміла. Голас у яе мяккі, мілагучны.— Паставіла тры чацвёркі і тры двойкі. Ох, гэтыя вячэрнікі! Дарослыя, а іншых, як дзяцей, трэба двойкай падганяць. А як вы? Вас не трэба было падганяць?— Людміла засмяялася, бліснулі яе белыя зубы.

Яны сталі наперабой дзякаваць ёй за клопат. І Людміла, а следам за ёй Андрэй, запрасілі іх заходзіць. Яны развіталіся, паціснуўшы адзін аднаму руку, і Сяргей шпарчэй за ўсіх пашыбаваў на сваю вуліцу, сказаўшы перад гэтым, што жонка ўжо недзе няласкавым словам памінае яго, гуляку.

Раман пайшоў цераз плошчу да завулка. Ішоў, пазіраў пад ногі...

Яшчэ адна крыўда легла на сэрца.

## 10

Сонца толькі-толькі ўпала за небасхіл. На захадзе аблокі плавіліся ў апошнім яго праменні, пурпуровасцю сваёй падфарбаваўшы ўсё на зямлі. Дзень канчаўся. Браўся нанач невялікі мароз. Цяжкой ад дум Раманавай галаве нібы палягчэла на гэтай свежасці. Завулкам ён выйшаў на Першамайскую, павярнуў да плошчы.

Два дні ён не выходзіў у мястэчка, бавіў час дома. Не цягнула ўжо да старых сяброў. «Паспыталі б майго, не тое гаварылі б»,— думаў ён штораз, успамінаючы вечар у Андрэя. Але найгорш пачуваў сябе, калі думаў пра Валю.

Усё было мізэрным супроць тае нявол, у якую зноў забірала яго душу яна. Стаў цягнуцца да яе, як і раней, зноў яна вабіла, была жаданай. Яшчэ не адчуваў у сабе таго даўняга пачуцця залежнасці ад яе, але ведаў: каб паехаў вось зараз у Вугальск, хадзіў бы там у самоце і ўсё думаў бы пра Валю, успамінаў бы вечары ў яе. Таго, што некалі пераўжыў, пажадаў бы толькі ворагу свайму, і зноў тое ж падсцерагала яго. Яшчэ не позна было ўберагчыся ад новых пакут. Не позна. І таму штодзённа Валінай дарогай не да Валі ён ішоў...



Патухалі, барвовелі аблокі на захадзе, змрок асядаў на зямлю. У дамах уключалі святло: раптам рэзка азначаліся на шэрым фоне сцен прамавугольнікі вокан. Пацягнулася Раманава рука да таполі, што стаяла ля тратуара — халадком абдало далонь.

Народу за столікамі ў сталовай было не густа. Падышоў да буфета, купіў папярос, пакіраваў да кутняга, пры акне, століка. Калі заняў месца, з раздатачнай імкліва выйшла Паліна. Яна адразу заўважыла яго, усміхнулася, пранеслася з падносам да гурту мужчын і праз хвіліну падышла — стала так, што амаль ніхто не бачыў ні яго, ні яе твару.

— Табе што?-- спытала, лашчачы яго позіркам.

— Піва. І... ты скора дамоў?

Паліна зразумела.

— Скора! Я зараз падам піва.— Радасна-ўзрушаная, яна памчала да буфета.

«Парадак»,— сказаў сабе Раман. І тут жа ўсміхнуўся: як далёка яшчэ да парадку ў душы. Але з чагосьці трэба пачынаць.

Ён памалу цягнуў піва, назіраў за Палінай. Яна мільгала то там, то сям, чуўся яе вясёлы голас. «Бой-баба,— думаў ён.— Калі б выбіў з галавы Валю, то, бадай, і ажаніўся б з ёю. І, як Шурэйчык кажа, век нуды не знаў бы... Але чаму яна да гэтага часу не выйшла замуж? Дваццаць чацвёрты ёй, пара б... Перабірала, хіба?» Паліна зноў падышла, забрала куфель і сказала, каб пачакаў яе на вуліцы.

Ён не доўга стаяў на ганку, толькі і паспеў паглядзець на неба: зорак на ім было густа, як хто з рукі сыпануў.

Паліна выбегла са службовага ўваходу, зграбная, у блакітным дэмісезонным паліто, з сумкай у руцэ.

— Ты хіба не стамілася?— спытаў ён.

— А чаго там?— Паліна засмяялася.— Ногі ў мяне моцныя.

Яны пайшлі па тратуары скорым крокам. На скрыжаванні Раман глянуў на Валіну вуліцу, і ёкнула яго сэрца. «Не, правільна,— супакоіў ён сябе.— Клін клінам выбіваюць...»

— А бацька твой... строгі мужык?— спытаў ён у Паліны.

— Стары як стары. Памірыцеся,— весела адказала яна.—Ды яму скора выходзіць на вартаўніцтва. Ён сельпоўскае ўсё вартуе і сталовую таксама.

— А колькі год яму?

— Шэсцьдзесят пяты. А маці шэсцьдзесят.

— Што ж ты ў іх такая маладзенькая?

— Позна пажаніліся.

— Моляцца, мусіць, на цябе?

— А хіба няма на што?

— Ёсць. Такая красуня...

— А чаму ж ты красуню пад руку не возьмеш?— упікнула яна.

— Прабач.— Раптам узяў яе пад руку.

Яны павярнулі на Паштовую, глухую вуліцу, з дамамі на адным баку. З другога боку цягнулася па высокім земляным вале цагляная сцяна. За сцяной быў парк з будынкамі тэхнікума — колішні панскі маёнтак. З парку чуліся галасы... Раман міжволі ўспомніў даўняе: як лётаў па тых алеях, выглядаючы Валю, як пацалаваў яе ўпершыню...

Падышлі да Палінінага дома, і яна вызваліла руку. Раман крыху сумеўся. Мінулы раз, калі праводзіў яе, пастаялі ля форткі, а цяпер Паліна вяла яго за сабой па двары.

Усё было, як у людзей. Ён зайшоў у хату, удыхаючы незнаёмы саладкаваты пах абжытасці, і Паліна пазнаёміла яго з бацькам і маці, якія не выказалі бурнай радасці з прычыны яго паяўлення, але і не паказалі нездаволенасці. Усё пайшло чын-чынам. Бацька, Іван Цітавіч, невысокі, шчуплы, пачаў, калі расселіся ў зальчыку, без залішняй абыходлівасці распытваць госця, хто ён ды адкуль, а маці, Маланння Францаўна, дзябёлая яшчэ жанчына, з дапамогай Паліны пачала збіраць на стол. Паліна весела падміргвала Раману. Яна была знікла на хвіліну і паказалася ўжо з высока ўзбітай прычоскай, у жоўтай, з кароткімі рукаўчыкамі кофтачцы і шэрай вузкай спадніцы.

Потым, калі выпілі першую чарку, Іван Цітавіч загаварыў пра сябе. Ён пахваліў Рамана за абраную прафесію, сказаў, што сам такі: карпатлівай работы не баіцца. Раман ледзь не засмяяўся: якая карпатлівасць у рабоце вартаўніка? Ён асцярожна сказаў:

— Вы, значыць, сумяшчаеце...

Іван Цітавіч, пражоўваючы вяндліну, адказаў:

— Тут яно так: не служба. Пры доме работа. А хіба Паліна не гаварыла?

— Не. Пра іншае размоў хапала,— весела сказала Паліна.

— Скажу тады сам.— Іван Цітавіч скупа ўсміхнуўся.— У мяне парнікі на сорак пяць рам! Іншы і пры дванццаці згорбіцца...

— Татка, дык мы ж табе памагаем,— кінула Паліна.

— Ну, так... Але мае дзве болей, як вашы чатыры робяць. Работа таксама тонкая, скажу вам.— Іван Цітавіч перастаў есці — пэўна цікава было яму гаварыць.— Гной пакласці, зямлю прасеяць на грохаце... А пікіроўка? Дзве тысячы каліў у дзень высаджваю.

— Што садзіце?— спытаў Раман.

— Капусту, памідоры... А потым новы клопат: за тэмпературай сачыць трэба. Не дагледзіш, за трыццаць прыпячэ, то ўсё і пагарыць.

— А як ратуеце?— пацікавіўся Раман, падумаўшы сабе, што гадзіннікі рамантаваць куды лягчэй.

— Як?— Іван Цітавіч паблажліва ўсміхнуўся.— Матамі прыкрываю рамы. То адкрываеш, то прыкрываеш. А яшчэ і паліць трэба.

— Ну, а які прыбытак?— спытаў Раман: гэта ж, несумненна, было Івану Цітавічу самае галоўнае.

— Ат, што прадасі, то маеш...— ухіліўся Іван Цітавіч.

Раман разглядаў яго твар, рухавыя пабляклыя вочы і сіліўся нешта ўспомніць пра яго. Глянуў на сівыя, пакудлачаныя валасы і — успомніў: гэта ж Пятро гаварыў, што Іван Цітавіч не купляе новы грабянец, калі ў тым, якім карыстаецца, ёсць хоць пяць зубкоў. «Бадай што так»,— падумаў весела Раман.

Яны дапілі, што заставалася ў бутэльцы. Іван Цітавіч зноў налёг на яду. Мабыць, каб ён, Раман, не дзівіўся такому апетыту, Маланння Францаўна сказала:

— Еш, Іван. За ноч згаладаешся яшчэ.— І ўздыхнула, гаворачы Раману: — Грэх старому ноч выстойваць на сырасці, ды трэба.

— Пакуль здароўе, чаму не? Усё капейчына ў хату,— сказаў Раман толькі таму, што адчуў: прыйдуцца старой да спадобы гэтыя словы.

— Во-во... Хто б інакш?— задаволена сказала яна.

— Каторая гадзіна?— спытаў Іван Цітавіч.

Паліна зірнула на свой наручны гадзіннік, а Раман глянуў на яе аголеную вышэй локця руку, белую, налітую маладой пругкасцю, як і чысты, паружавелы яе твар. І павесялеў, бо ўжо запанурылі яго старыя.



— Пара табе ісці,— сказала Паліна бацьку.— Дзесяць без пяці.

Іван Цітавіч устаў, насоўкай пацёр пад носам. І... выняў з кішэні грабянец. Раман закусіў губу, каб не зарагатаць: не пяць, але не больш дзесятка зубкоў ліпела на чырвоным тым грабянцы. Іван Цітавіч павадзіў ім па валасах і падаў Раману руку:

— Пайду. А вы пасядзіце сабе.

Неўзабаве і Маланння Францаўна пакінула іх — падалася спаць, сказаўшы, што яны могуць хоць сабе ў падкіднога пагуляць, пабавіць час.

— Я лепш пакажу табе мой пакой,— сказала Паліна.— Добра?

— Добра,— Раман усміхнуўся ёй.

Яна правяла яго цераз кухню ў невялікі з двума вокнамі пакойчык. Было ў ім утульна, тут ён адразу адчуў нейкую адасобленасць ад усяго свету — такое мроілася ў той дзень, калі Пятро «сватаў» яму Паліну. І ён больш уважліва агледзеў застаўлены касметыкай туалетны столік у куце між вокан, радыёлу, якая стаяла на другім століку пры ложку, двухспальным, з багатым убраннем, люстраную шафу, дарагія дываны на падлозе, на сцяне. Паліна тым часам хітравата зірнула на яго і спытала:

— Падабаецца табе тут?

— Факт. Райская мясцінка.

— Ну, дык сядай. Хочаш, паглядзі альбом.

Яму спадабалася гэта — сачыць, як з узростам усё прыгажэў Палінін твар, як зграбнела яе постаць. Было нямала пляжных здымкаў, і ён толькі охаў ды пакручваў галавой, узіраючыся ў прыгожую пакатасць яе плячэй, высокі бюст, плаўныя лініі таліі, клубоў. Было ў яе вачах усё: прастадушнасць і хітраватасць, дзёрзкасць і намёк на пакору. Не заўсёды ўдаваліся на здымках толькі яе поўненькія вусны— то падбірала іх, то па-дзіцячы надзімала. Ён ужо ведаў прагнасць іх і міжволі адвёў позірк ад здымкаў, павярнуўся тварам да яе твару. Паліна нахілілася над альбомам, яе валасы кранулі яго лоб, блізкаблізка былі ружовыя, ледзь вільготныя вусны. Ён не ўтрымаўся, закінуў руку ёй за плечы, прыцягнуў да сябе. Паліна, як і тады, ля брамы, у доўгім пацалунку не прыплюшчыла вачэй.

— Ну і ты...— кінуў ён, адхінуўшыся.— Паслухай... Яшчэ хоць крыху... божай слязы знойдзеш?

— Хочаш? Знайду,— адразу згадзілася Паліна і выйшла.

«Вось так, Валя,— з помслівасцю падумаў Раман.— Сама ты загнала мяне сюды...»

Яму хацелася хутчэй забыцца на Валю хоць у гэтым пакойчыку.

Паліна вярнулася хутка. На дне невялікага графінчыка, які прынесла яна, Раман убачыў ягады. Яна перахапіла яго недаверлівы позірк.

— Думаеш, квасок? А паспытай!

І чаркі яна прынесла невялікія. Наліла поўную яму і паўчаркі сабе.

— Ого!— выдыхнуў ён, выпіўшы.—Тут спірт адзін.

— Не адзін,— усміхнулася Паліна.— Але хапае. А чаму ты сёння невясёлы?

«Не пра Валю ж ёй гаварыць...»

— Нападаюць, Палінка. І дома... і розныя знаёмыя. Не падабаецца ім, як я зарабляю сваю капейку.

— Дык ты перажываеш? Дзівіла ты маё...— Паліна правяла рукой па яго валасах, пагладзіла, як малога.— Няхай гавораць. А ты плюй... Да лямпачкі. Нуль увагі! А я то думаю...



Яна ўключыла прыёмнік, знайшла танцавальную музыку і ўстала.
— Патанцуем?
Раман усміхнуўся. «Сапраўды, сумаваць не дасць».
Ён зняў пінжак, бо стала горача, і абняў Паліну. Яна заглядвала яму ў вочы, адкідаючы галаву, прыхіналася зноў, і ён усё шчыльней туліў яе да сябе. У галаве ў яго затуманілася і не аддалася болем набегшая думка пра Валю: «Што яна там робіць? Мусіць, спіць ужо? Няхай спіць».
Яны паціху кружыліся між ложкам і шафай. З тамлівасцю ў вачах Паліна раптам спытала:
— А чаму ты не папрасіў у мяне фотакартку?
Раман паціснуў плячыма:
— Проста... ты — вось. Сама сабой. Гэта лепш.
— А на памяць?
— Няма звычкі... Мне — ці ўсё, ці... не хачу ніякай памяці.
— І мяне лёгка забыў бы?
— Будзь такой, каб не захацеў забываць.
Паліна адхінулася, трымаючыся рукамі за яго шыю. Ён прыхінуў яе да сябе, пацалаваў.
Яны яшчэ доўга кружыліся.
— Горача,— выдыхнула ўрэшце Паліна і, сеўшы на ложак, пацягнула яго за руку, пасадзіла побач. Усміхнулася: — Тут мякчэй.
«Ну вось. І рабі з табою, што хочаш»,— падумаў Раман. І пачаў, як бы дурэючы, гузік за гузікам расшпільваць яе кофтачку. Паліна як і не заўважала, не адчувала яго рукі на сваіх грудзях. А вочы яе ўзрушана блішчалі, дыхала неспакойна. І стукнула яго далонькай па руцэ. А потым тая ж рука яе пацягнулася да настольнай лямпы, ружовы пальчык націснуў на кнопку выключальніка. Святло пагасла.
...Яе валасы раскінуліся па падушцы, казыталі яму твар.
Пуста было ў галаве, у маўклівасці падкрадвалася прыкрасць, нейкая незразумелая зласлівасць, і ён загаварыў, не турбуючы сябе выбарам слоў:
— Хіба ў цябе нікога няма?
— А ты?
— Без мяне...
— Ці мала іх... Рады цюцькамі бегчы за мной. Хапае клопату... адганяць...
— А я... чым лепшы?
— Лепшы.— Паліна пацiснула яго пальцы, потым прыклала іх да сваёй шчакі.
— Што ты пра мяне можаш ведаць?
— Усё.
— Ха-ха!.. Адкуль?
— Шурэйчык расказваў. Астатняе я і сама бачу.
— Так хутка?
— Мне многа часу не трэба, каб чалавека распазнаць. Хто ў сталовай працуе, таму лёгка гэта. А я ўжо пяць год там.
— А дзе вы раней жылі?
— У лесе.— Паліна ціха засмяялася.— Бацька лесніком быў. Прагарэў... Дурны быў. Мала яму ночы, дык удзень пачаў збываць лес. Перабраліся сюды. А ты спадабаўся яму.
— Ды ну? — Раман усміхнуўся.— Не прыкмеціў. Ён што, сказаў табе?
— Не. А ўспомні: адыходзячы, ён падаў табе руку. Гэта ў яго рэдка бывае. Калі падаў, то, лічы, ты яму друг.

«Такі мне гонар... Руку падаў! Каб не ты, то так бы я з ім і знаўся!..» — падумаў Раман. Паліна ж дапытвалася:

— А ён табе як?

— Мне?.. Галоўнае, каб табе быў харошы. А мы з ім што?.. Паклон ды — вон...

— Не гані сам сябе.

— Чакай, значыць, пакуль пагоняць?

— Дурненькі... Хто цябе адсюль пагоніць? — Паліна апёрлася на локаць, нахілілася над ім.— Табе тут хіба блага? Хіба ёсць лепшае месца?

«Ёсць»,— ледзь не сказаў ён. Абняў яе за шыю, і Паліна паклала галаву яму на грудзі, сцішылася.

— А сэрца якое... спакойнае... Быццам спіш...— вымавіла яна.

...За шыбамі ўжо ўгадваўся золак, калі ён трэці раз сказаў, што пара яму выбірацца дахаты. Паліна, глянуўшы на гадзіннік, згадзілася. Надзеўшы халацік, яна правяла яго да брамкі. Пацалавала, зноў сказала, каб прыходзіў. Бразнула засаўкай і пабегла ў хату.

Ён закурыў. Ціха было вакол, так ціха, што крокі аддавалі ў паветры гулам.

Халадок цверазіў галаву. Прасторна стала думкам, скаванасці, што стрымлівала там, у пакойчыку, ужо не чуў.

Абяцаў Паліне, што вечарам прыйдзе зноў... Прыйсці проста. Проста нават жаніцца. Гэта ўжо ясна. А што потым? Круціцца ў гэтым доме ля Паліны, ля старых і ўвесь час думаць пра Валю?.. Калі сёння мроілася яму, што Валіна галава на яго руцэ, што не Паліна, а яна, Валя, хіліцца да яго, то хіба заўтра, праз месяц, праз год забудзе яе? Дамок-церамок гатовы прыняць новага чалавека, ён даўно чакае такога, што не дурань, не прастачок, і прынятаму будзе ў ім спакойна, утульна. Але ніякая ўладкаванасць не заменіць таго, да каго рвецца душа,— каму-каму, а яму, Раману, гэта не сакрэт... Вось ажаніўся б знянацку, дык не Валю пакараў бы, пакараў бы сябе. І вымяшчаў бы злосць сваю да дамку-церамку, каб усім было кепска, нібыта не адзін вінаваты. Бачыў такое на жыццёвым шляху.

Ці прыйдзе вечарам да Паліны? Яна будзе чакаць. Яна ўпэўнена, што нідзе ён ад яе не дзенецца. Лічыць, што ён воск, хоць і выдае сябе за жалеза.

Можа і воск. Толькі не ёй, Паліне, ляпіць яго...

Ужо світала, калі Раман падышоў да свайго дома. У акне ён убачыў матчын твар.

## 11

Раніца была з тых, якімі слаўны сакавік. Налілося яркім блакітам неба, у сонечным шчыраванні раставаў тонкі і празрысты, як шкло, лёд, што скаваў ручаі. Паветра, здавалася, звінела — большай чысціні, празрыстасці нельга было ўявіць. Бачыў Андрэй нават танюткі пасак найдалейшага ад мястэчка Ельскага лесу. Ён спыняўся і доўга ўглядаўся ў той пасак, імкнучыся запомніць нешта новае ў фарбах далечы. Ды цяпер іншае займала яго.

«Што ты сёння мне скажаш?» — думаў Андрэй. Ён знарок не пайшоў да Рамана ні ў першы, ні ў другі пасля іх сустрэчы дзень. Не сумняваўся, што Раман пакрыўдзіўся. А ведаў Рамана: пакуль гарачая яго крыўда, аднаго сябе ён слухае. Больш нікога.



Убачыў Андрэй Рамана, кінуўшы позірк цераз плот на хату Галубовічаў. У шэрым світэры, без шапкі стаяў Раман на даху і рыдлёўкай скідаў у двор снег. Толькі калі Андрэй адчыніў фортку, Раман заўважыў яго. Ён як бы разгубіўся, але тут жа ўзмахнуў рыдлёўкай, выгукнуў:

— Прывітанне настаўнікам! — І, шпурнуўшы рыдлёўку долу, злез па лесвіцы з даху, працягнуў руку.— А цяжкі снег, што камень... Зляжаўся за зіму.

Андрэй успомніў, калі перакрывалі на гэтай хаце дах. Гадоў пятнаццаць назад... Памагаў тады Раману падносіць гонту.

— Працякаць стаў?

— Ды не вельмі. У куце толькі. Сказала маці, каб скінуў снег, пакуль не падтаў. Трэба будзе паднавіць. Ну, пайшлі ў хату.

Раман і ў хаце быў ветлівы, усміхаўся прыязна і гаварыў абы пра што, але ні словам не ўспамінаў нядаўнюю размову. І ўсё-ткі паўтораным некалькі разоў падкрэслена-паважлівым «настаўнік» выдаў сваю крыўду. Андрэй не стрываў:

— Імя ў чалавека ёсць...

Раман сумеўся.

— Ды я гэта так... Давай вось у шахматы згуляем, калі час маеш.

Неяк задуменна расстаўляў Раман фігуры, і Андрэй падумаў, ці не адно яны ўспомнілі. Было ім год па адзінаццаць, калі Раманаў бацька навучыў іх гуляць у шахматы. Цалюткімі днямі, па дваццаць партый запар, маглі яны тады згуляць: за шчасце былі шахматы, бо як нішто іншае памагалі прычакаць беднага абеду ці вячэры.

— Я ўжо развучыўся. А вы тут, мусіць, ледзь не гросмайстры,— вымавіў Раман.

— Ага, вось-вось,— у тон сказаў Андрэй.— А ведаеш, хто ў мястэчку адзін з мацнейшых шахматыстаў? Ваш Генка. Не хваліўся?

— Не,— толькі і сказаў Раман. Было відаць, не хацеў гаварыць пра Генку.

Андрэй міжволі ўсміхнуўся. Вось ён, Раман... Кінуўся ў атаку, не зрабіўшы папярэдне ракіроўкі, і вось ужо мусіць перайсці да абароны, ратаваць свайго караля. Упарта абараняў, але трапіў кароль у матавую пастку. Раман прапанаваў згуляць яшчэ адну партыю. Андрэй глянуў на гадзіннік — часу заставалася мала.

— Іншым разам, Раман. Скора мне ў школу.

Паклаўшы шахматы на этажэрку, Раман сеў ужо не за стол, а на канапу. Спытаў:

— Колькі ж тых урокаў у цябе сёння?

— Тры.

— Усяго, значыць, на дзень? А ў іншыя дні?

— Увогуле, не больш трох-чатырох.

— Ого! Дык у цябе ж панскае жыццё! Тры гадзіны. На дзень! Хто яшчэ такое мае?

Раман як бы жартаваў, але ў голасе яго прабіліся ноткі абвінавачвання. Не, ён памятаў нядаўнюю размову, кожную хвіліну памятаў. Андрэй закурыў, бліжэй да сябе падсунуў попельніцу. Зацягнуўся моцна раз, другі — і адступіла непрыемнае пачуццё. Усміхнуўся:

— Можа ты, Раман, хочаш панскага жыцця? Дык ведай. Да кожнага ўрока ты будзеш гадзіну рыхтавацца. Ты гадзінамі будзеш сядзець над праверкай сачыненняў і дыктантаў. А ў школе, акрамя ўрокаў, у цябе будзе яшчэ крышку клопату. Педсавет, нарады, сходы... Ты кіраваў бы нейкім гуртком. Быў бы старшынёй метадычнай камісіі мовы і літаратуры. А яшчэ членам лектарскай групы таварыства

«Веды». І быў бы класным кіраўніком. Між іншым, скажу табе, Раман, ты навучыўся б цярплівасці. Яна вельмі патрэбна цяпер, вясной. Стаміліся настаўнікі, стаміліся і дзеці. Ім цяпер цяжка за кнігі брацца, хочацца пагуляць ды спаць кінуцца. А трэба, каб браліся за падручнікі. І ты не будзеш кулаком па стале біць, а падумаеш, як і што кожнаму сказаць. Па шчырасці, нервовае напружанне і мне не так сабе даецца... Вось у чым корань таго, што я стаў заядлым рыбаком. А як старэйшым настаўнікам? Ну, дык хацеў бы ты такога панскага жыцця?

— А ты прывязаны? Доўга кінуць, калі цяжка?

— Самога сябе не кінеш.— Андрэй паківаў галавой: — Але і вый-сце ты знаходзіш... Заўважаю, яно ў цябе ўніверсальнае.

— А што там! — з выклікам вымавіў Раман.— Як казаў мой «шэф», каб не збіралі тваіх касцей, знайдзі дарожку мякчэй.

— Бандарына ты ведаеш? Мы з ім разам на рыбалцы бываем... Ён гаворыць інакш: трэба ўмець пераступіць сцежку. І я з ім згодзен.

— Значыць, узбівайся на карчы, ламіся праз гушчар, замест таго, каб ісці і клопату не ведаць?

— Ты ўлавіў думку. Але толькі пачатак. А працяг яе... наконт чалавечай вартасці.

— Ну, якія вы, такі ваш і працяг. Гэта ясна.— Раман падняўся, прыкурыў ад Андрэевай папяросы, зноў сеў.— Але не разумею вось чаго: чаму табе хочацца ўзваліць на мяне столькі клопату, колькі сам маеш? А то, можа, і наогул, каб я ледзьве ногі пацягнуў?

— Не так гэта, Раман. Я якраз хачу, каб у цябе было больш радасцей. Куды больш, чым іх маеш.

Па Раманавым твары прабег цень роздуму. Не інакш — зразумеў яго Раман, паверыў у шчырасць гэтых слоў... А што адкажа?

— Ведаеш, Андрэй, радасцей з мяне хапае і тых, што ёсць. У некага — не мае рэшата інтарэсаў. Некаму — поўная самааддача на карысць. А я не такі. Я казаў і кажу: мне многа не трэба. Давай дамовімся: хто на якія рэйкі стаў, па тых і коціцца. Вы жывіце як хочаце, і я — як хачу. Не прашу ўжо вашай дапамогі, але і не перашкаджайце мне ў маіх справах. Карацей, прапаную мірнае суіснаванне. Згода?

— Не, Раман,— Андрэй устаў.— Калі я табе сябар, на мірнае суіснаванне ты не спадзявайся.

Раман, пахмуры, падняўся, адвярнуўся да акна.

— Але якія вы тут усе... З кожным ледзь не сварыся.

— Сварыцца мы не будзем. Сумленне нам не дазволіць.— Андрэй ступіў да Рамана, паклаў яму руку на плячо: — Ты давай вось праўдзі мяне.

Ён чакаў, што прасвятлее Раманаў твар. І сапраўды, Раман слаба ўсміхнуўся. Сказаў:

— У камісары б цябе... Праўду.

Ён пачаў апранацца. Андрэй чакаў, думаў... Даўно не падлетак Раман, не проста пахіснуць нешта ў яго пераканаННях. Але гэта ўжо адступленне: «Прапаную мірнае суіснаванне». Адступленне! Ці заўважае гэта сам Раман?..

## 12

Дынамік на скверы грымеў на ўсю моц. Генка слухаў песні і ўглядаўся ў вулічны прасцяг. Яму заўжды карцела, калі чакаў Таню, убачыць яе здалёк. Позірк яго сягаў далёка — шчодра была асветлена цэнтральная вуліца. Народ валам валіў на танцы, а знаёмага гурту дзяўчат усё не было.

Ідучы на танцы, ён ніколі не заходзіў да Тані. Так павялося, што хлопцы ішлі сваім гуртам, а дзяўчаты сваім. Павел Іванавіч быў прысароміў Гену за гэты не зусім тактоўны звычай, але атрымалася так, што Гена перастаў наогул заходзіць да іх...

Адна Таня заўсёды разумела яго. Як ён ні імкнуўся не паказаць ёй свайго настрою, але яна заўважала ўсё. І ўмела перастроіць яго на свой лад. Хапіла кароткай размовы на перапынку, каб вось цяпер амаль з ранейшай увагай ён слухаў песні, каб яму захацелася патанцаваць. А як упэўнена яна была, што ён сёння выйграе сустрэчу з «асам» настольнага тэніса Ігарам! І выйграў...

...Вечер мал, как песчинка,
Я тебя подожду,
Только ты приходи навсегда,—

ліліся з дынаміка словы. Генка зазірнуў у акно і ўбачыў, што квінтэт Дома культуры ўжо ў зборы. Крануў струны электрагітары Валерка Петракоў: мусіць, настройваў яе. Генка адвярнуўся ад акна і ўбачыў Ігара. Ігар, безумоўна, таксама выбраўся на танцы, апрануты быў, як і ён, Генка: плашч, чорны касцюм, белая кашуля і гальштук — самавіта выглядаў Ігар. А што ён скажа? Не, Ігар і тут не збіраўся мяняць пласцінку, усмешка яго была іранічная.

— Думаю: хто гэта спіной да ўсяго свету? А гэта, аказваецца, пераможца.

— Ты перажываеш?

— Не вельмі. А, між іншым, здорава ты мяне сёння разнёс. Не чакаў.

— Я спачатку наогул не думаў удзельнічаць у чэмпіянаце. А потым... За пройгрыш свой можаш падзякаваць Тані.

— Быў бы ў мяне такі натхняльнік... Слухай, а ты цэні ў чэмпіёны. Хопіць табе паддавацца Цімчанку. Хоць ён і «харошы хлопчык».

Яны абодва засмяяліся. Ігар нагадаў выпадак, які адбыўся з ім два гады назад. Тады ў школе з'явілася новая настаўніца, гістарычка Інга Пятроўна, а ў восьмым «Б» з'явіўся навічок, яе сын Артур Цімчанка. Скора стала вядома, што Артур — уладальнік вялікай калекцыі марак. Доўга не разважаючы, Ігар завітаў да Артура і папрасіў паказаць яму маркі. Інга Пятроўна распытала, хто Ігаравы бацькі, ці курыць ён, ці лезе ў бойкі, і, атрымаўшы шчырыя адказы, што і курыць часам, і б'ецца, дазволіла паглядзець маркі, але тут жа заявіла, што не дазваляе яму сябраваць з Артурам. Калі Артур падаў альбом з маркамі, Ігар быў ужо ля дзвярэй. «Запамятайце, мой Артур харошы хлопчык»,— крыкнула наўздагон Інга Пятроўна. «Харошы хлопчык» быў паслухмяным сынам, ён не вітаўся з Ігарам. А калі ўжо летам, перад дзесятым, падаў руку, Ігар сказаў яму: «Ці ты не ведаеш? Я з «харошымі» не сябрую».

Але Ігар нагадаў Генку і пра другое. Цімчанка псаваў Тані настрой сваёй празмернай увагай да яе. І ў апошні час з адкрытай пагардай паглядаў на яго, Генку... Што ж, на пагарду пагарда даўняя. А вось каб не чапіўся да Тані, трэба зрабіць адпаведны напамінак,— вырашыў Генка.

Яны пасмяяліся, як смяяліся заўсёды — добра разумеючы адзін аднаго. Так, Ігар сам хацеў наладзіць адносіны. А можа рабіў сваё гэты суботні вечар? «Там будзе відаць»,— падумаў Генка.

Ён быў рады, што нарэшце Таня ўбачыць яго ў добрым настроі.

Ужо гучала песня пра тое, што вальс не састарыўся і ніколі не састарыцца, і тут Генка заўважыў Таню. Яны ішлі па тратуары, некалькі пар, дзяўчаты дзесятых «А» і «Б», цокалі абцасікі іх туфель. Яны весела і шумна перагаворваліся. Адна з іх пад агульны смех падняла Ігараву руку, другая хуценька паклала ў яго далонь грошы. Ігар пайшоў браць ім білеты. Ён узяў білеты заадно і сабе з Генкам, і праз хвіліну ўвесь гурт маладых і вясёлых паваліў у танцавальную залу. Генка амаль нічога не сказаў Тані за гэты час, ён адно паглядаў на яе, неяк па-асабліваму прыгожую ў новай бэзавага колеру сукенцы. І ўсе яны, дзяўчаты, выглядалі ўрачыста. Іх заўважылі і адну за адной запрашалі танцаваць. Генка запрасіў Таню. Яе маленькая рука лягла яму на плячо, і зноў ён убачыў, што вочы ў яе не шэрыя, а як ільдзінкі — яркае святло лілося зверху ад люстраў.

— Ты падрасла,— сказаў Генка.

— Мы ўсе падраслі,— Таня ўсміхнулася.

— На колькі сантыметраў?

— Не скажу. Гэта наш сакрэт... А я рада, што мы тут. Так хацелася патанцаваць.

— Ты шчаслівая. У цябе збываецца ўсё...

— О не! Толькі самае простае.

— А што не збываецца?

— Ты ведаеш... Я многа чаго перамяніла б у жыцці, у людзях.— І Таня дадала з націскам: — І наогул, на ўсім свеце!

— О, дайце, дайце мне ўладу! Так?

Таня, смеючыся, кіўнула галавой.

Яны танцавалі, і лёгка было ім гаварыць пра ўсё, што ні прыходзіла ў галаву. Калі пасля танца яны зноў сабраліся ў свой гурт, твар у Ігара раптам выцягнуўся, прыадкрыўся нават яго рот.

— Генка, зірні! Здаецца, Раман.

Так, гэта быў Раман. Ён толькі зайшоў у залу і аглядаў усіх: напэўна, шукаў каго знаёмага.

Раманаў позірк усё блукаў па зале, ды вось натрапіў і на Генку. І ўсміхнуўся Раман і пусціўся цераз усю залу, лавіруючы між цесных гуртоў і пар, што танцавалі. Нарэшце ён паўстаў перад імі, у карычневым з іголачкі гарнітуры, вясёлым і хуткім позіркам акінуў Ігара і Таню.

— Добры вечар! Здаецца, Ігар Малінец? — здзіўлена і радасна ўсклікнуў Раман, падаючы Ігару руку.

— Ён самы,— усміхнуўся Ігар.

— Ну, што ты скажаш! Усе вы ўжо такі дарослы народ! Ледзь пазнаю.— І Раман з цікаўнасцю ўглядзеўся ў Таню.

— Не пазнаеш,— сказаў яму Генка.— Пазнаёмцеся.

Таня назвала сябе.

— Тады мы ўжо амаль знаёмыя. Бацьку вашага ведаю, і пра дачку яго... даводзілася чуць,— весела сказаў Раман.

Таня крадком зіркнула на Генку. Яна крыху збянтэжылася, але Генка падміргнуў ёй: маўляў, трымайся смялей. І яна проста, адкрыта глянула ў вочы Раману.

— І мне пра вас даводзілася чуць,— сказала яна.

— Усе мы тут свае! — сказаў Раман у больш прыўзнятым тоне.— Ды і новы чалавек у мястэчку, як поп,— кожны яго заўважыць!

Усіх рассмяшыла тое, што Раман параўнаў сябе з папом. А ён трымаўся вольна і ўпэўнена, зноў кінуўшы позірк на залу, засмяяўся:

— Вам раскоша. Мы некалі тут пад адзін баян... Ну, таварышы, даўно я не танцаваў. З усіх вас магу запрасіць толькі Таню. Дазваляеце?

Ігар пацінуў плячыма, пазіраючы на Рамана і Таню, якія аддаляліся ў вальсе.

— Уражанне самае добрае,— сказаў ён задуменна.

— А якім яшчэ яму быць,— кінуў Генка.

З дваістым пачуццём сачыў ён за Раманам.

«Вось які ты, Раман...— думаў ён.— Спадабацца людзям можаш, нават проста. І мне ты такі падабаешся. Але за першым уражаннем аб табе наступае і другое, і — вельмі розняцца яны... Ты вунь як трымаешся перад Таняй... Ды што ні гавары, а яна ведае, які ты...»

Але аб чым яны размаўлялі? Генка ўглядаўся ў Танін твар, у Раманаў, імкнучыся хоць што ўлавіць.

...А размову пачаў Раман.

— Дык, мусіць, Таня, я не такі страшны?

— Вельмі страшны,— усміхнулася Таня.— Не ведаю, як я асмелілася з вамі танцаваць...

— Гумарысты вы тут усе! Ну, а калі не жартуючы... Мусіць, напалохаў Генка? Такі я ды сякі... і блізка не падыходзь! Была ў нас з ім размова. Пазнаём, кажу, з Таняй. Дык куды там!

— А я хацела з вамі пазнаёміцца.

— Сапраўды?

— Сапраўды.

— О! — узрадаваўся Раман.— Як жа мой харошы браток умее памыляцца.

— У чым?

— Ну... вырашае за іншых. Ды неўпапад...

— Гэта ўпершыню, як я ведаю, неўпапад.

— Але тут здорава ён памыліўся. А гэта самае горшае, калі думаеш адно, а ў жыцці...— Раман дагаварыў выразным рухам броваў.— Ды гэта, праўда, у вашым узросце даравальна. А вы, Таня, мабыць, чулі, што кажуць? Што дзяўчынкі мудрэй за хлопцаў, сваіх аднагодкаў? Я не ганю Генку, але вось вам камплімент. Вы таксама мудрэй.

— Значыць, тады Гена ніколькі не адстаў... па мудрасці.

— Як гэта?

— Пра жыццё... і пра ўсё наогул мы з ім думаем аднолькава.

— І пра мяне?

— І пра вас.

— Вось табе і на! Тады... калі ўсё гэта перабраць... як жа разумець, што ў вас было жаданне са мною пазнаёміцца?

— Вы Генаў брат. І мне хацелася з вамі пагаварыць.

— Пра сур'ёзныя рэчы?

— Пра сур'ёзныя.

— Пагаворым, Таня, абавязкова. Як-небудзь убачымся.

— Так, я згодна...

Генка бачыў, што Раман увесь час усміхаўся і гаварыў больш, чым Таня. Яна адказвала яму коратка, а калі і кранала яе вусны ўсмешка, то не самая вясёлая. І дзе здагадацца, пра што яны размаўлялі? Калі пра што больш-менш істотнае, то Таня потым скажа...

Танец закончыўся. Раман і Таня падышлі, і яны, Генка і Ігар, усталі, прапанавалі ім свае месцы на крэслах. Таня села, а Раман застаўся стаяць.

— А танцы калі заканчваюцца? — спытаў ён.

— Звычайна ў дванаццаць чатыры нуль-нуль,— адказаў Ігар і сеў побач з Таняй.

— Добра. Тады яшчэ патанцуем. І пагляджу, як вы ўмееце. А Таня,— Раман зірнуў на яе,— цудоўна.
— Дзякую,— схіліла галаву Таня.— Вы таксама.
— Няма нічога лепшага, чым узаемныя кампліменты,— вымавіў Ігар.— Прыемна слухаць. Скажы, Генка?
— Вялікая праўда,— каратка пацвердзіў Генка.
— Ох і вы... дасціпнікі,— засмяяўся Раман.— Ну, Таня мне сказала, што хоча стаць настаўніцай. А ты, Ігар, куды думаеш падавацца?
— Я? Вы, Раман Антонавіч, закранулі маё балючае месца.—Ігар састроіў на твары міну пакутніка.— Я, Раман Антонавіч...
Раман перабіў яго:
— Гавары, Ігар, прасцей. Некалі мы на «ты» з табой былі.
— Неяк няёмка. Я ўжо выхаваны чалавек... Дык я што хачу сказаць. Не ведаю, у чым маё прызначэнне. Усё спадзяюся сустрэць разумнага чалавека, які даў бы мне разумную параду. Я асмелюся спытаць у вас... Можа, варта стаць майстрам па рамонту гадзіннікаў?
Генка зірнуў на Рамана: ці заўважае, што Ігар насміхаецца з яго? Раман усё зразумеў, халадок нездаволенасці мільгануў у яго вачах, але, бадай, толькі ён, Генка, і прыкмеціў гэта.
— А ты, Ігар, як вучышся? — спытаў Раман з ранейшай дружалюбнасцю.
— Моцны сераднячок,— з пачуццём уласнай годнасці вымавіў Ігар, пры гэтым паважна закінуў нагу за нагу.
— Ты яшчэ шчокі надзьмі,— не вытрымаў Генка.
Таня засмяялася, спытала:
— Пра артыстычную кар'еру ты не думаў?
— Неяк думаў. Вось Генка сведка,— адказаў Ігар.
— То раю сур'ёзна падумаць,—смеючыся, сказаў Раман і дадаў: — Таню я адбіраць у вас ужо не буду. Ты мне, Ігар, памажы разбіць адну пару.
— Можам. Дзе яны?
— Ну, танцуйце,—сказаў Раман Генку і Тані і павёў Ігара за сабой, бліжэй да аркестра.
Таня сядзела задуменная, сцішаная. Неяк запытальна зірнула на Генку.
— Пойдзем?— падаў ён руку.
Таня ўстала. Яны танцавалі з хвіліну моўчкі, потым Таня спытала:
— Гена, табе не шкада Рамана?
— Усё разам,— адказаў ён.
— Вось бачыш... Я і не думала... Такі ён моцны, самаўпэўнены, а стала яго шкада. Ці здагадваецца ён, што яго могуць шкадаваць?
— Не ведаю. Аб чым у вас была размова?
— Ну, слова за слова... і дамовіліся пагаварыць больш сур'ёзна. Але я адчуваю, што ён заўжды будзе паблажліва ўсміхацца.
— Я ж гаварыў...
Генка выглядаў цераз галовы Рамана. З кім ён там танцуе? Нечакана ўбачыў Рамана зусім блізка, рука яго абдымала стройную, у яркай аранжавай сукенцы бландзінку. Ды вось убачыў і яе круглы з густа падведзенымі вачыма твар.
— Паліна са сталоўкі,— вымавіў Генка.
— Што? — здзівілася Таня.
— Раман з Палінай танцуе.
Таня глянула на іх. Сказала:
— Яна вельмі прыгожая, праўда?
— Ты — самая прыгожая.



— Гена...— з дакорам сказала Таня.
— Ты — самая прыгожая! — упарта паўтарыў ён. І вачыма сказаў: «Хоць ты не хочаш, каб я такое табе гаварыў, але я не магу маўчаць і магу паўтарыць гэта тысячу разоў».
І дачакаўся свайго: Таня шчасліва ўсміхнулася.
Яны выйшлі з танцаў не з Раманам. Раман яшчэ раз на хвіліну падыходзіў да іх, а потым ужо не адступаў ад Паліны.

Генка прыйшоў дадому першы. Маці адчыніла яму дзверы, спытала, дзе Раман, і падалася ў спальню. Пачуўшы яе мернае дыханне, Генка на самы ціхі гук уключыў прыёмнік.
Ён распрануўся, лёг. Думаў пра Таню. Яна спяшалася дадому, бо было ўжо позна, але сказала, што яшчэ доўга не будзе спаць. Хутчэй за ўсё, яна таксама слухае цяпер музыку. А што ёй думаецца? Напэўна, пра іх думае, двух вельмі розных братоў, Генку ды Рамана...
А што Раман? Мусіць, яму весела з той прыгожай рагатухай Палінай...
Раман не вельмі забавіўся. Ён паціху ўвайшоў у хату. Генка ўключыў настольную лямпу, каб у цемры Раман не нарабіў грукату.
— Не спіш? — Раман зняў плашч, пінжак і выйшаў на кухню. Вярнуўся, спытаў: — А ты піць не хочаш?
— Не.
— Можна і спаць. Хоць нешта і не цягне на сон.— Улёгшыся, Раман сказаў: — Выключай лямпу.— Потым засмяяўся: — Ну і Паліна! Агонь... Толькі пабачыў я ўжо такога агню... А ты, Генка, з Таняй даўно дружыш?
— Ад лета.
— Ага...
Раман маўчаў. А Генку хацелася пачуць хоць што пра Таню. Ён спытаў:
— Як табе... Таня, Ігар?
— Зразумеў я іх адразу. З прынцыпамі. Як і ты. Але што з вас возьмеш... Дзеці яшчэ.
«Няхай дзеці... А Андрэй Сцяпанавіч, Сяргей Верасаў? Яны ж не дзеці. Што яны табе сказалі?»
Генка маўчаў, і зноў вярнулася да яго знаёмае, вельмі непрыемнае пачуццё. Брыдка зрабілася ўрэшце яму ад сваёй ролі следчага, так брыдка, што не толькі не загаварыў з Андрэем Сцяпанавічам пра Рамана, а нават баяўся пазіраць на яго.
Генка адчуў, што гэта той момант, калі можна спытаць пра Андрэя Сцяпанавіча. У яго ажно сэрца забілася ад думкі, што вось зараз многае яму раскрыецца.
— А ў Андрэя Сцяпанавіча... якія прынцыпы?
Раман гучна выдыхнуў.
— Усе вы... на адзін лад. Што значыць — абжыўся чалавек... Ён майго ўжо не разумее... Што мне першы клопат, то яму найэлементарнае... Ды няхай сабе.
Генка не вытрымаў, ускочыў, спусціў ногі на падлогу.
— Вы з ім паспрачаліся?
— І так, і не... Пагаварылі шчыра.
Раман гаварыў неахвотна. Ну і хопіць! Яму, Генку, усё ясна. Камень... Не, вялікі цяжар зваліўся з яго плячэй.
Раман застаецца ў тым свеце, але Андрэй Сцяпанавіч з імі — з Генкам, з Таняй, з Ігарам!
А Раман паўтарыў свае словы:

— Няхай сабе...— І нея́к рашуча сказаў: — Дробязь гэта ўсё... Не яно мне галоўнае.

— А што табе галоўнае? — спытаў Генка.

— Ды так... Ёсць... Калі-небудзь скажу.

«Што яшчэ можа быць важней?» Генка лёг. І не заплюшчваў вочы.

## 13

На вялікім перапынку яны пайшлі ў сталовую. Генку пачуўся Танін голас. Ён зірнуў угару і ўбачыў яе з Нінай Белагур. Яны таксама кіраваліся ўніз.

— Стой, Ігар! — сказаў Генка.

Той не адразу сцяміў, у чым справа, а заўважыўшы Таню і Ніну, змоўк. Таня і Ніна трымалі адна адну за руку, з апошніх прыступак збеглі, і Ігар шырока раскінуў рукі, як бы гатовы падхапіць, калі будуць падаць.

— Мы ў сталовую. А вы куды? — спытаў Ігар.

— І мы туды,— адказала Ніна.

— Кампоціку захацелі,— дадала Таня.

Яны пайшлі разам.

Ігар задаў Ніне загадку: чаму ў дзевятым і дзесятым ён вучыцца лепш, чым раней?

Ніна задумалася, моршчыла свой маленькі, з жалудок, носік. І з той інтанацыяй, якую выклікае само сабой зразумелае, сказала:

— Паразумнеў проста!

— О не! — запярэчыў Ігар.— Ты глыбока памыляешся.

— Значыць, у цябе тут за два гады,— Ніна пад агульны смех кранула белым пальчыкам Ігараў лоб,— ніякага прагрэсу?

— Прагрэс ёсць, і гэта ўмеюць ацэньваць.— Ігар пераглянуўся з Генкам.— Справа, Ніначка, у іншым. На вялікім перапынку п'ю не кампоцік, як вы, а што-небудзь моцнае... чай ці кафей! І па шосты ўрок я — самы ўважлівы ў час тлумачэнняў. Спытайце ў Генкі. За два гады ніводнага сну яму не расказаў! Генка, так?

Смеючыся, яны ўвайшлі ў сталовую.

— Займайце столік,— сказаў Ігар,— а мы з Нінай будзем афіцыянтамі.

Генка і Таня селі. Цераз адзін столік ад іх сядзеў Цімчанка са сваімі прыяцелямі. Калі тыя адказалі на Генкава прывітанне, Цімчанка не варухнуўся. Генка з непрыязнасцю акінуў позіркам яго шырокую спіну, галаву з роўненькім праборам у валасах. «Злосны за пройгрыш... Злуйся. Спартсмен нумар адзін, называецца...» — падумаў Генка і больш не пазіраў на Цімчанку. А ў вачах у Тані ўбачыў смяшок: «Не зважай. Ён такі».

Праз які момант Генка зусім забыўся на Цімчанку. Таня была побач. Крадком, каб не вельмі бачыла гэта сама Таня і іншыя, ён любаваўся ёю. Кожны дзень, здавалася, яна была новай. Сёння — лагодная, як замілаваная нечым, вядомым толькі ёй... Можа, усё гэта ад учарашняга дня? Не адну гадзіну правялі разам: рыхтавалі ўрокі, былі ў кіно, потым яшчэ доўга блукалі па вуліцах.

Ігар і Ніна падышлі са шклянкамі, паставілі іх на стол, селі самі. Ігар, адпіваючы са шклянкі, зноў з сур'ёзнай мінай загаварыў:

— Бальзам! Я ўжо адчуваю прыліў энергіі. Ніначка, ты на медаль выцягнеш? На залаты?





— Я і сярэбраны не атрымаю,— бесклапотна адказала Ніна.
— Ну, не кажы! Сярэбраны за табой. А калі з заўтрашняга дня, замест кампоціку, будзеш піць чай, залаты атрымаеш.
— Залаты медаль па рэцэпце Малінца! — Ніна зірнула на Таню.— Адмовімся ад кампоту?
— Перш ад гэтай тэмы,— прагаварыла Таня.— Ігар, скажы штонебудзь цікавейшае.
Той ускінуў бровы:
— Пра што ў чайхане гаварыць, як не пра чай? Не хочаце—не буду.
Ігар, нібыта пакрыўджаны, змоўк. І яны ўсе пачулі гучны голас Цімчанкі:
— Не верыце? Шурэйчык вам тое самае скажа, спытайце... Прыехаў нядаўна. Так што нясіце гадзіннічкі да Галубовіча Рамана. Ха-ха!.. З кожнага па нітцы... голаму нейлонавая кашулька! Шурэйчык з ім выпіваў. Яны, каторыя з рукой працягнутай ходзяць, усе багата жывуць. А то не? А вы кажаце — шахцёр! Ха-ха!.. Прыбыццё ў горад аднаго клоуна азначае для здароўя яго жыхароў больш, чым караван мулаў з лекамі... А то не?
Цімчанка гаварыў знарок гучна. Ён помсціў нахабна, агідна... Генка сядзеў сам не свой, адчуваючы ўсім целам нязнаны прыліў гарачыні, ад якой пацяжэлі, знямелі рукі. Няўцямна, шырока раскрыла вочы Ніна. Разгублена пазіраў на яго Ігар. І боль адбіўся на Таніным твары, яна адвяла позірк і зірнула зноў — з жалем і горыччу...
Наступнае адбылося імгненна. Генка ўстаў, у тры крокі пранёсся да Цімчанкі і, калі той павярнуў да яго свой пухлы твар, уляпіў яму аплявуху. Не стрымаўся, ударыў яшчэ раз. І выскачыў са сталовай. Кінуўся ў вестыбюль, выхапіў з рук гардэробшчыцы куртку і падаўся да дзвярэй і на вуліцу — далей ад школы. Убачыў, што ў парку бязлюдна, і скіраваў у алею.
Тут Генка ўжо не спяшаўся. Пасярод алеі было гразкавата, ды ён не зважаў на гэта, ішоў напрасткі, куды вочы глядзелі.
Спяшаліся яго думкі... Ад іх было цесна ў гэтым пустым парку, толькі бегчы больш не было куды — ад думак не ўцячы.
Няхай бы Раман пачуў гэтыя словы: «З кожнага па нітцы...» Цімчанка мярзотнік, падонак, але ім, Цімчанкам, ударыў яго, Генку, сам Раман...
Убаку ад алеі, за дрэвамі, Генка ўбачыў лаўку. Ён збочыў да яе, сеў. Вакол лаўкі было ўжо суха, і нехта прыходзіў сюды — на зямлі многа слядоў мужчынскіх чаравікаў і жаночых боцікаў. Справа ад лаўкі валяліся акуркі — сядзеў курэц, кідаў іх у адзін бок. Генка пашкадаваў, што няма ў кішэні запалак, а інакш падняў бы каторы бычок, зацягнуўся б.
Ён доўга не ўседзеў на лаўцы. З рою думак выспела адна — і падняла яго, пагнала дадому. Апошні раз ён будзе гаварыць з Раманам, і гэтак жа бязлітасна, як бязлітасна гаварыў сваё Цімчанка. Чакаць, што Раман сам нешта зразумее — пустое. І шкадаваць яго за мінулае — пустое. Яму толькі гэта і трэба, а адплачваць будзе яшчэ якімнебудзь Цімчанкам.
Генка выйшаў з парку, глянуў на школу. І аж скалануўся ад агіды і нянавісці да Цімчанкі. Цімчанка ведаў, што і Таня яго пачуе. Ён трапна пацэліў. Ён ужо не спадзяваўся на Таніну ўвагу і без боязі пайшоў на нізасць перад ёю. Яму асалода парушыць, прынізіць іх дружбу... Мусіць, двух аплявух яму мала. То пачакай... Генка крочыў, адчуваючы, як расце ў ім новая крыўда — на маці. Няхай Раман не



лічыцца з ім, але яе то паслухаў бы. Дык не, яна робіць выгляд, што не асуджае Рамана, не хоча яму і слова насуперак сказаць, абы не сердаваў Раман, не ўздумаў вяртацца ў Данбас. Вось што яна цяпер скажа? Што?..

Генка ляжаў на канапе, пазіраў у столь, і ўсхапіўся, пачуўшы на двары крокі. Праз акно ён паспеў заўважыць толькі Ігара з яго, Генкавай, папкай. А хто там яшчэ? Раман? Маці?
— Заходзьце,— сказаў Генка ў адказ на глухі стук у дзверы.
Іх адчыніў Андрэй Сцяпанавіч. Убачыўшы яго, Генка зразумеў, што класны ўсё ведае. Вядома, Ігар расказаў. Тым лепш: не трэба будзе самому тлумачыць...
— Не чакаў? — вымавіў Андрэй Сцяпанавіч.
Ён прайшоў, кінуў на крэсла сваю кепку, да ножкі прыставіў партфель, расшпіліў паліто. Ігар стаяў, паклаўшы на стол папку. Пахмуры быў, як і Андрэй Сцяпанавіч.
— Я пайду,— сказаў ён. — Там маці нешта трэба. Я потым, Генка.
Генка кіўнуў: ідзі. Ігар непрыкметна варухнуў рукой, сціснутай у кулак, сказаў вачыма: «Правільна, што змазаў Цімчанку». І пайшоў.
Ігар — не класны. Перад Андрэем Сцяпанавічам няёмка... Што ён скажа?
Не доўга маўчаў Андрэй Сцяпанавіч.
— Што ж, караць цябе тваёй жа бядой — гэта агідна. Магчыма, Цімчанка нешта і зразумее. А надалей ты ўсё ж будзь больш стрыманы. Трымай сябе ў руках... Дзе ж Раман?
І гэта ўсё? Генка здзіўлена глянуў на настаўніка.
— Я не ведаю, дзе Раман. Я яго... сам чакаю.
Андрэй Сцяпанавіч зірнуў яму ў вочы:
— І што, Гена?
— Скажу яму ўсё, што думаю. І няхай хоць у свой Данбас едзе... Каб так, як Цімчанка, гаварылі, не хачу.
— Гэта так... І што ж, Гена, чаго ты хочаш цяпер... Каб было спакойна? Як да Раманавага прыезду?
Генка падумаў.
— Так ужо не будзе.
— І мне здаецца, што не будзе,— з палёгкай вымавіў Андрэй Сцяпанавіч.— І, мусіць жа, ты хацеў бы не пазбавіцца ад Рамана, а ўбачыць яго іншым. Так?
— Так,— згадзіўся Генка.
— Па сутнасці, нічога не зменіцца, калі ён паедзе. Так што гнаць Рамана ў Данбас, Гена, не будзем. У кожнага сваё самалюбства. І калі што... то чамадан узяць у рукі яму нядоўга.
Андрэй Сцяпанавіч падняўся, падышоў да акна.
— Як у вас, Гена, белай антонаўкі многа было летась? — спытаў раптам Андрэй Сцяпанавіч.
— Многа,— адказаў Генка,— Падпоры ставіў.
— І я таксама. Ды адна галіна зламалася. А ты ведаеш, хто пасадзіў гэтае дрэва?
— Маці гаварыла, што Раман.
— Разам мы іх садзілі. Былі ў Дукаршчанскім... пятнаццаць год назад. Натрапілі на дзве дзічкі, прынеслі іх і пасадзілі. Спачатку тут, у вас, потым да мяне пайшлі. У адзін дзень і прышчэпы зрабілі. Выраслі дрэвы... Падобныя адно на другое. Блізняты. Раман хіба не ўспамінаў, як мы іх садзілі?

— Не.

Генка пазіраў на настаўніка са здзіўленнем. Нешта ж, пэўна, іншае думаецца яму, успамінаючы... І пачуў:

— Раслі мы роўна, Гена, як гэтыя дрэвы. Год у год...

Ён зноў доўга думаў аб нечым, так доўга, што Генка не вытрываў:

— А чаму вы сёння... такія розныя?

— Сам, Гена, думаю. І цяжка мне адказаць на гэтае пытанне.— Андрэй Сцяпанавіч пaглядаў усё ў акно.— Адно нам дасталося ў дзяцінстве. Але ж і добрае і дрэннае кожны па-свойму перамолвае... Ведаеш, чым мы з Раманам розніліся заўжды? Раман быў вельмі нецярплівы: чаго ні жадаў, падавай яму тут, а інакш будзе зубамі скрыгатаць. Нават калі намерымся пагуляць у мячыка, а трэба яшчэ вады прынесці, і тут ён мог залавацаць. З гэтай нецярплівасці ён і ў сур'ёзным выпадку падумаць не хацеў. Так і складваўся яго лёс...

— І што? Ужо ўсё? — з раптоўным унутраным спалохам вымавіў Генка.

— Не думаю, Гена. Мы яшчэ маладыя. І Раман...

— Але ж яму ўжо дваццаць восем. І ён многа пабачыў! Чаму ён, бачачы многа сапраўдных людзей, сам застаецца такі?

— Чаму? Некаму, Гена, дастаткова ўбачыць чужое жыццё, каб задумацца пра сваё. А Раман... Ён мае свае погляды і настроены ваяўнічa! Вось у чым справа.

«Вось у чым справа. Раман сапраўды... ваяўнічы. Ён не любіць някага слухаць: лічыць, сам усё ведае... быццам ён першы разумнік...»

І тут Генка адчуў халадок пад сэрцам.

Вось стаіць перад ім Андрэй Сцяпанавіч і не ведае, што быў ён пад «следствам». Гэта ж Раман змусіў узяцца за такое... Паддаўся Генка яго словам. Цяпер то ўсё ясна, але як сорамна...

Андрэй Сцяпанавіч адышоў ад акна, сеў побач на канапе. Генка адвёў убок вочы.

— Дык што, Гена, думаеш, не варта Раману спяшацца ў Данбас? З'язджаць ад нас? — Андрэй Сцяпанавіч пaглядаў яму ў твар.

Ён адказаў шчыра:

— Каб я ведаў, што Раман жыве інакш, што пра яго нельга сказаць, як Цімчанка сказаў...

Голас Андрэя Сцяпанавіча пацішэў.

— Ох, Гена... Разумею я цябе. Што ж, будзем за Рамана ваяваць. Інакш нельга...

І яшчэ гаварыў Андрэй Сцяпанавіч, і Генка згаджаўся з ім, а сам чакаў моманту... І калі, пашкадаваўшы, што Рамана ўсё няма, Андрэй Сцяпанавіч сабраўся пайсці, Генка рашыўся:

— Я хачу сказаць... Я перад вамі вінаваты...

— Ты пра што? — Андрэй Сцяпанавіч перакінуў партфель з рукі ў руку.

— Раман нагаварыў быў, што ў яго і ў вас адзін клопат... Толькі пра грошы. І больш вам нічога не трэба. Я тады і паверыў яму. Не зусім, але і так думаў.

Генка сумеўся ад нечаканасці.

Андрэй Сцяпанавіч засмяяўся. Весела, гучна засмяяўся, аж галаву закінуў.

— Раман ёсць Раман,— нарэшце вымавіў ён.— Ну, да пабачэння, Гена. Заўтра, глядзі, каб быў у школе.

І стаяў Генка, слухаў крокі класнага...

(Далей будзе.)

# ПАЭЗІЯ



- ● ————————
- ●● *Сож*
- ●●● *Грэбля*
- ●●●● *Сосны*



**Анатоль ГРАЧАНІКАЎ**

●

Над Белай Руссю белы снег,
Нібыта чыстае сумленне,
Нібыта светлае збавенне
За самы патаемны грэх.
На досвітку запахне снег
Малінава-празрыстым сокам.
І сад, заружавелы ў сне,
Зазвоніць ціха каля вокан.
Маркоту — прэч, сумненні — прэч!
Табе адчуць памогуць гукі,
Што не было яшчэ сустрэч,
Што не было яшчэ разлукі,
Што толькі ёсць адно святло,
Святло разлівістае снегу,
Што ўсё мінула і прайшло,
А роспачы няма ні следу.
Калі ж трывога паласне
Твае нязгасныя ўспаміны,—
Над Белай Руссю белы снег
Ты прыгадай хоць на хвіліну.

●●

1

Асенні Сож
Спружыніўся, як сталь,
За дзень адбіўшы зазімак зласлівы.
Яму бліщчасты б месячык удаль
Пагнаць па сіняй плыні ганарліва.

Але цяпер навокал ні душы.
Замоўклі нават

Гаваркія стромы.
І Сож агні павольна прытушыў,
Нібы заплюшчыў вочы ён ад стомы.

Што бачыцца яму ў трывожных снах?
Амаль да дна пранізаны вятрамі,
Сівее сіні Сож на скразняках,
Як чалавек,
Пакінуты сябрамі.

2

Сакавікуючы ў Сажы,
Вясна узнесла крылы.
І ўспыхнулі, як вітражы,
Раскрышаныя крыгі.
І пасвятлелі берагі
У немачным маўчанні,
Як быццам чорныя кругі
Пад сінімі вачамі.
Вясна ягоны непакой
Паводкаю загоіць.
Нацешыць сілай разліўной
І ў рэчышча загоніць.
Сваволіць стане плынь радзей,
Заўважыўшы ў здзіўленні
Агні сігнальныя раней,
Чым першыя лілеі...



Ну трэба ж, ездзілі і буксавалі,
Наўкола грэблі дрэвы пассякалі.
Хутчэй праехаць кожнаму карціць
І некалі дарогу замасціць.
І кажа бацька нам пасля вячэры:
«Бярыце, хлопцы, пілы і сякеры!
Хай людзі спяць. А мы гуртом да ранку
Змайструем ім дарогу-самабранку!»
...Яшчэ лапоча нешта гай спрасоння,
Яшчэ зара не выспела над гаем,
Але ўжо неба цёплыя сузор'і
За хмары, як за пазуху, хавае.
Світае.
І зморана глядзім мы у здзіўленні
На грэблю, на пузатыя бярвенні...
Дамоў ідзем. Нічога не гаворым,
І толькі бацька спераду з дакорам:
«Ну трэба ж, ездзілі і буксавалі,
Наўкола грэблі дрэвы пассякалі,
Хутчэй праехаць кожнаму карціць,
А некаму дарогу замасціць...»



За вёскай — сосны,
Гонкія, як струны.
З іх робяць зрубы.
З іх жа робяць труны.
Аднойчы скаланецца свет лясны.
На крохкую пажоўклую ігліцу
Слязой апошняй скоціцца з сасны
Гарачая кропліначка жывіцы.
Адкуль мне ведаць,
Дзе яна ўпадзе:
Ці на чужыне,
Ці на Беларусі?
Адкуль мне ведаць,
На якой бядзе
Я спатыкнуся
І не падніму́ся?
Мне б толькі ведаць,
Што агонь калін
Зноў грэе зябкі вечар верасьнёвы.
Мне б толькі ведаць,
Што мой родны сын
Сваёй не адцураўся роднай мовы.
Што свет не стаў выжарынай пустой,
Не захлынуўся ў прадсмяротным скрыпе.
Што ўсё ж хапіла той сасны маёй
Камусьці на калыску
Ці на скрыпку.

*У лютаўскім нумары*
*паэма Васіля* ***МАКАРЭВІЧА***
***«РАЗГНЕВАНЫЯ КАНТЫНЕНТЫ».***

ПАЭЗІЯ

• *Начлег*

••

••• *Непарыўнасць*

••••





Юрась СВІРКА

●

Дарога з Бягомля вяла і вяла
То гаем, то лугам, то полем.
І ў лес прывяла,
Дзе няма ні сяла,
Ні варты зялёных таполяў.

Тут елкі і сосны — куды ні зірні.
На вырубках — чырвань маліны.
Паслухай—
Пачуеш з лясной цішыні
Наплыў камарынай малітвы.

Правалы зямлянак,
Сівыя імхі
Не лёгка з калодаў скалоціш.
Даверлівым вокам з-пад елак глухіх
Мігрне партызанскі калодзеж.

Іскрыўся агонь да высокіх ялін,
Дрыготкі, над вогнішчам віснуў,
Нібыта тачыў ён адцягнуты клін,
Каб цемру тугую расціснуць.

І ціха было у абшары лясным.
Вузелі прасветы палянак.
Палаткі застылі на ўзгорку крутым,
Нібы надбудовы зямлянак.

Драмалі ў палатках.
Якія там сны!
Тачыўся ўспамін, быццам корань.
І мулка было ад апошняй вайны
На гэтай зямлі непакорнай.

З палаткі я доўга глядзеў на касцёр,
Які дагараў і хістаўся.
І ціснула неба мільярдамі зор,
Каб лепш я з мінулым зрастаўся.

●●

Цішыні захацелася мне,
Цішыні
Адзінокай, напятай да звону,
Каб яна і ў мае уваходзіла сны,
Не чакаючы збоку дазволу.

Цішыні захацелася мне,
Ды такой,
Каб пачуць, чыё сэрца захлусіць:
І маё,
Што не здрадзіла праўдзе людской,
І таго,
Хто са мной у хаўрусе.

●●●

Праверыў формулу з усіх канцоў.
Тут ісціны другой няма.
І я падумаў:
Год, нібы кальцо,—
Вясна і Лета,
Восень і Зіма.

Яны, як звенні, у адзін ланцуг
Спляліся.
Паспрабуй жа — разарві!
І кожны з іх, нібы надзейны друг,
Ды не па духу,
А па крыві.

Заўсёды снежань снегу падкідаў,
Каб студзень за яго схапіцца мог,
Каб Год стары бясследна не знікаў,
А зросся з Новым тысяччу дарог.

●●●●

Мне на душы трывожна робіцца...
Нібыта гавару з сабой,
Калі пішу салдату-родзічу,
Што недзе служыць за мяжой.

Я пісьмы шлю занадта доўгія.
Магчыма, ўсе яны — нуда.

І ён мне:
«Пісьмы — гэта догма,
Што не знікае, як бяда».

І зноў, як служба, традыцыйнае:
«Я жыў-здароў. Вам не хлушу.—
Пісьмо сухое, афіцыйнае.—
Пагода мяккая. Служу!»

І разумею я па-свойму
Яго кароткія лісткі,
Бо як патроны у абойме,
У іх праверany радкі.

«Мы загараем з цягачамі.
Дом родны помню, дзе б ні быў...
Над расчахлёнымі ствaламі
У небе кружаць галубы».

Мяне пісьмо такое радуе.
І я чакаю дзень пры дні,
Што змоўкне вуркатня снарадная
У галубінай вуркатні.

**Вершы**
**Віктара ГАРДЗЕЯ,**
**Казіміра КАМЕЙШЫ,**
**Уладзіміра ПРАВАСУДА**
**чытайце**
**ў бліжэйшых нумарах.**





● Алесь ЛІПНЁВЫ

● Мал. А. БАРАНОЎСКАГА

# МАЦІ

НАВЕЛА



Апошні ліст яна атрымала у гарачы летні дзень.

На канверце была замежная марка,— нервовы, трохі раскідчасты почырк і штэмпель таго горада.

Гэтага ліста яна доўгі час чакала.

Спяшаючыся і дрыжучы ад нейкага страху і радасці, яна хуценька разадрала канверт. У чаканні страшнага, збялеўшы, апусцілася на крэсла і, прагна ўпіваючыся ў літары знаёмага почырку, шэпчучы, пачала чытаць. Чытала яна, хапаючы слова за словам, каб хутчэй дайсці да канца ліста. Чытаючы, уздыхала, выцірала слёзы. Пасля, як прачытала ліст, уселася лепш на крэсле і зноў пачала перачытваць ліст.

Трэсліся рукі, трэслася ўся яна, па-старэчаму. Ад радасці збіралася плакаць. Было так радасна і ў той жа час так сумна. Хацелася ўбачыць яе і, як малую, пагушкаць на руках, як калісьці гушкала яна, узяць асцярожна пад пахі і закінуць высока над галавой і на хвіліну ўбачыць вясёлы ружовенькі тварык дзяўчынкі і прыжмураныя ад страху і радасці вочкі. Столькі ж год, як не бачыла яна сваю дачушку Веру! На ўспамін ад яе ў маці застаўся толькі тварык у авале, трохі збянтэжаны, відаць, ад грознага выгляду фатографа.

Па начах, калі засыналі ўсе ў хаце і мармытаў спрасонку стары, маці паўзком прабіралася да камоды, выцягвала з шуфляды гэтую картку і ля акна пры скупым святле

*У беларускім перыядычным друку канца 20-х і пачатку 30-х гадоў час ад часу з'яўляліся апавяданні Алеся Ліпнёвага, супрацоўніка ваенна-абарончага часопіса «Напагатове». Ён быў ініцыятарам і арганізатарам літаратурных выступленняў, вечароў і дакладаў у вайсковых часцях, а таксама сярод рабочай і сельскай моладзі. Цяжкая хвароба ў пачатку 1933 года прыкавала пісьменніка да ложка.*

*Памятаю бальнічную палату. Адведаць хворага прыйшлі Барыс Мікуліч, Міхась Блісцінаў, Пятрусь Скокаў, Цімох Зарэчны, Алесь Салагуб, Уладзімір Стэльмах. На століку побач з ложкам хворага ляжыць сшытак і алоўак. Алесь Ліпнёвы намагаецца прысесці, але зрабіць гэтага не можа. З грудзей яго вырываецца нібы стогн:*

*— Ведаеце, хлопцы, калі б мог запісаць у свой сшытак хоць некалькі радкоў, дык, чэснае слова, адразу ж падняўся б на ногі.*

*І мы верылі, што Алесь будзе жыць. Але 31 сакавіка 1933 года мы пачулі трывожны званок з бальніцы. Памёр таварыш, якога любілі, якому прарочылі будучыню.*

*Грымяць трубы жалобны марш. 1 красавіка 1933 года сабраліся людзі на вайсковых могілках па Даўгабродскай вуліцы, каб правадзіць маладога літаратара ў апошні шлях. Алесь Ліпнёвы (Ашаровіч) памёр у росквіце сваіх творчых сіл, яму ішоў толькі дваццаць пяты год.*

*Пісьменніку споўнілася б шэсцьдзесят год.*

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ.*

маладзіка доўга ўглядалася ў тварык сваёй дзяўчынкі Веры, такі знаёмы, да болю знаёмы тварык. Ёй хацелася знайсці, адшукаць яшчэ што-небудзь новае ў гэтай фатаграфіі. Часамі ёй пачынала здавацца, што тварык дзяўчынкі чамусьці сумны і вочкі гатовы былі заплакаць. Станавілася ёй страшна, успаміналіся трывожныя весткі, што даходзілі адтуль, з-за мяжы. Не хацелася ім верыць. Але весткі былі ўпартыя: Вера хворая, у Веры туберкулёз лёгкіх. Не хацелася верыць гэтым весткам і не магла сябе прымусіць не верыць. А ў думках песціла яе, у снах сніла, што абдымае і гладзіць яе пяшчотна, што апранае яе ў новае ружовае ўбранне. Песціла ўпарта, з роспаччу, песціла думку — а мо няпраўда, што дачка хворая?! Ці мала што кажуць людзі. Не можа быць?! Бо ў яе Вера — дачка, вясёлая і бадзёрая. Не, не, лепш пра гэта не ўспамінаць! Не можа і не павінна гэтага быць!

Каціліся слёзы па старэчых маршчатых шчоках. Яна прыціскала халодную картку да гарачай і мокрай шчакі, упівалася працяжным ненатольным пацалункам у тварык дзяўчынкі, ціха, ціха плакала.

Маці ўспамінала часта пра дзень расстання. Была восень. Халодная ноч. Падмярзалі лужыны, і дубела зямля. Быў маладзік — і маслянiстае спакойнае і халоднае святло ляжала над гарадком. У такі вечар яна паехала да яе. Больш і не бачыла яе, Веру, сваю дачушку.

Весткі ад яе былі скупыя і нярадасныя. Лісты прыходзілі вельмі і вельмі ўжо рэдка, а ў лістах тых: «жыва, здарова, не сумуй, маці...», і ўсё. Дзе працуе? Як жыве? Не пісала.

Ой, дык як жа было ёй не сумаваць! Па сваёй дачцы, па роднай Веры!

Потым і лісты не сталі прыходзіць.

І вось аднойчы пасля доўгіх месяцаў чакання яна атрымала ліст. Але на канверце не было знаёмага почырку — нервовых, раскідзістых літар. Пісалі таварышы дачкі, што Вера арыштавана дэфензівай за падпольную работу ў камсамоле.

З таго часу маці затаіла боль у сабе, стала ціхай. Хадзіла ціха па хаце, быццам нікога не заўважаючы, глядзела безуважнымі вачыма. Апусцілася сама, не так ужо глядзела за парадкам у хаце, за старым. Часамі выходзіла на ганак, сядала на верхняй усходцы і, апусціўшы галаву на далоні ўзнятых рук, сумна глядзела ў далячынь. (Па небе блукалі воблакі, такія ж бязмэтныя, як думкі маці.)

Усё часцей і часцей і ціха бадзялася яна па хаце. Калі ў яе запытваліся, ці зусім не адказвала, ці адказвала ціха і не да ладу. Калі яна праходзіла па вуліцы гарадка, прахожыя і сустрэчныя гаварылі:

— Вось ідзе Верчына матка,— і саступалі з дарогі.

Яна як бы не заўважала гэтых поглядаў і ціхіх шэптаў, дзе ўспаміналі і яе і даччына імя, ішла проста па вуліцы.

Восень прыйшла на змену лету, за восенню — зіма і зноў вясна. У карагодзе мянялася не адно лета і не адна зіма змяняла восень.

Гарадок вырас, растлусцеў; вуліцы накінулі на сябе асфальтавае пакрывала; камяні леглі паверх пяску; шырокія і светлыя карпусы заводаў парушылі цішыню ўскраін, новыя муры красавалі свежасцю фарбы і строгімі контурамі сваёй навізны; па вуліцах зачасцілі бліскучыя форды, адсвечваючы сталлю, тарахцелі вялікія пяцітонкі-грузавікі. У правалах вуліц паміж высока ўзнесенымі мурамі моцна бруілася паўнакроўная людская паводка.

Праходзілі гады.

І ўсё па-ранейшаму старая ціха хадзіла з сваімі думкамі і смуткам пра дачку.

Ад яе прыходзілі лісты з астрога. Яна была асуджана на пятнаццаць год турмы за работу ў падпольным камсамоле. Ёй было толькі дзевятнаццаць год, калі яе арыштавалі, і калі б ёй адседзець увесь час, пятнаццаць год, яна б выйшла адтуль пажылой жанчынай. Ды ці выйшла б яна?! Ці вытрымала б яна, кволая і хваравітая?

Маці ведала пра жахі турмы і дэфензівы, жахі, куды больш страшныя, чымся ў старой самадзяржаўнай, жандарскай Расіі. Гэта ж былі «крэсы», «Заходняя Беларусь», прыціснутая цяжарам панскага бота.

Адна заставалася радасць у мацеры — гэта лісты ад яе. Якую радасць прыносіў кожны з іх! З іх, з гэтых лістоў, так і глядзела на маці яе Вера — жвавая, энергічная, нястомная, вясёлая, заўжды бадзёрая. Нават там, за турэмнымі кратамі. Яна пісала маці:

«Не сумуй ты, маці, пра мяне. Будзем жыць і працаваць. Як радуюся я кожнаму дню вашага жыцця! На палях калгасаў там у вас стальныя калоны — гудуць трактары. І мне здаецца часам, што праз турэмныя краты я чую выразна гэты гул... Як хораша, матулечка, жыць на свеце!..»

І маці не ведала, ці плакаць ад шчасця, ад гэтых слоў, ці горка рыдаць ад болю.

Гэтыя лісты падбадзёрвалі яе. Яна старанна зноў наводзіла стары парадак у хаце. З гэтымі лістамі яна ўваходзіла ў райком МОПРа, чытала там іх, плакала ад радасці. А назаўтра ішла на завод. Там у перапынках яна зноў чытала лісты і зноў не магла ўстрымацца, каб не заплакаць.

«Матулечка, родная! Кажуць, што ў Мінску пайшоў трамвай. Мы пра гэта сёння пачулі ў турме. Якая радасць! Дзе ж ты, былы губернскі, папоўскі, архірэйскі Мінск!»

І маці самой хацелася хутчэй дабрацца з свайго далёкага палескага гарадка і ўбачыць Мінск і паглядзець на трамвай.

А калі загулі турбіны Электрастану на Асінаўскіх балотах, маці атрымала ад Веры насычаны да краёў узнятасцю і бадзёрасцю ліст. Там пісала яна, што «...Падносіце вы вялікую, як Манблан, дулю ўсяму капіталістычнаму свету...» І маці панесла гэты ліст у газету, і там надрукавалі яго. З таго часу ўсё часцей і часцей звінелі цёплыя Верчыны лісты са старонак газет.

Нібы месяц шчодра сыпануў сваім святлом на матчыных валасах — за гэтыя гады яна ссівела.

Імя яе дачкі вельмі часта ўспаміналі, калі адкрывалі новыя карпусы заводаў, калі праводзілі першыя вечары ў новых рабочых клубах. Але ніколі не выступала, бо пра дачку ёй хацелася сказаць не толькі як маці пра дачку, а куды больш вялікае і значнае, ды баялася, што не знойдзе яна такіх слоў, каб думкі свае выказаць.

Сын, Васіль, прыехаў дахаты. Маці, маленькая і сухенькая, кінулася яму на грудзі, а ён, высокі і дужы, падняў яе на руках і моцна пацалаваў. Яе трапяткія рукі ў немым парыве ўсхваляванасці прабеглі па яго плячах.

У той дзень яна лавіла сябе на злачынстве — усміхнулася!

«Якое права ты маеш, маці,— сказала яна сабе,— якое права маеш ты, маці, усміхацца, радавацца, калі дачка твая пакутуе ў астрозе...»

І пагасіла ўсмешку ў прадонні ўпалых, гарачых вачэй.

І раптам тэлеграма ад яе таварышкі, Юлі, такая нечаканая. Нават страшная. Не верылася. Яна пабегла на тэлеграф і папрасіла, каб праверылі — а мо наблыталі!! На тэлеграфе яе ведалі. Зрабілі праверку. Блытаніны не было.

«Значыць, праўда?!» — сказала маці і зноў жахнулася сваіх слоў.— «А ці праўда?!»

А ў тэлеграме было:

«Тэрмінова выязджай Мінск кропка сустракаем Веру кропка Юля».

Той дзень прайшоў, як у тумане. Бясконца і нудна грукатаў цягнік. Маці злавала на шматлікіх прыпынках, злавала на гэты бясконцы і нудны рух цягніка, са стомай у вачах глядзела на дзяжурных па станцыі, нібы прасіла: хутчэй, хутчэй! Узмахні сцяжком — дайце знак да адпраўлення.

Ёй здалося, што гэты дзень больш пакутны, чымся ўсё жыццё за апошнія гады.

Таварышы і таварышкі дачкі — тыя, хто ведаў, прыйшлі яе сустракаць. Маці пасадзілі ў аўто, і ззаду, калі лёгка крануўся аўто і паплыла насустрач вуліца,— засталося некалькі дзесяткаў людзей, якія пасылалі маці вітанні.

Седзячы ў аўтамабілі, яна раптам нешта такое ўспомніла. Сутаргава намацала пад кофтай пак папер. І супакоілася.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Быў вечар.

Маці гэты вечар вельмі нагадваў вечар расстання.

Восень. Было холадна. Поўны ў абліччы маладзік карагодзіў з зоркамі на чыстым небе.

Каля будынка вакзала ў святле магутных электрычных пражэктараў ярка блішчалі трубы аркестра. Па плошчы перад вакзалам праходзілі ўсё новыя і новыя калоны. Спераду на адной лініі, палымнеючы чырванню, горда ўздыбіліся ўверх сцягі. У калонах расцвіталі вялікія букеты жывых кветак.

Перон застыў сярод суровых рэйкавых скрыжаванняў.

Маці ўжо даўно прыйшла на перон. Яе трымалі пад пахі двое маладых дзяўчат. Яны нешта ласкавае такое гаварылі маці, але словы не даходзілі да яе свядомасці, і маці толькі ківала ім галавой. А думкі былі там, на мяжы, разам з дачкой. Яна неадчэпна глядзела ў той бок, адкуль павінны былі запаліцца агні падыходзячага цягніка.

На плошчы і на пероне прыбаўлялася народу. Людзі праходзілі міма яе. Шмат незнаёмых кіўкамі віталіся з ёй. Яна безуважна і з замяшаннем адказвала на прывітанні і зноў неадчэпна глядзела туды, куды ўбягалі рэйкі.



...Губляючы іскры ў чорнай начы, імчаў у аддалях экспрэс-цягнік.

Палі пралятаЛі ўздоўж яго шляху ў ціхім парадзе маўклівай хады.

...У тым цягніку? А ў каторым вагоне?!

...Імчы, цягнік! Наддай хады!..

... Наддай хады! Спяшай, цягнік!..

А гордыя грудзі, як промні святла, з сілай і прагай нізалі адлегласць. І іскры, як зоркі, зрываліся з старту і гаслі без следу ў прадонні начы.

Палі пралятаЛі пакорліва, ціха. Шумелі насустрач бліжэйшыя дрэвы... Губляліся ў далях лясныя масівы. А хаты мільгалі маланкай уздоўж рэек.

Рытмічна і плаўна спявалі вагоны, і буферы дзынкалі прагна і звонка, і стукалі рэйкі на стыках сваіх, і моўчкі знікалі агні ў далечыні.

Хвіліны паўзлі так марудна і ціха. І сэрца ў трывозе лічыла хвіліны. І сэрцу хацелася паскорыць іх ход.

Імчы, цягнік! Наддай хады!

Наддай хады! Спяшай, цягнік!

І раптам ва ўрачыстай цішы магутна ўзнеслася сімфонія «Інтэрнацыянала». Лёгкі шэлест прайшоў над калонамі. З шумам і грукатам прараўся да перона цягнік.

І змяшаліся рады.

Людзі кінуліся да вагонаў і, не маючы ўжо сіл стрымаць хваляванне, гаварылі нешта не да ладу. Цалаваліся. Крычалі радасна і весела.

Застыла ў нацягненым людскім ланцугу ганаровая варта.

Магутна і непераможна гучаў «Інтэрнацыянал», і, уплятаючыся ў рытмы гімна, тысячы людскіх галоў заспявалі і заглушылі медзяныя трубы аркестраў. Тады маці адчула, як павольна варушацца валасы на галаве.

Яна ледзь праціснулася да прахода. Там убачыла яна, як асцярожна, падтрымліваючы пад пахі, усхваляваныя людзі вялі такіх жа ўсхваляваных людзей. Яна ўбачыла, як радасна віталіся людзі і зырка гарэлі вочы.

А яна шукала ўсё яе, імкнулася знайсці. І, не ўбачыўшы, зноў затрывожылася. Ёй дрэнна зрабілася, унутры падплывала чэпкая млявасць. Спалох мацнеў. Ці даехала ж яна хаця жывая? І маці зноў глядзела на натоўп, хацела знайсці знаёмы твар. І ўсе чуткі, усе трывожныя сны ўсплылі на ўспамін. Ці прыехала ж хаця яна? Ці не здарылася хаця чаго-небудзь у дарозе?

І думкі, адна страшнейшая за другую, у шалёным віры замітусіліся ў галаве. І людзі заскакалі ў вачах у п'яным нястройным карагодзе. І на хвілінку яна пахіснулася.

І раптам маці ўбачыла, як на руках пранеслі яе Веру.

— Вера!!! — на ўсю моц свайго голасу крыкнула маці.— Верачка!!!

Але натоўп адкінуў яе далёка ўбок, і яна згубіла з вачэй дачку. Ледзь не вырваліся слёзы бяссілля. Ужо далёка яна зноў убачыла дачку — бачыла, як праплыла яна, узнесеная, перад натоўпам. Несціхана і няспынна каціласа «ўра!», і знаёмы Верчын голас крычаў нешта звонкае.

А перад ёю стаяла жывая людская непраходная сцяна. Яна не давала ёй прабіцца да Веры. Тады, сабраўшы ўсе свае сілы, яна кінулася праз натоўп, з размаху прарвалася праз ланцуг ганаровай варты



і, блытаючыся ў цёмным і доўгім паліто, бегла, задыхаючыся, услед за ёю.

Маці не паспела.

Аўто мякка пакацілася і знікла яшчэ раней, чым яна дабегла да месца яго стаянкі. Бязлітаснае аўто павезла яе дачку, не даўшы нават хвілінкі, каб прывітаць.

Цяжка дыхаючы, яна стала пасярод пляца. І стомлены голас яе прарваўся праз шум натоўпу:

— Верачка, дзіцятка маё!!!

Вакол яе сабраўся натоўп. Дзесяткі незнаёмых усхваляваных людзей радасна і горача пацiскалі ёй рукі.

— Маці Веры!

— Яе маці!

Людзі супакойвалі яе. Усім хацелася сказаць ёй нешта ветлае і цёплае.

— Убачыце яе, убачыце!

Падыходзілі ўсё новыя. Натоўп абрастаў людзьмі.

Тады яна заўважыла адну з сваіх дзяўчат праважатых і, прыцягнуўшы яе да сябе, моцна пацалавалася з ёй.

І, выціраючы слёзы радасці, шырока ўсміхнулася ўпершыню за восем год.

У гатэль, дзе спыніліся палітэмігранты, маці прыехала на аўто.

Зараз яна ўбачыць сваю дачку!

Яе вялі пад пахі наверх па ўсходках двое дзяўчат, не менш усхваляваных, чым яна сама.

У гатэлі ўжо ведалі пра прыезд маці. Сустрэчныя здымалі шапкі і ветла схіляліся.

На другім паверсе яна схілілася перад дзвярыма.

Тут, у гэтым нумары, яе дачка.

Як закалацілася сэрца! Падагнуліся непаслухмяныя старэчыя ногі...

Эх, чаму не адчыняць дзвер...

— Верачка!

Рыўком яна кінулася да дачкі, моцна, моцна прыціснула да грудзей галаву яе. Дрыжалі мелка непаслухмяныя рукі.

— Верачка!!!

Ледзь стрымліваючы слёзы, дачка падвяла маці да мяккага раскошнага крэсла, усадзіла яе, сама села тут жа з боку і прыхілілася шчакою да матчыных грудзей.

Шырока расплюшчанымі вачыма ўглядалася маці ў дачку.

«Як яна змянілася! Схуднела! Вочкі ўпалыя ў Вярусенькі!..»

— Ну, чаго ж... Ты плачаш, матачка? — зрываючыся голасам, пыталася дачка.— Ну, чаго ж?.. Радавацца трэба...

— ...Так, так... Радавацца!.. Радавацца...— бязгучна паўтарыла ўсім сваім нутром маці.— Радавацца!..

Ёй стала душна, яна расшпіліла кофту і тады ўспомніла пра пак папер.

Няпэўнымі рукамі выцягнула паперы і працягнула дачцэ.

— ...Гэта лісты, прасілі мяне перадаць табе...

Усхваляваная, працягнула дачка руку да лістоў.

— Адкуль?

Блытаючыся ў словах, ледзь звязала думкі матка:

— Нашы... нашы мопраўскія арганізацыі, табе...— больш цвёрда сказала маці апошнія словы.

— Ну, як жа ж ты там?..— пыталася ўсё маці і глядзела ёй у во-

чы...— Ну, як жа ж ты там?..— і гладзіла пяшчотна валасы, і выцягла свой грабеньчык і расчэсвала дачцэ валасы, як рабіла, калі тая была малой.

— Ды не бойся, матанька. У нас у турме было весела...—Маці здалося, што з яе здзекуюцца. Яна абвяла поглядам прысутных, шукаючы смяшлівых поглядаў, ды сустрэла на тварах спагаду да сябе і ўсхваляванасць. І тады яна памякчэла.

«Чуеш, маці, мы атрымалі тэлеграму адгэтуль і вялізнымі літарамі вугалём мы перапісалі яе на сценах камер.

Мы напісалі:

«— Віншуем! Цалуем. Хутка ўбачымся».

Маці моцна сціскала Веру ў сваіх абдымках, хацелася ёй працягнуць як мага больш слодыч першых хвілін спаткання. Баялася, каб зноў у яе не адабралі Веру.

Яна ўглядалася ў твар дачкі і знаходзіла ў ім усё новыя і новыя рысы. Яна адчувала ўсім сваім нутром, як стамілася дачка, як схуднела яна, і маці зноў хацелася заплакаць.

— Камсамолачка ты мая!..

А Вера, прыхіліўшыся да маткі, ціха гаварыла:

— Мы перад ад'ездам павыкрэслівалі гэтыя словы. Мы пакінулі толькі два апошнія: «Хутка мы ўбачымся». Так, мы хутка ўбачымся! Хутка спаткаемся! Але на гэты раз не ў ролі зняволеных! Мы спаткаемся ў адзіным Саюзе рэспублік. Прыйдзе час, мы з'яднаем у адну вольную савецкую рэспубліку, Беларусь Заходняя стане вольнай.

— Ну, чаго ж ты сумуеш, маці! Радавацца трэба!!

І сэрца маці поўнілася гонарам.

Якое шчасце быць маці такой дачкі!



# ПАЭЗІЯ







**Сяргей ПАНІЗНІК**

●

У даўнім Менску рэчка працякала
Вакол байніц апаленых і сцен.
Ад стрэл гарачых рэчка высыхала
І ад кастроў няпрошаных гасцей.

Ішлі вякі грымотнаю хадою.
Няма Нямігі грозных берагоў,—
І ўсё ж ніхто Мянеска не адолеў,
Не паспытаў ягоных пірагоў.

І сёння госці не праходзяць міма —
Выносіць стольны горад каравай...
Жывуць крыніцы, што піла Няміга,
Жыве дзяржаўны старажытны край.

●●

Нясуць вятры трывогу навальніц.
Чакае змены чэрвеньская смага.
Пад перуны ідзе мая адвага,
І ападаюць бліскавіцы ніц.

Плыву пахучай хваляй аржаной,
Дунай жытоў хвалюецца, як песня.
Пагрымвае.
                І кленчыцца узлессе
Перад цяжкою ліўневай сцяной.

Паўстала і навісла над зямлёй,
І неадольна наша сутыкненне.

Перада мною — сілы ажыўлення,
Чаканне церплівае — за мной.

●●●

Ажыло,
ажыло, ажыло
маёй песні вясенняй жытло.
Пасяліўся у ім і жыве
небасхіл на зялёнай траве.

У блакітны і ласкавы край,
вырай мары маёй, прылятай.
На дарогах чужых не сумуй,
да сустрэчы з вясною вяслуй.

Бо чаканне маё у бядзе:
нечы след я згубіў між людзей.
І цяпер як пражыць аднаму?
Толькі песняй маркоту прайму.

З ёй вярнуся я зноў да жыцця,—
ажыву, ажыву,
ажыву!
Светлы травень узняў галаву
пад чырвона-зялёны мой сцяг.

●●●●

Я люблю музыку на пачатку лета,
лета з жаўранкам у апагеі,
з зязюляй, не стомленай хітрасцю,
са свежым рамонкам,
з неперасохлай сцюдзёнкай;
калі іграюць музыкі,
перапоўненыя натхненнем.
Дзе ахмялеласць вясны,
і цвярозая сталасць.
Я жыву гэтай музыкай,
бо ў ёй кожны гук —
імгненні маёй любові.
І калі я пайду у бязважкасць,
дзе ўсё навокал — нічога,
я па дарозе сустрэну
жаўранка і зязюлю,
і маладых музыкаў...
І тады ім аддам я слова,
якое здабыў з гадамі:
я аддам ім сваё «люблю»,
і адказ на пытанне цікаўных:
— Якую вы любіце музыку?..

— Музыку лета на самым пачатку люблю я.



# ПАЭЗІЯ



● ______

●● *Падводная лодка*

●●● *Разважанне*



Юрась ПІСАРЭНКА

●

Прыйшоў сюды. Пад ветрам хвалі
Бягуць, бягуць зноў да мяне.
Сябры мяне тут не гукалі,
А памяць часам і гукне.

Зноў стылы вечар выплыў з поля,
Туманам золкім ён пацёк,
Нібы раўнуе к наваколлю
І хоча, каб хутчэй я ўцёк.

А я хаджу, хаджу да стомы,
Шукаю даўніх дзён сляды...
Калі б не меў другога дому,
То спаў бы тут каля вады.

●●

Яе краса не для паказу.
Другім аркестры граюць туш.
Ёй свёкра дом — марская база,
І там любоў — сто розных душ.

Сам стапель стаў запраўскім сватам.
І ад сябе і ад бацькоў
Сказаў чырвоным нам плакатам
Пра хлеб, пра соль і пра любоў.

І хвалі-сведкі ёй пляскочуць,
І чайкі як авацый рой...
А потым ноччу, позняй ноччу,
Адны з ёй будзем пад вадой.

Нібы каршун, чужынец-катэр
Над ёй захоча віць кругі.
І будзе там яна як маці
Тарпедам спішаным, даўгім.

●●●

Упаў у садзе яблык на зямлю...
Н'ютон сказаў — зямное прыцяжэнне.
А яблык падаў з думкаю: — Люблю.
І ёй вяртаю сок свой і насенне.

І вось таму, зямны мой чалавек,
Куды ўгару не ўзнімешся ты к зоркам,
А на зямлі закончыцца твой век,
Салодкі будзе ён ці надта горкі.

## У наступным нумары мы пачынаем друкаваць дакументальную аповесць Адама СЦЕПАНЕНКІ «ПАЛЕСКАЯ БЫЛЬ».

ПРОЗА

● Уладзімір МЕХАЎ

● ● Мал. С. ВОЛКАВА



# ПОСАХ ВЫГНАННІКА

АПАВЯДАННЕ

*...Мы ўзялі ў рукі посах выгнанніка...*
***Д. Меражкоўскі***

Зімою тысяча дзевяцьсот дваццатага пісьменніку Дзмітрыю Сяргеевічу Меражкоўскаму дастукваў пяцьдзесят чацвёрты год. Недзе болей за дваццаць з іх ён пісаў філасофскія трактаты, выдумляў таўшчэзныя раманы і чытаў лекцыі пра блізкую і непазбежную, як грознае боскае пакаранне, Урачыстасць Хама.

Тысячы газетных, часопісных і кніжных радкоў былі прысвечаны ў розных краінах вытлумачэнню таго, што разумее шматпаважаны літаратурны мэтр пад гэтым адыёзным вызначэннем — Урачыстасць Хама. Але, калі па шчырасці, для самога Дзмітрыя Сяргеевіча і яго жонкі, таксама не апошняй на той час пісьменніцы Зінаіды Мікалаеўны Гіпіус, тое, чым яны так доўга палохалі на абсягах матухны-Расіі курсістак і земскіх чыноўнікаў, набыло адчувальна-канкрэтнае аблічча толькі з канца семнаццатага года.

А ўпершыню на поўны голас сказаў пра гэта Дзмітры Сяргеевіч Расіі, Еўропе, чалавецтву (кожнае сваё публічнае выступленне ён даўно ўжо лічыў зваротам да чалавецтва) у горадзе, назва якога раней выклікала на яго вуснах адно паблажліва-пагардлівую ўсмешку пецярбургскага сноба — у Мінску.

І здарылася гэта зімою тысяча дзевяцьсот дваццатага.

Не лаўрамі, а цернямі ўвенчаныя прыехалі сюды муж і жонка Мераджкоўскія. Азіраючыся, абміраючы,— сорамна прызнацца! — ледзь толькі кідаў на іх вокам чырвонаармейскі патруль ці проста чалавек, якога з выгляду прымалі яны за чэкіста, уладзіліся яны ў Петраградзе ў цягнік, што ішоў на поўдзень. Намёрзшыся, наслухаўшыся ды і пабачыўшы рознага страхоцця, пра якое да самай няскорай яшчэ смерці сваёй будуць расказваць потым амаль не ва ўсіх еўрапейскіх сталіцах, дабраліся да станцыі, што мела назву Жлобін, нібы з басяцкіх апавяданняў здавён нялюбага ім Горкага. Патаемна, як тыя лазутчыкі ці зладзеі-кантрабандысты, з дапамогай падазроных праваднікоў дні тры пераходзілі фронт. І калі апынуліся нарэшце ў Мінску, то перш-наперш аддалі сябе клопатам паважанага мясцовага эскулапа, які быў да таго ж кнігаманам, куратарам гарадской бібліятэкі і іх гарачым прыхільнікам.

Два тыдні мінула, пакуль абое яны сабраліся з духам, пакуль зноў адчулі сябе тымі Зінаідай Мікалаеўнай Гіпіус і Дзмітрыем Сяргеевічам Мераджкоўскім, якімі былі дзесяцігоддзі перад кастрычнікам дзевяцьсот семнаццатага. Зрэшты, калі яны выйшлі на сцэну гарадскога тэатра і Дзмітры Сяргеевіч убачыў жонку як бы збоку, як бы вачыма тысячы з нечым чалавек, што набілася ў залу, каб паглядзець іх і паслухаць, ён зразумеў, што гэта толькі ён так хутка адчуў сябе ранейшым Мераджкоўскім. Ён, а не Зінаіда Мікалаеўна.

Гэтак мілыя і ёй і яму юпітэры — як страшна, што за апошнія гады ён адвык ад іх гарачага святла і цяпер, нібы правінцыяльны акцёр на сцэне Александрынкі, збянтэжана жмурыцца! — выявілі кожную зморшчынку, кожную складку на яе змарнелым, пабляклым твары, і Дзмітры Сяргеевіч убачыў, што Зінаідзе Мікалаеўне ўсё-такі таксама за пяцьдзесят (няўжо гэта яму яшчэ нядаўна здавалася, што яе жаночае хараство не падуладнае ўзросту!) і што плоць яе і душу няўхільна падточвае злосць, быццам шашаль мэблю ў іх вялізнай, мабыць, пустой цяпер і халоднай кватэры ля Таўрычаскага палаца.

Але ахапіла яго не шкадаванне яе, а раздражненне. Чамусьці помсліва (даруй нам, божа, грахі!) падумаў, што калі ёсць у гэтай зале бальшавіцкі пісака, то напіша ён цяпер, ці праз гады, што выступала ў Мінску Гіпіус, сухая і зжаўцелая ад злосці. Хто-небудзь мо на гэта пакрывіцца: нельга ж, маўляў, так груба выяўляць непрыязнасць...

Усё, усё раптам пачало яго раздражняць. І бранзалеты на кашчавых, з сінімі венамі руках. І гэтая звычка глядзець на людзей вакол сябе праз ларнет: якраз гэтак глядзела на жонак малодшых афіцэраў яе маці-палкоўніца. І нават узорна-правільнае вымаўленне. Ці не падказвае шведская кроў яе бацькі: так падкрэслена правільна вымаўляюць рускія словы толькі нярускія.

Ён нізавошта не прызнаўся б нікому іншаму, ні самому сабе, што яму проста ніякавата за сваю, хай сабе і славутую, але немаладую, з хваравітым тварам, жонку перад залай, поўнай прыгожых, юных, папраўінцыяльнаму свежых жанчын. Як яны глядзелі на яго, калі ён ішоў праз фае!

Вось і вершы Зіна чытае няважныя, пошлыя (надоечы, калі яна іх напісала, ён павіншаваў яе і пацалаваў ёй руку):

> ...Жадно комиссарские аманты
> мечтают о журнале мод,
> ухмыляются спекулянты,
> до ушей разевая рот...

«Аманты», «спекулянты»... Бр-р! Як у басяцкай прыпеўцы са смярдзючага адэскага шынка. Злосць, мусіць, ніколі не нараджае добрай паэзіі...

Але публіка прымала Зінаіду Мікалаеўну так, нібы яна чытала вершы сваёй лепшай творчай пары. Ах, гэтая мілая, непасрэдная, удзячная правінцыя! Мераджкоўскі ўзрушаны. У яго кружыцца галава, калі да вуха яму пачціва схіляецца знаёмы іх доктар-кнігаман, які старшынствуе на вечары і вельмі гэтай акалічнасцю ўлешчаны; калі яму перадаюць запіскі з такім лёгкім, такім пяшчотным пахам парфумы (ён шчаслівы, што пазбавіўся, нарэшце, сваёй хранічнай піцерскай прастуды і адчувае гэтыя тонкія пахі); нават калі ён проста бярэ з рук доктара газету са сваім інтэрв'ю і чытае забаўны аншлаг (у высушаных бальшавікамі маскоўскіх і піцерскіх штодзённіках ужо такога не сустрэнеш): «Якія б ні былі ў вас моцныя нервы, як бы ні былі вы абыякавыя да чужых пакут, але карціна ў шасці вялікіх частках, што ідзе ў нас сёння — «Я абвінавачваю!» («Оскаржам») — выкліча ў вас слёзы...»

Трошкі расчулены, ён падыходзіць да кафедры. Ён пакажа зараз высакароднай аўдыторыі, на што Мераджкоўскі здатны: ён даўно ўжо не выступаў перад гэткім мноствам аднадумцаў, ён згаладаўся па такіх выступленнях. Ах, як шкада, што тэма яго лекцыі такая рацыянальная. Яму б цяпер паімправізаваць пра што-небудзь узвышанае, незямное, пра пошукі Найвышэйшага Ідэалу, пра дарогі дэкадансу. Ён яшчэ можа. Ёсць яшчэ порах у парахаўніцах!..

Высокім прыгожым тэнарам, на які так трапятліва адгукаліся некалі сэрцы прыхільніц, ён пачынае як бы ўголас разважаць пра смутны час, пра бальшавіцкае калмыцка-башкірска-кітайскае нашэсце на цывілізацыю, пра абавязак Еўропы перад распятай на цярновым пакутніцкім крыжы Расіяй. Ён гаворыць, што ніколі не пакінуў бы згвалтаваную, скрываўленую маці-айчыну сваю, калі б не лічыў боскім прадвызначэннем для сябе нагадаць пра гэты святы абавязак Еўропе, гаворыць, што толькі для таго, каб быць пачутым Еўропай, ён узяў у рукі посах выгнанніка...

Ах, якая благаславенная, якая салодкая стаіць цішыня!.. Як ён жыў без яе цэлыя два гады... Юпітэры б'юць у вочы, і яму не бачны твары ў зале. Ён адно па цішыні адчувае, што музыка яго голасу зачароўвае, хмеліць, і — сам хмялее ад гэтага. Ах, які ён быў колісь няўдзячны і як не цаніў звычайныя чалавечыя радасці... Ах, якое шчасце, што ён, ды і Зіна, зноў сытыя, сагрэтыя, элегантныя і — у славе...

Добра яму бачны ў публіцы толькі адзіны твар — твар генерала ў губернатарскай ложы направа. І якая на гэтым твары ўважлівасць, якая добразычлівасць! Вось да генерала схіляецца афіцэр з прыкладзенымі паводле польскага статута двума пальцамі да канфедэраткі. Вось генерал на словы афіцэра сярдзіта бліскае вачыма, аддае нейкі загад, адмахваецца,— маўляў, не перашкаджайце,— і зноў падаецца ўсім корпусам да лектара, зноў — увесь увага... Несусветную лухту гавораць і пішуць пра гэтага генерала ў Піцеры: варвар, раз'юшаны звер, кат! А ён якраз інтэлігентны, адукаваны, добра выхаваны свецкі чалавек. Дзмітры Сяргеевіч назаўтра ж пасля прыезду ў Мінск быў у яго з візітам. Дзмітры Сяргеевіч чуў, якія блізкія ў генерала адносіны з «начальнікам дзяржавы» Юзафам Пілсудскім, і хацеў скарыстаць гэта, каб Пілсудскі даведаўся, што руская інтэлігенцыя пакрыўджана на Польшчу і наогул на Антанту: хіба можна прыхільна ставіцца да мірных прапаноў крамлёўскіх узурпатараў!..

Генерал дыпламат. Генерал перавёў тады размову на справы літа-

ратурныя, на лекцыю пра Міцкевіча, якую Дзмітры Сяргеевіч мае намер у Мінску прачытаць. Але Дзмітры Сяргеевіч — таксама дыпламат. Ён прызнаўся, што лекцыя яго пра Міцкевіча будзе прасякнута адзінай думкай: што б сказаў вялікі пясняр польскага духу пра мір свабоднай Польшчы з Савецкай Расіяй. А сказаў бы ён, упэўнен Дзмітры Сяргеевіч, што мір з бальшавікамі — самазабойства для Польшчы...

Меражкоўскі коратка перадыхнуў, глытнуў астуджанага моцнага чаю, загадзя пастаўленага на кафедру дбайнымі распараджальнікамі вечара, і... адчуў у зале нешта няладнае. Змаўкае, прыслухоўваецца... Так, па радах зашапталіся. Зняважліва, крыўдна. Вось і Зінаіда Мікалаеўна ўстрывожылася, заблiскала налева-направа ларнетам.

Дзмітры Сяргеевіч бянтэжыцца. Ён спрактыкаваны дыскутант і не разгубіцца нават перад адкрытым шумам, адкрытым пратэстам залы: тады ён адчувае сябе байцом, прапаведнікам ісціны перад язычнікамі. Але ж тут — тут проста яго не слухаюць!

Дзмітры Сяргеевіч абураны. Дзмітры Сяргеевіч глядзіць на доктара-старшыню. Той таксама разгублены. Той бразгае футаралам ад акуляраў аб графін:

— Панове! Панове! Сорамна!..

У партэры і ў бельэтажы шыкаюць, некага ўшчуваюць, некага заклікаюць да прыстойнасці.

— Калі ласка, гаварыце далей, Дзмітры Сяргеевіч! Просім. Даруйце нам...

Дзмітры Сяргеевіч адчувае, што твар яго пакрываецца плямамі. Клісцірная трубка! Канавал! П'яўкі, мусіць, не можа як след паставіць, а туды ж — старшыня на літаратурным вечары!.. Гэта Мераж-коўскаму ты прапануеш «гаварыць далей»? Меражкоўскаму?!.

Ды кім тут абурацца, божа мой! З каго спаганяць? На каго крыўдаваць?.. Мінск — двунадзесяцімоўны Вавілон ля мяжы аселасці. Заплацілі ў касе за білеты, дык і давай ім па цане відовішча... Смейся, паяц!..

Зрабіўшы яшчэ глыток астуджанага чаю (заварку, арыстакраты латочныя, засыпалі капеечную!), ён вядзе сваю думку далей. Аб нехрысціянскай сутнасці вучэння бальшавізму, аб ганебнай яго спакусе і небяспецы.

Ах, як кепска ў яго ўсё-такі з нервамі! Дробязная, нікчэмная непрыемнасць, і — ні ранейшага ўздыму, ні музыкі ў голасе... От і жонка глядзіць занепакоена. Зіна, друг мой адзіны, даруй! Ты вялікі чалавек! Ты святая! Я слімак, я сабака перад табой! Сабака, гатовы забыцца на крыўды і радасна заскавытаць, ледзь толькі яму кінуць кавалак. У вас, у жанчын, трэба вучыцца нянавісці і пагардзе. У Жаны д'Арк, у Шарлоты Кардэ, у цябе... Няўдзячны раб, я пасаромеўся цябе перад гэтымі ўкормленымі дочкамі фармацэўтаў! Ды яны ж і ёсць камісарскія аманты: калі не цяпер, то ў патэнцыі — бальшавічкі. Гэта іх ён палохае нашэсцем азіятчыны? Гэта ім расказвае пра заняпад культуры? Яны ж, мабыць, сняць сябе ў шатрах вузкавокіх камісараў. Бізуна ім, бізуна, генерал, а не разваг пра паэзію Міцкевіча!.. У белых пальчатках не спыніш Урачыстасць Хама.

Маленькі чалавек у святле юпітэраў быў блізкі да істэрыкі.

А зала па-чмялінаму гула.

Ён не ведаў, што афіцэр, якога ён заўважыў у ложы, прынёс генералу хоць і прыемнае, але нечым і прыкрае на генеральскі настрой паведамленне: філёры палявой жандармерыі высачылі сярод публікі ў тэатры падпольшчыкаў.





Ён не ведаў, што на самым пачатку яго лекцыі жаўнеры павялі арыштаваных з галёркі і што пра гэта, канечне ж, стаў адразу гудзець тэатр. Ён не ведаў, што ў той час, калі заходзіўся на кафедры ад злосці, за кулісамі, у прапахлай вазелінам і пудрай грымёрцы, контрразведчыкі генерала, не дужа цырымонячыся, абшуквалі маладзенькую даўгакосую дзяўчыну ў кароткай гімназічнай спадніцы і бялявага хлопца ў касаваротцы ды студэнцкай тужурцы. У руках аднаго з афіцэраў была фатаграфія гэтага самага хлопца ў форме чырвонага камандзіра.

З рыдыкюля дзяўчыны выцягнулі кніжку і пачак лістовак. Убачыўшы на лістоўках подпіс «Дзям'ян Бедны», жандары з усмешкай пераглянуліся, нібы ўзрадаваліся, што натрапілі на яшчэ аднаго, каго даўно шукаюць. А кніжку старэйшы з афіцэраў перагарнуў, уважліва разгледзеў ілюстрацыі,— намаляваных на новы манер, нібы з кубікаў і трохкутнікаў складзеных, чырвонаармейцаў,— прачытаў радкі пад адной з іх:

Революцьонный держите шаг!
Неугомонный не дремлет враг!..

Хмыкнуў, пашукаў на вокладцы імя аўтара. Прозвішча «Блок», мабыць, нешта ў яго памяці абудзіла, бо ён здзіўлена ўзняў бровы:

— І гэты прадаўся?..

Пра ўсе падзеі за кулісамі Меражкоўскі не ведаў. І, мусіць, рэдактар «Минского курьера» таксама. Бо 2 лютага 1920 года з крыўдай у сваёй газеце напісаў:

«...Лекцыя Д. С. Меражкоўскага на тэму «Еўропа і бальшавізм», прачытаная славутым пісьменнікам з вялікім уздымам і пачуццём, аказалася не па плячы большасці прысутнай публікі... Слухалі дакладчыка няўважліва...»



• *Ачнулася тайга*

Канстанцыя БУЙЛА

Над ракой Ангарой навісае тайга,
Закурыўся туман на яе берагах,
Мы закончылі сёння рабочы наш дзень,
Калі вечар згасіў свой апошні прамень
На гары... Запалілі смалісты касцёр.
Кедр над ім свае плечы шырока прасцёр,
Прыкрывае прывал наш іглістым шатром
Ад вясенніх, халодных таежных вятроў.
Горы, горы высокія...
Сіні Байкал...
Над дарогай уступы каменныя скал,
Расквітнелы багульнік струменіць святло,
Чоўн ваду разразае — як чыстае шкло.
У прыбярэжных кустах залягла цішыня,
Ручайкі толькі дзесьці на гальцы звіняць...
Месяц выплыў з-за гор, сее пыл залаты
На выносныя скалы, на дрэвы, кусты.
Заступае ў дазор, будзе ноччу свяціць,
Наш спакой старажыць.
Бур ўразаецца ў нетру высокай гары...
Шмат багацця! Шукай — і што хочаш бяры,
Хоць схаваў усё сціпла рабрысты граніт:
А нашто ж у нас веды, і розум, і спрыт?
Ля падножжа высокіх, зазубраных скал
Спіць магутны Байкал...
Гэта тут...
А далей — забурліла тайга,
ГЭС стаіць на крутых Ангары берагах.
Ей прыйшлося людзям падначаліць сябе,
На турбіны пусціць свой размераны бег.
Зразумеўшы, што брацца за працу пара,
Уся ў агнях Ангара.







● Аляксандр КАЗАНЦАЎ

# ПАРУШАЛЬНІК

АПАВЯДАННЕ

Мал. В. Шрамякова

Як заўсёды, у кают-кампаніі гаварылі пра незвычайнае...

Асабліва ўразіла гісторыя аб пасадцы паветранага гіганта ТУ-114 без пярэдняга кола. Пры ўзлёце кола заклініла і гумавыя пакрышкі згарэлі.

Камандзір вырашыў не вяртацца на аэрадром, а ляцець з Далёкага Усходу да Масквы, каб у дарозе спаліць усё гаручае і паспрабаваць пасадзіць палягчэлую машыну на колы, быццам птушку, што садзіцца на лапкі. Але адна справа — птушка, а другая — велізарны лайнер.

На працягу ўсяго доўгага пералёту пасажыры нават і не падазравалі, якая небяспека іх чакае. Экіпаж працаваў спакойна, а бортправадніца з мілай усмешкай разносіла снеданне, газеты, часопісы, цукеркі.

На пасадачным полі пад Масквой іх чакалі пажарныя машыны, санітарныя — з чырвонымі крыжамі, чорныя «волгі» і «чайкі», на якіх прыехалі ўсе, хто адказваў за палёт і бяспеку пасажыраў. Прыехаў нават сам Галоўны канструктар самалёта Аляксей Мікалаевіч Тупалеў.

Усё скончылася добра. Пілот сатварыў цуд: ён сеў на «заднія лапы» з «задраным носам».

Перахваляваліся ўсе моцна. Усе, акрамя пасажыраў, якія нічога і не падазравалі, а адзін дык праспаў увесь гэты час.

— Та-а-ак...— шматзначна сказаў падпалкоўнік міліцыі, сухапары чалавек з запалымі шчокамі і ўважлівымі шэрымі вачыма.— Відаць, нездарма лётчыкам жадаюць не столькі шчаслівай дарогі, колькі «шчаслівых пасадак». Успамінаецца мне гісторыя з адным парушальнікам...

— Ну! Пры чым тут парушальнік...— нездаволена сказаў нехта.

Але на яго зашыкалі і папрасілі падпалкоўніка расказаць.

Ён устаў. Гэта быў чалавек высокага росту. На грудзях яго ззяла шмат'ярусная калодка ўзнагарод, атрыманых, відаць, не толькі за службу ў міліцыі. Ён падышоў да нас бліжэй і сеў.

— У міліцыю я трапіў пасля дэмабілізацыі, калі вайна скончылася. Так і застаўся на гэтай службе. Працаваў у Запаляр'і. Хацеў спалучыць звычайную вайсковую дысцыпліну з рамантыкай,— і ён уважліва агледзеў слухачоў.— А пасля Запаляр'я прызначылі мяне начальнікам аддзялення аўтаінспекцыі пад Масквой.

Аднойчы трэба было мне трапіць на Шарамецеўскі аэрадром. Падмаскоўная шаша, назіраць за рухам на якой я быў пастаўлены,— адна з самых цяжкіх: вузкая, той парой яшчэ не рэканструяваная, забітая машынамі, асабліва ў пікавы час.



Ведаючы гэта, я выехаў загадзя. Часу ў мяне было даволі, я не спяшаўся, прыладзіўся ў хвост нейкаму самазвалу. І раптам паўз мяне са свістам праляцеў велізарны бензавоз і пайшоў на абгон. І гэта адразу пасля знака, які забараняў абгон. Я прыбавіў газу, каб дагнаць парушальніка. Але зрабіць гэта было не так проста. Ліхач нёсся па левым баку шашы, прымушаючы сустрэчныя машыны шарахацца на ўзбочыну. Як тут не абурацца! І навошта толькі канструктары даюць такую хуткасць грузавым машынам! Вядома, з матацыкла можна было выціснуць і больш. Але ж я не мог ісці ўлабавую на сустрэчныя машыны — так, як гэта рабіў парушальнік. І тады я з'ехаў на правую ўзбочыну і пачаў абганяць калону справа. Ну, тут я ўжо адчуў хуткасць на поўную мерку. Вытрасла мяне так, што мне душу з гэтага парушальніка вытрасці захацелася.

Дапамог мне зачынены шлагбаум пераезда. Ліхач усё-такі ўмудрыўся перад самым шлагбаумам незаконна стаць у другі рад. Тут я да яго і пад'ехаў. Спыніў матацыкл, падыходжу і, сцяўшы зубы, вітаю парушальніка па ўсёй форме, як генерала якога. Прашу прад'явіць пасведчанне на права ваджэння. Да нас спяшаецца паставы інспектар з нашага аддзялення, Семачкін.

Шафёр высунуўся з кабіны, але я быў такі злы, што нават не зірнуў на яго. Гляджу сабе на неба з белымі рыскамі ад самалёта і руку да машыны працягваю. Уручыў ён мне свае правы. Зірнуў я на іх, на фота, потым на дзверцы кабіны...

— І што?..— не ўцерпеў мой сусед.— Адабралі правы ці аштрафавалі?

— У тым-то і справа, што не,— прызнаўся падпалкоўнік міліцыі.— Загадаў я інспектару Семачкіну ўзяць мой матацыкл, а сам сеў у кабіну бензавоза. Шлагбаум узнялі.

— Гані,— кажу.

— Дык, значыць, парушальнікам былі вы! — чамусьці ўзрадаваўся мой сусед.

Падпалкоўнік пацiснуў плячыма:

— Што ж, даводзецца вярнуцца назад. Прызнаюся: не толькі рамантыка пацягнула мяне ў Запаляр'е пасля вайны. Няўдала жыццё склалася. Пакуль я быў на фронце, жонка мая як быццам «замуж выйшла» за эстраднага артыста. Я прыехаў у водпуск і прымусіў сябе схадзіць на іх прадстаўленне. Убачыў жонку ў серабрыстай кофтачцы з голымі нагамі, рукамі і шыяй. Яна ўсміхалася, рабіла рэверансы публіцы, падавала свайму партнёру шары, палачкі, талеркі і іншыя жанглёрскія прылады. Ад усяго гэтага мне раптам так горка стала, што я зараз жа пайшоў за кулісы і згадзіўся на развод, пажадаў жонцы новых радасцей. Дачушка ў нас была. Лада. Маё імя Засім, а яе я па-стараруску назваў Ладай, наперакор жонцы. Памятаю, даказваў ёй, што Яраслаўна, жонка князя Ігара, па бацьку так звалася. А імя ў яе было Лада, не толькі памяншальнае, ласкавае, а самае сапраўднае. Жонка нічога слухаць не хацела, і скандал у нас выйшаў вялікі. Але і ў мяне характар у той час, трэба думаць, не самы лепшы быў. Пасля нашага разводу дзяўчынка засталася ў бабулі, у маёй маці. Былую маю жонку гэта задавальняла: ёй з новым мужам увесь час даводзілася ездзіць. А пасля... здарылася так, што, мусіць, не пажадаў ім нехта «шчаслівых пасадак». Самалёт, на якім яны ляцелі на гастролі ў Сібір, разбіўся пры пасадцы. Загінула і мая былая жонка, і яе партнёр. Так Лада ў бабулі сіроткай і засталася. Яна яе і выхавала.

Вярнуўся я з вайны. Дачка падрасла. Ні бацькі, ні маці добра не ведае. Бабуля для яе ўсё. І не хапіла ў мяне смеласці забраць яе Мы, можна сказаць, і не бачыліся з ёй як трэба. Баяўся прывязацца да яе. А жыць у старой пустой кватэры, прызнацца, не пад сілу стала. Вось я і падаўся ў Запаляр'е. Бачыце, якая рамантыка,— з горыччу дадаў ён.

Слухачы больш не перапынялі яго.

— Так трапіў я ў горад Нарыльск — наш запалярны індустрыяльны цэнтр. Дамы шматпавярховыя. Асфальт. Светафоры. Машын, канешне, меней, чым на Вялікай Зямлі, але таксама шмат. Узначаліў я там аўтаінспекцыю, ды так і засеў надоўга. Дарог і ў тундры шмат, парушальнікаў таксама. Спраў хапала. Але сапраўднага асабістага жыцця не было. Адна радасць, калі ў водпуск на Вялікую Зямлю адпраўляўся. Тут ужо ў мяне дамоўленасць з бабуляй і Ладай была: водпуск мы з дачкой праводзілі разам. Месяцы мільгалі, як лісткі календара, падхопленыя шквальным ветрам. Развітвацца кожны раз рабілася ўсё цяжэй. І пачаў я думаць аб вяртанні на Вялікую Зямлю. Дачка ўжо тады ў інстытуце вучылася. І раптам мая далёкая Лада піша мне, каб я ніякіх захадаў не рабіў, яна сама да мяне прыедзе. А што ёй у нас рабіць? Яна ў інстытуце замежных моў вучылася. Дваццаць другі год дзяўчыне. Вось, думаю, гэта сапраўдная любоў! За бацькам хоць на Паўночны полюс!

Не паспеў я ёй і месца падшукаць, як атрымліваю тэлеграму. Ляціць да мяне мая Лада на рэйсавым самалёце Краснаярск — Ігарка. Прытым, ляціць не пасажыркай, а бортправадніцай.

Вось дык сюрпрыз! Прыехаў я на аэрадром. Начальнік аэрадрома быў мой франтавы таварыш маёр Куцэнка, здаравенны мужчына, пад пару Паддубнаму, і вусы такія ж, як у таго, і барацьбой гэтак жа захапляўся. Неяк на фронце я паспрабаваў быў з ім схапіцца. Ледзь не задушыў мяне, мядзведзь гэтакі. А яшчэ Алесем прымушаў сябе называць. Алесь — гэта нешта далікатнае, а тут... Не, я яго ўжо Аляксандрам Фёдаравічам...

Убачыўшы мяне на аэрадроме, ён узрадаваўся:

— Куды ляціш? — пытае.

— А я нікуды не лячу. Я дачку сустракаю з рэйсавым самалётам Краснаярск — Ігарка.

— Добра-добра,— прагудзеў ён, пагладжваючы вусы.— Зойдзе да нас на пасадку ІЛ-14. Давай на поле. Правяду. А потым адзначым прыбыццё. Па-старому. Як належыць,— і хітра так пазірае на мяне.

Давялося тлумачыць яму, што, па-першае, я цяпер заўсёды за рулём. А па-другое: дачка «пралётам», так сказаць, міма мяне, а не да мяне. І ўсё ж не ўцярпеў я, каб не пахваліцца дачкой. У бортправадніцы пайшла, каб з бацькам бачыцца.

— Значыць, цяпер часта сустракацца будзем,— заключыў Аляксандр Фёдаравіч і павёў мяне на лётнае поле.

Аэрадром у яго сучасны, з бетаніраванымі дарожкамі, не тое, што было ў нас у франтавых умовах.

Бачу, зніжаецца ІЛ-14. Акуратна так. Прызямліўся на ўсе тры кропкі. Вышэйшы клас!

Спачатку пасажыры выходзілі, з чамаданамі, з рукзакамі. Багаж забіралі адразу, каб не чакаць у аэрапорце. А потым паказалася ў дзвярах і мая Лада. Прыгожая такая, зграбная, у блакітнай форме, ну — быццам наша рэгуліроўшчыца на вуліцах Берліна! Калісьці мы з Алесем, з Аляксандрам Фёдаравічам, на такіх заглядаліся. А цяпер з сваёй дачкой любаваўся. Пілотка на ёй крышку набок, валасы светлыя — пушком, вочы сінія, усмешка. Нішто так не ўпрыгожвае жанчыну, як усмешка! Усмешка маю Ладу прыгажуняй рабіла.

Я ёй на зямлю ступіць не даў, сам, сваімі рукамі зняў з апошніх прыступак трапа і моцна абняў. Аляксандр Фёдаравіч па плячы мяне ляпае:

— Эй, Засім Пятровіч! Задушыш нашу бортправадніцу, мядзведзь!

Я пазнаёміў іх. Але хутка мая Лада паляцела. Не паспеў я з ёй і нагаварыцца. Сумна мне стала. Еду назад і думаю. Навошта ёй на Поўнач над галавой маёй лётаць? Ці не прасцей мне на Вялікую Зямлю перабрацца? Ды і бабуля, маці мая, зусім старэнькая стала, як яна там без унучкі? А я... хіба я тут нагляджуся на яе? Толькі сорак хвілін і пабылі разам. Запраўляцца гарачым камандзір машыны не стаў, вырашыў зрабіць гэта па дарозе назад. Значыць, заўтра з Ладай зноў убачуся! І пачаў я лічыць, колькі гадзін да яе вяртання засталося.

З Ігаркі самалёт вылятае раніцой. Ляцець нядоўга. І я паспяшыў ранічкай з матацыклам да аэрадрома. Заадно разлічваў шашу праінспектаваць.

Выязджаю проста на лётнае поле. Бачу, Куцэнка ўжо на месцы, а недалёка і бензавоз стаіць, каб Ладзін самалёт заправіць.

Стаім мы з Аляксандрам Фёдаравічам на траве і дзівімся: вельмі ж тут, у Запаляр'і, травы густыя і сакавітыя. А па іх скрозь быццам блакітныя пырскі рассыпаны. Гэта кветкі. Лета кароткае, і ўсё жывое спяшаецца набрацца сілы, расцвісці спяшаецца. Адным словам — тундра! Нездарма яна незлічоныя статкі аленяў корміць. А глыбей, пад зялёным покрывам,— вечная мерзлата. Нават дзе-нідзе правалы здараюцца, як варонкі ад снарадаў.

— Ну, Засім Пятровіч, сёння тваёй бортправадніцы праверачка добрая выходзіць.

— А што такое? — пытаюся.

— Гайданка там, не дай божа! — і ён паказаў на нізкія хмары.— Ям у паветры больш, чым у тундры.

Але Ладзін самалёт «паветранае бездарожжа» прайшоў шчасліва і з воблакаў вынырнуў. На пасадку ідзе.



Чамусьці ўспомніў я, што не пажадаў Ладзе, калі адлятала, «шчаслівых пасадак». І тут бачу, вачам сваім не веру: самалёт толькі адно кола выпусціў. Нешта з правым шасі здарылася.

У мяне дыханне перахапіла. Палахлівым мяне ніхто ніколі не лічыў, у перапляётах усялякіх бываў. Але адно — баяцца за сябе, другое — за лёс дачкі.

У мяне аж пот на ілбе выступіў. Зірнуў я на свайго сябра. І ў таго твар мокры, хоць ручніком выцірай.

Бачу, самалёт над аэрадромам круг робіць, на пасадку ісці не адважыўся. Ды і як тут ісці, калі садзіцца, лічы, на адно кола трэба.

Падбягае да нас шафёр бензавоза. Я яго адразу пазнаў, нядаўна ў мяне з ім гутарка на шашы была. Аштрафаваў я яго, праўда, але праколу ў талоне не зрабіў, пашкадаваў. Цудоўны быў хлопец. На фронце, канешне, не быў, малады яшчэ, але ў арміі адслужыў. Падбег ён і па ўсёй форме гаворыць:

— Дазвольце звярнуцца, таварыш маёр міліцыі...

Куцэнкі ўжо не было, ён да дыспетчарскай пабег, па радыё з пілотам гаварыць. Выслухаў я Ваню Дароніна (так хлопца звалі) і пацягнуў услед да начальніка аэрадрома...

А цяпер, каб усё было зразумела, раскажу пра тое, што на самалёце адбывалася.

Начальнік аэрапорта меў рацыю, калі гаварыў пра выпрабаванне, што выпала на долю нашай бортправадніцы. Надвор'е было самае паскуднае для палёту. Ледзь толькі самалёт узняўся ў Ігарцы, як яго пачало матаць. Ён правальваўся ў ямы, як баддзя ў шахту. У людзей аж дух займае, вантробы, як кажуць, да горла падступаюць. Многія пасажыры ў самалёце былі не навічкі, марской хваробы не баяліся. Не тое, што мая Лада. Ёй трэба было хадзіць, абслугоўваць пасажыраў, якія адчувалі сябе блага, нарзан і таблеткі розныя падносіць, усміхацца. А яна сама ледзь на нагах стаіць. І тут адна пасажырка, Зінаіда Георгіеўна, гэтакая салідная дама, кажа:

— Даруйце мне, сцюардэса. Вы аж з твару змяніліся, калі аб'яўлялі нумар рэйса, прозвішча камандзіра і на якой вышыні мы ідзем. Тое ж самае было са сцюардэсай перад вымушанай пасадкай лайнера «Сабены», на якім я ляцела. Я ўмею чытаць на тварах сцюардэс, як на дакладных прыборах...

Лада мая ад сораму, а можа і ад абурэння, успыхнула чырванню. А гэта салідная дама задаволена заўважыла:

— Ну вось, цяпер я спакойная, золата маё. Мерсі.

А другі пасажыр, Логаў, альпініст і турыст, глядзеў на Ладу з захапленнем. Устаў са свайго крэсла і ідзе за Ладай у нос самалёта. Гітару ўзяў і давай турысцкія песні спяваць. Потым гаворыць ёй ціха:

— Не звяртайце ўвагі на гэтую мымру. Хочаце, я вас навучу, як гайданку пераносіць. Усё залежыць ад сістэмы дыхання.

І пачаў паказваць, як трэба дыхаць. А Лада мая зноў пазелянела ўся, свету не бачыць — муціць яе страшэнна.

А ён стаіць, гітарай праход загароджвае, нібы шлагбаумам:

— А яшчэ лепей будзе, як прыляцім у Краснаярск, ірвануць адразу на Стаўбы. Чуеце? Гэта такая прыгажосць! Разы са два ўзыдзем з вяроўкамі — і ўсё галавакружэнне ў вас пройдзе. А як час правядзём! Цяпельца, палатка! Мядова-брадова! — і ён цмокнуў языком.

Лада адхінула пасажыра з дарогі і прайшла ў кабіну пілотаў. Вярнулася адтуль і аб'явіла:

— Зараз мы сядзем у Нарыльску для запраўкі гаручым. Жадаючыя могуць прагуляцца па лётным полі ці адпачыць у аэравакзале. А цяпер папрашу ўсіх зашпіліць рамяні.

І пайшла з цукеркамі па праходзе.

Логаў, матаючы канцом незашпіленага рэмня і ласкава пазіраючы на яе, ад цукеркі адмовіўся. А яго сусед, нарыхтоўшчык пушніны, Эдуард Рамуальдавіч Пузыроў, нізенькі жартаўнік, аматар выпіць і пад'есці, засмяяўся:

— Усялякія калекцыянеры на свеце бываюць. Уявіце, я самалётныя цукеркі збіраю, «на памяць».

Лада ўсміхнулася яму.

Калі Лада вярталася назад, то ў адчыненых дзвярах кабіны пілотаў убачыла камандзіра. Ён рабіў ёй вачыма знакі.

Сушкін быў першым лётчыкам, з якім Лада лятала. У яго быў грубаваты са шрамам на ілбе твар. У куточках вачэй ад вечнага прыжмурвання ляжалі лапкі маршчын. Падбародак раздзяляўся глыбокай ямкай на дзве часткі. Лада ведала, што ён любіў выпіць, але ў час рэйсу, акрамя нарзану, нічога не браў.

— Слухай, Лада,— сказаў ён хрыплаватым голасам, кладучы цяжкую руку на яе худзенькае плячо і зачыняючы дзверы: — Дрэнь справа. Прыбор паказаў: заклініла правае шасі. Ці то сядзем, ці ляжам. Твая справа быць з пасажырамі, не дапусціць панікі.

Лада ўся пахаладзела. А тут адчыняюцца дзверы з пасажырскага салона і заглядвае Логаў:

— Даруйце, таварыш камандзір. У вас правае шасі заклініла.

— Заходзьце. Зачыніце дзверы,— скамандаваў лётчык.

Логаў прычыніў за сабой дзверы. Вочы яго неспакойна бегалі.

— Я — авіяцыйны канструктар. Ведаю самалёты. Спартсмен. Не баюся вышыні. Дазвольце мне выбрацца пад крыло і ліквідаваць пашкоджанне.

Лада здзіўлена паглядзела на пасажыра. Камандзір нахмурыўся:

— Вы разумееце, што такое працаваць у час палёту? Уяўляеце, які там вецер? А страхоўкі ніякай.

— Чаму ніякай? Няўжо ў вас не знойдзецца ніводнага парашута?

— Ёсць камплект,— прабурчаў камандзір.— Але, перавозячы пасажыраў, карыстацца парашутамі нельга.

— Дык мы і не будзем карыстацца,— хутка адказаў Логаў.— Я вазьму парашут для перастрахоўкі, каб больш упэўнена працаваць. Я ўсім целам павісну на шасі. Сто кілаграмаў! А вы ўключайце механізмы. Адолеем!

— Давядзецца набіраць вышыню...

— Я рады, што вы згадзіліся.

— А як жа пасажыры? — спытала Лада, з захапленнем пазіраючы на смельчака. Той падміргнуў ёй.

— Пасажырам аб'явіце, што знайшоўся добраахвотнік, які ўзяўся ў паветры выправіць пашкоджанне. Пасля гэтага будзе зроблена нармальная пасадка,— суха адказаў камандзір.

Калі Лада аб'явіла пасажырам рашэнне камандзіра, усе неяк аціхлі, панiклі. Эдуард Рамуальдавіч у задуменні разгарнуў «памятную» цукерку і паклаў яе ў рот, потым з пакрыўджаным выглядам асеў глыбей у крэсла. Васіль Васільевіч Сходаў, славуты палярнік, начальнік буйнейшай зімоўкі, уладна загадаў:

— Усім сядзець на месцах! Ад нашага спакою залежыць поспех аперацыі. За смельчаком сочаць толькі тыя, у каго месцы ля вокан.

Васіля Васільевіча зразумелі з паўслова. Панікі не было. Толькі салідная дама пазелянела ўся, горш, чым Лада ад гайданкі, ды настаўніца Таня спалохана прыціснула да сябе дачку.

Логаў атрымаў парашут, не спяшаючыся, надзеў яго, набіў кішэні інструментамі і пайшоў да праёма, які звычайна адчыняецца толькі на стаянцы.

Лада прыціснулася да ілюмінатара, глядзіць. Бачыла, як чалавек на крыле распластаўся, ляжыць, за вяроўку, працягнутую праз праём, трымаецца. Яна ведала, што ён павінен перлезці цераз кожух матора і нырнуць пад крыло, каб павіснуць на вяроўцы пад шасі. Яна вельмі здзівілася, што ён нават не паспрабаваў зрабіць нічога гэтага. Няўжо разгубіўся?

Потым яна ўбачыла, як Логаў выпусціў вяроўку і пачаў спаўзаць па крылу, расставіўшы рукі і ногі. Яго здзімала ветрам. Ён ссунуўся з крыла і сарваўся ўніз.

Самалёт перад гэтым паспеў набраць дастатковую вышыню, і цяпер парашутыст быў у поўнай бяспецы. Лада бачыла ўнізе белую пляму. Адстаўшы ад самалёта, яна набліжалася да пасадачных знакаў аэрадрома.

Зінаіда Георгіеўна азірнулася на Ладу, каб па яе твары прачытаць, чым закончылася аперацыя. Сама яна нічога не бачыла...

Ад гневу Лада стала пунсовай. Пра ўсякую гайданку забылася. Схадзіла да камандзіра, затым аб'явіла:

— Зараз самалёт салье лішняе гаручае. У час пасадкі ўсім заставацца на месцах.

Мы з Куцэнкам пад той час зноў выскачылі на поле, убачылі парашут у небе і самалёт і адразу кінуліся да бензавоза.

— Дождж пайшоў,— сказаў Куцэнка, выціраючы рукавом твар.

— Гаручы дождж, Аляксандр Фёдаравіч,— адгукнуўся наш шафёр.

— Гаручае зліць,— спахапіўся начальнік аэрадрома.— Каб выбуху не было.

— Ды што вы, Аляксандр Фёдаравіч! Я і так змагу,— запратэставаў Даронін.

— Толькі без спрэчак! За сувязь адказвае маёр міліцыі Засім Пятровіч! — камандаваў Куцэнка.— Падпарадкоўвацца ўсім яго ўказанням! — Ён цяжка дыхаў ад хуткага бегу.

Я цягнуў на сабе паходную радыёстанцыю і крыху адстаў. Куцэнка сеў побач з шафёрам у бензавоз, Ваня адчыніў зліўны кран. Я прымасціўся паміж цыстэрнай і кабінай, і мы памчаліся па калдобінах травяністага поля, пакідаючы за сабой мокры след з едкім пахам.

Даехалі да ангараў. Там нас чакалі рабочыя з чахламі і брызентам. Мы пакідалі ўсё гэта на цыстэрну, зрабіўшы нешта накшталт падушкі.

Куцэнка застаўся ля ангара. Я звязаўся па радыё з самалётам і загадаў Ваню:

— Гані!

Мы памчаліся. Трэба было выскачыць у канец пасадачнай паласы, але так, каб апынуцца там адначасова з самалётам.





Мы спазніліся. ІЛ-14 з ровам пранёсся над намі, калі бензавоз яшчэ не паспеў набраць дастатковую хуткасць. Мы бачылі, як самалёт зноў пачаў набіраць вышыню і рабіць круг для новага заходу.

Мы памчаліся назад па бетону і спыніліся на некаторай адлегласці ад краю поля. Я глядзеў у неба, задраўшы галаву, і перагаворваўся з Сушкіным. Яго хрыплаваты голас быў зусім спакойны, хоць ён вёў самалёт на незвычайную пасадку.

Даронін высунуўся з кабіны і паглядзеў на мяне:

— У самы раз, Засім Пятровіч.

І бензавоз ірвануў на траву, каб выскачыць на бетонную паласу на самым разгоне. Даронін быў ліхач, гэта несумненна. Зараз ён паказаў гэта ў поўнай меры. Ён гнаў машыну перпендыкулярна пасадачнай паласе з дзікай скорасцю. Здавалася, павярнуць на такой скорасці і выйсці на бетон немагчыма. І ўсё ж Ваня зрабіў гэты немагчыма круты паварот. Запішчалі на бетоне гумавыя пакрышкі. Бензавоз нахіліўся. Нейкі час машына наша мчалася на двух колах, а не на чатырох — як матацыкл. Затое на самым пачатку паласы хуткасць бензавоза была недзе каля ста.

Мы ўгадалі дакладна разлічыць заход, і самалёт зніжаўся якраз над намі, быццам нерухома вісеў над машынай. Я добра бачыў прыадчыненыя створкі пад крылом і заклiненае шасі. Яно набліжалася да мяне. Мы павінны былі замяніць яго сваім бензавозам.

Даронін вёў машыну па краі дарожкі. Я падпраўляў яго, прыкідваючы, калі крыло самалёта дакранецца да чахлоў, што захуталі цыстэрну.

Сутыкненне было мяккае, даволі ўдалае. Крыло далікатна лягло на самаробную падушку. Цяпер пачалося сумеснае тармажэнне. Ваня вельмі дакладна адчуваў Сушкіна, хоць той сядзеў у кабіне пілота і яго Ваня не бачыў. Яны на дзіва зладжана тармазілі дзве машыны, быццам пілот і шафёр былі адной істотай. Спыніліся абодва яшчэ далёка да канца бетоннай дарожкі.

Ваня выскачыў з кабіны проста ў абдымкі да мяне.

— Ну,— кажу,— ліхач, слова табе даю! Не адбяру ў цябе правы, калі ты мне і як парушальнік трапішся.

Ён смяецца.

Тут і Куцэнка падышоў. А за ім і самаходны трап салідна так едзе, быццам нічога такога не здарылася, быццам пасадка самая звычайная адбылася.

— Гаручага шкада, вылілі,— бедаваў Даронін.

Куцэнка толькі вачыма на яго зіркнуў.

Па трапе спускаліся пасажыры: геолагі, шахцёры, маракі, будаўнікі. Сярод іх Васіль Васільевіч Сходаў, як заўсёды, спакойны, стрыманы. За ім Эдуард Рамуальдавіч, гэты ўжо і жартаваць гатовы. Паперку ад цукеркі разгладжвае, каб хоць пустую, але скласці, а сам белы, як шкурка пясца. Настаўніца Таня шчасцем так і свеціцца, а яе маленькая дачушка ручанятамі да травы цягнецца. За ёю — абмяклая, зялёная Зінаіда Георгіеўна. А потым паказалася і мая Лада. Ледзь дачакалася, пакуль пасажыры выйдуць, кінулася мне на шыю і плача. Цяпер ёй ужо можна было плакаць. Я слёзы ёй выцер і да Вані Дароніна падвёў.

Так яны пазнаёміліся.

Потым мы ўтраіх ішлі, а ўслед за намі цягнуўся Логаў і ўсё бубнеў:

— Я сарваўся... Уяўляеце... клянуся, сарваўся. Я ў Краснаярску вам усё растлумачу.

Але Лада нават не азірнулася. А я азірнуўся, каб лепш запомніць твар парашутыста.

Падпалкоўнік міліцыі скончыў сваё апавяданне.

— Дык каго ж вы злавілі ля пераезда? — спытаў я.

— Як каго? Вядома, Ваню Дароніна. Ён гнаў на Шарамецеўскі аэрадром. Хацеў паспець і гаручае зліць, і Ладу, сваю нявесту, сустрэць, як і я. Яна на міжнародных рэйсах цяпер працавала. Таму я з ім і паехаў.

— Эх, таварыш начальнік аўтаінспекцыі, парушальніка вы і не пакаралі, выходзіць? — з жартаўлівым дакорам сказаў мой сусед.

— Чаму ж не пакараў? Пакараў. Ля самага Шарамецева «масквіч» нам трапіўся. Таксама на аэрадром спяшаўся. Мігалка ў яго гарэла без патрэбы. Вось шафёра з яго, таварыша Логава Ігара Ольгавіча, як у правах значылася, я і затрымаў. І правы ў яго адабраў.

І падпалкоўнік міліцыі хітра ўсміхнуўся.

З рускай мовы.
Пераклад Анатоля КУДРАЎЦА.



**На канцэрце.** Малюнак **Мікалая Жукава.**

*Мастацтва належыць народу. Яно павінна ўваходзіць сваімі найглыбейшымі карэннямі ў самую тоўшчу шырокіх працоўных мас. Яно павінна быць зразумела гэтым масам і любіма імі. Яно павінна аб'ядноўваць пачуццё, думку і волю гэтых мас, узнімаць іх.*

*У. І. Ленін.*

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



- Сяргей РУЦІЧ
- Эдуард ЮШКЕВІЧ
- Андрэй ТОЧЫН
- Дзмітры ГАЛЬМАКОЎ
- Юрка ГОЛУБ
- Уладзімір ЮРЭВІЧ
- Віктар ШМАТАЎ
- Яўген КРУПЕНЯ
- Васіль СВЯТЛОЎ
- Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ
- Аляксей СУЭЦІН

**Сяргей РУЦІЧ**



Здымак 1940 года.

# ДЗЕ РОДНЫЯ БЯРОЗЫ...

**Мне дарагая Бяроза-Картузкая тым, што я нарадзіўся ў гэтых мясцінах. Тут прайшло маё дзяцінства — сярод белых бяроз. І маё трывожнае юнацтва, апаленае вайною. І цяпер я часта наведваю родныя мясціны. І кожны раз мяне прыветна сустракаюць бярозы. Яны ўсё такія ж, можа толькі крыху пагрубелі складкі-зморшчыны бяросты на ствалах...**

**Я гэта заўважаю заўсёды. І робіцца сумна, што няма побач сяброў, з якімі дзяліў смутак і радасць далёкіх, трывожных дзён.**

**Памяці іх я прысвячаю гэтыя старонкі.**

Настрой быў добры, на канікулах мы збіраліся ўволю нагулянца ў валейбол.

... Дзяўчаты ішлі наперадзе, хлопцы — за імі. Успыхваў радасны смех. Сёння ж будзе такі цікавы камсамольскі сход: пра каханне і таварыскасць!

Ля чыгуначнага пераезда мы спыніліся: ішоў таварны састаў. Яшчэ праз момант убачылі: на брыючым палёце над вёскай праляцела больш дзесятка самалётаў. Яны зрабілі круг і скіраваліся ўсцяж чыгункі. І тут жа нас аглушылі выбухі.

На чыгунцы ўзнялася мітусня. Жыхары пристанцыйных домікаў здзіўляліся: што гэта?

І раптам нехта крыкнуў:

— Вайна!..

Дзяўчаты кудысьці зніклі, а нам, хлопцам, разыходзіцца не хацелася: было зразумела — настаў грозны час.

— Мы — камсамольцы, — сказаў хтосьці.

— Так. Камсамольцы, — пацвердзіў Мікалай Барушка. — Прапаную правесці сход.

На другі дзень мы ўсе сабраліся ля Мартусовых ям. Выставілі дазоры. Не трацячы часу, адкрылі сход. Мікалай Барушка першы ўзяў слова:

— Сакратаром нашай падпольнай камсамольскай арганізацыі прапаную выбраць Сяргея Руціча. Хто — за? Аднагалосна! Добра. А цяпер, Сяргей, вядзі сход...

Для мяне такое рашэнне сяброў было нечаканым. Я спачатку нават разгубіўся. Што гаварыць? Мяне выручыў той жа Барушка:

— Я думаю, нам трэба адыходзіць з Чырвонай Арміяй.

— Як гэта? — запярэчыў Валодзя Саўчук. — Нам жа няма і па шаснаццаць? Не возьмуць.

— Возьмуць!

Гэта Коля Пейгановіч. Ён заўсёды ў нас быў рашучы. І на гэты раз не адступіў:

— Возьмуць, кажу. На вайне кожны чалавек дарагі...

Твары ў хлопцаў суровыя. Я папрасіў слова.

— Думаю, што Мікола гаворыць праўду... Сёння ж трэба адыходзіць з Чырвонай Арміяй. Ноччу абыдзем Бярозу і пра ўсё даведаемся. А там...

— Дамовіліся! — узняўся Валодзя Саўчук. — Давайце паклянёмся, што заўсёды будзем вернымі камсамолу, Радзіме.

Нашы рукі самкнуліся, прагучала хвалюючае слова: «Клянёмся!»

З Мартусовых ям вярталіся па адным. Апоўначы былі ўжо ў дарозе. Непрыкметна прайшлі вёскі Сялоўшчыну і Самойлавічы, потым уброд перабраліся цераз Ясельду і ўвайшлі ў лес.

Усю ноч брылі праз зараснікі, прытрымліваючыся Брэст-Маскоўскай чыгункі. На золку вырашылі адпачыць. Развязалі торбы, пачалі снедаць.

Раптам, як гром з яснага неба:

— Хальт! Хэндэ хох!

І тут нас акружылі фашысты, пачалі зрываць з нас шапкі.

— Нікс афіцыр! Нікс зольдат!

Мы стаялі з паднятымі рукамі, ашаломленыя такой нечаканай сустрэчай з ворагам.

— Адкуда ідзеш? — запытаўся афіцэр.

— З Баранавіч, — схлусілі мы хорам.

— Чаго там дзелайт?

— Вучыліся. Дамоў ідзём...

— А дзе ваш дом?

— У вёсцы Блудзень.

Афіцэр разгарнуў карту і ўткнуўся ў яе.

— О, я-я! Блудзьень! — сказаў праз мінуту. — Я адпускайт вас!..

Мы пайшлі. Толькі цяпер — назад. Не маглі паверыць у тое, што здарылася, маўчалі.

Стомленыя і засмучаныя, падыходзілі да роднай вёскі. Непадалёку ад чыгункі сустрэлі Мікалая Хвядчэню. Ён быў падпольшчыкам у часы пілсудчыны, а да вайны — сельскім актывістам. Мы ўзрадаваліся: будзе каму расказаць пра сваю няўдачу...

— Ведаю, ведаю... — перабіў нас Хвядчэня. — Добрую справу задумалі.

**такое не забудзецца**



Мікалай БАРУШКА.



Мікола ПЕЙГАНОВІЧ.



Уладзімір САЎЧУК.

Ён змоўк на мінуту. Потым сказаў:

— Змагацца з ворагам можна не толькі на фронце...

— А як жа інакш? — здзівіліся хлопцы.

У той вечар мы доўга гутарылі з Мікалаем Хвядчэнем. Аказваецца, у яго былі свае планы. Галоўнае, гаварыў ён, трэба раздабыць зброю. Каб вырашыць гэтую задачу, мы рашылі разгрупавацца.

Агледзець мясцовасць паміж Блуднем і Асаўцамі даручылі Колю і Васю Барушкам. Маё заданне — пабыць у вёсках Кураўшчына, Пабежына і Марможава. А Мікалай Хвядчэня да раніцы паабяцаў расклеіць лістоўкі, напісаныя ад рукі. У іх было ўсяго па некалькі слоў: «Не верце фашыстам!», «Змагайцеся з ворагам!»

Прайшло некалькі дзён трывожных пошукаў. Знайшлі сёе-тое са зброі і боепрыпасаў. Але гэтага мала. Ды і нас, будучых дыверсантаў, не многа. Дзе ўзяць папаўненне?

Я расказаў сябрам, што да вайны ў вёсцы Пабежына ў мяне было некалькі добра знаёмых хлопцаў.

— Паспрабуем наладзіць сувязь.

І вось я з Міколам Барушкам глухімі сцежкамі прабіраемся на другі бераг Ясельды. Крайняя хата. Паціхеньку пастукалі ў акно.

Стары спытаўся:

— Адкуль вы?

Не паспелі растлумачыць, як у сені ўвайшоў сын старога — Сямён Колас. Прывіталіся.

— Нарэшце! — узрадаваўся Сямён, моцна паціскаючы нашы рукі.

Мы з Колем расказалі, што вырашана арганізаваць падполле, што Сямёну трэба пагутарыць з пабежынскімі хлопцамі...

Дамовіліся, што Сямён будзе прыходзіць у Блудзень на станцыйны рынак, нібыта прадаваць немцам або паліцаям прадукты. Там у нас будзе месца сустрэчы.

Больш як месяц наша камсамольская арганізацыя збірала зброю, мы акуратна яе чысцілі і хавалі ў тайніках.

Гэтым наша падпольная дзейнасць не абмяжоўвалася. Усё часцей і часцей на платах і на іншых відных месцах паяўляліся напісаныя ад рукі лістоўкі. Немцы і іх прыхвасні шалелі ад злосці.

Я тады падумаў: значыць, дзейнічае на ворагаў наша слова!

Для новых лістовак патрэбны былі новыя звесткі. А дзе іх узяць?

Нас выручыў выпадак. На станцыйным рынку аднойчы да мяне падышоў Сямён Колас і сказаў:

— Калі хочаш купіць чаравікі, прыходзь, дорага не вазьму.

Гэта быў наш пароль. Наступнай раніцай я быў у Сямёна.

Ён сказаў, што яго малодшая сястра, Маруся, знайшла ў лесе прыкрыты галінкамі радыёпрыёмнік.

У той жа дзень мы схавалі яго ў больш надзейнае месца і доўга абдумвалі, дзе ўстанавіць. Раптам Сямён ажывіўся:

— Ведаеш, Сяргей, хадзем да дзядзькі Шаўкаловіча. Ён свой чалавек, паможа.

Праз балота дабраліся да хутара Аляксандра Шаўкаловіча.

Гаспадар сядзеў на ганку і моўчкі курыў люльку.

Прывітаўшыся, Сямён падсеў да яго бліжэй і шэптам сказаў:

— У нас прыёмнік ёсць... Дапамажыце яго наладзіць.

Праз некалькі дзён я зайшоў да Мікалая Хвядчэні. На сэрцы было трывожна. Немцы загадалі паліцаям скласці спісы ўсіх камсамольцаў і былых актывістаў. Але больш я быў рады за нашы поспехі. Камсамольцы сабралі больш за дваццаць вінтовак, тры кулямёты, чатыры аўтаматы, пяць скрынак патронаў, каля дзесяці гранат.

Дзядзька Аляксандр Шаўкаловіч устанавіў у сваім хляве дэтэктарны прыёмнік. Цяпер Сямён Колас часценька заглядвае да яго, слухае перадачы з Масквы, запісвае звесткі са зводак Саўінфармбюро. Гэта галоўны матэрыял для лістовак.

І лістоўкі з'яўляюцца ўсё часцей і часцей. Няхай ведаюць людзі, што Масква жыве, што прыйдзе на ворагаў расплата!

Мікалай Хвядчэня сустрэў мяне радасна.

Ён расказаў, што ў лесе за Пабежынам з'явіліся першыя партызаны. Трэба наладзіць з імі сувязь. Як гэта зрабіць? Падумаўшы, Мі-



калай прапанаваў мне перайсці жыць да пабежынскіх сваякоў.

Немцы і паліцаі сочаць за ўсімі камсамольцамі. Дзейнічаць трэба вельмі асцярожна.

Перадаўшы Мікалаю чарговую зводку Саўінфармбюро, я развітаўся і агародамі накіраваўся дадому. Трэба шукаць партызан.

На другі дзень немцы сабралі ўсіх жыхароў Блудзеня ля царквы на сход.

Я не паспеў у натоўпе адшукаць сваіх хлопцаў, як на плошчу прыбыло некалькі эсэсаўцаў і паліцэйскіх на чале з самым лютым здраднікам Бянько. Камендант пачаў чытаць загад гітлераўскага камандавання: усіх, хто парушыць «новы парадак», чакае смерць.

Слухаеш радыё — смерць! Хаваеш зброю — смерць! Распаўсюджваеш весткі з фронту — смерць! З'явішся вечарам на вуліцы — смерць! Смерць, смерць, смерць...

Не, фашысты! Не запалохаеце нас, камсамольцаў!

Вяртаючыся са сходу, на плошчы каля камендатуры людзі ўбачылі плакат: рука чырвонаармейца сціскае горла фашысцкага салдата, а знізу подпіс: «Гэта чакае вас усіх, фрыцы!»

Дзёрзкасць камсамольцаў не прайшла бясследна. Немцы пачалі вобыскі. Але ніхто з жыхароў Блудзеня нічым сябе не выдаў. Нічога не далі фашыстам вобыскі і ў вёсцы Пабежына: Аляксандр Шаўкаловіч добра схаваў свой радыёпрыёмнік.

Дзень 15 ліпеня 1941 года я запомніў на ўсё жыццё. Тады мы страцілі свайго актыўнага памочніка — Васіля Барушку. Вось як гэта было.

Браты Барушкі — Мікола і Васіль — знайшлі ва ўрочышчы Хмыз некалькі вінтовак. Трэба было іх прывезці ў наш тайнік. Даставіць зброю ўзяўся Васіль. На досвітку ён запрог каня і сказаў маці, што паедзе па каменне для бруку.

Не ведаў Васіль, што ўсю ноч дзяжурыў каля іх дома, а потым ішоў следам за ім здраднік Даж.

Праз гадзіну ля дома Барушкі была зроблена засада. Камендант Бянько з нецярплівасцю чакаў вяртання Васіля. А вось і ён, ідзе побач з возам, гружаным каменнем.

Не паспеў хлопец апамятацца, як на яго галаву абрушыўся ўдар прыклада. Але ён не выдаў тайны і сваіх таварышаў.

На досвітку наступнага дня Васіля расстралялі за вёскай...

У тыя дні Мікалай Хвядчэня жыў на нелегальным становішчы. Начаваў у знаёмых, у сваякоў, час ад часу прыходзіў праведаць маці. Так было і на гэты раз.

На асцярожны стук Лізавета Іванаўна хутка адчыніла дзверы.

Мікалай скінуў ватоўку, сеў ля акна і пачаў перапісваць свежую зводку Саўінфармбюро. Калі ў двары пачуліся крокі, Хвядчэня ўбачыў паліцая.

«Засада! — мільганула ў галаве. — Вокны — насцеж! У агарод!»

Раздаліся стрэлы. Штосьці моцна ўдарыла ў спіну.

Мікалай Хвядчэня прабег яшчэ некалькі крокаў і ўпаў. Паліцаі накінуліся на яго, скруцілі рукі.

З камендатуры ў Брэст немцы паведамілі, што знайшлі таго, за кім так доўга ганяліся. Адтуль паступіў загад аказаць максімальную медыцынскую дапамогу і даставіць Мікалая Хвядчэню ў брэсцкую бальніцу.

Але Мікалай памёр у дарозе ад ран, не прамовіўшы ніводнага слова.

Смерць Васіля Барушкі і Мікалая Хвядчэні не пахіснула падпольшчыкаў, не зламала іхняй волі.

Наша камсамольская арганізацыя рыхтавалася да выканання больш складаных заданняў. Але як сабраць хлопцаў, як кіраваць дзейнасцю кожнага падпольшчыка-камсамольца? Гэтыя думкі трывожылі мяне, пакуль я не сустрэўся з Сямёнам Коласам.

— А што, калі на вечарынцы сустрэцца? — прапанаваў ён.

Да дома Мікалая Гардзейчыка, дзе была арганізавана вечарынка, я прабіраўся агародамі. У двары мяне сустрэў Мікалай Пейгановіч і сказаў, што ўсе хлопцы ў зборы.

— Калі зойдзеш у хату, — сказаў Пейгановіч, — прабірайся ў правы кут. Там усе нашы камсамольцы. Ды і цямней там...

Хлопцы засыпалі мяне пытаннямі: што? як? Але часу было ў абрэз. Я расказаў, што ў лясах,

якія падыходзяць да Пабежына, Сашыцы і Сяльца, адшукаў групу партызан, якой камандаваў былы работнік Сашыцкага сельсавета Лявон Здановіч. Перадаў просьбу Здановіча: кожны, хто можа, няхай уладкуецца на работу да немцаў.

— Самадзейнасць наша скончылася, — працягваў я. — Цяпер мы будзем выконваць заданні партыі... Трэба завесці дружбу з тымі, каму немцы давяраюць, ведаць усіх, хто памагае ворагу. У канцы я пазнаёміў хлопцаў з новымі членамі падполля — Аленай Радкевіч і Аляксеем Ніпаркам.

Раптам дзверы адчыніліся, і ў пакой увайшлі два паліцаі. Адзін накіраваўся ў наш кут. Убачыўшы мяне, ён крыкнуў свайму напарніку:

— Ён тут! Давай сюды!..

Але Мікалай Пейгановіч перакуліў вісячую лямпу. Я выкарыстаў мітусню і выбраўся з хаты. Кінуўся ў агарод, прапоўз па бульбоўніку да поля і скіраваўся ў вёску Пабежына.

Я пайшоў у пабежынскія лясы, спадзеючыся натрапіць там на партызан. Стомлены і прыгнечаны, я вяртаўся вечарам назад. І якраз тады напаткаў таго, хто мне быў патрэбны. У старэнькім кажушку, з сякерай за поясам, стаяў перада мною Лявон Здановіч.

У тую ноч з невялікай групай Лявона мы дабраліся да аднаго з нашых тайнікоў, і я перадаў партызанам пятнаццаць вінтовак, кулямёт і боепрыпасы.

Падзякаваўшы, Лявон Здановіч сказаў:

— Ты хацеў пайсці з намі. Пачакай яшчэ. Сувязь з падпольшчыкамі нам зараз вельмі патрэбна...

Праз некалькі дзён я сустрэўся з Сямёнам Коласам. Расказаў яму пра ўсё. Той выслухаў, а потым кажа:

— Ля твайго дома дзяжураць паліцэйскія. Дапытвалі маці. Пагражаюць расстраляць яе, калі ты не з'явішся з павіннаю.

Блудзенская царква ля самых могілак. Тут мы намецілі правесці сход камсамольцаў-падпольшчыкаў.

Як толькі сцямнела, мы з Сямёнам перабраліся цераз раку паміж вёскамі Лявашкі і Кураўшчына і заляглі ля шашы, чакаючы сігналу. Нарэшце пачуўся доўгачаканы звон. Мы перабеглі цераз шашу і праз хвіліну апынуліся ў дамоўленым месцы.

Хлопцы чакалі нас у кутку могілак. Тут былі Мікалай Барушка і Мікалай Пейгановіч, Валодзя Саўчук, Сяргей Барушка, Лена Радкевіч.

Валодзя Саўчук расказаў, што, як і было дамоўлена на вечарынцы, многія члены арганізацыі ўладкаваліся да немцаў. Сярожа Барушка і Міша Жуковіч працуюць у брыгадзе аварыйнага поезда, Мікалай Барушка — у калёснай майстэрні, Мікалай Пейгановіч — у паравозным дэпо.

— А я працую памочнікам кладаўшчыка, — сказаў Валодзя Саўчук.

Дамовіліся, што сувязь будзем трымаць праз Аляксандра Шаўкаловіча.

Блукаем па лясах, што падыходзяць да Пабежына, Сошыцы і Сяльца. Усё дарэмна. Лявона Здановіча нідзе няма.

Што рабіць? Як быць? Рашыліся на дзёрзкасць. Валодзя Саўчук перадаў праз Аляксандра Шаўкаловіча, што на Броннай Гары знаходзіцца склад зброі і боепрыпасаў, пакінуты Чырвонай Арміяй. Яго ахоўваюць паліцэйскія.

Каля вогнішча распрацавалі план дзеянняў.

... Узлесак. Ляжым у канаве. Вартавыя праз 20 — 25 мінут правяраюць драцяную загароду. Мы рашыліся.

Нечакана лютаўскую ноч разанула кулямётная чарга. Прыпалі да зямлі. Цішыня. Раптам адтуль, дзе чарнелі пабудовы вартавога памяшкання, узвілася ракета.

— Няўжо нас заўважылі?

Не. Ракета згасла, стрэлаў больш няма. Але мы ляжым, стрымліваючы дыханне. Паволі цягнуцца мінуты.

Прайшоў вартавы. Прыкурыў, рушыў у бок вартоўні.

— Пара, — шапнуў я Сямёну і асцярожна папоўз да дроту.

Секунда — і нажніцы перакусілі дрот. Яшчэ секунда — і я на другім баку загароды. Шпарка паўзу да скрынак. Адчыняю адну, другую, трэцюю. Што за ліха! Усе пустыя! Няўжо тут няма ніякай зброі?

Але мае хваляванні былі дарэмныя. Я знайшоў тое, што шукаў. Пяць вінтовак, патроны... Іх больш за тысячу. Цягну гэтую знаходку. Вось і Сямён працягвае руку. І раптам...

Я зачапіўся ў вузкім праходзе за калючкі. Штосьці бразнула. Узвілася ракета. З боку вартавога памяшкання кулямётная чарга.

— Уцякайма, — ледзь стрымліваючы крык, выдыхнуў Сямён.

Кінуліся на ўзлесак. Скочылі ў нейкую яму. Сэрцы гатовы вырвацца з грудзей.

— Цэлы? — задыхаючыся, спытаўся Сямён.

— Здаецца... пранесла.

Пабеглі ў лес.

... Летняя ноч кароткая. Не паспееш заснуць, як чуеш: «Пад'ём!» Я і Сямён Колас атрымліваем партызанскае заданне. Трэба ўзарваць мост цераз Ясельду. Праз гушчар прабраліся да дарогі Ружаны — Сялец і рушылі да моста. Убачылі яго здалёк. Прабіраліся па абочыне. Нас прыкрывалі кусты. У руках у мяне канец пяцідзесяціметровага тэлефоннага кабелю.

Што рабіць?!

— Цягні! — крычыць Сямён.

Шэрае воблака дыму і пылу апускаецца на Ясельду.

У жніўні 1942 года я ўдзельнічаў у разгроме косаўскага гарнізона.

Больш як два тыдні горад быў у руках партызан.

Разгром гэты прынёс славу партызанам і прывёў фашыстаў у шаленства. Наша разведка паведаміла, што на чыгуначных станцыях Бяроза-Картузская, Няхачава, Івацэвічы, а таксама ў мястэчку Ружаны вораг канцэнтруе сілы.

Атрад імя Варашылава базіраваўся ў той час у Гута-Міхалінскім лесе, непадалёк ад старога лесапільнага завода. Нашы разведчыкі далажылі, што 17 верасня фашысты занялі вёскі Пабежына, Марможава, Сошыцу, Буслаўку, Юрчыкі і Белавічы і сталі прасоўвацца ў наш бок.

Вартавыя, што стаялі ад Гута-Міхаліна, далі сігнал трывогі. Камандзір атрада Барыс Анціпаў аддаў распараджэнне выйсці ланцугом на Паляцкую прасеку і заняць там абарону. Завязаўся бой. Анціпаў выклікаў мяне і загадаў разведаць, ці нельга адысці ў кірунку Сяльца. Я не прайшоў і трохсот метраў ад лагера, як заўважыў немцаў. Ланцугом ішлі яны на нас.

Я кінуўся назад. Ірваліся гра-



Мікалай ХВЯДЧЭНЯ.



Васіль БАРУШКА.

наты, трашчалі аўтаматныя чэргі...

Выразна бачу ворагаў. Марудзіць нельга! Яны сышліся ля елкі, дзе я ляжаў. Крычаць, размахваючы рукамі. Потым ускідваюць аўтаматы, даюць чаргу ў бок нашага лагера і... пакідаюць Паляцкую прасеку.

Пад выратавальнай елкай я праляжаў да самага вечара. Да раніцы блукаў па лесе ў надзеі знайсці сваіх. Але атрада нідзе не было.

На досвітку ля вёскі Буслаўка падышоў да хутара. Заходзіць у дом небяспечна: ці няма там немцаў? Калі з хаты выйшла жанчына з даёнкаю ў руках, я падышоў да яе.

— Сынок, хутчэй уцякай, — прашаптала старая. — Тут цьмацьмушчая немцаў. Яны вазілі па вёсцы забітага партызана, прывязаўшы за ногі да машыны.

— А партызаны?

— Учора, сыночак, пайшлі. Кажуць, у Белавежскую пушчу.

Я папрасіў у гаспадыні перакусіць і зноў — у лес. Свой атрад адшукаў толькі на чацвёртыя суткі. Ніхто не спадзяваўся, што я жывы.

Дзейнічаць нам станавілася ўсё цяжэй. Невялікімі групамі адыходзілі з Ружанскай пушчы і Гуцінскіх лясоў у Пінскія балоты. Аднойчы наша невялікая група не змагла прабрацца з варожага кальца. Мы знайшлі прытулак у зарасніках чароту каля ракі Ясельды.

У маю групу ўваходзілі Сямён Колас, Лена Радкевіч, яе брат Алег Радкевіч, Мікалай Карпеш і яшчэ некалькі чалавек. Мы вымушаны былі сядзець у гнілым балоце і чакаць нямаведама чаго.

Мучыў голад і холад. Распаліць вогнішча не было ніякай магчымасці, а прадукты даўно скончыліся.

Мы рашыліся ноччу прабрацца да вёскі Лявашкі, запасціся харчамі і прабівацца ў Пінскія балоты.

Падышоўшы чаратамі да Ясельды, ступілі ў ледзяную ваду. Яна скоўвае ўсё цела. Яшчэ крок, яшчэ, яшчэ... І — рака ззаду.

Праз кустарнікі падыходзім да вёскі. Пастукалі ў хату Васіля Куля. Адчыніў гаспадар дзверы і ахнуў:

— Як вы прайшлі? Тут жа ўсюды немцы!

Тлумачым. Зразумеў. Выносіць хлеб, крыху сала.

Дабіраемся да бліжэйшага гаю. Лажымся адпачыць, але сагрэцца не можам. На нас няма сухой ніткі. А што далей?

Вырашылі да світання абысці Бярозу, перайсці Брэст-Маскоўскую шашу і накіравацца на вёску Пяскі.

Нашым планам не суджана было збыцца. Паблізу дарогі, што вядзе з Пабежына ў Зарэчча, нас абстраляў нямецкі патруль. Мы далі агонь па ім і хацелі схавацца ў лесе, ды раптам Мікола Карпеш закрычаў:

— Наперадзе немцы!

Голас яго заглушылі стрэлы.

Заставалася адзінае выйсце — адыходзіць праз балота да Бярозы. Падтрымліваючы адзін аднаго агнём, рухаліся наперад.

Перайсці Брэст-Маскоўскую шашу нам не ўдалося. Канчаліся боепрыпасы. Да наступнай ночы былі ў лесе паблізу спаленай карнікамі вёскі Мармокава.

— Што рабіць? — трывожыла думка.

— Хоць закапайся ў зямлю... — сказаў Сямён Колас.

— А што вы думаеце! — ажывіўся маўклівы дагэтуль Алег Радкевіч. — Нару якую-небудзь зрабіць трэба.

Прапанову Алега ўхвалілі і ў наступную ноч непадалёк ад спаленага хутара пачалі будаваць зямлянку. Выкапалі яму, зрабілі з абсмаленых бярвенняў накат і засыпалі яго зямлёю. Пяціметровы падземны ход вывелі ў хмызняк і замаскіравалі елкай. Але як прыбраць свежую зямлю?

Знайшоўшы на хутары старую барану, рашылі замесці сляды. Пакуль я, Сямён і Алег па чарзе цягалі барану, Мікалай Карпеш схадзіў у вёску Круглае і прынёс харчу.

Пад раніцу, адкрыўшы ўваходны лаз, мы ўзрадаваліся:

— Каму прыйдзе ў галаву шукаць у зямлі партызан?

Прадукты размеркавалі так, што ў суткі прыходзілася на кожнага па кавалку сырога мяса і па адным сухары. Ваду пілі сваю, са «студні», выкапанай у кутку зямлянкі.



На свежае паветра выходзілі толькі ноччу.

Так прайшлі два тыдні. Аднойчы Сямён сказаў:

— Пайду ў Самойлавічы да брата.

Якое было наша здзіўленне, калі на досвітку Сямён упоўз у нашу нару, цягнучы за сабою торбу з хлебам і салам! Акрамя харчоў, ён прынёс нам і навіны. Падпольшчыкі Блудня не ўціхамірыліся, часценька напамінаюць немцам пра сябе. Прайшоў яшчэ тыдзень, другі. Выпаў снег, прыкрыўшы белым пухам зямлю. Уначы мы маглі прыўзняць свае дзверы толькі на некалькі сантыметраў, каб падыхаць свежым паветрам.

Аднойчы да нас нехта пастукаў. Мы замерлі. Стук паўтарыўся. Мы адчынілі ўваход і пачулі знаёмы голас:

— Гэта я, Андрэй!

Сямён кінуўся да брата:

— Што такое? Кажы!

— Паехалі, — паведаміў Андрэй Колас. — Кажуць, на фронце нелады, дык з тылоў усіх немцаў пазбіралі і павезлі.

Усе ўздыхнулі з палёгкай.

Цяпер мы маглі сустрэцца з нашымі падпольшчыкамі, папоўніць боепрыпасы. Аднак заставацца на зіму ў навакольных вёсках і на хутарах было небяспечна: нас у любы момант маглі знайсці паліцаі блудзенскага гарнізона. І мы вырашылі пайсці ў Ружанскую пушчу. Праз некалькі дзён там сустрэлі атрад імя Дзімітрава, які толькі што вярнуўся з Пінскіх балот. Мы сталі партызанамі.

Камандаванне атрада вырашыла разграміць паліцэйскі гарнізон, што знаходзіўся паміж вёскамі Шчытна і Астравок Ружанскага раёна, у будынку школы. Нам неабходна было мець у шчытнаўскім гарнізоне свайго чалавека. Паўстала задача: як падаслаць каго-небудзь са сваіх. Каго?

Рашылі паслаць на службу ў паліцыю Аляксея Ніпарку, нашага старога падпольшчыка. Спачатку Алёша здзівіўся, але, зразумеўшы задуму, згадзіўся:

— Добра. Калі трэба, то буду і «паліцаем».

Не прайшло і тыдня, як Аляксей Ніпарка быў у паліцыі.

Камандаванне атрада распрацавала план дзеянняў штурмавой групы, у якую ўвайшоў Мікалай Карпеш, Сямён Колас, Алег Радкевіч і я.

А першай гадзіне падышлі да вёскі. Не ад лесу, — там былі акопы і дротавая агароджа, — а ад шашы. Акружылі гарнізон. Заляглі.

Нам трэба зняць вартавога. Паўзём да будынка. Бліжэй... Бліжэй. Без шуму знялі вартавога. Вось мы ўжо ля самай школы. Мікалай Карпеш кідае гранату ў акно казармы паліцэйскіх. І тут жа ўрываецца ў яе. Некалькі партызан пранікаюць у пакой, дзе жыве камендант. Чуваць вінтовачныя стрэлы, аўтаматныя чэргі... Але дзе Алёша Ніпарка? Што з ім? Чаму не падае голасу? Убягаю ў казарму. Гляджу: Алёша Ніпарка адшпільвае кабуру ў намесніка каменданта — той ляжыць на падлозе нерухомы. Аказваецца, Аляксей, пачуўшы ў калідоры выбух гранаты, захапіў ручны кулямёт і пачаў расстрэльваць перапалоханых паліцаяў.

Падабраўшы багатыя трафеі, — вінтоўкі, два кулямёты, боепрыпасы, дакументы, — мы пайшлі ў лес. Прыехаўшыя раніцаю ў Шчытна эсэсаўцы знайшлі толькі абгарэлыя трупы паліцаяў.

Быў канец снежня 1942 года. Камандаванне атрада імя Дзімітрава вырашыла «паднесці» немцам навагодні падарунак — пусціць пад адхон эшалон. Месца для дыверсіі выбралі ля моста цераз Ясельду, непадалёк ад вёскі Зарэчча.

Дыверсійнай аперацыяй даручылі камандаваць мне. У хуткім часе восем чалавек адправіліся на заданне. Але мы яшчэ не дайшлі да чыгуначнага палатна, як у неба ўзвілося некалькі ракет і ў наш бок пачаў страчыць кулямёт. Абышоўшы небяспечнае месца, мы падышлі да чыгункі за тры кіламетры злева ад Броннай Гары.

Падпаўзлі амаль да самых рэек, як пачуліся крокі на насыпе. Якраз насупраць нас спыніліся нямецкія патрулі. Штосьці гавораць, закурваюць і разыходзяцца ў розныя бакі. Не марудзячы, я ўскокваю на насып, штыком хутка

раблю лунку. Усё ў парадку. Міна на месцы. Далучаю шнур і качуся ў кювет. Ляжым, стрымліваючы дыханне, метраў за трыццаць ад чыгуначнага палатна, чакаем эшалона. Нарэшце пачуўся гудок паравоза. Чаму так марудна ідзе час?

Але з-за павароту блiснуў пражэктар паравоза. I вось амаль што побач з намі — эшалон. Аляксей Ніпарка цягне за шнур. Раздаецца аглушальны выбух... Не разбіраючы дарогі, не чуючы пад сабою ног, кідаемся да лесу.

Пазней даведаліся, што мы знішчылі ў тую ноч дванаццаць вагонаў з амуніцыяй і ўсю ахову эшалона.

Пасля ўдалага выканання задання наша група пачала падрываць эшалон за эшалонам. Нямала жывой сілы і баявой тэхнікі ворага было знішчана на ўчастку паміж Аранчыцамі і Нехачавам.

Устрывожаныя партызанамі, фашысты ўзмацнілі ахову чыгункі. Але партызаны з'яўляліся ў самых нечаканых месцах і рабілі сваю справу. Вялікую дапамогу аказвалі нам падпольшчыкі, якія працавалі ў немцаў па заданню блудзенскай камсамольскай арганізацыі.

Аднойчы, наведаўшы свой тайнік паблізу хутара Мікалая Чарныша, мы знайшлі там запіску сувязной Марыі — сястры Сямёна Коласа. Яна паведамляла, што Валодзя Саўчук пачуў ад свайго шэфа — начальніка склада боепрыпасаў, што ў Баранавічы прыбыў эшалон афіцэраў нямецкай арміі, якія дабіраліся з фронту на адпачынак у Германію. Неўзабаве гэты эшалон адправіцца на Брэст. Пра гэтую навіну мы далажылі камандаванню атрада. Як ажыццявіць дыверсію? Неўзабаве ўсё было прадумана да драбніц. I вось мы з Алегам Радкевічам, Мікалаем Карпешам, Аляксеем Ніпаркам і Васілём Гардзейчыкам, пакінуўшы ззаду невялікую групу прыкрыцця, паўзём да чыгункі, амаль што побач са станцыяй Бяроза-Картузкая. Выбралі мы гэтае месца нездарма: тут немцы менш за ўсё баяцца і не думаюць нават, што партызаны адважацца на такую дзёрзкасць.

Закапаліся мы ў глыбокі снег метраў за пяцьдзесят ад чыгуначнага палатна і замерлі. Дастаём з мяшка васьмікілаграмовую толавую пліту, устаўляем запал. З нецярпеннем чакаем сігналу. Яго няма. Прайшлі адзін за адным два таварныя саставы. Няўжо мы спазніліся?

Раптам у тым баку, дзе Мармажава, успыхнула і тут жа пагасла чырвоная ракета. Цяпер ясна: ідзе «наш» эшалон... Ставім міну і адпаўзаем.

Эшалон мінуў мост цераз Ясельду. Вось ён ужо на павароце. Мы ўзнімаемся і стрымгалоў бяжым у ноч.

Выбух!.. Трашчаць, скрыгочуць, налятаючы адзін на адзін, вагоны. На чыгунцы — суцэльнае пекла...

Мы былі ўжо далёка, калі на месца здарэння прыбеглі немцы са станцыі Бяроза-Картузкая.

Больш за дзвесце нямецкіх афіцэраў атрымалі бярозавыя крыжы...

Камендант бярозаўскай паліцыі не мог дараваць сабе, што пад самым яго носам партызаны робяць такія справы. Апроч таго, яго часта пачаў дапякаць начальнік СД Панір. I каб хоць як-небудзь апраўдацца, умацаваць падмочаны аўтарытэт, камендант спаганяў злосць на сем'ях партызан.

Халодным зімовым ранкам у вёску Самойлавічы, дзе тады жыла сям'я Сямёна Коласа, прыехалі тры грузавікі паліцаяў і гітлераўцаў, акружылі дом старога Коласа. Пачуўшы стук у дзверы, гаспадар доўга не адважваўся адчыніць. Калі адчыніў, адразу ўпаў ад удару.

Убегшы ў хату, паліцаі накінуліся на маці і сястру Сямёна:

— Дзе ваш бандыт? — крычалі яны.

— Вы, напэўна, шукаеце партызан? — дзёрзка ўсміхнулася Марыя. — Дык яны, кажуць, у лесе...

Але і яе аглушыў удар прыклада. Толькі ў машыне, са звязанымі рукамі, Марыя апрытомнела і прашаптала:

— Мамка... і ты, татка... трымайцеся...

Звязаных і пабітых, іх пасадзілі ў камеру. А ўвечары ўсіх членаў сям'і Коласа фашысты кінулі ў яму, выкапаную ля царквы, і закалолі штыкамі.

Толькі Андрэю, Сямёнаваму брату, удалося выратавацца. Ён быў у суседа і, убачыўшы нямецкія грузавікі, уцёк праз акно. На другі дзень ён быў у нашым атрадзе.

У канцы лютага разбушавалася завея.

Я ішоў да камандзіра атрада Дзмітрыя Сямёнавіча Дзмітрава і думаў: што дасць мне новы дзень?

Увайшоў у штабную зямлянку, адрапартаваў:

— Па вашым загадзе прыбыў!..

Ад камандзіра атрымаў заданне падабраць групу ў 25 чалавек і адправіцца на патруляванне ў вёскі Заполле, Альшаніцы, Квасевічы, Белавічы. Справа ў тым, што немцы, баючыся паўторнага нападу на косаўскі гарнізон, пачалі яшчэ больш здзекавацца з мірных жыхароў: рабавалі насельніцтва, арыштоўвалі падазроных у сувязі з партызанамі. Трэба было ўціхамірыць раз'юшаных ворагаў.

Наша група верхам на конях выехала на заданне. Спыніліся ў вёсцы Хрышчонавічы. Кожны дзень наладжвалі засады, то ў адным, то ў другім месцы, і некалькі немцаў ці паліцаяў не вярталіся ў гарнізон... Так мы дзейнічалі з 8 па 16 лютага 1943 года.

Надышоў час, і мы вярталіся ў партызанскі лагер. Па дарозе з Броннай Гары ў Буды, быццам з-пад зямлі, перад коннікамі вырас немец. Мы сумеліся ад нечаканасці.

— Партызан! Партызан! — закрычаў ён. — Гітлер капут! Партызан — ура!..

Падышлі да яго бліжэй. Думалі: звар'яцеў фрыц або п'яны. Глядзім на яго, а ён — у слёзы.

— Я іскаль вас... Я іскаль!

Ён без супраціўлення, нават з нейкай незразумелай радасцю, аддаў свой ручны кулямёт.

— Чаго валаводзіцца з ім? — сказаў нехта з партызан. — Шлёпнуць, і — баста!

Але мы даставілі немца ў атрад. Ён аказаўся цікавым хлопцам. Расказвалі, што прынёс ён з Броннай Гары вельмі важныя звесткі. Іх праверылі. Не хлусіў. Больш таго, Саша-немец, як назвалі яго пазней партызаны, стаў смелым дыверсантам. Ён пасябраваў з многімі нашымі партызанамі.

Біўся Саша-немец храбра, памайстэрску падрываў эшалоны. На адной з такіх аперацый яго цяжка параніла, і мы адправілі Сашу самалётам у Маскву.

Быў красавік 1943 года.

Немцы разумелі, што вясной дыверсіі партызан узмоцняцца, і таму прынялі захады. На станцыю Бронная Гара для аховы чыгункі было прыслана 150 чалавек, у сялецкі гарнізон — 18 уласаўцаў, на станцыю Бяроза-Картузкая — 300 немцаў.

Неяк у сярэдзіне месяца ўсіх нас — камандзіраў дыверсійных груп — запрасіў да сябе ў зямлянку камісар атрада Н. Сямёнаў.

Стаяла задача: звязацца з падпольшчыкамі і расказаць ім пра рашэнне дастойна сустрэць Першамай. Мяне накіравалі да блудзенскіх падпольшчыкаў.

Я, Лявон Зdановіч і Аляксей Барушка на хутары паміж вёскамі Блудзень і Ціхны гутарым з падпольшчыкам Міхаілам Неліповічам. У хуткім часе Міхаіл Неліповіч звязаўся з Валодзем Саўчуком, які ў той час быў ужо сакратаром камсамольскай арганізацыі. Саўчук сабраў падпольшчыкаў і распрацаваў план дзеяння. Праз некалькі дзён па ўсёй вёсцы былі расклеены лістоўкі, у якіх расказвалася пра наступленне Савецкай Арміі. Лістоўкі заклікалі граміць ворага.

Аднойчы на досвітку на станцыю Бяроза-Картузкая прыбыў састаў, што накіроўваўся на фронт. Зручны момант, каб падкінуць «вугальку». Гэтую задачу, рызыкуючы жыццём, выканаў Міша Неліповіч. Эшалон дабраўся толькі да станцыі Бронная Гара і там узарваўся.

Спраў у партызан і падпольшчыкаў Блудзеня з кожным днём прыбаўлялася. Вораг дзесяткамі эшалонаў вёз цераз станцыю ў Германію нарабаваную жывёлу, збожжа, заводскае абсталяванне. Фашысты спяшаліся: фронт няўмольна каціўся на захад.

6 мая савецкая авіяцыя бамбіла Брэст. Быў пашкоджаны чыгунач-

ны мост. Немцы чакалі налёту авіяцыі і на станцыю Бяроза-Картузкая: пачалі будаўніцтва абводных чыгуначных ліній.

Для нас было вельмі важна вывесці са строю паравоз аднаўленчага поезда, пусціць пад адхон некалькі эшалонаў і зрабіць, такім чынам, затор на чыгунцы.

Сярожа Барушка і Міша Жуковіч па-ранейшаму працавалі ў брыгадзе аднаўленчага поезда. Ім і было даручана выканаць гэтую задачу. А ў маю падрыўную групу ўвайшлі Алег Радкевіч, Аляксей Ніпарка і яшчэ трое партызан.

Пуцявым абходчыкам на ўчастку Паўлавічы — Бяроза-Картузкая працаваў наш падпольшчык Іван Неліповіч. Мы вырашылі звярнуцца да яго за дапамогай. Неўзабаве Іван перадаў нам усе звесткі аб гэтым участку чыгункі. І мы вырашылі зрабіць там дыверсію.

Толькі што пацерусіў цёплы веснавы дождж. Мы ляжым у ахове, мініраваць пайшлі Алёша Ніпарка і Алег Радкевіч. Усе хвалююцца. Вось-вось павінен прайсці нямецкі патруль. Але вяртаюцца нашы хлопцы — і мы ўздыхаем з палёгкай: усё ў парадку, можна адыходзіць. Выбух адбыўся а першай гадзіне. На міну наляцеў поезд з вугалем, а на яго наскочыў эшалон з італьянцамі. У выніку катастрофы было разбурана чыгуначнае палатно на адлегласці сямісот метраў.

Адначасова з намі працавалі Міша Жуковіч і Сярожа Барушка. Яны падрыхтавалі міну і закінулі ў тэндар паравоза так, каб яна трапіла ў топку, калі поезд будзе ісці да месца аварыі. Разлік быў дакладны. Выбухам разарвала топку паравоза непадалёку ад вёскі Аніцэвічы.

Цэнтральны Камітэт кампартыі Беларусі ў пісьме аб ваенна-палітычнай рабоце ў заходніх абласцях БССР у той час указваў: не павінна быць ніводнага раёна, ніводнага горада або сяла, дзе б ні было баявых рэзерваў партызанскага руху сярод самых шырокіх слаёў насельніцтва.

І гэтыя рэзервы ствараліся ўсюды. З дапамогай мясцовага насельніцтва Бярозаўскага раёна падпольшчыкі і наша дыверсійная група толькі за май і чэрвень 1943 года пусцілі пад адхон адзінаццаць эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, разбурылі больш за семсот метраў чыгуначнага палатна і затрымалі рух паяздоў больш як на сто гадзін. Толькі за першую палавіну чэрвеня падпольшчыкі нашай камсамольскай арганізацыі вывелі са строю пры дапамозе «вугалькоў» пяць нямецкіх эшалонаў.

Дзевятага ліпеня загадам па атрадзе імя Дзімітрава мяне назначылі камандзірам другой роты.

Шмат дыверсій і адкрытых баёў правяла наша рота ў тое памятнае лета. Але не забыць мне і сёння той дзень, калі мы трапілі ў недарэчныя абставіны і страцілі баявых таварышаў.

Было якраз жніво. Падпольны камітэт партыі і камандаванне брыгады прынялі рашэнне не даць фашыстам вывозіць прадукты харчавання з партызанскай зоны. Пачалася барацьба за хлеб.

Раніцаю па загадзе камандзіра брыгады я з групай у семдзесят чалавек заняў сваю пазіцыю. Да дзевяці гадзін усё было спакойна. Партызаны з сямейных атрадаў нагружалі на вазы жыта і адвозілі на свае базы. Раптам прыбягае з сакрэту Мікалай Карпеш і паведамляе, што ад Сяльца ў наш бок ідзе група немцаў.

Мы заляглі, чакаючы сустрэчы з ворагам. Толькі адправілі апошнія вазы з жытам, як з'явіліся фашысты. Яны ішлі спакойна, не падазраючы аб нашай засадзе. Падпусціўшы іх на блізкую адлегласць, партызаны адкрылі агонь. Страціўшы сем чалавек забітымі, фашысты праз гадзіну зноў кінуліся ў атаку. Але і на гэты раз былі вымушаны адступіць.

Назаўтра я з групай у пяць чалавек пайшоў разведаць, ці не збіраюцца немцы арганізаваць вываз збожжа з палёў. Усё было ў парадку. Ніхто з фашыстаў не адважыўся з'явіцца тут. Так думалі мы. Але толькі мы прыселі ля спаленага хутара, каб адпачыць, як раптам — немцы. Мы акружаны!

Кароткімі перабежкамі фашысты з усіх бакоў набліжаліся да нас. Не страляюць. «Ці не хочуць узяць нас жывымі?» — пранеслася думка. Разважаць не было калі, і я даю каманду адкрыць агонь. У адказ пасыпаўся град куль. Паранены Алёша Ніпарка. Бачу, як ён кідае апошнюю гранату, хоча ўзняцца, каб бегчы да хмызняку, і зноў падае. Да яго паўзе фашыст. Я даю чаргу. Другі фашыст перабежкамі стараецца дасягнуць месца, адкуль з пісталета адстрэльваецца Алёша Ніпарка. Страляе раз, другі, трэці... Потым падносіць пісталет да скроні...

Ірвуцца адна за другой гранаты. Гэта Алег Радкевіч і Мікалай Карпеш робяць сабе праход. Я памагаю ім агнём. Толькі я намерыўся кінуцца да іх, як адчуў: штосьці вялізнае навалілася на мяне і паваліла на зямлю.

Ах ты, злыдзень! Перад маімі вачыма стракацелі фашысцкія пагоны. Якое недарэчнае становішча! Я выкручваюся і з пісталета страляю фашысту ў жывот. Потым хапаю яго аўтамат і паліваю агнём шэрыя мундзіры. Кідаю гранату і падаю за бетоннай трубой студні. Адстрэльваюся. А немцы ўжо заходзяць з тылу. Але што такое? Яны паварочваюць! Яны — уцякаюць. Цяпер я ўжо чую — страляюць нашы аўтаматы. Няўжо хлопцы? Нервовае напружанне было такое вялікае, што я ніяк не мог паверыць у гэта.

Аказваецца, Алег Радкевіч і Мікалай Карпеш, прарваўшыся з акружэння, кінуліся да партызан, што засталіся ў лесе. Тыя ішлі ўжо нам на дапамогу.

Канец бою быў вырашаны. Але загінуў, акрамя Аляксея Ніпаркі, яшчэ і Анатоль Тарасевіч. Фашысты па-зверску здзекаваліся з трупаў нашых баявых сяброў. Яны адрэзвалі ім рукі, ногі, галовы...

Калі на палях не засталося ніводнага снапа, наша група вярнулася ў размяшчэнне атрада. Нас азнаёмілі з новымі задачамі, якія былі пастаўлены штабам партызанскага руху пешаму атраду. Галоўная з іх — нанясенне ўдару па чыгуначных камунікацыях.

Жнівеньскім ранкам мы адправіліся на новае заданне. У маёй групе больш за дваццаць партызан. На гэты раз вырашылі дыверсію правесці ў вёсцы Блудзень.

Ночы дачакаліся за ваколіцай вёскі. Пачаў церусіць дождж. Гэта нам нарукў! Прабраліся на вуліцу Залескую, потым — да школы. Адтуль паўзём да чыгункі.

На чыгунцы спакойна. Прайшлі патрульныя. Ляжым. Не дыхаем. Алёша Барушка, Мікалай Карпеш і я — наперадзе. Астатнія хлопцы справа, злева, крыху ззаду ад нас.

Нечакана ўзвілася ракета. Дагарэла, а стрэлаў не чуваць. Значыць — усё добра. Кранаю Алёшу за плячо. Папаўзлі. Вось і чыгуначнае палатно.

Штыком разграбаю зямлю. Алёша хутка ставіць міну. Аднак замаскіраваць яе мы не паспелі: ішлі патрулі. Секунда — і мы падаем з насыпу ўніз, на мокрую зямлю. Далей уцякаць небяспечна, і мы ляжым.

Патрулі прайшлі, мы акуратна маскіруем міну. Астатак ночы праводзім у паветцы на спаленым хутары, непадалёк ад Блудзеня. Ніхто не звёў вачэй. Выбух мы пачулі пад раніцу.

Не вяртаючыся ў партызанскі лагер, мы паспяхова правялі дыверсію каля вёскі Горск, выкарыстаўшы ў якасці міны авіябомбу. На яе наскочыў нямецкі грузавік. Праз некалькі гадзін на другой нашай міне падарваўся варожы танк. Увесь экіпаж танка загінуў.

... У нас канчалася ўзрыўчатка, і мы вырашылі раздабыць яе ў немцаў. Наша сувязная Вера Неліповіч была ў Валодзі Саўчука, і той перадаў нам каля трыццаці двухсотграмовых толавых шашак. Мы правялі паспяхова яшчэ некалькі аперацый.

4 кастрычніка да мяне ў зямлянку зайшоў партызан Гамдзэлідзе і сказаў:

— Вас выклікае камандзір брыгады.

Я апрануўся і пайшоў. Праз пяць мінут быў у зямлянцы камандзіра.

— З'явіўся па вашым загадзе! — адрапартаваў я Мікалаю Уладзіміравічу Сенькіну.

Акрамя камандзіра брыгады, там быў упаўнаважаны ЦК камсамола.

— Вось па якім пытанні мы

цябе выклікалі, — гаворыць Сенькін. — У сувязі з набліжэннем дваццаць пятай гадавіны ВЛКСМ трэба падрыхтаваць «падаруначак» фашыстам.

Ён мінуту памаўчаў, а потым працягваў:

— У вас жа рота камсамольска-маладзёжная, дыверсійная. Таму камандаванне даручае гэта табе. Так што абдумай усё як мае быць.

Дзень прайшоў у турботах. Адна думка не давала спакою: на якім участку правесці дыверсію? Якім чынам?

На світанні я сабраў камандзіраў узводаў і аддзяленняў. Расказаў, што нам трэба зрабіць. Яны ўспрынялі гэта як асаблівы гонар для нашай роты.

Мы ведалі, што ўсе зручныя падыходы да чыгункі замініраваны. Таму вырашылі правесці аперацыю, не чакаючы цемры, на заходзе сонца, паміж Зарэччам і станцыяй Бронная Гара. Далажылі пра свае планы камандаванню брыгады. Планы былі ўхвалены.

У дванаццаць гадзін усе былі ў зборы. Прабіраліся глухімі сцежкамі, не выходзячы на тракт. За кіламетр ад чыгункі зрабілі прывал, выслалі разведку. Неўзабаве яна далажыла, што на выбраным намі ўчастку рабочыя рамантуюць чыгуначнае палатно, іх ахоўваюць два немцы.

Усё зразумела! Пастроіліся, яшчэ раз праверылі тол, шнуры, зброю і, захоўваючы асцярожнасць, пайшлі на чыгунку. Метраў за пяць ад высечанай паласы заляглі. Далі некалькі аўтаматных чэргаў па немцах. Яны не чакалі партызан у такі час, і ў адзін момант на чыгунцы іх не стала. А тым часам група партызан на чале з Сямёнам Коласам зрабіла праход у мінным полі. Праз яго мы дабеглі да палатна і рассыпаліся па ім. Кожны партызан заклаў на стыках рэек па чатыры толавыя шашкі.

Даю сігнальную ракету. У адказ успыхнулі сотні запалак, зашыпелі бікфордавыя шнуры. Праз мінуту на чыгунцы не было ні душы. Толькі мы адышлі ў лес, як пачалася кананада. Выбухі — адзін за адным. Прыйшлі немцы з Броннай Гары і Бярозы, шалелі, злаваліся. Але справа была зроблена. Больш як 70 метраў чыгункі знішчылі мы ў той дзень.

Вярнуўшыся ў лагер, я пайшоў да камандзіра брыгады, каб далажыць пра аперацыю. Але, замест Сенькіна, мяне сустрэў сакратар падпольнага абкома Іван Іванавіч Баброў.

— Вось што, Сяргей! Пара табе ў партыю ўступаць. Вазьмі Статут, пазнаёмся, — і падаў мне невялікую кніжачку.

Вяртаўся я ў сваю зямлянку, і на душы ў мяне было радасна.

Праз некалькі дзён фашысты арганізавалі авіяналёт на наш лагер. Партызаны былі гатовы да ўсякай нечаканасці. Каб адвесці самалёты, мы распалілі кастры за пяць кіламетраў ад сваёй базы і такім чынам ашукалі ворага.

У хуткім часе наша разведка далажыла, што на станцыю Нехачава прыбыў эшалон фашыстаў. Ніхто не ведаў, што задумаў вораг. Камандзір брыгады загадаў прывесці партызанскія атрады імя Кірава, імя Дзімітрава і імя Гастэлы ў баявую гатоўнасць. Тым часам з косаўскага гарнізона мы атрымалі паведамленне нашага чалавека, што фашысты збіраюцца ачапіць вёскі Заполле і Белавічы, вывезці ў Германію моладзь і расправіцца з сем'ямі партызан. Трэба не дапусціць гэтага.

30 кастрычніка партызанскія атрады брыгады імя Панамарэнкі выйшлі на засаду. Атрад імя Кірава размясціўся ў лесе каля Косава, атрад імя Дзімітрава — у вёсцы Заполле і атрад імя Гастэлы — на ўзлеску паблізу вёскі Белавічы.

31 кастрычніка з'явіліся калоны гітлераўцаў. Яны ішлі туды, дзе ў засадзе быў атрад імя Кірава. Падпусціўшы іх на блізкую адлегласць, партызаны абрушылі на карнікаў агонь з сарака кулямётаў. Пакуль ішла перастрэлка, атрад імя Дзімітрава зайшоў у тыл праціўніку. На месца бою падаспелі і партызаны атрада імя Гастэлы.

У гэтым баі было забіта 49 фашыстаў.

Незадоўга перад кастрычніцкімі святамі ў атрад прыйшло паведамленне ад нашых падпольшчыкаў.



Валодзя Саўчук падпаліў паравознае дэпо станцыі Бяроза-Картузкая. Сяргей Барушка падкінуў міну ў паравоз, і той падарваўся ў браме дэпо, загрувасціўшы дарогу. Кінутая падпольшчыкамі ў тэндар процітанкавая граната ўзарвалася ў паравозе эшалона, які ішоў з Бярозы-Картузкай у Баранавічы.

Шмат смелых аперацый правялі напярэдадні кастрычніцкіх свят і партызаны нашага атрада.

Вечарам 6 лістапада ў нас адбыўся партыйны сход, на якім мяне прынялі ў члены партыі.

... Я атрымаў чарговае заданне. З групай партызан пайшоў на новую дыверсію. У атрад мы не вярталіся некалькі тыдняў. За гэты час было пушчана пад адхон дванаццаць варожых эшалонаў, знішчана восем аўтамашын і шаснаццаць кіламетраў сувязі.

Вярнуліся ў атрад у другой палавіне снежня. І новая вестка ўсхвалявала нас: не стала Мікалая Барушкі — майго лепшага таварыша. Ён з групай партызан наскочыў на нямецкую засаду і загінуў у баі. Гэта было каля вёскі Бармуты.

Мы вырашылі адпомсціць ворагу за смерць таварыша.

Сяргей Барушка, параіўшыся з падпольшчыкамі, падпаліў масларaздатачную станцыю.

У гэты ж дзень разлічыўся з фашыстамі за таварыша і другі падпольшчык — Віктар Галенка. Фашысты сагналі паравозы ў дэпо для прамыўкі. Там і разарвалася міна, якую падкінуў Віктар.

Не менш адчувальныя ўдары па ворагу нанеслі партызаны, зрабіўшы засаду непадалёк ад Броннай Гары. Гэта было 15 студзеня 1944 года. Фашысты, трапіўшы ў нашу пастку, страцілі больш як дзесяць чалавек забітымі і раненымі.

У канцы лютага на станцыю Бяроза-Картузкая было прыгнана з Мінска сем новых паравозаў. Даведаўшыся пра гэта, Валодзя Саўчук запрасіў да сябе на склад Колю Пейгановіча, Мішу Жуковіча і Сярожу Барушку, каб параіцца, што рабіць.

Тыя прынеслі дзве бутэлькі самагону, закуску. Увайшоў загадчык склада Борнеман, і вочы яго



Марыя КОЛАС.



Алена РАДКЕВІЧ.



Віктар ГАЛЕНКА.

заблішчалі ў прадчуванні добрага пачастунку... Валодзя акуратна нарэзаў сала, хлеб, патрошку наліў з пляшкі хлопцам, а немцу — поўны кубак. Выпілі. Борнеман пахваліў самагонку. Яму налілі яшчэ кубак. Пасля гэтага ён пайшоў у кут і разваліўся на цыноўцы.

Тым часам хлопцы непрыкметна вынеслі са склада дзве скрынкі з узрыўчаткай і схавалі ў надзейным месцы.

Ноччу ў дэпо раздаліся два выбухі.

Праз некалькі дзён Валодзя Саўчук распрацаваў план новай дыверсіі. Многа нейкіх станкоў, абсталявання сабралася на складзе. «Трэба пусціць іх у паветра», — такі быў намер падпольшчыка. І Валодзя ўстанавіў гадзіннікавую міну.

Але яна не ўзарвалася. Вечарам немцы, аглядаючы склад, знайшлі міну і выклікалі жандараў. Саўчука арыштавалі.

Пра арышт Валодзі Саўчука даведаліся Міша Жуковіч і Сяргей Барушка. Яны вырашылі адвесці падазрэнне ад свайго таварыша. Пакінуўшы ноччу аднаўленчы поезд, хлопцы на сваю рызыку прабраліся ў Блудзень, узялі ў Івана Неліповіча дзве міны і вярнуліся назад.

Літаральна за некалькі мінут да адпраўкі аварыйнага поезда міны былі выяўлены немцамі пад паравозам. Сяргея і Мішу схапілі і пад канвоем адправілі ў Бярозу, дзе знаходзіўся ў той час і Валодзя Саўчук.

Цэлы тыдзень катавалі немцы камсамольцаў. Знявечаныя, хлопцы ўпарта маўчалі.

15 сакавіка фашысты арыштавалі бацькоў Жуковіча, Саўчука і Барушкі і таксама прывезлі іх у Бярозу. Зноў катавалі камсамольцаў, цяпер на вачах у бацькоў.

— Скажыце, хто кіруе падполлем, і мы вас адпусцім, — абяцалі фашысты.

Падпольшчыкі не прамовілі ніводнага слова.

Тады азвярэлыя гітлераўцы кінулі арыштаваных разам з іх бацькамі ў машыну і павезлі да царквы. Там старых прымусілі выкапаць магілы і расстралялі камсамольцаў на іх вачах. Бацькоў Валодзі Саўчука, Мішы Жуковіча, Сяргея Барушкі фашысты атруцілі газам.

На станцыі Бяроза-Картузкая засталося толькі трое нашых камсамольцаў-падпольшчыкаў: Віктар Галенка, Васіль Пейгановіч і Міхаіл Неліповіч. Кіраўніцтва камсамольскай арганізацыяй перайшло да Віктара Галенкі.

Камсамольцы, як і раней, распаўсюджвалі лістоўкі і газеты сярод насельніцтва, перадавалі праз сувязную Жэню Жуковіч звесткі ў партызанскі атрад.

Нам стала вядома, што адважныя падпольшчыкі ўзарвалі на станцыі цыстэрны з гаручым, вывелі са строю канал дэпо. Праз некаторы час яны падпалілі пры дапамозе міны вугальны склад...

Красавік 1944 года прынёс у нашы лясы новыя весткі. Савецкая Армія атрымлівала перамогі на ўсіх франтах.

У тым жа месяцы камандаванне брыгады паслала мяне з сакрэтным заданнем за лінію фронту. Загад я выканаў, хоць і быў два разы паранены, першы раз пры пераправе цераз Днепра-Бугскі канал, другі — пры пераправе цераз Прыпяць.

15 ліпеня Савецкая Армія вызваліла Бярозу і маю родную вёску Блудзень. З гордым усведамленнем выкананага перад Радзімай абавязку сустрэлі мы памятны дзень.

Жыхары вёскі Блудзень — цяпер Першамайска — ушаноўваюць памяць загінуўшых патрыётаў.

Галоўная вуліца названа імем Валодзі Саўчука.

І людзі, якія нарадзіліся пасля вайны, прыносяць на магілы кветкі...




## 1969

### ЛЮТЫ

**1**

25 гадоў назад (1944) Вярхоўны Савет СССР прыняў закон аб прадастаўленні Беларусі паўнамоцтваў у галіне знешніх зносін.

**2—4**

50 гадоў назад (1919) працаваў І з'езд Саветаў Беларусі. Прынящце першай Канстытуцыі БССР.



З карціны А. Шыбнёва «Свярдлоў на І з'ездзе Саветаў Беларусі».

**10—13**

15 гадоў назад (1954) працаваў XXI з'езд КП Беларусі.

**10—12**

20 гадоў назад (1949) працаваў XVI з'езд ЛКСМ Беларусі.

**10**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) Э. Ш. Кагана, пісьменніка.

**12**

10 гадоў назад пачаў работу (1959) IV з'езд пісьменнікаў Беларусі.



Э. Ш. Каган.



В. А. Баравік.



В. М. Кавалгін.



С. М. Мілянкоў.

С. М. Дарожны.



**15—16**

40 гадоў назад (1929) працаваў XII з'езд КП(б) Беларусі.

**15—18**

20 гадоў назад (1949) працаваў XIX з'езд КП(б) Беларусі.

**18**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) В. А. Баравік, беларускага мастацтвазнаўцы.

**19**

50 гадоў з дня нараджэння (1919) В. М. Кавалгіна, доктара філасофскіх навук, прафесара Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

**20**

70 гадоў з дня нараджэння (1899) С. М. Мілянкова, доктара медыцынскіх навук, прафесара, загадчыка кафедры гісталогіі Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

**25**

60 гадоў з дня нараджэння (1909) С. М. Дарожнага (Серады), беларускага паэта.

**25**

50 гадоў з дня ўтварэння (1919) Мінскага губернскага рэўкома.

**27**

40 гадоў назад (1929) у Віленскай беларускай гімназіі адбылася забастоўка вучняў у знак пратэсту супраць суда над Беларускай сялянска-работніцкай грамадой.

**ЛЮТЫ**

25 гадоў назад (1944) выйшаў з друку першы нумар літаратурна-мастацкага часопіса «Беларусь».



# СТВАРАЕЦЦА

## *БЕЛаруская Савецкая Энцыклапедыя*

### Пра энцыклапедыі наогул

Пра ўсё — вычарпальна і коратка. Пра ўсё — у форме, лёгкай для пошукаў і чытання. Пра ўсё — аб'ектыўна і дакладна.

Такія патрабаванні ставяцца да энцыклапедый, гэтага гіганцкага акумулятара ведаў, якія выпрацавала і выпрацоўвала чалавецтва.

Стварыць энцыклапедыю можа дзяржава ці нацыя, якая мае высока развітую навуку і культуру. Пра гэта пісаў яшчэ Маркс. І чытач, у якім бы канцы свету ні жыў, як вялікую культурную падзею вітае кожны новы энцыклапедычны том, пастаўлены на сваю паліцу.

Высока развітыя народы з усё большай упартасцю шукаюць формы, каб вычарпальна, коратка, даступна, аб'ектыўна і дакладна абагульніць у адным выданні ўсе здабыткі чалавецтва і яго гісторыю. Адно з першых месц у свеце па выданню энцыклапедычнай літаратуры займае наша краіна. Выйшлі ў свет універсальныя Вялікая і Малая савецкія энцыклапедыі, Вялікая і Малая медыцынскія і дзесяткі іншых. Аб'яўлена падпіска на 3-е выданне Вялікай Савецкай Энцыклапедыі ў 30-ці тамах. Друкуюцца сотні даведнікаў па розных галінах навукі, тэхнікі, культуры.

Развіваецца энцыклапедычная справа ў савецкіх рэспубліках. Украіна ўжо надрукавала сваю 17-томную энцыклапедыю. Аналагічныя выданні рыхтуюць Арменія і Азербайджан, Грузія і Туркменія, Літва, Латвія і Эстонія, Казахстан і Таджыкістан, Малдавія і некаторыя аўтаномныя рэспублікі.

Савецкія энцыклапедыі прызнаюцца ў свеце за самыя лепшыя, самыя аб'ектыўныя і ўсебаковыя, у навуковым сэнсе самыя глыбокія. Іх чытаюць нашы сябры і ворагі, яны — нарасхват у самых глухіх кутках зямлі.

А які культурны чалавек, збіральнік ведаў, не марыць паставіць на сваю паліцу Польскую, Балгарскую, Венгерскую, Румынскую, Югаслаўскую энцыклапедыі!

Шмат такой літаратуры выдаюць развітыя капіталістычныя краіны. Сярод сучасных выданняў вызначаюцца 30-томная «Амерыкана» (ЗША), 20-томная «Брытаніка» (Англія), «Вялікі Ларус» (Францыя). Выданні салідныя, папера вашчоная, малюнкі цудоўныя. Але не ўсё золата, што блішчыць. Інфармацыя ў гэтых выданнях падаецца тэндэнцыйна, з пазіцый класа прыгнятальнікаў.

**Пра БелСЭ і яе стваральнікаў**

Наша рэспубліка дала свету нямала добрых слоўнікаў і даведнікаў. Няма ў нас толькі выдання, у якім бы ў сціслай форме адлюстроўвалася гісторыя, культура, навука беларускага народа з сівой старажытнасці да нашых дзён. Такое выданне цяпер ствараецца—Беларуская Савецкая Энцыклапедыя.

Анкетныя звесткі пра БелСЭ:
год нараджэння — снежань 1966 года; колькасць тамоў — 12; тэрмінаў (артыкулаў) — 45 тысяч; першы том выйдзе з друку сёлета, апошні — у 1974 годзе; характар выдання — універсальны.

Калісьці, яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны, у Беларусі былі энтузіясты, якія браліся стварыць нацыянальную энцыклапедыю. Але тады ў нас не было яшчэ ні навуковай базы, ні кваліфікаваных кадраў, і тыя спробы поспеху не мелі.

Цяпер наша рэспубліка мае ўсё — і вялікую навуку, і развітую эканоміку, і вучоных, і ўсё астатняе, каб выдаць энцыклапедыю на ўзроўні лепшых сусветных узораў.

Узначальвае стварэнне нацыянальнай энцыклапедыі Пятрусь Усцінавіч Броўка. Няма ў Савецкім Саюзе культурнага чалавека, які б не ведаў гэтага прозвішча. У літаратурным свеце ён вядомы як народны паэт БССР, лаўрэат Ленінскай прэміі. У навуковым — як акадэмік Акадэміі навук рэспублікі, у палітычным — як дзяржаўны дзеяч, дэпутат Вярхоўнага Савета СССР. Басаногі хлапчук з гаротнай сялянскай сям'і да Кастрычніцкай рэвалюцыі, ён вырас разам з савецкім народам.

Для падрыхтоўкі БелСЭ створана рэдакцыйная калегія. Тут — вядомыя грамадскія дзеячы, прадстаўнікі літаратуры, мастацтва, культуры. Гэта Р. І. Арыка, К. К. Атраховіч (Кандрат Крапіва), І. В. Ахрэмчык, П. Ф. Глебка, А. К. Красін, В. Ф. Купрэвіч, Я. Б. Лажэчнікаў (намеснік галоўнага рэдактара), К. І. Лукашоў, А. В. Лыкаў, Ф. С. Марцінкевіч, М. Д. Несцяровіч, А. Л. Петрашкевіч (адказны сакратар), П. Д. Пузікаў (намеснік галоўнага рэдактара), М. Я. Саўчанка, С. Г. Скарапанаў, Я. І. Скурко (Максім Танк), Ф. І. Фёдараў, К. І. Шабуня, Р. Р. Шырма, М. Ф. Ярмоленка, М. П. Яругін.



Навуковы рэдактар бібліяграфіі Тамара Сабаленка.

Лепшыя навуковыя сілы ўвайшлі і ў шматлікі рэдакцыйны савет. Тут — прозвішчы акадэмікаў АН БССР В. І. Шэмпеля і М. М. Сіраты, дырэктараў інстытута мовазнаўства АН БССР М. Р. Судніка, Інстытута народнай гаспадаркі С. М. Малініна, дактароў і кандыдатаў навук, навуковых супрацоўнікаў.

Рабочыя органы БелСЭ — галіновыя рэдакцыі. Усе навукі маюць тут сваіх прадстаўнікоў. У рэдакцыі біялогіі працуюць, напрыклад, маладыя вучоныя кандыдаты навук А. Гурленя (медыцына), Р. Кажэўнікава (біялогія), аграном Б. Прусакова і іншыя. «Кантралюе» іх дзейнасць (г. зн. памагае, каб матэрыялы адпавядалі энцыклапедычным патрабаванням) кандыдат біялагічных навук Л. Міцько.

Есць у нас рэдакцыі тэхнікі, эканомікі, філасофіі, народнай асветы і друку, літаратуры і мовы і многія іншыя. Навуковыя рэдактары тут — маладыя. Усе яны аб'яднаны жаданнем стварыць усебаковы, аб'ектыўны і сціслы нарыс беларускай гісторыі, навукі, тэхнікі, культуры і тым самым шырока паведаміць свету пра нашу нацыю і яе здабыткі.

**Што мы нясём людзям?**

Паслухаем кіраўнікоў рэдакцый:

**Загадчык рэдакцыі мастацтва кандыдат мастацтвазнаўства Гурый Барышаў:**



— Нам адведзена дзесятая частка БелСЭ. Мы рыхтуем артыкулы пра ўсіх народных артыстаў рэспублікі, вядомых мастакоў, архітэктараў, творчых дзеячаў Савецкага Саюза і свету, пра большасць вядомых помнікаў мастацтва, архітэктуры, пра стылі, кірункі, плыні ў гэтых вялікіх галінах чалавечай дзейнасці. Стараемся нічога не забыць і не ўпусціць.

Інфармацыя ў нас будзе самая дакладная, бо атрымліваем яе з «першых рук». Пра грузінскае мастацтва нам пішуць грузіны, пра армянскае — армяне, пра літоўскае—літоўцы... У пошуках патрэбных звестак не існуе ні адлегласцей, ні цяжкасцей.

**Загадчык рэдакцыі фізікі, хіміі, матэматыкі і астраноміі кандыдат фізіка-матэматычных навук Аляксандр Болсун:**



— БелСЭ адлюструе ўсе навейшыя дасягненні атамнага стагоддзя. Будуць змешчаны артыкулы пра тэорыю адноснасці і тэрмаядзерныя рэакцыі, пра дзівосныя па сваіх уласцівасцях элементарныя часцінкі, пра квантавыя генератары. Загадкавы свет новых і звышновых зорак, «чырвонае зрушэнне» і расшырэнне сусвету, квазары і пульсатары, рэліктавае выпраменьванне, якое нясе інфармацыю пра пачатак «стварэння» свету, і іншыя пытанні сучаснай астрафізікі знойдуць месца на старонках нашай нацыянальнай энцыклапедыі.



Віншаванне ад «Маладосці» Аркадзю КУЛЯШОВУ, якому нададзена годнасць народнага паэта БССР і прысуджана прэмія Ленінскага камсамола Беларусі!



«Маладосць» віншуе Максіма ТАНКА з наданнем яму годнасці народнага паэта Беларусі!

**Загадчык рэдакцыі літаратуры, мовы і фальклору Яўген Рапановіч:**

Пра што мы рыхтуем матэрыял? На гэта пытанне дае адказ сама назва рэдакцыі. Найпаўнейшыя звесткі, канечне, будуць пра беларускую літаратуру — ад Кіеўскай Русі да нашых дзён. Асобныя творы, вядомыя і мала вядомыя пісьменнікі, узаемасувязі і ўзаемаўплывы... Ну і, безумоўна, вядучыя пісьменнікі народаў СССР і зарубежных краін. Апроч таго, раскажам пра развіццё беларускага фальклору і беларускай мовы, асветлім найноўшыя плыні і кірункі ў сусветным мовазнаўстве, дадзім звесткі пра структурную лінгвістыку і матэматычныя метады ў мовазнаўстве. Словам, толькі пытанням мовы, фальклору і тэорыі літаратуры адводзім болей за тысячу артыкулаў...



**Загадчык рэдакцыі ўсеагульнай гісторыі Дзмітры Мацяс:**

— Паўстанні, рэвалюцыі, войны, барацьба за нацыянальны і сацыяльны прагрэс — увесь пакручасты і цяжкі шлях чалавецтва будзе прадстаўлены ў БелСЭ трыма тысячамі артыкулаў толькі па нашай рэдакцыі.

**Як мы працуем?**

Праца ў энцыклапедыста ювелірная, філігранная. Артыкулы перарабляюцца дзесяткі разоў, бясконца ўносяцца дапаўненні, папраўкі, змены. Гэта — спецыфічны працэс стварэння энцыклапедыі.

Праца над артыкуламі ставіць перад рэдактарамі, здавалася б, непераадольныя праблемы. У першым томе БелСЭ, напрыклад, будзе артыкул «Аранжавая» (рака ў Афрыцы). Якая яе даўжыня? Савецкія энцыклапедыі даюць лічбу 1 860 км, іншыя даведачныя выданні — 2 205 км, замежныя — 2 150 км і г. д. Мы не ўзялі ніводнай з гэтых звестак. У БелСЭ будзе лічба 2 200 км. Яна ўзята з манаграфіі «Унутраныя воды Афрыкі», аўтар якой Ю. Дзмітрыеўскі шмат гадоў правёў на «чорным кантыненце» і збіраў матэрыял для кнігі з першакрыніц. Гэтая лічба супадае са звесткамі вядомых падарожнікаў, якія асабіста даследавалі раку.

Уменне шукаць, цярпліва даследаваць архівы, вывучаць і аналізаваць дакументы — добрая рыса энцыклапедыста. У той ці іншай меры яна ўласціва большасці стваральнікаў БелСЭ.

Зойдзем, напрыклад, у рэдакцыю гісторыі КПСС, СССР, БССР. У калектыве 8 чалавек. Работнікі ўсе маладыя, любяць новую прафесію і справу, дзеля якой працуюць. Узначальвае рэдакцыю **кандыдат гістарычных навук Іосіф Хаўратовіч.**

У кожнага рэдактара — цікавыя знаходкі. Эдуард Савіцкі (малады вучоны, нядаўна мы віншавалі яго з абаронай кандыдацкай дысертацыі) расказвае пра адзін гістарычны парадокс. Дагэтуль лічылася, што ў Полацку калісьці былі два князі — Андрэй Гарбаты і Андрэй Полацкі. Беларуская энцыклапедыя ўнясе ў гэта пытанне істотную папраўку. Эдуард паказвае артыкул. Чытаю: «Андрэй Гарбаты, асоба, якая ў сапраўднасці не існавала і з'явілася ў гістарычнай літаратуры ад памылковага сцвярджэння ў летапісе Быхаўца, быццам у Кейстута быў гарбаты сын Андрэй, які княжыў у Полацку».

Гэта адно з многіх каштоўных для гістарычнай навукі ўдакладненняў, унесеных рэдакцыяй і яе актывам. Устаноўлены раней невядомыя ці мала-







вядомыя прозвішчы і біяграфіі выдатных дзеячаў паўстання 1863—1864 гг. пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, многіх дзеячаў камуністычнага падполля былой Заходняй Беларусі, гадоў Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны (І. Адамайціс, І. Агрызка, В. Ашмарын, І. Абрамовіч, А. Аленскі і іншыя). Мала хто ведае, што сярод расстраляных у прыкаспійскіх пясках 26-ці бакінскіх камісараў былі выхадцы з Беларусі — Міхаіл Басін і Якаў Зевін, біяграфіі якіх будуць апублікаваны ў БелСЭ. Па крупінках збіраецца гісторыя беларускіх вёсак (каля 4 тысяч артыкулаў прысвечана вёскам — цэнтрам калгасаў і саўгасаў), рыхтуюцца артыкулы пра ўсіх Герояў Савецкага Саюза, якім прысвоена гэтае званне за ваенныя подзвігі ў Беларусі, і г. д. Мы рады за ўсё тое, што ўпершыню адкрылі самі, што знайшлі сваімі сіламі, распыталі ў добрых людзей.

**Пра што мы спрачаемся?**



У рэдакцыі мастацкага афармлення.

У нас надзвычай цікавы калектыў. За адным сталом збіраюцца пісьменнікі і фізікі, гісторыкі і біёлагі, географы і матэматыкі, інжынеры і мовазнаўцы, медыкі, эканамісты і г. д. Кожны сваю навуку нясе ў энцыклапедыю як сцяг. Асобныя работнікі ледзь не слязьмі горкімі плачуць, што іх навуку «заціснулі». Удакладняем літаральна кожны тэрмін, выпраўляем памылкі. Рассылаем слоўнікі ў розныя арганізацыі, атрымліваем прапановы, заўвагі, уважліва абмяркоўваем іх, каб у БелСЭ не было нічога лішняга, нічога непатрэбнага.

Шмат спрачаемся пра мову нашага выдання. Энцыклапедыя —

гэта сцісласць, кожны знак на ўліку, кожны радок дарагі. Мы павінны даць чытачу кароткую, лаканічную і дзелавую інфармацыю па пытаннях, якія яго цікавяць. Кажуць: у спрэчках нараджаецца ісціна. Ёсць спрэчкі — не будзе памылак. І мы ўпэўнены, што ў БелСЭ будуць выкарыстаны ўсе багацці беларускай мовы, захаваны яе самабытныя фарбы.

Невялікаму калектыву БелСЭ трэба выканаць сапраўды тытанічную работу, значная частка якой датычыць беларускай навуковай тэрміналогіі. Не тысяча, а тысячы навуковых тэрмінаў, геаграфічных назваў, уласных імён будуць упершыню напісаны па-беларуску. Іх трэба напісаць правільна, пісьменна, каб яны выражалі сутнасць з'явы ці паняцця.

Ёсць у філасофіі, напрыклад, катэгорыі «истинность» і «ложность». Як перакласці тэрмін «ложь»? Мана? Няпраўда? Ілжывасць? Не тое! Ідуць кансультацыі, збіраюцца тэрміналагічныя камісіі. Пасяджэннямі кіруе віцэ-прэзідэнт АН БССР Кандрат Крапіва. У абмеркаванні ўдзельнічаюць філосафы, мовазнаўцы, літаратары. Пагаджаюцца на такіх тэрмінах—«праўдзівасць» і «непраўдзівасць».

А вось тэхнічны тэрмін «изложница», які ніколі не вымаўляўся па-беларуску, перакладзены на «ўліўніцу», «отторженцы» (геалагічны тэрмін)— на «адторжанцы» і іншае.

Заглянем на хвіліну ў групу транскрыпцыі. Навуковы рэдактар **Нэлі Ясінская** піша на імя галоўнага рэдактара чарговую дакладную. Урывак з яе варта прывесці, бо ў ім — адны пошукі і клопаты:

*«Пры праверцы транскрыпцыі геаграфічных назваў да карт першага тома БелСЭ вялікія цяжкасці выклікала транскрыбіраванне на беларускую мову тэрмінаў з рускімі злучэннямі літар «ди» і «ти» у пачатку, сярэдзіне і ў канцы слова. Інстытут мовазнаўства АН БССР не займаецца праблемамі перакладу неславянскіх тэрмінаў.*

*Загадчык кафедры эксперыментальнай фанетыкі Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута замежных моў, спецыяліст па французскай мове прафесар Барышнікава К. К. лічыць, што гэтыя злучэнні трэба перадаваць цвёрда, паколькі для французскай мовы не характэрна «дзеканне» і «цэканне». Такой жа думкі яна прытрымліваецца і наконт тэрмінаў тых краін, дзе дзяржаўнай мовай была ці з'яўляецца французская.*

*Паводле думкі дацэнта той жа кафедры К. М. Кулакова, мяккасць зычных «д» і «т» не назіраецца і ў англійскай мове.*

*Пры кансультацыях у Маскоўскім інстытуце ўсходазнаўства, у вучонага-арабіста Антановіча А. К., рэкамендаванага інстытутам мовазнаўства АН БССР, у старшага выкладчыка кафедры іспанскай мовы Мінскага дзяржаўнага інстытута замежных моў Бербекі В. С. высветлілася, што ў арабскай, іспанскай і партугальскай мовах зычныя «д» і «т» таксама не змякчаюцца. Гэта ж датычыцца і італьянскай мовы, як сцвярджае выкладчык італьянскай мовы таго ж інстытута Аляксеева Н. К.*

*На падставе гэтых кансультацый мы лічым мэтазгодным рускія злучэнні літар «ди» і «ти» перадаваць праз «ды» і «ты» (у любым становішчы) у англійскай, арабскай, іспанскай, нямецкай, партугальскай і французскай мовах, паколькі ў гэтых мовах наогул не існуе з'явы «дзекання» і «цэкання».*

*У сувязі з гэтым просім выказаць сваю думку наконт транскрыпцыі геаграфічных тэрмінаў па спісу, які прыкладаецца.*

*Адначасова просім вырашыць, як транскрыбіраваць геаграфічныя назвы моваў суахілі, пушту, дары, урду, бенгалі, фарсі, персідскай».*

Гэта яшчэ толькі пачатак размовы. Збяруцца тэрмінолагі, акадэмікі, дактары навук, лінгвісты. Будуць спрэчкі... Прыйдзе правільнае рашэнне!





Геаграфічную тэрміналогію мы імкнемся наблізіць да першакрыніцы, каб назвы гарадоў, раўнін, гор вымаўляліся так, як і там, дзе яны размешчаны.

Асабліва складанае пытанне з біяграфічнымі артыкуламі. Іх колькасць складае каля 20 працэнтаў. Мы лічым, што энцыклапедыя — гэта не пантэон, не помнік прагрэсіўным дзеячам мінулага альбо «дошка гонару» для сучаснікаў. БелСЭ дасць чытачу звесткі і пра рэакцыйных дзеячаў мінулага і сучаснасці з належнай ацэнкай іх поглядаў і дзейнасці. Адбор такіх артыкулаў робіцца з вялікай стараннасцю і строгасцю, каб не трапілі на нашы старонкі другарадныя прозвішчы.

**Пра што марым?**

Як і ўсякі калектыў, аб'яднаны адзінай мэтай, мы марым пра добрыя вынікі нашых пошукаў, роздуму, намаганняў. Мы марым пра тое, каб хутчэй на вашых паліцах сталі ў рад усе 12 тамоў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Мы марым пра тое, каб у артыкулы не трапіла ніводнай памылкі ці недакладнасці. Мы марым заслужыць ва ўсіх падпісчыкаў БелСЭ самае дарагое слова «дзякуй».

Эдуард **ЮШКЕВІЧ**,
кандыдат эканамічных навук,
загадчык навукова-кантрольнай рэдакцыі БелСЭ.



У руках камплектавальшчыка Алеся Жмуроўскага палова першага тома БСЭ.

Фота В. Ждановіча.

*Без кнігі няма ведаў, без ведаў няма камунізма.*
*Ленін.*

**Пад рубрыкай «ДЛЯ ВАС, ДЗЕСЯЦІКЛАСНІКІ» ў мінулым годзе на старонках нашага часопіса надрукаван шэраг матэрыялаў для выпускнікоў сярэдніх школ. Па водгуках, якія паступілі ў рэдакцыю, гэтыя матэрыялы чытачы сустрэлі прыхільна.**

**З гэтага нумара зноў уводзім раздзел у дапамогу дзесяцікласнікам. Пішыце, калі ласка, свае заўвагі і прапановы.**

# ВЫ ПЕРАЙШЛІ Ў ДЗЕСЯТЫ

Дзесяты клас — гэта парог, за якім пачынаецца новае, зусім не вядомае для маладога чалавека жыццё. А таму і невыпадкова, што галоўным чынам у дзесятым класе вучань упершыню па-сапраўднаму сур'ёзна задумваецца, кім быць.

Кім быць, каб і сабе было добра і грамадству карысна?

Амаль кожны з вас ужо да гэтага марыў пра самыя розныя спецыяльнасці, у думках адводзіў сабе месца ў многіх галінах народнай гаспадаркі, навукі і культуры, уяўляў сябе геолагам ці шафёрам, лётчыкам ці ўрачом, настаўнікам ці інжынерам і, вядома ж, артыстам...

Але то былі дзіцячыя мары, а цяпер трэба спыніцца на нечым адным, што найбольш падабаецца, што больш па душы.

Нельга спыняць свой выбар на прафесіі, кіруючыся адным жаданнем, уяўнай любоўю да той ці іншай справы. Абавязкова патрэбна цвяроза і рэальна абмеркаваць, узважыць, ці падыходзіць табе гэтая прафесія, улічваючы твае індывідуальныя якасці і асаблівасці.

Наша выпускніца Люда Мураўчанкава ў дзесятым класе цвёрда вырашыла працаваць на радыёзаводзе — яе захапіла спецыяльнасць настройшчыцы. Праходзячы вытворчую практыку, яна палюбіла гэтую спецыяльнасць і ўпэўнілася, што добрай настройшчыцай нельга стаць без грунтоўных ведаў па фізіцы, матэматыцы, чарчэнню. Тут жа яна пераканалася, якое значэнне маюць для агульнага развіцця чалавека такія прадметы, як гісторыя, мовы, грамадазнаўства, літаратура. Люда сур'ёзна займалася ў дзесятым класе не толькі па прыродазнаўчых і матэматычных прадметах, але і па гуманітарных. Паспяхова закончыўшы школу, Людміла пайшла на радыёзавод, пачала працаваць па выбранай спецыяльнасці.

Цяпер Людміла Мураўчанкава — брыгадзір калектыву камуністычнай працы, актыўны грамадскі работнік, студэнтка вячэрняга аддзялення радыётэхнічнага інстытута.

Неяк я спытаў у Людмілы, ці шчаслівая яна.

— Вельмі шчаслівая,— адказала Люда.— Я адчуваю, што мая праца прыносіць людзям карысць...

Адказ кароткі, але пераканаўчы. Гэта — прыклад сур'ёзных адносін выпускніка да выбару свайго месца ў жыцці.

У свой час, яшчэ дзесяцікласніцай, тая ж Люда гаварыла, што перш, чым пайсці ў інстытут, яна абавязкова папрацуе на заводзе, каб лепш ведаць жыццё. На першым часе яе вабіла радыётэхнічная вытворчасць. Потым выспела думка стаць інжынерам. А сур'ёзнае і цвёрдае рашэнне прыйшло, калі яна папрацавала год на заводзе.

А вось другі прыклад. Выпускнік Сцяпан С. ніяк не мог вырашыць, кім быць. Пра гэта ён сур'ёзна не думаў ні ў дзевятым, ні ў дзесятым класах. На пытанне класнага кіраўніка пра сваю будучую прафесію нават напярэдадні выпускных экзаменаў ён адказваў, што пра гэта падумае пасля. І вось Сцяпан паступіў на будаўнічы факультэт політэхнічнага інстытута. Паступіў таму, што туды паступалі сябры і сказалі, што гэтая спецыяльнасць добрая і патрэбная.

Прайшло ўсяго тры месяцы вучобы, і Сцяпан расчараваўся ў сваёй будучай спецыяльнасці. Ён кінуў вучобу і прыйшоў у школу з просьбай, каб далі яму накіраванне на такое прадпрыемства, якое «яму па душы», як ён выказаўся. А якое, ён і сам толкам не ведаў. У школе было вядома, што Сцяпан, калі быў вучнем, ахвотна слясарнічаў. Яму далі накіраванне на інструментальны завод. Тут хлопец сябе знайшоў. Папрацаваўшы гады два слесарам-інструментальшчыкам, Сцяпан пайшоў на вайсковую службу, а потым вярнуўся на завод. Пасля гэтага ён зрабіў выбар, на гэты раз ужо канчатковы — стаць інжынерам-машынабудаўнікам. Цяпер ён займаецца на вячэрнім аддзяленні політэхнічнага інстытута.

Самае непрыемнае чакае таго выпускніка, які наогул не задумваецца над тым, кім яму быць, а жыве без перспектывы, без радаснага і хвалюючага чакання сваёй жаданай будучыні. На вялікі жаль, ёсць такія. У іх няма грамадскай актыўнасці, ініцыятывы, яны сумуюць там, дзе большасць радуецца і весяліцца, яны амаль нічым добрым не захапляюцца, любяць, каб было больш вольнага часу, а трацяць яго нецікава, без карысці. Калі спытаеш у такога вучня, што ён робіць у вольны час, ён адказвае, звычайна,— нічога. І сапраўды гэта так. Ён нічога не робіць, проста, як кажуць, бадзяецца па вуліцах, парках і скверах.

Такім быў у нас Ігар С. Куды пайсці пасля школы — пра гэта ён не думаў да ліпеня месяца, калі яму ва ўрачыстай абстаноўцы ўручылі атэстат аб сярэдняй адукацыі і пажадалі шчаслівай дарогі ў жыцці. Ігар падаў дакументы ў медыцынскі інстытут. Падаў не таму, што палюбіў медыцыну, ён пра яе нічога не ведаў, а так проста: куды-небудзь трэба ж было ісці. А тут яшчэ мама сказала: «Ідзі, Ігар, у медыцынскі. Ты спакойны, вытрыманы. Гэта якраз тое, што патрэбна ўрачу». Але ж урачу, як і іншаму спецыялісту, патрэбны яшчэ і такія важныя якасці, як працавітасць і разумная настойлівасць. Без гэтага не можа быць і гаворкі пра добрага спецыяліста. У Ігара не хапала гэтых якасцей. У інстытуце ён правучыўся першы семестр, і яго адлічылі за непаспяховасць.

У школе Ігар вучыўся і нават нядрэнна, амаль не меў троек. Але гэта таму, што за кожным яго крокам сачылі бацькі і школа. У інстытуце ж яму далі самастойнасць і магчымасць распараджацца сваім вольным і рабочым часам, чаргаваць працу і адпачынак без дапамогі бацькоў. Сур'ёзнага ж стаўлення да ўсяго гэтага неставала ў Ігара, і ён не здолеў вучыцца ў інстытуце.

Давялося ісці на завод. Але і тут не затрымаўся доўга — праз год ён ужо студэнт тэхналагічнага інстытута. Правучыўся год і кінуў, бо сябры «даказалі» яму, што яго будучая спецыяльнасць нічога не варта. Каля трох месяцаў ён шукаў справу «па душы» і знайшоў яе ў адной тэатральнай установе, стаў там асвятляльнікам.

Кароткі жыццёвы шлях, але колькі зроблена няправільных крокаў. І колькі часу патрачана марна. А гады бягуць — бескарысныя і нецікавыя. І трэба нешта вырашаць...

...Атэстат аб сярэдняй адукацыі... Мусіць, няма такога вучня, які быў бы абыякавы да таго, які ён атрымае атэстат. І не толькі таму, што ён адыгрывае далёка немалаважную ролю пры паступленні ў вышэйшую навучальную ўстанову, а і таму, што ў ім адлюстравана нейкім чынам тваё жыццё.

Здараецца часам, што дзевяць гадоў вучань займаўся паспяхова, без троек. У дзесятым па нейкіх прычынах вучыцца куды слабей і ў выніку атрымоўвае атэстат з тройкамі амаль па ўсіх прадметах. І выходзіць, што ў атэстаце няправільна паказана яго вучоба за дзесяць гадоў. Але ж таму дзесяты і з'яўляецца завяршальным, выпускным: па ўсіх прадметах, за выключэннем геаграфіі і чарчэння, ацэнкі ў атэстат выстаўляюцца тыя, якія вучань атрымоўвае ў дзесятым класе, з улікам гадавых і экзаменацыйных.

Вучні, якія заклапочаны сваёй будучыняй, у якіх акрэсленая мара, ужо з першых дзён навучальнага года дбаюць пра тое, каб рацыянальна пабудаваць свой рэжым дня, старанна працаваць над вучэбным матэрыялам і прыйсці да экзаменаў з трывалымі ведамі.

На жаль, кожны год і ў кожнай школе сустракаюцца такія выпускнікі, якія ў першай і другой чвэрцях не адчуваюць таго, што яны ў дзесятым класе: працуюць слаба, спадзеючыся на другое паўгоддзе, а іншы раз нават толькі на апошнюю чвэрць.

У самага працавітага вучня не хопіць сілы для таго, каб на працягу паўгоддзя,— а тым больш адной чвэрці,— трывала засвоіць вучэбны матэрыял. Апрача таго, у дзесятым класе паўтараецца матэрыял, які вывучаўся раней па матэматыцы, фізіцы, хіміі, гісторыі і літаратуры. Вялікая ўвага звяртаецца на мову. І не выпадкова, што некаторыя выпускнікі на экзаменах выяўляюць слабыя, павярхоўныя веды, трымаюць сябе няўпэўнена, губляюцца, нервуюцца, а часам і кідаюцца ў роспач. Дае сябе адчуць перагрузка.

Напружаная вучоба патрабуе строгага рэжыму дня, прадуманага чаргавання вучэбных заняткаў і адпачынку. Без разумнага адпачынку не можа быць і плённай працы. Вольны час трэба праводзіць на свежым паветры і займаць яго, лепш за ўсё, спортам.

Найбольшая працягласць пляннага вучэбнага часу — не больш пяці гадзін. Перагрузка прыводзіць да стомленасці, да бескарыснай траты часу. Пасля гэтага ву-

чань, калі яго выклікаеш адказваць урок, не можа сабрацца з думкамі, сканцэнтравацца, яго адказы бессістэмныя, нелагічныя. Ён добра ведае тое, што ў яго пытаюць, але свой адказ сфармуляваць пісьменна не можа.

Асабліва важна ўмела чаргаваць працу і адпачынак у часе выпускных экзаменаў. Тут перагрузка вельмі адчувальная.

Выпускнікі дзесятага класа па-рознаму рыхтуюцца да экзаменаў. Адны вывучаюць новы матэрыял і паўтараюць пройдзены ў тым парадку, які прапануюць і якога патрабуюць прытрымлівацца настаўнікі. Пытанні экзаменацыйных білетаў для іх — толькі арыенціры. І гэта — вельмі правільна.

Другія галоўным лічаць экзаменацыйныя білеты. Над імі яны і працуюць. Увесь іншы вучэбны матэрыял для іх — другарадны, і калі ён і паўтараецца, то павярхоўна, абы-як. Невыпадкова, што адказы такіх вучняў на экзаменах кароткія і павярхоўныя. Нязначнае дадатковае пытанне, якое выходзіць за межы экзаменацыйнага білета, застае іх знянацку.

У дзесятым класе даволі часта адбываецца пералом у настроі вучня, у яго адносінах да вучобы і да працы наогул. Адзін з нашых выпускнікоў 1968 года Сяргей Сонцаў да дзесятага класа вучыўся добра, але далёка не па сваіх магчымасцях. Бракавала яму мэтанакіраванасці, настойлівасці і належнай сур'ёзнасці. У дзевятым гэта было асабліва прыкметна. Але ў дзесятым яго нельга было пазнаць: Сяргей пачаў лепш вучыцца, выйшаў пераможцам раённых і гарадскіх алімпіяд па фізіцы і матэматыцы, на ўсесаюзнай алімпіядзе па фізіцы атрымаў дыплом 1-й ступені і пасняхова ўдзельнічаў на міжнароднай у Будапешце. Сяргей закончыў школу з сярэбраным медалем і паступіў у Маскоўскі фізіка-тэхнічны інстытут.

Такіх прыкладаў у нас нямала. Пераважная большасць нашых вучняў стараецца вучыцца добра. У школе стала правілам, што вучыцца дрэнна — сорамна. І асабліва сур'ёзна і настойліва займаюцца дзесяцікласнікі. У выпускных класах ярчэй за ўсё праяўляецца іх пазнавальная актыўнасць, уменне самастойна набываць новыя веды, лагічна думаць і разважаць.

У 1967—68 навучальным годзе нашу школу закончыў 161 вучань. З іх 136 юнакоў і дзяўчат атрымалі атэстат аб сярэдняй адукацыі без троек. 9 вучняў закончылі школу з залатым медалем і 16 — з сярэбраным. 153 выпускнікі паспяхова здалі экзамены ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Увесь наш савецкі народ рыхтуецца дастойна адзначыць светлую дату — 100-годдзе з дня нараджэння У. І. Леніна. Абавязак кожнага школьніка, а тым больш дзесяцікласніка, старанна і настойліва вучыцца, змагацца за глыбокія і свядомыя веды, каб, стаўшы на самастойны жыццёвы шлях, паспяхова здзяйсняць вялікія запаветы Уладзіміра Ільіча.

**Андрэй ТОЧЫН,**
**заслужаны настаўнік БССР,**
**дырэктар школы № 50 г. Мінска.**

*Кніга ёсць маці ўсіх моў і настаўнік усякаму добраму ўменню.*

*Скарына.*

*Будзем не толькі шанаваць і любіць кнігу, але вывучаць кнігу як тварэнне чалавечых рук, як прадукт духоўнай і матэрыяльнай культуры.*

*Герцэн.*

*Кніга, можа быць, найбольш складаны і вялікі цуд з усіх цудаў, створаных чалавецтвам на шляху яго да шчасця і магутнасці будучыні.*

*Горкі.*

*Кнігі — гэта грамадства. Добрая кніга, як добрае грамадства, дае свядомасць і высакароднасць пачуццяў і нораваў. Скажы мне, якія кнігі ты чытаеш, і я скажу табе — хто ты.*

*Пірагоў.*

*Кніга — ёсць жыццё нашага часу.*

*Бялінскі.*





# НАШ ПРАКТЫКУМ

## ФІЗІКА

У 1968 годзе, як і ў папярэднія гады, уступныя экзамены па фізіцы ў БДУ імя У. І. Леніна праводзіліся па білетах, у кожны з якіх былі ўключаны тры тэарэтычныя пытанні з праграмы, зацверджанай Міністэрствам вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі СССР, і адна задача. Задачы падбіраліся з такім разлікам, каб пры іх рашэнні абітурыент мог паказаць веданне асноўных фізічных законаў і ўменне карыстацца імі. Па зместу задачы, якія прапаноўваліся, ахаплівалі ўсе асноўныя раздзелы школьнага курса фізікі. Значнае месца займалі задачы, рашэнне якіх заснавана на выкарыстанні законаў захавання энергіі і колькасці руху, законаў электрычнага току і геаметрычнай оптыкі, а таксама камбінаваныя задачы, якія ахопліваюць некалькі раздзелаў курса фізікі. У якасці прыкладу ніжэй прыводзяцца ўмовы некалькіх задач, што прапаноўваліся абітурыентам фізічнага факультэта (спецыяльнасці: фізіка, радыёфізіка і электроніка). Для абітурыентаў астатніх спецыяльнасцей задачы былі прасцейшыя.

**1.** На падстаўцы вышынёй $h=2{,}5$ м ляжыць шар масай 200 г. Яго прабівае дакладна па дыяметру куля масай 10 г., якая ляціць з хуткасцю 490 м/сек. На якой адлегласці $s$ ад падстаўкі ўпадзе куля на зямлю, калі шар апынецца на зямлі на адлегласці $s_1=10$ м ад падстаўкі? Якая частка кінетычнай энергіі кулі ператварылася ў цеплыню ў момант прабівання шара? Супраціўленне паветра не ўлічваць.

**2.** Маленькі шарык масы $m$, які мае зарад $q_1$ слізгае з вышыні $h$ па нахіленай плоскасці, якая ўтварае з гарызонтам вугал $\alpha$. У вяршыні прамога вугла, утворанага вышынёй $h$ і гарызонтам, знаходзіцца нерухомы кропкавы зарад $q_2$.

Вызначыць скорасць шарыка ля асновы нахіленай плоскасці. Трэнне не ўлічваць.

3. У аднародным электрычным полі з напружанасцю $E$, сілавыя лініі якога накіраваны вертыкальна ўніз, можа вярцецца ў вертыкальнай плоскасці шарык масы $m$ з зарадам $+q$ на нітцы даўжынёй $l$. Якую гарызантальную хуткасць трэба надаць шарыку ў верхнім становішчы, каб нацягненне ніткі ў ніжнім становішчы ў 10 разоў перавышала вагу шарыка?

**4.** Электрычная каструля, магутнасць якой 600 вт, і чайнік на 300 вт уключаны ў сетку паралельна, і вада ў іх закіпае адначасова праз 20 мінут. Праз які час закіпіць вада ў каструлі і чайніку, калі іх уключыць у сетку паслядоўна?

**5.** Адлегласць ад прадмета да пярэдняга фокуса лінзы ўтрая меншая, чым адлегласць ад яго адлюстроўка да задняга фокуса. На колькі зменіцца адлегласць паміж прадметам і яго адлюстроўкам, калі прадмет наблізіць да лінзы на адлегласць $l$?

Фокусная адлегласць лінзы $F$.

## МАТЭМАТЫКА

Гэтыя задачы былі летась на экзаменах па матэматыцы для абітурыентаў, якія паступалі на матэматычны і фізічны факультэты Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

**1.** У прамы кругавы ўсечаны конус упісан шар. Аб'ём гэтага шара складае палову аб'ёма конуса. Знайсці вугал нахілу ўтваральнай конуса да плоскасці асновы.

**2.** У шар радыуса $R$ упісана правільная трохвугольная піраміда. Вылічыць аб'ём піраміды, калі яе рабро нахілена да плоскасці асновы пад вуглом $\alpha$.

**3.** Рашыць сістэмы ўраўненняў:

$$\text{а)}\ \begin{cases} (y+1)^x = 10000 \\ (y^2-1)^{2x-2} = \dfrac{(y-1)^{2x}}{(y+1)^x} \end{cases}$$

$$\text{б)}\ \begin{cases} \sqrt[x-y]{x+y} = 2\sqrt{3} \\ (x+y)\cdot 2^{y-x} = \dfrac{1}{\log_{1/8} 2^{-1}} \end{cases}$$

**4.** Рашыць ураўненні:

$$\text{а)}\ 1+\sin x = \cos x + \operatorname{tg} x,$$

$$\text{б)}\ \sin 2x = \cos 2x - \sin^2 x + 1$$

**5.** Рашыць ураўненне:

$$\lg\sqrt{5x-4} - \lg\sqrt{x+1} = 2 + \lg 0{,}18$$

Рашэнні задач будуць змешчаны ў наступным нумары.

**З лютаўскага нумара пачынаем публікаваць СТАРОНКІ БЕЛАРУСКАЙ ЭТЫМАЛОГІІ.**

*Сто гадоў з дня нараджэння Адама Гурыновіча*
***1869 — 1969***



жыццё, гарэнне, творчасць.

# З ДУМКАЙ ПРА НАРОД

У пачатку 1921 года жыхарка Вільні Канстанцыя Странкоўская перадала вядомаму беларускаму вучонаму і грамадскаму дзеячу Браніславу Тарашкевічу ёмістую папку з рукапісамі, — частку архіва, які належаў яе брату Адаму — Гілярыю Калікставічу Гурыновічу.

Неўзабаве на старонках віленскіх беларускіх выданняў за подпісам Адама Гурыновіча пачалі адзін за адным з'яўляцца яго вершы, напісаныя больш як трыццаць год назад. Так адбылося другое нараджэнне паэта, творчасць якога склала прыкметную старонку ў гісторыі беларускай літаратуры канца XIX стагоддзя.

Браніслаў Тарашкевіч, якому суджана было адыграць ролю хроснага бацькі паэта ў літаратуры і яго біёграфа, не быў у ліку першых, хто грунтоўна пазнаёміўся з творчасцю А. Гурыновіча. Прыарытэт у гэтай справе належыць функцыянерам царскай ахранкі, цэнзарам і следчым, якія пасталіся засведчыць гэтае знаёмства, пакінуўшы ў рукапісах паэта выразны і красамоўны аўтограф — штамп з літарамі ДПЗ («Дом папярэдняга зняволення»). Яшчэ раней вершы А. Гурыновіча былі вядомы навучэнцам Віленскага рэальнага вучылішча, дзе вучыўся паэт, і студэнтам Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута, які стаў для яго сапраўдным універсітэтам жыцця.

З чаго пачынаўся паэт? Шлях Гурыновіча ў літаратуру шмат у чым нагадвае творчы лёс многіх беларускіх паэтаў, яго сучаснікаў і нашчадкаў. Яго паэтычнае слова, сагрэтае шчырай любоўю і спагадаю да абяздоленага працоўнага чалавека, прасякнутае непрымірымай нянавісцю да самадзяржаўнага дэспатызму, бярэ пачатак у матчыных калыханках, былях і паданнях роднага краю, у жыватворчай і невычэрпнай крыніцы народнай паэзіі. Юначую закаханасць у песні роднай зямлі ён захаваў на ўсё жыццё, стаўшы збіральнікам і прапагандыстам скарбаў народнай паэзіі. У варшаўскім штомесячніку «Вісла», які ў той час рэдагаваў вядомы польскі філолаг і этнограф Ян Карловіч, Гурыновіч змяшчае шэраг сваіх артыкулаў па этнаграфіі Беларусі. У 1893 годзе Кракаўская акадэмія навук выдае «Зборнік беларускіх твораў», у якім былі змешчаны сабраныя Гурыновічам у розныя гады творы беларускага песеннага фальклору і этнаграфічныя матэрыялы.

Рана спазнаўшы «слодыч мудрасці кніжнай», малады паэт упарта працуе над сабою. Ён піша лірычныя і сатырычныя вершы, публіцыстычныя артыкулы, апавяданні, займаецца перакладамі рускіх і польскіх класікаў (паэт у дасканаласці ведаў рускую і польскую мовы і пісаў на іх вершы). З літаратурных настаўнікаў А. Гурыновіча трэба ў першую чаргу назваць Някрасава, Кальцова і Багушэвіча, з якімі паэта лучыла глыбокае духоўнае сваяцтва, агульнасць думак і творчых прынцыпаў, грамадзянская страснасць і блізкасць да народу.

Творчасць А. Гурыновіча прыпадае на канец 80-х — пачатак 90-х гадоў. Гэта час, калі, услед за ўзнікненнем рабочага руху, пачынае развівацца масавая пралетарская паэзія. Гэта час рабочых гімнаў, «Варшавянкі», «Чырвонага сцяга», «Кайданнай мазуркі». Асабістае знаёмства з перакладчыкам «Варшавянкі» на рускую мову Г. Кржыжаноўскім, вывучэнне рускай рабочай песні і пралетарскай паэзіі Польшчы не магло не адбіцца на станаўленні А. Гурыновіча як паэта. Пра гэта сведчаць асобныя творы А. Гурыновіча на польскай мове. Пра гэта, відаць, маглі б засведчыць і іншыя яго творы, пахаваныя ў свой час у сейфах жандарскіх устаноў і покуль што не вядомыя нам.

З думкай пра беларускі народ ступіў А. Гурыновіч на літаратурную сцяжыну. Яго творчасць з'явілася сведчаннем росту нацыянальнай самасвядомасці, патрыятычных імкненняў беларускага народа. Разам з тым, паэт-дэмакрат і рэвалюцыянер узнімаў свой голас супраць сацыяльнага зла, у абарону працоўнага чалавека. Услед за Ф. Багушэвічам, які быў для маладога паэта ўзорам бязмежнай адданасці народнай справе, мужнасці і страснай непрымірымасці да прыгнёту, А. Гурыновіч імкнуўся «будзіць у сэрцах думку аб лепшай долі» («Да Мацея Бурачка»). Паэзія А. Гурыновіча — «песня смутная», прасякнутая тугой і смуткам над горам народным, роздумам пра жудасны лёс працоўнага сялянства, якое гібела ў галечы і невуцтве, набывае сацыяльнае, рэвалюцыйнае гучанне:

Няхай хлопцы ўсе
Збіраюцца кучай,
У такім хаўрусе
Станімся мы тучай,
Што дожджыку дась
У нашай злой долі,

Дух падойміць у нас,
Як рунь у тым полі.
І з тэй тучы, як гром
Сярод летняй ночы,
Загручыць усім паном
Загуба у вочы.

Паэтычная творчасць А. Гурыновіча неадрыўная ад яго рэвалюцыйнай дзейнасці. З першага года навучання ў тэхналагічным інстытуце (1887) ён — удзельнік, а потым і кіраўнік нелегальнага студэнцкага «Гуртка моладзі польска-літоўскай, беларускай і маларускай», удзельнікі якога выпісвалі з-за мяжы марксісцкую літаратуру і распаўсюджвалі яе сярод рабочых і сялян. Паказальны той факт, што ўдзельнікі гуртка звярталіся з просьбаю аб прысылцы літаратуры да Г. В. Пляханава.

Безумоўна, дзейнасць членаў гуртка не магла застацца па-за ўвагай паліцэйскіх улад. Над Гурыновічам устаноўлены быў тайны нагляд паліцыі. 16 ліпеня 1893 года ў Вільні, куды паэт выехаў па справах гуртка, ён быў арыштаваны і пад вартай дастаўлены ў Пецярбург. У часе вобыску на кватэры Гурыновіча ў рукі паліцыі трапіла вялікая колькасць нелегальнай літаратуры, а таксама рукапісы, частку якіх улады выкарысталі як абвінавачанне супраць паэта. На следстве паэт пацвердзіў сваё дачыненне да справы «водворения преступных воззваний в пределы России» і заявіў, што ў яго была мэта «падрыхтаваць народ да змены ў будучым эканамічнага і сацыяльнага ладу, якая павінна ажыццявіцца гістарычным шляхам».

Царская ахранка жорстка расправілася з Гурыновічам. Доўгія месяцы зняволення ў крэпасці падарвалі і без таго слабае здароўе паэта. Цяжка хворы, ён быў сасланы пад нагляд паліцыі ў Крыстынопаль Свянцянскага павета Віленскай губерні, дзе ў гэты час жылі яго бацькі. Тут ён захварэў на чорную воспу і памёр 14 студзеня 1894 года.

У адным са сваіх вершаў («Пачакай, мой дружа») А. Гурыновіч, звяртаючыся да паплечніка па рэвалюцыйнай барацьбе, выказваў надзею, што іх праца не пройдзе марна, а дасць багаты плён. Паэту не давялося дажыць да здзяйснення сваіх мар. Але яго слова, прайшоўшы праз дзесяцігоддзі, знайшло водгук у сэрцах удзячных нашчадкаў. І сёння жыве яно — выказнік дум і спадзяванняў беларускага народа, які ў змрочную эпоху самадзяржаўнага дэспатызму, у час «ліхалецця», абуджаўся да свядомай грамадскай і нацыянальнай дзейнасці.

**Дзмітры ГАЛЬМАКОЎ.**







**Рыгор СЕМАШКЕВІЧ. «ЛЕСНІЧОЎКА».**
**Вершы. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1968.**

# УВАХОДЗІНЫ Ў СВЕТ ПАЭЗІІ

«Бессмяротны дух вечназялёных сосен». «Спакойныя далёкія дубы». «Далікатны халадок бярозы». «Шэпт параненай таполі». «Баравое веча». «Лес». Гэта ўзятыя з розных вершаў радкі паэта пра дрэвы. Усе яны з першай паэтычнай кнігі Р. Семашкевіча «Леснічоўка». У ёй дрэвы жывуць і дыхаюць, як людзі, яны ідуць на дапамогу чалавеку. Гэта, калі можна так назваць, даволі своеасаблівая катэгорыя адухоўленасці ў паэтычным слове. Ажывіць нежывыя рэчы, ачалавечыць іх — пад сілу толькі паэзіі.

Семашкевіч — паэт зместу. Для яго галоўнае тое, пра **што** гаворыш, а потым ужо — **як** гаворыш. Можа яно і не так, але здаецца, што ён не звяртае асаблівай увагі на слова з боку знешняга. Слова цікавіць яго сваім унутраным зарадам, сваёй сілай, стрыманай і падчас нябачнай. Таму зразумела, што штукарства са словам зусім не вабіць паэта. «Маё майстэрства — пазбегнуць майстэрства»,— сказаў неяк Яўген Вінакураў. Такім спосабам стварае і Р. Семашкевіч свой прадметны свет. І стварае па-сталаму ўдумліва, па-мужчынску непаспешліва.

Але што значыць «пазбегнуць майстэрства»? Ці не згубны такі крытэрый творчасці? Аказваецца, не. Вось цалкам спакойны, без лішніх асацыяцый і глабальных метафар, здаецца, зусім звычайны верш «Зязюля»:

На кліч зязюлі расквітнее сад.
Ку-ку! Нібы па залатой драбінцы,
Па гуках тых як хараша назад
Спусціцца мне, у далечы прабіцца.
Адзін бясплатны на зямлі прарок
Ты, шэрая, як часам шчасце наша.
Бяздомніца. І толькі галасок
У сэрцы гнездзіцца. А мне не страшна.
Дзень добры! Кліча... Ледзь зара дрыжыць.
І ноччу кліча. Мы даўно паснулі.
Лягчэй вясну без хлеба перажыць,
Чым без зязюлі.

Проста? Так. Свежа? Таксама. Без непатрэбнага штукарства і задушэўна сказана пра так званы вечны прадмет увагі нашай паэзіі. У гэтым вершы сама інтанацыя як быццам апускаецца па «залатой драбінцы». Апошні радок абрываецца — канчаецца драбінка. Стане сумна. Нічога, будзе яшчэ і радасць: «Ты яшчэ смяешся, ты пяеш і дыхнуць свабодна не даеш... Ценем галубінага крыла — вось якой ты лёгкаю была». У паэзіі трэба ўмець і радавацца, і сумаваць. І трэба не страціць адчування меры, бо без яго нядоўга сарвацца да пустазвонства або да

скепсісу. Семашкевіч якраз і валодае гэтым шчаслівым адчуваннем меры, адчуваннем эстэтычнага ў творы.

Пра фарбы ці, дакладней, пра шматфарбнасць паэзіі Р. Семашкевіча. Паэт прызнаецца: «Я люблю каляровы свет». І далей: «Мне здаецца, што свет — гэта фарбы». А потым зусім падзіцячы здзіўляецца: «О, як прыгожа, людзі!»

Паэт сам як бы прымушае чытача ствараць, маляваць, дае яму ў рукі багатую палітру, а самае галоўнае, прымушае задумацца над колерамі. Задумацца пра «шэры попел Асвенціма, Арадура, Майданека», пра «чырвоны сцяг над рэйхстагам».

Ціхім і ясным роздумам пра вячысты шум часу, пра шчасце жыць на сваёй адзінай зямлі, пра вечнасць жыцця вее ад вершаў «Сонца зайшло. Туман клубіцца...», «Маёнтак», «Прыязджайце ў чацвер», «Салдат».

Паэт — сын свайго часу, свайго неўтаймавана-трывожнага веку. І чытаючы вершы Семашкевіча, равесніка Дня Перамогі, равесніка страшнай атамнай бомбы, адчуваеш трывогу яго думак, трывогу яго сэрца. Не, ён не хаваецца ў прыроду, за тыя параненыя сосны, у зацішак лесу, у закутак эпохі.

Свет, які знайшоў спакой
І зусім, відаць, не знае,
Што пагодаю такой
Нават міны прарастаюць...

Проста і строга гучаць словы паэтавай аўтабіяграфіі, напісанай на адным дыханні. «Ахрысціла вайна. Гадавала маці. Жыве вайна. Жыве і маці». Жыве ў думках і асвенцімскі «Цыклон Б», жыве непазбыўная трывога пра трэцюю драму стагоддзя. Паэт заўсёды побач з адважнымі змагарамі далёкага кантынента!

Дзе ж вы, у далінах ці ў горах,
кроўю сыходзіце, людзі?
Вёсачка наша спакойнаю сёння
не будзе.

Слова, аднойчы пастаўленае ў друкаваны радок, вызначае сутнасць паэта не толькі як мастака, але і як асобы, вызначае яго грамадзянскую пазіцыю, запас і зарад яго чалавечнасці.

Хата з сінімі аканіцамі
І півонямі пад акном.
А вось і Лёнька з рыжым барсікам.
Вы ніколі не станеце попелам?

Апошні радок, вырашаны ў форме рытарычнага пытання, гучыць, як пратэст, як патрабаванне грамадзяніна, як заклік да барацьбы за мір на зямлі.

А калі некаторыя вершы (іх адзінкі) і не ўдаліся паэту, то галоўная іх загана — невыразная рэалізацыя задумы, але толькі не драбнатэм'е. Напрыклад, верш «Эмігранты». Няма ў ім разгорнутасці думкі, няма трапнага семашкевічавага заканчэння.

Не лепшым уяўляецца і «касмічнае» вырашэнне тэмы ў вершы «Магіла лётчыкаў». Успрымаецца ён занадта лёгка і вельмі ўжо аптымістычна. Тым больш, што хто толькі не параўноўваў абеліскі з ракетамі, дзе трэба гэта і дзе не... А поспех чакае паэта там, дзе ён з большым даверам адносіцца да чытача і ў тым ліку да сябе.

Гаварыць тут хочацца пра лепшае ў паэзіі Семашкевіча, тым больш, што некаторыя не лепшыя радкі зусім не вызначаюць самага істотнага ў творах паэта.

Ёсць у кнізе верш-сэрца, які даў назву ўсяму зборніку, дзесяцістрофны верш, які дае найбольшае ўяўленне пра творчыя магчымасці Семашкевіча як паэта.

Лясны прыгожы кут,
звініць сасновы хорам.
І леснічоўка тут —
старая казка бору.

Прыведзеныя радкі-ўваходзіны ў свет лесу, у свет леснічоўкі. І «старая казка бору» паволі набліжаецца, свеціцца нейкім унутраным святлом, агортвае лясным халадком і пахам:

Прапахла ўся як ёсць
Жывіцай і зуброўкай.
Які загляне госць
У гэту леснічоўку?

Лёгкая рамантычнасць паступова набірае адценні гераічна-рэальныя, канкрэтныя, і тады вобразы дыхаюць свабодна і шырока, успрымаюцца адчувальна і значна:

Ледзь задрыжыць зямля —
Падоўгу шыбы звоняць,
Нібы ляцяць здаля
Байцы на яўку сёння.

Дзіўная ўсё-такі тканіна гэтага верша! Як арганічна пераплецены ў ім час і прастора, гукі і фарбы:

Зязюля будзіць свет,
На зоры не займае.
Шум бору чуе дзед
І ў студзені і ў маі.

Наогул, трэба сказаць, што амаль усе вершы кнігі вылучаюцца адметнай і густой каларытнасцю як мыслення, так і жывапісу, менавіта, нацыянальнай каларытнасцю. І гэта з лепшага боку характарызуе ўсё напісанае маладым паэтам.

Семашкевіч заўсёды ў падарожжы пачуцця і думкі, у падарожжы, якое і надалей абяцае адкрыцці. І ён шчыра запрашае чытача:

Сабраўшыся удвух
Для новае вандроўкі,
Давай мы сходзім, друг,
Пяшком да леснічоўкі.

Дарога будзе ісці між дрэў, пасаджаных добрымі рукамі паэта, які сам прызнаецца, што «найбольш сябруе з дзецьмі і дрэвамі».

Так здаецца і мне.

**Юрка ГОЛУБ.**








**Арсень ЛІС. МІКОЛА ШЧАКАЦІХІН. Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1968.**

# ЛЯ ВЫТОКАЎ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА

За трыццаць пяць гадоў існавання серыі «ЖЗЛ» («Жыццё выдатных людзей»), выпуск якой здзяйсняе выдавецтва «Маладая гвардыя» ў Маскве, пра беларускіх дзеячоў там не выйшла ніводнай кнігі. Не бяруся даходзіць да прычын гэтага, а спыняю свой позірк на невялічкай кніжцы Арсеня Ліса пра чалавека, з чыім імем звязан пачатак мастацкай крытыкі ў Беларусі,— пра Міколу Шчакаціхіна. Яна не першая ў непазначанай, але ўжо акрэсленай серыі кніжак, выпуск якіх прадпрымае выдавецтва «Навука і тэхніка» ў Мінску, маючы на мэце знаёміць чытачоў з людзьмі, што пакінулі глыбокі след у жыцці рэспублікі. Не першая і ў творчым актыве маладога даследчыка і пісьменніка. Два гады таму назад ён пазнаёміў нас з жыццёвым шляхам слаўнага сына беларускага народа, мужнага абаронцы інтарэсаў працоўных, вучонага-патрыёта Браніслава Тарашкевіча. Летась выйшла праца Дзмітрыя Бугаёва пра аднаго з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы Максіма Гарэцкага. Усё гэта першыя захады на ніве стварэння папулярных нарысаў пра выдатных людзей, што звязалі свой лёс з Беларуссю. Выданне такіх нарысаў—зарука таго, што народзіцца і ў нас серыя, вартая горкаўскай задумы.

Хто ж такі Мікола Шчакаціхін? Сын маскоўскага інжынера і выкладчыцы гімназіі пасля заканчэння ўніверсітэта і працы на самых розных франтах будаўніцтва маладой савецкай культуры трапляе ў 1922 годзе ў Мінск. Прыязджае якраз у пару фарміравання выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі, каб «узяцца за сталую даследчую працу».

Ён прыехаў да нас як сын часу. Занятыя надзённымі неадкладнымі справамі, мы звычайна і не заўважаем быстраплыннай ракі часу. Але бывае так, што час раптам паўстане перад намі ўвесь цалкам — ледзь не ад эпохі будаўніцтва старажытнаегіпецкіх пірамід да падзей сённяшняга дня. І часцей за ўсё гэта бывае пад уздзеяннем прачытаных кніг.

Вось так і пасля прачытання кнігі Арсеня Ліса, якая мае паэтычны падзагаловак «Харавство непазнанай зямлі». Ідучы следам за бескарыслівымі крокамі маладога вучонага па цаліне беларускай навукі, аўтар як бы дзівіцца кожнай скібіне, выаранай ім напаверх, каб відаць было, як пад жыватворчым ветрам рэвалюцыі закладваўся і няўхільна рос гмах нацыянальнай сацыялістычнай культуры Беларусі. Рос не на голым месцы, а на трывалым падмурку даўніх традыцый, што ішлі ажно ад старажытнасці.

«Было ў народу сваё, як імя і голас, багатае мастацтва,— заўважае на пачатку Арсень Ліс,— але не было навукі аб ім». І вось з'явіўся чалавек, які ўсе свае веды, увесь вопыт, а галоўнае запал маладое душы, скіроўвае на стварэнне беларускай мастацтвазнаўчай навукі.

З працы выкладчыка толькі што створанага першага ў Беларусі ўніверсітэта пачынаецца новая, асаблівая старонка жыцця Міколы Шчакаціхіна. З працы натхнёнай, самаадданай, нават, самаахвярнай. «За нейкіх дзесяць месяцаў,— чытаем мы ў кнізе,— Шчакаціхін распрацаваў самастойны курс гісторыі беларускага мастацтва і з кастрычніка 1923 года з благаслаўлення Пічэты пачаў чытаць яго студэнтам. А праз год абараніў дысертацыю на гэтую тэму пры адзінагалосным адабрэнні і нават захапленні вучонай аўдыторыі».

Што гэта, як не подзвіг! Подзвіг акрыленага Кастрычнікам маладога працаўніка навукі, для якога Беларусь станавілася краем «духоўнага нараджэння». А калі дадаць да гэтага пераказаную аўтарам у кнізе газетную інфармацыю пра тое, як «лектар здзівіў слухачоў, якія ведалі,

што Шчакаціхін год таму назад упершыню пачуў жывое беларускае слова, сваёй дасканалай мовай» — відавочнасць подзвігу яшчэ пабольшае. Ад сябе магу дадаць, што і мне, тады вучню сямігодкі, даводзілася неаднойчы бываць на публічных лекцыях Шчакаціхіна па беларускаму мастацтву і захапляцца высокай культурай яго слова, што гаварылася пабеларуску. Дарэчы, у кнізе засталася абмінутай гэтая сфера дзейнасці мастацтвазнаўцы, як прапагандыста мастацтва ў масах. А на яго лекцыях у тэатры, у Доме працасветы, у Доме культуры ніколі не было вольных месц.

Кніга Арсеня Ліса ў аснове сваёй бібліяграфічны нарыс, бо ў ім больш праяўлена ўвагі да падрабязнага аналізу канчатковых вынікаў дзейнасці маладога мастацтвазнаўцы, чым да паказу самога працэсу пошукаў навуковай ісціны, творчай лабараторыі Шчакаціхіна і яго інтымнага жыцця. Аднак жа каштоўнасць нарыса ад гэтага не меншае, бо пры нашай яшчэ і сёння малой дасведчанасці ў гісторыі культуры беларускага народа прачытаць хоць бы пераказ артыкулаў Міколы Шчакаціхіна і яго фундаментальнай працы «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» — значыць, духоўна ўзбагаціцца, пашырыць свой агульны кругагляд.

Неяк на адной сустрэчы пісьменнікаў з дойлідамі, што праектуюць новую забудову беларускай вёскі, маладыя архітэктары катэгарычна адмаўлялі пераемнасць традыцый нацыянальнага дойлідства на той падставе, што традыцый ніякіх нібы і не было. Пачытайце, шаноўныя сябры, хоць бы нарыс Арсеня Ліса пра Міколу Шчакаціхіна, і вы пагодзіцеся з абгрунтаваным вывадам вучонага аб тым, што «абасобленае становішча Полацкай зямлі... спрыяла ў асноўнай масе пэўнай сталасці ў перапрацоўцы ўсходніх традыцый на мясцовым грунце і стварэнню даволі арыгінальных канструкцый». Прыкладна тое ж,—арыгінальнасць, самабытнасць архітэктуры,— даследчык бачыў і ў замкавым ды ваенным будаўніцтве XIII—XVI стагоддзяў і ў развіцці беларускай готыкі XVI стагоддзя. Арыгінальнасць і самабытнасць. На жаль, час пакінуў вельмі мала помнікаў, каб можна было навочна пераканацца ў правільнасці вывадаў першага даследчыка беларускай архітэктуры. Варта было б хоць перавыдаць навуковую спадчыну Міколы Шчакаціхіна, які многія з помнікаў даследаваў «уласнаручна».

Мікола Шчакаціхін паказаны ў нарысе вучоным шырокага дыяпазону. Яго цікавіць у роўнай ступені гісторыя і сучаснасць, нацыянальнае і сусветнае: французскі мастак Фелікс Валатон і беларускі асветнік Францішак Скарына, нямецкі графік Даніэль Хадавецкі і старажытная беларуская архітэктура, прыкладное мастацтва даўняга часу і надзённыя праблемы выяўленчага мастацтва на Беларусі... Але гэта быў не кабінетны «сядун», а актыўны грамадскі дзеяч. Іменна гэтую адменную якасць вучонага падтрымлівае аўтар нарыса: «Роля, якую Мікола Шчакаціхін пачынаў адыгрываць у мастацкім жыцці рэспублікі як тэарэтык, няўхільна мусіла прывесці і прывяла яго да штодзённай канкрэтнай практычнай дзейнасці на фронце культурнага будаўніцтва». Арсень Ліс шмат увагі аддае паказу практычных захадаў мастацтвазнаўцы па абмеру помнікаў старажытнасці, па арганізацыі першых усебеларускіх мастацкіх выставак, па праектаванню вышэйшай мастацкай адукацыі на Беларусі, па заснаванню Усебеларускай асацыяцыі мастакоў і г. д.

Таленавітасць вучонага, між іншым, і ў тым, колькі даўгавечныя яго вывады і абагульненні, як памагаюць яны сёння вытлумачваць многія праблемы жыцця ў мастацтве. Аўтар нарыса Арсень Ліс хоць і піша пра з'яву гістарычную, але паказвае нам яе, нібы ўслухоўваючыся ўвесь час у галасы, бывае, і не надта выразныя, таго наваколля, якое атуляе даследчыка і літаратара ў нашы дні. На самыя надзённыя праблемы нацыянальнай культуры ён глядзіць, калі гэта магчыма, праз прызму вучонага, які ўмеў з лёту ўлоўліваць павевы часу, прыналежнага рэвалюцыі, умеў бачыць у мастацтве галоўнае — вобразнае выяўленне думак і пачуццяў агульназначных. Вось чаму так выразна акцэнтуе Арсень Ліс увагу на тыя мясціны ў працах Шчакаціхіна, якія прыстасоўны да нашай творчай штодзённасці.

«Карэнныя прычыны застою мастацтва,— піша аўтар нарыса,— ён бачыў у пашырэнні няправільных уяўленняў аб гістарычных традыцыях беларускага мастацтва і ў сувязі з гэтым аб няправільнай, аднабаковай арыентацыі практыкаў мастацтва». Паводле яго слоў, нават прыхільнікі беларускай культуры нярэдка думаюць, што «апрача арнаменту ў галіне вобразных мастацтваў, у нас не было створана нічога самастойнага і арыгінальнага». «Нацыянальнае ў мастацтве,— справядліва адзначаў вучоны,— тлумачыцца толькі як бытавое, і гэта, у лепшым выпадку, утрымлівае мастакоў у межах сялянскіх матываў або дэкаратыўных узораў, узятых з вясковых вышывак і паяскоў». Да слушнасці гэтых вывадаў, зробленых сорак гадоў таму назад, варта прыслухацца і сёння тым, хто заводзіць часам спрэчкі наконт нацыянальнай своеасаблівасці твораў мастацтва, уяўляючы нацыянальнае надта спрошчана.

Са старонак нарыса перад намі паўстае апантаны самабытнымі ідэямі вучоны, які стаяў на чале нацыянальнай школы беларускага савецкага мастацтва і клікаў «творцаў узяць барвы для сваіх палотнаў ад роднага неба, ад мяккіх сіне-зялёных таноў беларускіх краявідаў, пранікнуцца эстэтычным ідэалам свайго народа, выявіць яго мастацкі лад мыслення», вылучаў на першы план забытыя пытанні аб ролі вобразнага мастацтва як сацыяльнага і культурнага фактару і аб прыцягненні яго да ўдзелу ў сучасным культурным будаўніцтве.

Таленавітая спадчына Міколы Шчакаціхіна, пра якую так шырока і натхнёна расказвае Арсень Ліс, просіцца на службу да нашых сучаснікаў, тых, «хто сёння будуе далей некалі распачаты гмах беларускай савецкай культуры, хто словам, пэндзлем і разцом служыць узвышэнню чалавека — будаўніка самага справядлівага грамадства на зямлі».

Кніга Арсеня Ліса чытаецца, не пераводзячы духу. А гэта — сведчанне шчырай улюбёнасці аўтара ў прадмет даследавання. Чытаць яе лёгка, хоць і даследуюцца ў ёй спецыфічныя пытанні выяўленчага мастацтва ды архітэктуры, бо напісана яна чалавекам, які ведае роднае слова і ўмее яго шанаваць. Праўда, часам, захапіўшыся стылем самога Шчакаціхіна, і аўтар нарыса пра яго пачынае стылізаваць, асабліва ў лексіцы, пад мову тых першых паслярэвалюцыйных гадоў, калі многае толькі прыводзілася да нормы. Цяжка прыняць за словам «перад» тое значэнне, якое надае яму, і даволі часта, аўтар нарыса, пішучы, напрыклад, так: «Перад у шырока распачатай працы... вялі, натуральна, вучоныя». Прыметнік «дольны» ў сэнсе «ніжні», як і «горняя» частка, у сэнсе «верхняя», не вызначаюцца выразнасцю і граматычнай унармаванасцю. Прыкра сустрэць неадрэдагаваныя стылістычна фразы, накшталт такой: «Не было ды і не магло быць ва ўмовах двух стагоддзяў **заняпаду сінтэзу традыцый,** культурна-нацыянальнай ідэі». Што тут да чаго? І гэта тым больш недаравальна, што ўвогуле аўтар нарыса піша проста, сакавіта, самабытна («Народная легенда праўдзіла», «Шчакаціхін ...пільнуецца сваёй працы»), смела аднаўляе забытую мастацтвазнаўчую тэрміналогію: помаз пэндзля, гафтаванне, сутарэнная частка царквы, фасадны мур... Свабодная плынь апавядання настройвае чытача на даверальны да аўтара лад думак і выклікае шчырую пашану да здзейсненага.

Калі Арсень Ліс піша пра «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва» Шчакаціхіна, што «для сусветнай навуковай думкі гэта было адкрыццё яшчэ аднаго народа праз яго мастацкую творчасць і гісторыю, выражаную ў гэтай творчасці», дык тое ж самае можна сказаць і пра нарыс самога аўтара, што адкрыў яшчэ аднаго дзеяча беларускай навукі праз яго натхнёную навуковую творчасць на карысць народу, абуджанага рэвалюцыяй да гістарычных здзяйсненняў.

**Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

# БРОНЗАЙ ЗАЗВІНІЦЬ



З партрэта работы В. Волкава.

Ёсць людзі, жыццё якіх само па сабе мастацтва. Дастаткова толькі натхнёна адлюстраваць характво гэтага жыцця, і атрымаецца паэма. У слове, у бронзе, у гуку. Такім чалавекам быў Максім Багдановіч. Непаўторны, выключна своеасаблівы і выразны знешні воблік паэта, трагічны, поўны суровых выпрабаванняў лёс — усё гэта глыбока хвалюе кожнага, хто хоць бегла пазнаёміцца з яго творчай біяграфіяй, усё гэта быццам само просіцца на мову мастацтва. Багдановіч на Волзе, сустрэча Багдановіча з радзімай, пра якую ён так доўга марыў на берагах рускай ракі, Багдановіч у Ялце,— амаль кожны з этапаў жыцця вялікага беларускага паэта можа стаць карцінай, поўнай сапраўднага хвалявання.

А цудоўныя вершы і паэмы Багдановіча... Даследчыкі творчасці паэта яшчэ недастаткова звяртаюць увагу на той выяўленчы пачатак, якім вызначаецца большасць яго твораў. Паэтычныя вобразы Багдановіча амаль заўсёды зрокава-канкрэтныя. Думка Бялінскага аб тым, што «паэзія выяўляецца ў свабодным чалавечым слове, якое ёсць і гук, і карціна, і пэўнае, ясна выяўленае ўяўленне», цалкам стасуецца да паэзіі Багдановіча.

Амаль кожны верш Багдановіча — гэта вельмі тонкі, закончаны ва ўсіх дэталях малюнак.

I тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька,—

гэта ж закончанае жывапіснае палатно, глыбокае па думцы, цудоўнае па кампазіцыі, багатае сапраўды мастацкімі дэталямі! Тут і наша гісторыя, і тэма радзімы, жыцця і мастацтва, і суровы лёс беларускай жанчыны таго часу.

Багдановіч глыбока і тонка разумеў мастацтва, у тым ліку і выяўленчае, высока ацэньваў працу мастака. Ён захапляўся «прыгожым трудом» афарміцеля кнігі, які «спляценнем завіткоў, усякімі цвятамі» ўпрыгожвае «свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі» («Перапісчык»). Для Багдановіча створаны мастаком вобраз — гэта ўвасабленне ўсяго самага дасканалага, самага прыгожага на зямлі.

Я далёкі ад думкі, што нашы мастакі не знаёмы з творамі Багдановіча і наогул не цікавяцца творчасцю беларускага майстроў слова. Але ж гэта факт, што ў беларускім выяўленчым мастацтве творчасць Багдановіча (як, дарэчы, і іншых нашых класікаў) не знайшла яшчэ таго адлюстравання, як, скажам, творчасць Пушкіна ў рускім мастацтве або Шаўчэнкі ва ўкраінскім.

I таму асаблівай увагі заслугоўваюць тыя, хоць і нямногія, але вельмі цікавыя работы, якія ў розныя часы і ў розных відах выяўленчага мастацтва беларускія мастакі прысвяцілі Багдановічу і яго творчасці.

Нам не вядомы ні адзін мастацкі партрэт, зроблены з Багдановіча пры яго жыцці. Смерць вельмі рана забрала паэта, ды і слава яго тады была не такая вялікая, каб хто-небудзь з нешматлікіх у той час беларускіх мастакоў мог зацікавіцца яго асобай.

Першыя мастацкія творы, прысвечаныя Багдановічу, з'явіліся толькі ў 1927 годзе. Да стварэння вобраза Багдановіча звярнуліся самыя лепшыя тагачасныя нашы мастакі: жывапісец Валянцін Волкаў і скульптар Аляксандр Грубэ. Забягаючы крыху наперад, адзначым, што работа Грубэ з'яўляецца сапраўдным шэдэўрам беларускага мастацтва і ў той жа час адной з вяршынь творчых дасягненняў скульптара.

На пачатку 30-х гадоў вельмі паспяхова пачаў развівацца жанр партрэта. Нашы жывапісцы, скульптары і графікі прысвячалі свае творы грамадскім дзеячам, стваралі вобразы лепшых прадстаўнікоў навукі і культуры. Ужо на першай усебеларускай мастацкай выстаўцы, якая адбылася ў 1925 годзе ў Мінску, былі паказаны такія вельмі цікавыя работы, як «Бюст Ф. Скарыны», «Партрэт Я. Коласа» і «Партрэт старшыні ЦВК БССР А. Чарвякова» А. Бразэра, «Партрэт Я. Купалы» П. Гуткоўскага, «Бюст Кастуся Каліноўскага» і «Праект помніка Кастусю Каліноўскаму» А. Грубэ, «Кастусь Каліноўскі» В. Волкава і многія іншыя. Цікава, што большасць гэтых работ створана па заказах розных дзяржаўных устаноў: Інбелкульта, Народнага камісарыята асветы БССР і іншых.

Менавіта па заказу Інбелкульта ў 1927 годзе, да дзесяцігоддзя з дня смерці Багдановіча, жывапісец Валянцін Волкаў напісаў першы партрэт паэта. Агульным напрамкам сваіх фармальных асаблівасцей партрэт Багдановіча звязаны з рэалістычнымі традыцыямі Расійскай Акадэміі мастацтва, якую жывапісец скончыў у 1915 годзе. Багдановіч паўстае перад намі задумлівым юнаком з правільнымі рысамі твару, з невялікімі вусікамі і хвалістымі густымі цёмнымі валасамі.

Мастаку ўдалося перадаць знешняе падабенства паэта, асаблівасці яго засяроджанага позірку. Партрэт выкананы мяккімі паўтанамі, у характэрнай для манеры Волкава ўмбрыста-карычняватай каляровай гаме. Кантраснасць святла і ценю адразу прыцягвае ўвагу гледача да твару: з лёгкага паўзмроку цёплай каляровай гамы на нас глядзяць уважлівыя, адухоўленыя вочы паэта.

Але, гаворачы аб станоўчых мастацкіх якасцях партрэта (знешняе падабенства, прыемнасць каляровай гамы, упэўнены, свабодны малюнак), нельга не адзначыць, што гэтай рабоце мастака нестае глыбокага пранікнення ва ўнутраны свет паэта, у яго псіхалогію, жыццё і творчасць. Партрэт напісаны халаднавата: перад намі не паэт-мысліцель, не чалавек трагічнага лёсу, а звычайны ліцэіст. Гэтае ўражанне падмацоўвае і кніжка, некалькі штучна прыпісаная да партрэта.

Вобраз Багдановіча вельмі цікавіў скульптара Аляксандра Грубэ, які з 1924 па 1941 год працаваў у Мінску і якому належыць шэраг цудоўнейшых твораў, што назаўсёды ўвайшлі ў духоўную скарбніцу беларускага выяўленчага мастацтва. Работа Грубэ — пагрудны бюст Максіма Багдановіча (вышыня 61 сантыметр) быў вылеплены спачатку ў гліне, а потым у гіпсе. Па агульнай кампазіцыйнай будове і трактоўцы вобраза, у прыватнасці рысаў твару, гэта псіхалагічны партрэт з даволі ярка выяўленымі ўнутранымі перажываннямі. У спакойным нахіле галавы паэта, у задуменным, накіраваным крыху ўніз позірку адчуваецца чалавек вялікай думкі, тонкіх і глыбокіх пачуццяў.

Адной з найбольш выразных дэталей работы Грубэ з'яўляюцца рукі, якія скульптар вельмі ўдала ўвёў у кампазіцыю твора, зрабіўшы іх важным сродкам эмацыянальнага ўздзеяння. Рукі Багдановіча пададзены ў абрэзе знізу амаль да кісцей. На іх спакойна, як на апоры, схілена галава паэта. Трэ-



А. Грубэ. Партрэт Максіма Багдановіча.

ба сказаць, што гэты мастацкі прыём для нашай скульптуры быў тады новы і смелы. Праўда, у заходнееўрапейскім мастацтве ён і раней даволі паспяхова ўжываўся ў творчасці скульптараў імпрэсіяністычнага напрамку, асабліва ў некаторых работах Радэна.

Работа Грубэ вельмі цікавая і па сваёй лепцы. Яна выканана шырока, эскізна, падрабязна распрацаваны толькі тыя мясціны, якія праліваюць святло на характар паэта, на яго ўнутраны свет. А другарадныя дэталі вылеплены ў свабоднай імпрэсіянісцкай манеры, без асаблівай распрацоўкі, і гэтае спалучэнне закончаных і толькі азначаных штрыхоў садзейнічае жывому і непасрэднаму ўражанню.

Бюст Грубэ зроблены на падставе вывучэння фатаграфій Багдановіча. Але скульптар не абмежаваўся толькі перадачай знешняга падабенства, а стварыў абагульнены, сінтэзаваны вобраз паэта. Яго скульптурны партрэт увесь прасякнуты нейкім своеасаблівым, крыху журботным і ў той жа час светлым, спакойным настроем, які перадаецца гледачу і прымушае яго перажыць мастацкі твор, як перажываў яго, відаць, сам скульптар.

Як і самога паэта, скульптурны партрэт напаткаў трагічны лёс. У гады Вялікай Айчыннай вайны, разам з іншымі цудоўнымі творамі беларускага выяўленчага мастацтва (у тым ліку і жывапісным партрэтам Волкава), ён быў вывезены ў Германію. Пасля вайны волкаўскі партрэт удалося адшукаць, а работа Грубэ загінула. Але па ўспамінах усіх, хто бачыў гэты цудоўны твор, і па здымках, якія захаваліся, можна з поўнай падставай меркаваць пра яго мастацкія вартасці.

Пасля 30-х гадоў работа над увасабленнем вобраза Максіма Багдановіча ў выяўленчым мастацтве была надоўга перапынена. І толькі амаль праз трыццаць год творы, прысвечаныя Багдановічу, зноў з'явіліся на мастацкіх выстаўках, у музеях, у зборніках твораў паэта. Гэта, перш за ўсё, ксілаграфія маскоўскага графіка Ю. Растоўцава «Партрэт М. Багдановіча», што змешчана ў зборніку выбраных твораў паэта, перакладзеных на рускую мову (1953), а таксама два пагрудныя бюсты Багдановіча, зробленыя ў 1957—1958 гадах беларускімі скульптарамі З. Азгурам і Г. Мурамцавым.

Трэба адразу сказаць, што ў сэнсе мастацкай выразнасці гэтыя тры творы не ідуць ні ў якое параўнанне з работаю Грубэ. Не гледзячы на тое, што работы Растоўцава і Мурамцава выкананы ў розных матэрыялах, у сэнсе псіхалагічнай характарыстыкі яны даволі блізкія адна да адной. І скульптар і графік добра перадалі знешні воблік паэта, сканцэнтраваўшы ўвагу ў асноўным на засяроджаным, удумлівым позірку Багдановіча, падкрэсліўшы ў твары рысы нейкага своеасаблівага аскетызму, глыбокай задумёнасці.

Далейшая работа беларускіх мастакоў над стварэннем вобраза Багдановіча прывяла да новых творчых вынікаў.

Звяртае на сябе ўвагу скульптурны партрэт паэта, выкананы С. Вакарам. У адрозненне ад усіх папярэдніх скульптур, прысвечаных Багдановічу, работа Вакара з'яўляецца не пагрудным бюстам, а фігурнай кампазіцыяй.

Сяргей Вакар працаваў над сваёй скульптурай амаль тры гады. Я не раз сустракаў маладога скульптара ў беларускім аддзеле Ленінскай бібліятэкі, дзе ён самым сур'ёзным чынам вывучаў усе матэрыялы, звязаныя з жыццём паэта, многа разоў перачытваў яго творы. Варыянты кампазіцый у майстэрні скульптара змяняліся, пакуль, нарэшце, не быў знойдзены апошні, той, які найбольш адпавядаў задуме аўтара.

Для канчатковага эскіза Вакар выбраў адзін з самых хвалюючых і ў той жа час драматычных момантаў у жыцці паэта: вяртанне Багдановіча на радзіму, калі ён упершыню пасля доўгай разлукі ўбачыў сваю занядбаную зямлю. Задума скульптара ўяўляецца нам удалай і смелай, бо яна давала магчымасць раскрыць усю глыбіню пачуццяў паэта, яго адносіны да роднай зямлі, карацей кажучы, паказаць усё тое, што і абумовіла сілу паэтычнага таленту беларускага песняра.

Як жа справіўся малады скульптар з той складанай задачай, якую ён паставіў перад сабой? Ідэйны змест твора абумовіў яго кампазіцыю. Максім Багдановіч (яго постаць вылеплена вышынёй у 2,5 метра) стаіць, склаўшы рукі, і пільна ўглядаецца ў далячынь. На задуменным яго твары, у журботных, як яго вершы, вачах адлюстраваны і смутак, і глыбокі боль за радзіму, і разам з тым вялікая вера ў лепшую долю свайго народа. Здаецца, у душы паэта нараджаюцца радкі:

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня...

Вакараўскі Багдановіч зроблены пад уплывам лепшых узораў сучаснай савецкай скульптуры. Лепка яго ўмоўная, крыху нават стылізаваная. Усю ўвагу скульптар звярнуў на твар паэта, астатнія дэталі пададзены без дэталёвай распрацоўкі. Дзякуючы гэтаму, увага гледача адразу спыняецца на галаве скульптуры, якая з'яўляецца дамінантай ва ўсёй кампазіцыі.

Вядома, твор маладога скульптара нельга лічыць поўнасцю дасканалым. Ёсць тут і свае недахопы, што абумоўлены адсутнасцю вопыту, маладосцю самога аўтара.

Параўноўваючы, напрыклад, вакараўскага Багдановіча з творам Грубэ, нельга не звярнуць увагу на тое, што вакараўскай скульптуры яшчэ не хапае той надзвычай задушэўнай паэтычнасці, унутранай засяроджанасці і глыбіні, якімі так вылучаецца Багдановіч у Грубэ.

Але ад канчатковай ацэнкі працы Вакара трэба пакуль што ўстрымацца. Малады скульптар вельмі патрабавальна ставіцца да сябе і ўжо некалькі год працягвае працаваць над сваім Багдановічам, увесь час шукаючы найбольш выразнага рашэння. Ён трэці раз пераводзіць скульптуру з аднаго матэрыялу ў другі. Спачатку яна была вылеплена ў гліне, потым адліта ў гіпсе, а цяпер Вакар выразвае сваю скульптуру з дрэва — з таго матэрыялу, які асабліва звязаны з традыцыямі беларускага выяўленчага мастацтва.

Да стварэння вобраза Багдановіча неаднаразова звярталіся і іншыя беларускія жывапісцы, скульптары і графікі: А. Ліпень, Я. Раманоўскі, А. Заспіцкі. Няма неабходнасці дэталёва аналізаваць гэтыя творы. Пры ўсіх недахопах, яны, бясспрэчна, сведчаць аб тым, што ў сучасны момант у нашай рэспубліцы ўжо ёсць дастаткова майстроў, якія здольны вырашыць складаныя творчыя задачы, што стаяць перад беларускім нацыянальным выяўленчым мастацтвам.

На юбілейнай выстаўцы, побач з палотнамі аб чалавеку нашай эпохі, мы бачылі працы, прысвечаныя Ф. Скарыне, К. Каліноўскаму, Я. Купалу, Я. Коласу. Хацелася б, каб пасля закрыцця выстаўкі гэтыя работы не ляглі мёртвым грузам у запасніках музеяў і майстэрнях мастакоў, а знайшлі свае месца на нашых вуліцах і плошчах, у мазаічных фрэсках і пано, у творах дэкаратыўнага мастацтва, у манументальных роспісах, у скульптуры. Менавіта гэта і з'яўляецца адным з тых вельмі важных фактараў, якія, нарэшце, павінны надаць беларускім гарадам тое арыгінальнае аблічча, што так уласціва Маскве, Ленінграду, Таліну, Варшаве і многім іншым гарадам.



**Фрагмент статуі С. Вакара «Максім Багдановіч».**

Што ж да Максіма Багдановіча, то паэт, які ў свае апошнія хвіліны, трымаючы кнігу «з друкарні пана Марціна Кухты», знаходзіў сілы верыць, што назаўсёды застанецца ў памяці нашчадкаў, бясспрэчна, мае права на тое, каб «бронзай зазвінець» на адной з вуліц нашай сталіцы.

**Віктар ШМАТАЎ.**

# АФРЫКАНСКІ ЭКРАН

## АФРЫКА ВАЧЫМА БЕЛЫХ

Нязведаная, «дзікая» Афрыка! Яна з даўняга часу прыцягвала сваёй экзотыкай дзялкоў ад кінематаграфіі. Туды, на «чорны кантынент», імкнуліся трапіць галівудскія, англійскія і французскія рэжысёры. Адны ехалі паправіць свае камерцыйныя справы, пракруціць прыбытковы фільм, другія ў пошуках прыгод, каб стварыць сабе рэкламу, паказаць сваё «бясстрашша», здымаючы «дзікуноў» і драпежных жывёлін. Таму не дзіўна, што зроблена шмат фільмаў, якія зусім не даюць сапраўднага ўяўлення пра гэты кантынент. Галівудскія і заходнееўрапейскія рэжысёры лічаць за лепшае здымаць экзотыку, гэта значыць, скопішча дзікіх жывёл, непралазныя джунглі, расфарбаваных тубыльцаў, якіх яны паказваюць не як звычайных людзей, а як «мадэрнізаваных малпаў». У гэтых адносінах характэрны англійскі фільм «Барабаны лёсу», які дэманстраваўся на нашых экранах.

Прадпрымальны Джордж Майкл напісаў кнігу «Сям'я Майкл у Афрыцы», потым перарабіў яе ў сцэнарый, фінансаваў пастаноўку, быў рэжысёрам і аператарам гэтага каляровага, а па сутнасці, бруднага фільма. Ён жа, яго жонка Марджары і дочкі Кэрал і Джуан выконвалі ў ім галоўныя ролі. Пастаноўка каштавала нядорага, але аўтару прынесла немалы прыбытак. Людзі ў гэтым фільме толькі дапаўненне да экзатычнага пейзажу. Часцей за ўсё, гэта дзікуны з коп'ямі, людзі «ніжэйшай расы».

Дзікай, таямнічай і незразумелай паўстае Афрыка ў апавяданнях пісьменнікаў мінулага стагоддзя. Іх паўтараюць і сучасныя заходнія раманісты, публіцысты, падарожнікі і ўсялякія авантурысты, якія ахвотна выдаюць дарожныя нататкі і мемуары. Яны апісваюць жыццё «дзікіх» плямёнаў, якія жывуць у джунглях, іх экзатычныя рытуалы і пры гэтым не грэбуюць ніякімі выдумкамі. Вось што расказвае пра Афрыку «відавочца» з Заходняй Германіі: «На недаступных чалавеку гарах знаходзяцца скарбы, якія ахоўваюць джыны, і густыя лясы, што кішаць вялізнымі малпамі, якія харчуюцца скарпіёнамі, знішчаюць зялёныя палі і распраўляюцца з леапардамі. Дзікуны ж выклікаюць яшчэ большы жах. Нельга не здрыгануцца, калі думаеш пра данакільскія плямёны, якія займаюцца кастрацыяй падарожнікаў, здзекуюцца з іх і забіваюць. На пірах ядуць сырое мяса... з якога капае кроў. Жрацы гэтых плямёнаў выконваюць нудны танец да таго часу, пакуль стае сілы».

Калі ласка, чым не сцэнарый для Галівуда? І амерыканскія кінадзялкі раней за іншых зразумелі, што на падобных казках і экзотыцы можна добра зарабіць. Фірма «Метра-Голдвін-Майер» адкапала апавяданні Хагерда і зняла фільм «Яна» пра адно афрыканскае племя, якім кіруе белая каралева. Потым гэты сюжэт выкарысталі і іншыя студыі.

Следам за апавяданнем «Яна» на кінаканвеер трапілі і іншыя аповесці Хагерда, такія, напрыклад, як «Капальні цара Саламона», які пастаўлены ў Англіі. У гэтым фільме расказвалася пра незвычайныя скарбы, які-мі нібыта валодала адно афрыканскае племя. Пяць англічан, адважных і спрытных,—вядома, пяць аматараў прыгод, а правільней, аматараў залатога цяльца,—адправіліся на пошукі гэтых скарбаў. Па ходу дзеяння яны трапляюць у самыя неверагодныя ўмовы, але заўсёды перамагаюць і выходзяць героямі.

Але свайго апагея камерцыйныя фільмы пра Афрыку дасягнулі ў серыі пра Тарзана, дзе белы амерыканскі «герой» паказаны як сапраўдны гаспадар джунгляў. Пачынаючы з 1918 года і па сённяшні дзень Галівуд не можа адмовіцца ад гэтай серыі, якая з'яўляецца невычэрпнай залатой жылай, што прынесла кінапрадзюсэрам мільённыя прыбыткі. І цяпер дзве амерыканскія фірмы «Метра-Голдвін-Майер» і «Парамоунт» спрачаюцца, чый Тарзан лепшы. Рэкламуючы свайго Тарзана, «Метра-Голдвін-Майер» заяўляе, што акцёр «Дэніс Мюлер умее раўці гэтак жа дзіка, як сапраўдны сын джунгляў, а яго твар і цела набліжаюцца да ідэальнага тыпу «чалавека-малпы».

Акрамя камерцыйных разлікаў, аўтары фільмаў пра Афрыку ставяць і іншыя мэты. Яны ўнушаюць гледачам думку, што афрыканцам трэба заступніцтва, што Афрыкай трэба кіраваць. Гэта апраўдвае знаходжанне каланізатараў на «чорным кантыненце». Кінафальсіфікатары сцвярджаюць, што «тубыльцы»—гэта або тупіцы і невукі, за якімі трэба сачыць, або ж злосныя дзікуны, якім неабходна сіла закону. У такіх фільмах белыя паказаны як людзі добрыя, спагадлівыя і справядлівыя. У тых жа «Барабанах лёсу» дыктар, гаворачы пра слугу Джорджа Майкла, афрыканца Пенга, сур'ёзна заяўляе, што «аднойчы яму (Майклу) давялося ратаваць чалавека ад вернай смерці і Пенга стаў членам сям'і Джорджа Майкла, яго сябрам». Вось якія мы добрыя—англічане! Мы ратоўваем афрыканцаў, і яны становяцца нашымі сябрамі...

У фільмах пра Афрыку каланізатары, кіраўнікі, пасяленцы і нават паліцэйскія паказаны як сябры чорнага чалавека. На ўсе лады ўхваляюцца іх «дабрачынствы». Гэта наглядна ілюструе англійская карціна «Сандэрс—гаспадар ракі». У ёй гаворыцца «пра цяжкасці Англіі ў Афрыцы».

Сюжэт гэтай карціны нескладаны. Правадыр невялікага племя Басамба, угодлівы і нікчэмны, ратоўвае жыццё англійскаму ўпраўляючаму. Але не сюжэт важны ў гэтай карціне, важная ідэя, якая ў канчатковым выніку зводзіцца да таго, што Афрыка не можа жыць без англічан.

Адзінае, што цікава ў фільме «Сандэрс—гаспадар ракі», гэта тое, што ролю правадыра племя выконвае не хто іншы, як Поль Робсан. І выконвае з уласцівым яму майстэрствам. Але калі карціна выйшла на экран, Поль Робсан пашкадаваў, што зняўся ў ёй. Пазней ён стараўся забраць з пракату ўсе копіі, але гэта яму не ўдалося. Фальшыўка разышлася па многіх краінах, хоць поспеху не мела.

З вялікай і шумнай рэкламай у Англіі быў выпушчаны на экраны «праблемны» фільм «Людзі двух светаў». Асноўны сюжэт гэтай пышнай экзатычнай карціны будуецца на нескладаным канфлікце. У той час, калі таленавіты негрыцянскі кампазітар і піяніст Кісенга заваёўвае прызнанне Лондана, яго выклікаюць у роднае паселішча ў Афрыку. Тут белыя, начальнік раёна і прыгожая жанчына-ўрач, спадзяюцца, што ўплыў Кісенгі можа садзейнічаць пераходу насельніцтва на новую тэрыторыю, далёкую ад джунгляў, заражаных мухай цэ-цэ. Пасля пятнаццацігадовага знаходжання ў Еўропе папулярны кампазітар кідае канцэртную дзейнасць і вяртаецца да свайго народа ва Усходнюю Афрыку. Тут ён даведваецца, што племя знаходзіцца пад уплывам знахара Маголе. Англійскі намеснік не можа ўгаварыць племя і яго недалёкіх правадыроў пакінуць месца, дзе сее смерць муха цэ-цэ. Кісенга, афрыканец, выхаваны ў Англіі, і Маголе, які ўвасабляе цёмныя сілы, уступаюць у востры канфлікт. Кампазітар добра разумее пагрозу, якая навісла над яго народам. Ён аб'ядноўваецца з англійскім намеснікам і ўступае ў барацьбу за пераход на новыя землі. Але як толькі становяцца вядомымі яго намеры, Кісенга аказваецца дыскрэдытаваным у вачах насельніцтва і нават у вачах сваёй сям'і.

Фільм «Людзі двух светаў» зняважлівы для афрыканскага насельніцтва. Мясцовыя жыхары ў ім выведзены як вартыя жалю неразумныя істоты, цёмныя і дзікія. Затое англічане... Дарэчы, дадзім слова вядомаму англійскаму кінакрытыку Катрын дэ ла Рош, якая пра гэтую карціну пісала наступнае: «На працягу ўсяго фільма фонам служыць падняволыная праца па паляпшэнню ўмоў жыцця, асветы і выхавання адсталага негрыцянскага племені». Вось, аказваецца, якія клапатлівыя хлопцы гэтыя англійскія кіраўнікі!

Што белыя каланізатары—сапраўды знаходка для Афрыкі, гавораць амаль усе так званыя «этнаграфічныя» фільмы, выпушчаныя ў Галівудзе, Англіі і іншых краінах. Такія карціны будуюцца на няхітрым сюжэце, як, напрыклад, амерыканскі фільм «Магамба», які расказвае пра гарачае каханне белага паляўнічага і тубылкі. Але пастаноўшчыкі канцэнтруюць усю ўвагу гледачоў не на паказе людзей, а на паказе жывёл. Звяры—вось сапраўдныя героі гэтай стужкі.

Па гэтым жа прынцыпе пабудаваны карціны «Адонга», «Куды не залятае сцярвятнік» і дзесяткі іншых. Іх мэта—унушыць людзям думку, што Афрыка калі і мае якую-небудзь цікавасць, то гэта толькі дзякуючы багаццю і разнастайнасці расліннага і жывёльнага свету. А людзі... Хіба негры людзі? Паглядзіце амерыканскі фільм «Мяу-мяу», як там тубыльцы па-зверску б'юць адзін аднаго. Ну, чым яны лепшыя за драпежных звяроў? У бруднай стужцы «Сімба» расказваецца пра тое, як белы фермер пра-

сіў ратунку, але, на бяду, крык яго пачуў негр, які праязджаў на веласіпедзе. Ён злез з веласіпеда, падышоў да белага і, радуючыся яго пакутам, спакойна прыкончыў бездапаможнага чалавека нажом.

Чалавеканенавісніцкімі ідэямі прасякнуты другі амерыканскі фільм «Сахара». Тут сюжэт закручаны па стандартах галівудскіх «баевікоў». На кожным кроку забойствы і жорсткасць. Мяркуйце самі. Адзін амерыканскі паляўнічы, чалавек прыемны ва ўсіх адносінах, ад'язджаючы па справах, пакідае свайго малога сына пад апекай цёткі і «надзейнага слугі». Але, вярнуўшыся дамоў, ён знаходзіць цётку і сына мёртвымі. Іх забілі галаварэзы з шайкі, якую ўзначальвае яго «надзейны слуга» негр. Астатняе ў кінафільме прысвечана помсце. Цяпер стужкі, якія шчыра ўсхваляюць каланіялізм, не карыстаюцца папулярнасцю сярод гледачоў. «Тарзаніяда» з дзікімі звярамі і не менш дзікімі туземцамі таксама надакучыла. Але Галівуд і іншыя заходнія кінафірмы не склалі зброі. Яны ўжо адкрыта не праслаўляюць «цяжкасці» белых у Афрыцы. Іх фільмы сталі больш складаныя, але сутнасць іх засталася ранейшая. Ці ёсць якаянебудзь розніца паміж сённяшнімі заходнімі карцінамі і фільмамі каланіяльных часоў? Ніякай. Ідэі неакаланіялізму дзялкі ад кіно цяпер падносяць гледачу ў выглядзе бязвінных, на першы погляд, сюжэтаў. Яны, напрыклад, паказваюць з экрана «забаўную» любоўную гісторыю, якая часам становіцца злосным палітычным пасквілем.

## АФРЫКА ВАЧЫМА АФРЫКАНЦАЎ

З нараджэннем новых афрыканскіх дзяржаў нарадзілася і кінамастацтва Афрыкі. Краіны, якія набылі нацыянальную незалежнасць, літаральна на голым месцы ствараюць сваю кінематаграфію.

У Афрыцы кіно толькі нараджаецца, робіць свае першыя крокі. Але тое, што ўжо зроблена, дае падставу меркаваць, што яно хутка заваёўвае адзін плацдарм за другім, становіцца здабыткам шырокіх мас насельніцтва.

Кінематаграфія Афрыкі развіваецца нераўнамерна. Калі, напрыклад, у ААР кінапрамысловасць развіта вельмі высока, калі егіпецкае кіно можа з поспехам сапернічаць з такімі заходнееўрапейскімі краінамі, як ФРГ, Іспанія, Бельгія, то ў іншых афрыканскіх дзяржавах робяцца толькі першыя спробы стварыць свой нацыянальны кінематограф. Але ёсць у Афрыцы яшчэ і такія краіны, дзе насельніцтва наогул не мае ўяўлення пра кіно. І як ні дзіўна, ёсць яшчэ людзі, і іх сотні тысяч, якія ніколі не глядзелі фільмаў, не маюць уяўлення пра «цуды экрана».

Каланізатарам было нявыгадна, каб туземцы далучаліся да кіно. Фільмы



«Жыццё або смерць» (ААР).





ж бываюць розныя. І хто ведае, як «чарнамазыя» зразумеюць іх... Не, няхай лепш цывілізацыя абыходзіць гэтых дзікуноў. Так спакайней. І як вынік гэтай палітыкі... адна кіназала на два-тры мільёны гледачоў.

Урады маладых незалежных афрыканскіх дзяржаў зацікаўлены ў стварэнні нацыянальнай кінематаграфіі. Але на іх шляху шэраг цяжкіх праблем. Першая з іх—адсутнасць нацыянальных кадраў кінематаграфістаў. У Афрыцы (не лічачы, вядома, такіх дзяржаў, як ААР або Алжыр) няма сваіх рэжысёраў, аператараў, сцэнарыстаў, а таксама тэхнічных работнікаў. Большасць афрыканскіх краін не мае сваіх кінастудый, лабараторый, павільёнаў. Таму такія слабыя па сваім тэхнічным узроўні першыя афрыканскія фільмы. Саматужная вытворчасць карцін дае сябе адчуць амаль у кожнай стужцы, адзнятай у той ці іншай афрыканскай дзяржаве.

Вялікім тормазам на шляху маладой афрыканскай кінематаграфіі з'яўляецца праблема мовы. Афрыканскія плямёны размаўляюць на розных мовах і гаворках. Выпуск фільма на якой-небудзь адной мове будзе зразумелы толькі для аднаго племя. А для астатніх патрэбны пераклад або дубляж, а гэта пакуль што афрыканскім кінематаграфістам не па сіле. Можна, вядома, карціну забяспечыць субтытрамі (надпісамі), але ў Афрыцы большасць насельніцтва яшчэ непісьменнае.

А фінансаванне фільмаў? Як вядома, здыманне карціны каштуе вельмі дорага. А ўвесь бюджэт такой, напрыклад, дзяржавы, як Самалі, складае палавіну сумы, выдаткаванай Галівудам на «касавы баявік». Дзе ўжо тут гаварыць пра добры фільм! І таму прадукцыя такіх слабаразвітых краін, як Самалі, абмяжоўваецца толькі дакументальнымі карцінамі, якія не патрабуюць вялікіх грашовых затрат і зразумелыя гледачам без надпісаў і дыктарскага тэксту. Праўда, у Самалі створаны першы нацыянальны мастацкі фільм «Каханне не ведае перашкод». Ён зняты афрыканцамі пад кіраўніцтвам Хасейна Мабрука. Але гэта, хутчэй, аматарская стужка.

На кінафестывалі краін Афрыкі і Азіі вялікі поспех выпаў на долю самалійскага дакументальнага фільма «Вада выйграе бітву супраць смагі». Журы адзначыла добрую аператарскую работу, колер і мантаж карціны. Гэта яшчэ раз сведчыць, што хранікальная кінематаграфія развіваецца ў афрыканскіх краінах больш паспяхова, чым ігравое кіно.

Перад афрыканскімі кінаработнікамі, незалежна ад таго, у якім жанры яны працуюць—кінапубліцыстыцы



Мбіоін Тэрэза Дыон — актрыса кіно Сенегала.

або вучэбным кіно, заўсёды паўстае новая праблема: дзе дэманстраваць свае фільмы. У Афрыцы ж мала кінатэатраў і яшчэ менш кінаўстановак і кінаперасовак. І належаць яны чужаземцам, якія не даюць ходу нацыянальнай прадукцыі, пракручваючы на сваіх экранах нізкапробную галівудскую мешаніну.

У развіцці маладога афрыканскага кіно дапамагаюць прагрэсіўныя работнікі іншых краін, і, у першую чаргу, кінематаграфісты Італіі і Францыі. Так, французскі рэжысёр Вацье ў свой час зняў карціну «Афрыка, год 1950-ы», якая расказвае пра зверствы каланізатараў на «чорным кантыненце», пра цяжкія ўмовы жыцця негрыцянскага насельніцтва. Гэта стужка выклікала гнеў каланіялістаў, і пастаноўшчык быў пасаджаны ў турму.

Паспяхова развіваецца кіно Алжыра. Гады вайны для алжырскіх патрыётаў былі гадамі стварэння нацыянальнага кінамастацтва. Тады і былі пастаўлены першыя дакументальныя карціны. Рэжысёры і аператары на франтах здымалі баявую хроніку. Яны набылі немалы вопыт, што дазволіла пачаць стварэнне поўнаметражных карцін. Алжырскія кінаработнікі вучыліся майстэрству ў кінапубліцыстаў Савецкага Саюза, Балгарыі, ГДР.

У 1964 годзе ў Алжыры быў створаны Інстытут кінематаграфіі—кінацэнтр, які займаецца вытворчасцю фільмаў і навучаннем маладых алжырцаў мастацтву кіно. У інстытуце ствараліся першыя мастацкія фільмы.

Французскі рэжысёр Жак Шарбі зняў тут першы поўнаметражны фільм «Такі малады свет». Пад кіраўніцтвам італьянскага пастаноўшчыка Ларэнціні была створана хвалюючая кінааповесць «Ствол дрэва», якая расказвае аб Алжыры 1964 года.

Нядаўна вядомы італьянскі кінарэжысёр Джыла Пантэкорва, вядомы савецкім гледачам па фільму «Вялікая блакітная дарога», зняў карціну «Бітва за Алжыр». У ёй з дакументальнай дакладнасцю адноўлены падзеі, што адбываліся ў краіне ў гады нацыянальна-вызваленчай барацьбы. Гэты фільм прагрэсіўнага італьянскага кінематаграфіста меў вялікі поспех ва ўсім свеце. Яму было прысуджана некалькі міжнародных прэмій на кінафестывалях, у тым ліку на кінааглядзе ў Маскве.



«Вецер Арэса» (Алжыр).

Фільм «Бітва за Алжыр» мае вялікае значэнне для маладога афрыканскага кінамастацтва яшчэ і таму, што разам з Джыла Пантэкорва над ім працавалі пачынаючыя кінаработнікі маладой алжырскай кінематаграфіі. Для іх удзел у пастаноўцы такога складанага фільма з'явіўся вялікай школай майстэрства.

Карціна «Бітва за Алжыр» хутка выйдзе на нашы экраны, і савецкія гледачы здолеюць ацаніць поспехі кінематаграфіі маладой афрыканскай дзяржавы.

Маладым афрыканскім кінематаграфістам дапамагаюць прагрэсіўныя рэжысёры, аператары многіх зарубежных краін. Галандскі рэжысёр-камуніст, майстар дакументальнага кіно, лаўрэат Ленінскай прэміі за ўмацаванне міру паміж народамі Йорыс Івенс дапамог Федэрацыі Малі зрабіць свой першы фільм «Заўтрашні дзень вёскі Нангіла». Гэтая карціна з поспехам дэманстравалася на нашых экранах. Яна расказвае пра жыццё невялікай вёсачкі, што знаходзіцца на беразе Нігера за 60 кіламетраў ад сталіцы Малі Бамака. Яна нічым не адрозніваецца ад соцень іншых вёсак. Праз успрыманне дваццацігадовага афрыканца Йорыс Івенс паказаў, што азначае для жыхароў Малі свабода. Адкрылася першая школа, на палях з'явіўся першы плуг, зроблена першая спроба рацыянальнай апрацоўкі зямлі.

У гэтай хвалюючай стужцы няма звычайных для фільмаў пра Афрыку экзатычных атрыбутаў—львоў, сланоў, кракадзілаў і інш. Карціна строгая, праўдзівая і паэтычная.

Паспяхова развіваецца кіно і ў Сенегале. Піянер сенегальскай кінематаграфіі Сэмбен Усман ужо вядомым пісьменнікам прыехаў у Маскву і прайшоў тут курс навучання. Потым ён стажыраваўся на студыі імя А. М. Горкага. Вярнуўшыся на радзіму, Сэмбен Усман стварае свой першы фільм «Чалавек з талеркай»—праўдзівы расказ пра беднага шафёра і бесклапотнае жыццё багатых кварталаў Дакара. Гэта карціна была прадстаўлена на фестываль у Туры (Францыя), дзе атрымала Вялікі прыз.

Наступным фільмам Сэмбена Усмана была кароткаметражка «Ньяй», прысвечаная жыццю афрыканскай вёскі. У ціхім, сонным паселішчы, аказваецца, адбываюцца складаныя драмы, разбураецца традыцыйны ўклад жыцця. Гэты жорсткі, праўдзівы і актуальны для Сенегала фільм так і не быў выпушчаны на мясцовыя экраны, бо фірмы, у чыіх руках сканцэнтраваны ўвесь пракат карцін, байкатавалі карціну маладога рэжысёра.

Нядаўна Сэмбен Усман закончыў вялікі поўнаметражны фільм «Негрыцянка з...» Гэтая меладрама расказвае пра лёс афрыканкі, закінутай на чужыну. Ён, дарэчы, выходзіць на нашы экраны. Мы самі здолеем ацаніць станоўчыя бакі гэтага твора, а таксама адзначыць недахопы, уласцівыя пачынаючым кінематаграфістам, — расцягнутасць сюжэта, драматургічную раздробленасць, некаторую тэатральнасць у ігры акцёраў.

На IV Маскоўскім міжнародным кінафестывалі Сенегал быў прадстаўлены карцінай «Н» Дзіанган». Рэжысёр Пален Віэйра стварыў цікавую экранізацыю вядомай старажытнай легенды. Маскоўскія гледачы высока ацанілі гэтую работу маладога сенегальскага кіно.

Афрыканскае кіно—самае маладое ў свеце. Першыя афрыканскія фільмы—першыя крокі, зробленыя ў вельмі цяжкіх умовах. Але няма сумнення, што хутка мы ўбачым глыбока нацыянальныя таленавітыя афрыканскія фільмы, якія дапамогуць нам больш даведацца пра гэты экзатычны кантынент з яго працавітымі і мужнымі людзьмі.

**Яўген КРУПЕНЯ.**



Кавалкі Брагінскага метэарыта.

# ПАСЛАНЦЫ КОСМАСУ

На гарызонце нечакана з'явіўся вогненны шар. Ён выпраменьваў такое ззянне, што на яго нельга было глядзець. Наблізіўшыся да зямлі, ён нібы расплыўся. На яго месцы ўтварыўся вялізны клуб дыму, пачуўся аглушальны гром, быццам стралялі з гармат. Наваколле задрыжала. Спалоханыя жыхары выбеглі на вуліцу. Раптоўна з-за воблакаў вырвалася асляпляльнае полымя. Пачуўся яшчэ мацнейшы грукат...

Так расказваюць людзі, якім давялося назіраць падзенне вялікіх метэарытаў. Як жа трапляюць на Зямлю гэтыя нечаканыя госці з космасу?

Уявіце сабе цёмную зорную ноч. Аксамітны чорна-сіні небасхіл усыпаны безліччу мігатлівых агеньчыкаў. І вось нібы сарвалася са свайго месца, пакацілася ўніз зорка. Яна пакінула пасля сябе бліскучы след, які зараз жа і знік. Зноў у таямнічым зорным свеце ўсталёўваецца спакой. Але вось на другім баку небасхілу зрываецца яшчэ адна зорка.

Такія «падаючыя зоркі» вучоныя называюць метэорамі. Людзі, якія мала знаёмы з астраноміяй, лічаць, што метэоры — гэта тыя самыя зоркі, якія мы бачым на небе. На самай справе, нічога агульнага паміж імі няма.

У міжпланетнай прасторы з хуткасцю дзесяткаў кіламетраў у секунду пралятаюць касмічныя часцінкі вагой у некалькі міліграмаў. Дасягнуўшы зямной атмасферы, яны сустракаюць моцнае супраціўленне атмасферы. Паверхня часцінак награецца да некалькіх тысяч градусаў. Ад гэтага яны імгненна ўспыхваюць, ператвараючыся ў газ. Метэор пачынае свяціцца. І ў гэты момант мы яго заўважаем. Але, акрамя метэорных часцінак, у міжпланетнай прасторы ёсць буйныя метэорныя целы. Яны, нібы абломкі скал, носяцца вакол сонца, нярэдка сустракаюць на сваім шляху планеты і падаюць на іх.

Метэорнае цела мчыцца з хуткасцю вышэй за трыццаць кіламетраў у гадзіну. Вось яно падлятае да блакітнай зоркі. Гэта наша Зямля. Метэор ужо сустрэўся з першымі малекуламі атмасферы. З кожнай секундай яны ўсё шчыльнейшым патокам удараюць па яе паверхні. Вось ужо сто дваццаць... Толькі сто кіламетраў засталося да Зямлі. Атмасфера шчыльным слоем засланяе шлях метэору. Перад ім утвараецца вогненная газавая падушка. Хуткасць метэора такая вялікая, што малекулы не могуць адразу затармазіць яго рух. Але яны аказваюць вельмі вялікае супраціўленне, ад гэтага паверхня метэора награецца да некалькіх тысяч градусаў.

Цяпер гэта ўжо вогненны шар, які нясецца па небасхіле. Ноччу ён асвятляе мясцовасць на некалькі кіламетраў. За шарам цягнецца вогненны хвост, сыплюцца іскры. На паверхні метэарыта расплаўляецца рэчыва, якое распырскваецца на драбнейшыя кропелькі. Вось яны і ўтвараюць вогненны хвост. Ад вялікага ціску метэор рассыпаецца на асколкі, якія падаюць на Зямлю. Зараз яны — ужо сапраўдныя метэарыты.

З'яўленне на Зямлі кожнага метэарыта — велічная, грозная з'ява. Таму не дзіўна, што не толькі ў далёкія часы, але і ў нашы дні падзенне метэарытаў палохала людзей. Калі раздаюцца выбухі, нават жызёла адчувае страх і кідаецца ў розныя бакі, імкнучыся схавацца.

На тэрыторыі Беларусі таксама калісьці падалі метэарыты. Самы вядомы з іх — Брагінскі. Праўда, невядома, калі ён упаў у Брагінскім раёне на Гомельшчыне. Але цікавая гісторыя яго абломкаў, знойдзеных у розны час. Першыя знаходкі адносяцца яшчэ да 1807 года. Тады былі выяўлены толькі два экземпляры.

З таго часу на працягу больш ста пяцідзесяці гадоў знойдзена ў той жа мясцовасці яшчэ шэсць абломкаў гэтага метэарыта. Апошні з іх вывернуты плугам у 1952 годзе. Вага ўсіх знойдзеных і перададзеных на захаванне ў навуковыя ўстановы абломкаў складае семсот чатырнаццаць кілаграмаў. Брагінскі жалеза-каменны метэарыт па сваёй велічыні займае першае месца ў нашай краіне (самы вялікі метэарыт знойдзен у паўднёва-заходняй Афрыцы вагой шэсцьдзесят тон).

Але, відаць, вага Брагінскага метэарыта значна большая, чым знойдзеныя абломкі. Мяркуюць, што некаторыя экземпляры, у тым ліку і буйныя, згублены. Да таго ж, і ў зямлі, пэўна, ляжаць яшчэ не знойдзеныя кавалкі.

Другі метэарыт упаў у 1858 годзе непадалёк ад города Століна, на Брэстчыне. І так здарылася, што асноўная маса метэарыта — сто шаснаццаць кілаграмаў — захоўваецца не ў нас, а ў венскім музеі ў Аўстрыі.

У 1893 годзе ўпаў трэці каменны метэарыт на хату ў вёсцы Заброддзе Івянецкага раёна. Толькі 295 грамаў гэтага метэарыта захоўваецца ў музеі адэскага ўніверсітэта. Гэта адзіны каменны экземпляр у нашай краіне. Яшчэ ёсць тры грамы ў Брытанскім музеі. Месцазнаходжанне асноўнай масы не выяўлена.

І апошні, чацвёрты, жалезны метэарыт знойдзен у 1955 годзе ў Мінскай вобласці непадалёк ад вёскі Пукава.

Вывучэнне метэарытаў мае вялікую навуковую цікавасць, бо толькі яны пакуль што з'яўляюцца адзіным касмічным рэчывам, якое можна даследаваць у лабараторыі. Вывучаючы іх, мы даведваемся, з якіх хімічных элементаў складаюцца нябесныя целы, якую яны маюць структуру. Тут мы маем справу з тым рэчывам, з якога ўтвараліся планеты, у тым ліку і наша Зямля.



Барыс Васільевіч Шавякоў — старшыня Беларускай камісіі па метэарытах.

У выніку даследаванняў высветлілася, што ў складзе метэарытаў няма якіх-небудзь новых, не вядомых на Зямлі, хімічных элементаў. Яны складаюцца амаль з усіх тых рэчываў, якія мы сустракаем на нашай планеце.

Часта пытаюць, адкуль, ад якой планеты адрываюцца і падаюць на зямлю метэарыты. Ні ад якой планеты яны не адрываюцца. Метэорныя целы рухаюцца ў міжпланетнай прасторы вакол Сонца ў незлічонай колькасці. Выпадковая сустрэча з зямной атмасферай і выклікае падзенне метэарытаў на яе паверхню.

Госці з космасу — метэарыты — прыносяць весткі, якія нельга атрымаць іншымі шляхамі. Гэтыя нябесныя вандроўнікі памагаюць нашым вучоным глыбей пранікнуць у тайны сусвету, у тайны касмічных далячыняў.

**Васіль СВЯТЛОЎ.**

# КАСМІЧНАЯ АРАНЖАРЭЯ



**Яшчэ ў пачатку нашага стагоддзя заснавальнік касмічнага ракетаплавання К. Э. Цыялкоўскі выказваў думку пра стварэнне на борце касмічных караблёў сваёй аранжарэі, у якой вырошчваліся б спажыўныя расліны. Адным з кампанентаў іх харчавання магла б стаць вугле-кіслата, якую выдыхаюць касманаўты ў час палёту.**

«Расліны будуць ачышчаць паветра і даваць плады»,— гаварыў Цыялкоўскі. Ён нават падлічыў, якія па памерах павінны быць «касмічныя аранжарэі» і які можна будзе сабраць там ураджай. Згодна яго падлікаў, на адзін квадратны метр паверхні, перпендыкулярны да падзення сонечных промняў, трапляе ў суткі 43,2 калорыі энергіі. Расліны паглынаюць з гэтай колькасці не больш пяці працэнтаў сонечнай энергіі. Аднак і яе дастаткова, каб вырасціць 33 кілаграмы морквы, або пяць кілаграмаў капусты, або столькі збожжа, каб атрымаць 0,5 кілаграма мукі. Зыходзячы са сваіх разлікаў, Цыялкоўскі зрабіў вывад, што «аднаго квадратнага метра паверхні, звернутай да сонечнага святла, ужо дастаткова, каб пракарміць чалавека».

Касманаўту, як і ўсякаму даросламу чалавеку, для нармальнага жыцця і работы патрэбны ў суткі харчовы рацыён, які меў бы каля трох тысяч калорый. У складзе такога рацыёну павінна быць 80—100 грамаў бялкоў, 80—100 грамаў тлушчу, 350—400 грамаў вугляводаў, а таксама неабходная колькасць амінакіслот, солей і вітамінаў.

Якім жа чынам можна забяспечыць харчовы рацыён касманаўта? Згодна меркавання многіх вучоных, найбольш зручнай раслінай для касмічных аранжарэй з'яўляецца хларэла — мікраскапічная аднаклеткавая водарасць. Яе клеткі маюць здольнасць бесперастанку харчавацца, расці, размнажацца. Як і ўсякая расліна, хларэла паглынае вуглекіслату і вылучае кісларод. За апошнія гады селекцыянеры стварылі такія высокапрадуктыўныя формы гэтай водарасці, якія праходзяць увесь цыкл свайго развіцця за 6—8 гадзін. З аднаго літра суспензіі гэтая цудоўная водарасць на працягу сутак можа вылучыць да 50 літраў кіслароду і накапіць значную зялёную масу. Біямаса хларэлы, г. зн. клеткі, выдаленыя са спажыўнага раствору, маюць шмат бялку, тлушчу і вугляводаў.

Аднак хларэла не можа цалкам замяніць іншыя спажыўныя расліны, якімі прывык харчавацца чалавек. Патрэбна ж лічыцца і з густам касманаўтаў. Таму трэба вырошчваць у касмічных аранжарэях цэлы набор раслін, якія забяспечаць касманаўтам разнастайную ежу з неабходнай колькасцю спажыўных рэчываў. Вучоныя лічаць найбольш рацыянальным набор, які складаецца з арахісу, фасолі, топінамбуру, лiставой капусты, бульбы, кукурузы, салаты, памідораў, а таксама некаторай колькасці дражджэй. Прапануюцца і іншыя наборы раслін, напрыклад, з буракоў, бульбы, белакачаннай і ліставой капусты, морквы, радысу, памідораў. Такі набор раслін забяспечвае касманаўта энергіяй на 30 працэнтаў, бялкамі на 25—30 працэнтаў, вугляводамі на 60 працэнтаў, солямі і вітамінамі поўнасцю.

Якім жа чынам вырошчваць расліны ў касмічным агародзе? Не браць жа з сабой глебу на борт карабля. На дапамогу прыходзіць гідрапоніка. Замест пяску, гравію, тоўчанага вугалю, якія скарыстоўваюцца на Зямлі, на касмічным караблі субстратам будуць зерні пластмас-іянітаў. Яны маюць цудоўную ўласцівасць: пры ўвільгатненні вадою паступова, па меры неабходнасці, вяртаць раслінам спажыўныя рэчывы. Ва ўмовах бязважкасці раствор не будзе вылівацца з бака, як бы яго ні паставілі. Вадкасць давядзецца высмоктваць ці выкідваць пад ціскам і падаваць у субстрат.

Саперніцай гідрапонікі для вырошчвання раслін у касмічнай аранжарэі можа зрабіцца аэрапоніка. Яна мае шэраг пераваг — тут не патрэбны субстрат, дастаткова аднаго спажыўнага раствору, які, да таго ж, павінен быць больш канцэнтраваны, што дазволіць сэканоміць плошчу.

Барыс РОЗЕН.

# НОВЫ ГОД

## ...У БАЛГАРЫІ

У балгарскіх вёсках па традыцыі Новы год адзначаюць 14 студзеня (гэта значыць, 1 студзеня па старому стылю). Напярэдадні вечарам вясковыя хлопцы збіраюцца ў «дружыну», заходзяць ва ўсе дамы, віншуюць гаспадароў з Новым годам і жадаюць ім шчасця, здароўя, багацця і дастатку. Калі дружына заходзіць у дом, дзе ў каго-небудзь з хлопцаў ёсць каханая, дзяўчына выносіць ім прыгожа аздоблены «кравай» (тое ж, што наш каравай, толькі з дзіркай пасярэдзіне). Адзін з дружыны, так званы «котка» (кот), трымае ў руках торбу, сатканую з казінай поўсці. Ён мяўкае, як бы патрабуючы ўзнагароду за выкананы абрад, а гаспадары кладуць у торбу сыр, кілбасы, сала, мяса.





Позна вечарам 13 студзеня на круглых нізкіх сталах у кожнай сялянскай сям'і паяўляюцца традыцыйныя навагоднія стравы: хлеб з прэснага цеста — «піта», сушаная садавіна, грэцкія арэхі. У місачку насыпана збожжа, у яго ўваткнута свечка. Гэтае збожжа потым высыпаюць у насенне. Яно, паводле прыкмет, павінна даць добры ўраджай. Абавязковая прыналежнасць балгарскага стала напярэдадні Новага года — свіная галава. Гэта — водгулле глыбокай даўніны. У старажытных балгар свіння лічылася абаронцай земляробства. Але галоўная навагодняя страва — баніца. Гэта слоены пірог, закручаны спіраллю, які падаецца на стол на круглай талерцы. Начыняючы сырам і яйкамі, гаспадыня кладзе ў яго таксама дробныя манеткі. А потым, падаючы баніцу на стол, яна раскладае зверху кізілавыя галінкі рознай велічыні і формы і дае кожнай з іх сімвалічнае абазначэнне. «Гэта — дом, гэта — жывёла, гэта — куры»,— гаворыць гаспадыня. Прыступаючы да трапезы, сяляне разразаюць баніцу на кавалкі, круцяць яе тры разы на талерцы і глядзяць, насупраць каго які кавалак спыніцца. Па кізілавых галінках і запечаных манетках адгадваюць, што каго чакае ў Новым годзе.

Свята заканчваецца днём 14 студзеня. Пасля абеду ўсе вяскоўцы збіраюцца на плошчы. Моладзь водзіць навагодні карагод, а старыя стаяць вакол і выбіраюць жаніхоў і нявест для сваіх дзяцей.

У некаторых месцах адбываецца так званы продаж дзявочых караваяў. Сабраныя напярэдадні караваі выстаўляюць на плошчы. Старшы дружыны аб'яўляе, чый гэта каравай, і пытаецца, хто колькі за яго дасць. Пачынаецца штосьці накшталт торгу. Вядома, кожны хлопец стараецца купіць каравай, спечаны яго каханай, і дае за яго найбольшую суму. Дружына збірае вырučаныя грошы і балюе.

## ... У АНГЛІІ



У Англіі — краіне, дзе да гэтага часу ўплыў царквы на грамадскае жыццё вельмі моцны, свята Новага года ўступіла сваё месца калядам (царкоўнаму святу нараджэння Хрыста), якое адзначаецца 25 снежня. Упрыгожаныя цацкамі і расквечаныя святочнымі агнямі ёлкі паяўляюцца на плошчах, вуліцах, у магазінах і дамах. Па старой традыцыі, дамы ў гэтыя дні ўпрыгожваюцца таксама вечназялёнымі галінкамі вастралісты і амелы, сімваламі дружбы і шчасця ў старажытнай Брытаніі. У гэты дзень віншуюць сваякоў і знаёмых, пасылаючы ім спецыяльныя калядныя паштоўкі, часам па некалькі старонак віншавальнага тэксту. З асаблівай нецярплівасцю чакаюць каляд дзеці. Для іх у гэтыя дні наладжваюцца балі, ёлкі, спецыяльныя прадстаўленні з абавязковым удзелам Санта Клауса, гэтага Дзеда Мароза еўрапейцаў. Напярэдадні каляд, калі дзеці яшчэ спяць, бацькі хаваюць пад падушку або раскладаюць пад ёлкай падарункі, а раніцай расказваюць дзецям пра начны візіт Санта Клауса.

Калядныя гулянні працягваюцца тры дні. Першы дзень англічане праводзяць у сваёй сям'і, а астатнія дні наведваюць сяброў, ходзяць у кафэ і рэстараны або ў тэатр на калядныя пантамімы.

Новы год адзначаецца куды больш сціпла. І хоць святочная вячэра наладжваецца, але не такая багатая і само свята ўжо не такое маляўнічае. Роўна а поўначы звоняць званы ва ўсіх цэрквах, гудуць фабрычныя гудкі. Але 1 студзеня ў Англіі рабочы дзень, таму большасць людзей рана кладзецца спаць, і толькі моладзь гуляе да раніцы.

Да гэтага часу ў Англіі бытуюць розныя навагоднія прыкметы і павер'і. Так, па колеру валасоў першага наведвальніка, які зайшоў у дом пасля таго, як прабіла 12 гадзін, адгадваюць, ці будзе шчаслівы наступны год. Калі гэта брунет, то год будзе шчаслівы, калі бландзін — то не. У сельскай мясцовасці Шатландыі загадзя выбіраюць цёмнавалосага мужчыну, каб ён абышоў усе дамы пасёлка і пажадаў кожнаму гаспадару шчасця ў Новым годзе.

## ...У АЎСТРЫІ

Новы год у Аўстрыі адзначаецца ў асноўным гараджанамі, у той час як у сельскай мясцовасці наладжваецца святкаванне каляд. Як і ў іншых краінах, святкаванне Новага года ў Аўстрыі ўключае ў сябе багатую святочную вячэру, гулянне, узаемныя віншаванні сваякоў і знаёмых, пажаданні шчасця і поспехаў у Новым годзе. Пад Новы год, таксама, як і на каляды, наладжваюць жартоўную варажбу: як правіла, гэта дзяўчаты варожаць аб сваім суджаным. На віншавальных навагодніх паштоўках, якія ў гэтыя дні ўсе рассылаюць, звычайна адлюстраваны камінар і свіння — сімвалы шчасця ў аўстрыйцаў. Перад Новым годам у Аўстрыі нават выпускаюцца асобныя значкі, так званыя «манеты шчасця». На адным баку такога значка — або камінар, або парася з фарсіста закручаным хвастом, асядланае анёлам. На другім баку напісана віншаванне з Новым годам. Гэтымі значкамі абменьваюцца як пажаданнямі шчасця.



Звычай упрыгожвання ёлак у Аўстрыі параўнальна нядаўні, і пераняты ён з Германіі. Упрыгожваюць ёлкі звычайна на каляды. Абавязковым у святкаванні каляд з'яўляецца базар, а ў вёсках і невялікіх гарадах з прычыны свята нават наладжваюцца прадстаўленні лялек на спецыяльна пабудаваным памосце. Звычайна разыгрываюцца сцэнкі на біблейскія тэмы (нараджэнне Хрыста), але ў іх уключаюцца розныя народныя персанажы, апранутыя ў касцюмы жыхароў сваёй мясцовасці. У вёсках у ноч пад каляды наладжваліся шэсці апранутых у чорныя авечыя скуры і маскі з клыкамі і рагамі. І на каляды і на Новы год пякуць спецыяльныя пернікі ў выглядзе жывёл, птушак і рыб.

У навагоднюю ноч на вуліцах аўстрыйскіх гарадоў і вёсак ідзе гулянне з ракетамі, феерверкамі, стралянінай і нават завываннем труб і сірэн. Лічыцца, што гэты шум павінен адагнаць злых духаў.

**Наталля ЖУКОЎСКАЯ,**
**Наталля КРАСНОЎСКАЯ.**

Мал. **К. Ціхановіча.**





У шчырай дружбе праходзілі будні алімпіяды.

# ЗАЛАТАЯ МІНУТА

Алімпійская вёска прачыналася рана. І з самага ранку да позняга вечара тут вірыла жыццё. Трэніроўкі, спаборніцтвы, новыя знаёмствы, дыскусіі...

Савецкая дэлегацыя жыла ў восьмым корпусе. Кожны дзень у пакоі адпачынку паказвалі кінафільмы, наладжвалі імправізаваныя канцэрты, хоць і сціпла, але адзначалі дні нараджэння таварышаў па камандзе.

У Мехіка лічацца традыцыйнымі сустрэчы артыстаў з жыхарамі горада. Проста на плошчах, у самых людных месцах. Такія сустрэчы прыносяць шмат карысці, асабліва для тых, хто, скажам, не мае магчымасці схадзіць у тэатр. А для артыстаў гледачы — самыя жаданыя суддзі. У часе Алімпійскіх гульняў гэта традыцыя не парушалася. Плошчы перайшлі ў распараджэнне гасцей. На канцэрце савецкіх артыстаў сабралася больш за пяць тысяч мексіканцаў. Усім асабліва спадабаліся песні «Полюшка-поле» і «Падмаскоўныя вечары», якія мы спявалі ўсёй дэлегацыяй.

У вёсках пад Мехіка, дзе мы пабывалі, не было, здаецца, ніводнага чалавека, які б не прыйшоў на сустрэчу з рускімі. Кожны спяшаўся атрымаць значок з сілуэтам Ільіча. Самым папулярным на алімпіядзе лічыўся менавіта гэты значок.

Мне не раз даводзілася сустракаць святы далёка ад роднай зямлі. Але камсамольскі сход, які праходзіў у інтэрнацыянальным клубе алімпійскай вёскі ў гонар 50-годдзя Ленінскага камсамола, я ніколі не забуду. Калі ў зале запалымнеў наш савецкі сцяг, які даручылі несці мне, павільгатнелі вочы і ў маладых камсамольцаў і ў ветэранаў.

Цяпер пра нашы алімпійскія будні. Паядынкі на бегавых і водных дарожках, у сектарах, на

рынгу, на барцоўскіх дыванах. Нас, цяжкавагавікоў, прыехала ў Мехіка, як ніколі раней, многа — пятнаццаць чалавек. Пятнаццаць прэтэндэнтаў на Алімпійскія медалі! Чаму прэтэндэнтаў? Таму, што тыя, хто не разлічваў трапіць у першую тройку, наогул не прыехалі ў Мехіка, і паядынкі паміж пятнаццаццю павінны былі вырашыць, хто мацнейшы. Сваімі асноўнымі сапернікамі я лічыў балгарына Дураліева, амерыканца Крыстафа і праслаўленага Вілі Фрэда Дзітрыха з ФРГ.

Спаборніцтвы барцоў звычайна не могуць абысціся без працэдуры ўзважвання. На гэты раз яна пачалася вельмі рана, а шостай гадзіне раніцы. А дзесятай гадзіне першая пара барцоў вольнага стылю выйшла на дыван спартыўнай залы «Піста эль Інсуркентэс». Мне выпала правесці свой першы паядынак толькі пасля абеду. Увесь гэты час я не павінен быў думаць пра сустрэчу. Інакш пачнеш хвалявацца, сумнявацца ў нейкіх даўно прадуманых дэталях. Калі б у той час я пачуў пытанне, ці ўдасца мне захаваць перадстартавы спакой, я сказаў бы:

— Не ведаю. На гэта адкажа паядынак...

Першая мая сустрэча была з туркам Ілмазам. Гэта неаднаразовы прызёр Еўропы і іншых першынстваў. З ім я сустракаўся да Мехіка тры разы. Двойчы Ілмаз прайграваў па ачках, адзін раз я паклаў яго на лапаткі. І ўсё ж такі, выйшаўшы на дыван, я адчуваў, што хвалююся.

Дзіўна: колькі б разоў ні выходзіў спартсмен на старт, кожны раз ён нечым падобны на навічка. Але хто з нас у дадзены момант больш навічок: Ілмаз ці я? Пасля першага ж «дакранання» адзін да аднаго стала зразумела — Ілмаз хвалюецца ўдвая больш. Ну што ж, цяпер, як ніколі, моцна ў саюз з тактыкай, тэхнікай уступае вытрымка, воля. На першай жа мінуце ў мяне ў актыве было тры ачкі, а на сёмай Ілмаз быў тушыраваны.

Чыстая перамога! Яна асабліва радавала таму, што была першая, што ад вынікаў гэтага паядынку многае залежала. За барацьбой з Ілмазам назіралі мае будучыя сапернікі, назіралі з затоенай надзеяй заўважыць нейкую слабінку, каб потым выкарыстаць яе. Той, хто ў барацьбе карыстаецца аднымі і тымі ж прыёмамі, не можа разлічваць на вялікі поспех. Але масцітыя спартсмены часта ўмеюць падвесці свайго саперніка пад нейкую добра вядомую рысачку свайго почырку, вымусіць яго паўтарыць тое, што ім выгадна. Пасля перамогі над туркам я неяк інтуітыўна адчуў, што мае сапернікі збянтэжаны, у іх з'явілася нешта падобнае на страх. Вось што ні ў якім разе не сумяшчальна з жаданнем перамагчы! Наступная мая сустрэча — з японцам Ісогай — адбылася назаўтра. Японскі барэц пачаў паядынак занадта нервова. Ён тупаў каля мяне, рабіў выгляд, што збіраецца кінуцца ў атаку. Усё гэта былі безнадзейныя спробы, выкліканыя не здзейсненнем нейкіх задум, а хутчэй — палахлівасцю. І не перад сапернікам, а ў першую чаргу перад яго тытулам. Таму першая, усё такая ж нясмелая, атака японскага спартсмена і падвяла яго. Калі сапернік кінуўся мне ў ногі, я тут жа контратакаваў і правёў прыём «зашагванне». Гэта была самая хуткая перамога: схватка працягвалася ўсяго сорак шэсць секунд.



Куток Мехіка.



Спецыяльны цягнік для спартсменаў курсіраваў па алімпійскай вёсцы.

Галоўныя паядынкі былі наперадзе. Балгарскі барэц Дураліеў — вопытны, валявы спартсмен, фаварыт усіх міжнародных спаборніцтваў. Яго вага 128 кілаграмаў (на дваццаць большая, чым мая). Ад вынікаў гэтага паядынку ў многім залежала, хто стане алімпійскім чэмпіёнам.

Да Мехіка я сустракаўся з Дураліевым пяць разоў. Дзве чыстыя перамогі і тры па ачках. Я адчуваў: гэты будзе змагацца да канца. І, магчыма, каб сэканоміць сілы, схватку пачаў крыху расслаблена. Такі практык і стратэг, як Дураліеў, гэта не мог не выкарыстаць. І тут — прайграны бал. Узвінчваюся і загадваю сабе: «Адыграцца, не марудзячы!»

Праз некалькі секунд пасля ўдалага захопу пераводжу саперніка ў партэр, адыгрываюся. Роўная барацьба. Ведаю, што яна будзе доўгая і пераможцамі тут выйдуць нервы і воля.

Прайшло шэсць мінут. Кароткі перапынак. Стаю ля дывана, заплюшчыўшы вочы. Калі расплюшчу, бачу Дураліева. Ён адпачывае седзячы. Нясцерпна баліць спіна — пацягнуў у часе схваткі. Вочы засцілае туман, і мне здаецца, што сапернік нібы пагойдваецца. Мне цяжка. Яму, здаецца, яшчэ цяжэй. На шостай мінуце адчувалася нават нейкая пасіўнасць у яго рухах.

Трэцяя, апошняя трохмінутка. Рукі нібы з ваты. Калі хочаш схапіць саперніка, адчуваеш — прамахнешся і паваліцца. Такое ж, бачу, і ў Дураліева. Вось калі напружваецца ўсё: і сіла, і воля, і нервы. Галоўнае зараз — умець пераадолець сябе, прымусіць волю працаваць да канца.

Апошняя мінута. Мне ўдаецца перавесці балгарына ў партэр, прыцісну да дывана. Адчуваю,




Аляксандр Мядзведзь дае аўтографы мексіканскім школьнікам.

што ў таго няма сіл супраціўляцца, а ў мяне іх няма, каб давесці справу да канца. І ўсё ж такі трэба, трэба пратрымацца хоць некалькі секунд...

Перамога па балах прысуджана мне. Сіл хапае толькі, каб дайсці да трэнера, дакрануцца да яго пляча.

Пасля паядынку з Дуралієвым прайшло ўсяго тры гадзіны. Зноў суддзі выклікаюць на дыван. «Ідзі, Саша»,— гавораць таварышы па камандзе. Трэба ісці. Трэба не падаць выгляду, што не адпачыў, што баліць спіна.

Цяпер прадстаіць барацьба з амерыканцам Крыстафам, таксама тытулаваным спартсменам (Крыстаф неаднаразовы прызёр Алімпійскіх гульняў і іншых першынстваў, вопытны спартсмен). У маім распараджэнні застаецца толькі адна тактыка, якая можа прынесці перамогу — тактыка наступлення. Калі б Крыстаф ведаў, у якім стане я выйшаў на дыван, ён павінен быў бы перамагчы. Ён жа, як гаварылі мне потым хлопцы, што назіралі за ім, уступіў у паядынак вельмі баязліва.

У першыя тры мінуты мы абодва атрымліваем «узнагароды» — папярэджанні за пасіўнае вядзенне барацьбы. Мой сапернік лічыць, што я лаўлю яго промах, і асцярожнічае. Я актывізуюся і пераходжу ў атаку. За пасіўнасць амерыканец атрымлівае яшчэ тры папярэджанні. Мне прысуджаецца перамога.

Апошні, як яго называюць, залаты паядынак, быў з Дзітрыхам.

Я ведаў, што Вілі Фрэд Дзітрых вялікі тактык і добра валодае тэхнікай барацьбы. У яго багаты арсенал прыёмаў і добрыя фізічныя якасці. А больш за іншае ў карысць Дзітрыха гаворыць той факт, што апошнія некалькі гадоў ён не вяртаўся з буйных міжнародных спаборніцтваў без узнагарод. Алімпіяда ў Мехіка — яго чацвёртая алімпіяда. Спартсмен з ФРГ яшчэ і барэц-універсал, ён выступае як у класічнай, так і ў вольнай барацьбе.

З Дзітрыхам я сустракаўся да Мехіка толькі аднойчы. Гэта было ў японскім горадзе Іакагаме сем гадоў назад. Тады на чэмпіянаце свету я дэбютаваў і прайграў Дзітрыху. Тады, у 1961 годзе, мне патрэбна была толькі перамога і мне раілі:

— Рызыкуй, Саша...

Я рызыкнуў. Пайшоў, зажмурыўшы вочы, і — нарваўся. Прайграў тады адно ачко і заняў трэцяе месца. Цяпер другая сустрэча, такая ж адказная, як сем гадоў назад. Яна павінна была вырашыць, хто з нас варты насіць высокае званне алімпійскага чэмпіёна.

Немец размінаўся каля памосту. Масажыст разаграваў яго мышцы. І тут, у Мехіка, лепшыя барцы свету капітулявалі перад сілай і майстэрствам заходнегерманскага спартсмена.

Якую тактыку абярэ Дзітрых сёння ў фінальным паядынку? На тэхніку і сілу ці будзе разлічваць? Вынослівасці ў мяне больш, чым у яго. Ён ведае пра гэта. Значыцца, будзе хітраваць, пільнаваць кожную памылку.

Мае меркаванні пацвердзіліся — Дзітрых быў асцярожны і чуйны. У гэтым я яшчэ раз пераканаўся пры зусім непрадбачаных абставінах. На першай мінуце нашай схваткі нешта хруснула. Я ўбачыў, што ён пазірае на маю левую руку. Паднімаю руку і адчуваю, што ў мяне вывіхнуты вялікі палец. Я прачытаў у вачах немца: «Зараз пакліча доктара». А доктар быў не патрэбен — я проста «вярнуў» палец на сваё месца.

Паядынак з Дзітрыхам працягваўся нядоўга. Пасля кідка, які я ўдала правёў, Дзітрых не зусім удала прызямліўся і вымушаны быў пакінуць памост на насілках.

Радасная хвіліна перамогі! Залатая мінута! Перамога для мяне асабліва пачэсная. Бо, па-першае, гэта мая другая пераможная алімпіяда. Такое ў апошні час нікому з барцоў-вольнікаў не ўдавалася. Па-другое, цяжкая вага ў барацьбе — гэта вага прэстыжу, як у цяжкай атлетыцы, напрыклад. Апошнюю акалічнасць улічылі і арганізатары правядзення XIX Алімпійскіх гульняў. У адрозненне ад іншых буйных міжнародных спаборніцтваў, дзе першымі ўзнагароджваюцца спартсмены лягчэйшых вагавых катэгорый, у Мехіка спачатку на п'едэстал гонару ўзняліся цяжкавагавікі. Чамусьці прыгадаліся словы такійскага чэмпіёна ў цяжкай вазе Аляксандра Іваніцкага, якія ён сказаў карэспандэнтам: «Мядзведзь прайшоў увесь турнір, як ледакол, усё адольваючы і пакідаючы за сабой толькі чыстую ваду...». Сам таленавіты барэц, Іваніцкі ведаў, што шлях да перамогі пачынаўся чатыры гады назад, адразу ж пасля Такійскай алімпіяды, што аб сітуацыях, якія чакалі кожнага барца вольнага стылю ў Мехіка, можна было меркаваць толькі пасля чэмпіяната Еўропы ў Скопле, які адбыўся летам.





У перапынку паміж спаборніцтвамі — лісты на радзіму.

рэкорды і надзеі

Гучыць Гімн Савецкага Саюза. Па флагштоку павольна ўзнімаецца чырвоны сцяг Краіны Саветаў.

Увесь час знаходжання ў далёкім Мехіка мы думалі аб Радзіме, і гэта дапамагала нам у барацьбе. Пісьмы, тэлеграмы прыходзілі ў алімпійскую вёску штодзённа. Паштар, які з'яўляўся ў нашым корпусе літаральна праз кожныя 30—40 мінут, гаварыў у першыя дні, што яму яшчэ ніколі не даводзілася працаваць з такой нагрузкай і што, калі прыток пісем і тэлеграм рускім атлетам не паменшае, ён будзе вымушаны прасіць сабе памочніка.

Узнімаючыся на п'едэстал, я думаў пра сваю краіну і ўспамінаў сустрэчу ў Мехіка з адным чалавекам. Ён — з Віцебшчыны. Адразу ж пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі эміграваў. І трэба было бачыць, як засвяціліся радасцю вочы, калі цяпер гэты сямідзесяцігадовы стары даведаўся, што я з Беларусі. Калі мы размаўлялі з ім, ён лавіў кожнае маё слова пра Мінск, Віцебск, пра жыццё ў нашых вёсках, мацаў маю вопратку, глядзеў на абутак і захапляўся:

— Як цудоўна ў вас усё робяць...

На развітанне ён выказаў сваю самую запаветную мару:

— Вельмі б хацелася пабачыць Радзіму...— сказаўшы гэта, ён тут жа спахмурнеў: — Ды, мабыць, не ўдасца...

Наша развітанне з гасцінным Мехіка было шчырае і крышачку журботнае. Бывай, сонечная краіна! Дзень добры, Радзіма!



Сын сустрэў бацьку з перамогай.

**Аляксандр МЯДЗВЕДЗЬ,**
**заслужаны майстар спорту.**

Фота **В. Халеева** і аўтара.

**Раздзел вядзе
міжнародны гросмайстар
Аляксей СУЭЦІН**

# ПРАЗ ТРЫ ГАДЫ

Сучаснае шахматнае жыццё багатае падзеямі. Турнір адбываецца за турнірам. Значна радзей сталі наладжвацца матчы, але за апошні год якраз матчавыя паядынкі мацнейшых гросмайстраў звярталі на сябе асаблівую ўвагу шахматнай грамадскасці і аматараў шахмат. Пакінуўшы да часу свае слаўныя турнірныя справы, гросмайстры, як гаворыцца, закасаўшы рукавы, павялі бескампрамісную, упартую міжусобную барацьбу. Адзін за адным вымушаны былі пакідаць поле бою самыя славутыя матадоры шахмат.

І вось засталіся два мацнейшыя прэтэндэнты на сусветную карону— Барыс Спаскі і Віктар Карчной.

Пакінем у баку пакуль што аналіз пройдзенага ўжо этапу барацьбы і заглянем у перадгісторыю яго. Успамінаю, як яшчэ позняй восенню мінулага года, калі толькі што закончыўся міжзанальны турнір, аўтар гэтых радкоў вёў шчырую гутарку з Ц. Петрасянам пра будучы матч. У той час грамадскасць шахматнага свету знаходзілася пад уражаннем яркіх турнірных поспехаў Бента Ларсена і Віктара Карчнога. З «парадку дня» не знятыя былі Міхаіл Таль, Яфім Гелер, Леў Штэйн, усё больш прагрэсіраваў Лайаш Порціш. Барыс Спаскі амаль не выступаў, гуляў без характэрнага для яго запалу на міжнародных турнірах у Маскве і Сочы. І ўсё ж чэмпіён свету ўпэўнена назваў Барыса Спаскага як прэтэндэнта нумар адзін, праўда, дадаўшы, што пробным каменем для Спаскага будзе першы матч, з Я. Гелерам. Будзем гаварыць шчыра: такую думку мала хто падзяляў тады.

Але вось—перамогі Спаскага над Гелерам і Ларсенам з лікам, каронным для Спаскага, 5,5:2,5. І адразу Спаскі выходзіць у агульнапрызнаныя фаварыты.

Але наперадзе—фінальны матч з Віктарам Карчным, поспехі якога таксама ўсхвалявалі ўсіх. Многія спецыялісты, у тым ліку і Міхаіл Батвіннік, ацэньвалі матч як самы цікавы з усіх матчаў 1965—1968 гадоў.

Экс-чэмпіён свету Макс Эйве пісаў, што «можна быць зусім перакананым»: у гэтай сустрэчы Спаскаму не ўдасца паўтарыць лік 5,5 : 2,5. Ён прадказваў перавагу ў той ці іншы бок максімум у адно-два ачкі.

Перад матчам М. Батвіннік напомніў, што па амерыканскай табліцы каэфіцыентаў Карчной стаяў нават вышэй Спаскага ў гросмайстарскім «табелі рангаў».

І ўсё ж, як і з большасцю папярэднікаў, матч прэтэндэнтаў Спаскі закончыў дачасна. Пры гэтым і ачковая перавага 6,5:3,5 і змест партый паказалі бясспрэчную і значную перавагу Спаскага. Спаскі зноў паказаў сябе выдатным псіхолагам. З надзвычайным майстэрствам знайшоў ён «ахілесаву пяту» свайго партнёра. Адмовіўшыся спачатку ад ініцыятывы пры гульні белымі, ён галантна «прыняў» Карчнога «на сябе» (што, дарэчы, з'яўляецца любімым стратэгічным прыёмам самога Карчнога). Гэтым ён як бы прымусіў Карчнога дзейнічаць супраць свайго стылю. І эфект быў надзвычай вялікі. Самыя «чорныя» дні былі ў Карчнога, калі Спаскі гуляў чорнымі. Праўда, у шостай партыі Спаскі дапусціў зрыў і замест чарговага ачка атрымаў непрыемны нуль. Але тады ён тут жа паказаў, што ўмее гуляць белымі. Сёмая партыя, безумоўна, лепшае творчае дасягненне Барыса Спаскага. А пасля восьмай партыі лік, як па заказу, зрабіўся 5,5:2,5 (Эйве, як бачым, аказаўся дрэнным прадказальнікам), і матч быў, практычна, закончаны.

У чым прычына такой пераканаўчай перамогі Спаскага? Некаторыя спецыялісты, у тым ліку, напрыклад, гросмайстар Л. Палугаеўскі, тлумачаць гэта вялікім матчавым вопытам Спаскага. Але напомнім, што яшчэ тры гады таму назад Спаскі не меў ніякага матчавага вопыту і тым не менш перамог такіх шматвопытных матчавых байцоў, як П. Керас, Я. Гелер і М. Таль. Дарэчы, да паядынка з М. Батвіннікам у Ц. Петрасяна, па сутнасці, таксама не было матчавага вопыту.



Не, справа тут у тым, што, як відаць, і Ц. Петрасян і Б. Спаскі па сваёй натуры—выдатныя матчавыя байцы!

Трэба сказаць, што як у мінулым, так і на пачатку XX стагоддзя іменна матчавыя паядынкі мацнейшых гросмайстраў былі асноўным крытэрыем іх адноснай сілы і творчага «крэда». У сярэдзіне нашага стагоддзя матчы сталі вялікай рэдкасцю, уступіўшы першынство турнірам, і гэта дазволіла ахапіць значна большую колькасць канкурэнтаў прыкладна аднаго ўзроўню. Адсюль—і значна меншая магчымасць вывучэння матчавай тактыкі. А між тым, якраз матчы застаюцца куды больш глыбокім крытэрыем сілы гросмайстра.

У матчах выключнае значэнне набывае псіхалагічная ўстойлівасць, уменне «трымаць удар», а таксама ўніверсальнасць стылю гульні. Дарэчы, гэтымі характэрнымі якасцямі валодаюць і Ц. Петрасян і Б. Спаскі. Што ж, з лёгкім сэрцам можам мы вітаць паядынак сапраўды двух мацнейшых матчавых байцоў сучаснасці!

Цікава, што і той і другі прымушаюць усё глыбей глядзець на змест шахматнай творчасці. Да апошняга часу прынята было лічыць, што стыль шахматыста адлюстроўвае змест яго шахматнай творчасці. Вядучыя шахматысты сучаснасці ўсё болей пераканаўча паказваюць, што розныя стылі гульні—гэта розныя **формы** творчасці. А самым істотным момантам з'яўляецца сіла мыслення і яго ўніверсальнасць незалежна ад таго, ці выяўляецца гэта ў яркай атацы, ці знешне сумнай, але эфектыўнай абароне.

Спартыўная форма Б. Спаскага не выклікае сумнення. Адсюль і вельмі прыхільныя ў яго адрас прагнозы многіх. Аўтар гэтых радкоў на працягу двух цыклаў быў трэнерам чэмпіёна свету, з якім ён звязаны шматгадовым сяброўствам. Але тут хочацца адысці ад усялякай суб'ектыўнасці. Зразумела, спартыўная форма Петрасяна ў апошнія гады магла б быць значна лепшай. Апошні чэмпіянат Масквы паказвае, праўда, што чэмпіён свету на шляху да ўзнаўлення сваёй формы пачатку 1966 года. Нельга не ўлічваць таксама і ўмення Петрасяна рыхтавацца да матчаў на першынство свету і ягоную сабранасць у рашаючыя моманты. Таму зусім аб'ектыўна я лічу, што шансы бакоў зараз прыкладна роўныя, хоць, напэўна, Спаскі зрабіў за апошнія тры гады значны крок наперад. Шансы Петрасяна ў многім залежаць ад таго, ці ўдасца яму давесці сваю форму да ўзроўню вясны 1966 года. Надыходзіць галоўны падрыхтоўчы перыяд. Да таго ж, і Петрасяну і Спаскаму трэба будзе яшчэ выступіць у якасці «першых скрыпак» на XVII Сусветнай алімпіядзе. А далей праца кожнага з іх будзе строга індывідуальная, і вынікі яе выявяцца будучай вясною ўсё ў тым жа сталічным Тэатры эстрады.

Заўважым яшчэ, што на шахматным Алімпе за тры гады няма перамен. Зноў на парадку дня матчы Петрасян—Спаскі і Кушнір—Гапрындашвілі.

# СУСТРЭЧЫ НА КУБЕ

Шахматныя традыцыі на Кубе звычайна звязваюць з імем геніяльнага Хазэ Рауля Капабланкі, чэмпіёна свету з 1921 па 1927 год. Але пры гэтым трэба таксама памятаць, што яшчэ ў 1889 і 1892 гадах у Гаване адбыліся грандыёзныя матчы-баталіі на першынство свету паміж чэмпіёнам свету таго часу В. Стэйніцам і вялікім рускім шахматыстам М. Чыгорыным, і гэта моцна падзейнічала на зацікаўленасць шахматамі ў гэтай краіне. Хто ведае, магчыма, і развіццё таленту юнага Капабланкі цесна звязана з шырокай прапагандай шахмат на Кубе пасля тых матчаў. Жорсткія, дэспатычныя рэжымы Мачада і Бацісты надоўга спынілі далейшае развіццё шахмат у гэтай экзатычнай краіне. Паказальна хоць бы тое, што Х. Р. Капабланка быў пазбаўлены якой-небудзь матэрыяльнай падтрымкі і вымушаны быў пакінуць Кубу. Мільянеры адмовіліся фінансаваць нават яго матч на першынство свету з А. Алёхіным. Нягледзячы на гэта, да апошніх дзён свайго нядоўгага жыцця Капабланка нязменна выступаў ад імя сваёй радзімы, праслаўляючы яе і ў вольныя ад працы часы наведваючы родныя мясціны.

Рэвалюцыя зноў ускалыхнула шахматнае жыццё. Па масавым развіцці шахматы на Кубе стаяць на адным з першых месц у свеце. У вольны ад гульні

час удзельнікі чарговага міжнароднага турніра памяці Х. Р. Капабланкі, які летась адбыўся ў Гаване, маглі самі пераканацца ў гэтым.

Мы былі запрошаны на грандыёзны камандны матч. На адной з цэнтральных вуліц горада было ўстаноўлена адразу чатырыста шахматных дошак. Нас перш за ўсё ўразіла тое, што такія масавыя спаборніцтвы не лічацца тут нечым экстраардынарным, а з'яўляюцца адным з мерапрыемстваў па выхаванні грамадзян рэспублікі.

Цікавасць да турніра імя Капабланкі, які праводзіўся вось ужо ў шосты раз, выключная. Цудоўная зала атэля «Гавана-Лібрэ» была штодзённа перапоўнена. Арганізатары турніра на чале з нястомным і вельмі аўтарытэтным дырэктарам яго Х. Л. Барэра імкнуліся задаволіць не толькі жыхароў сталіцы, але і шахматыстаў з перыферыі. Таму ў першы вольны ад шахматных паядынкаў дзень наладзілі выязныя гульні ў гарадах Матанзас і Варадэра. Матчы ў гэтых гарадах праходзілі з не меншым уздымам, чым у Гаване. У Матанзасе гульні адбываліся ў цудоўным шахматным клубе, які носіць імя легендарнага рэвалюцыянера Чэ Гевары. Дарэчы, Чэ Гевара быў гарачым прыхільнікам шахмат, меў першы разрад і шмат садзейнічаў развіццю шахмат у сваёй краіне.

Савецкія шахматысты на гэтым турніры заваявалі пераканаўчую перамогу. Трое нашых гросмайстраў значна адарваліся ад астатніх удзельнікаў і за некалькі тураў да канца вырашылі вынік барацьбы. Гросмайстар Ратмір Холмаў набраў 12 ачкоў з 14 і апярэдзіў на паўачка трохразовага чэмпіёна СССР Льва Штэйна і аўтара гэтых радкоў. Мы падзялілі другое-трэцяе месцы. Ззаду засталіся дванаццаць удзельнікаў, у тым ліку чатыры гросмайстры і пяць міжнародных майстроў. Бясспрэчны рост прадэманстравалі кубінскія шахматысты. Лепшы з іх, Элеазар Хіменес, упершыню ў гісторыі мемарыялаў дасягнуў палавіны выйграных партый і стаў у турнірнай табліцы на месца, вышэйшае за двух міжнародных гросмайстраў.

У гэтым турніры ўсё было цікава, пачынаючы з адкрыцця і жараб'ёўкі, якую правялі вельмі арыгінальна (кожны з пятнаццаці ўдзельнікаў па выкліку арбітра разбіваў «ляскаўку», адкуль вылятаў яго нумар у турнірнай табліцы), і канчаючы паездкамі па краіне.

Шахматны майстар заўсёды крыху падарожнік. Нездарма сярод шахматыстаў можна пачуць пра такі выраз: «Паўсвету аб'ездзіў, а ў шахматы гуляць не навучыўся...» Куба ж для турыстаў — цудоўная мясціна.

...Хутка мчыцца машына па вуліцах сталіцы. Накіроўваемся ў дом-музей Эрнеста Хемінгуэя. Вакол сапраўды райскія мясціны. Але, разам з тым, усё наўкол насычана працай і працай. Прысядзібны ўчастак і цяпер узорна дагледжаны. Такі ж парадак і на ферме. Хемінгуэй любіў усякую жывёлу. У спецыяльным дамку жыло да пяцідзесяці розных парод кошак.

Дом Хемінгуэя — свяшчэнная рэліквія для кожнага кубінца. Пісьменнік пражыў тут апошнія дваццаць гадоў свайго жыцця і быў вялікім сябрам кубінскага народа. Тут ён з энтузіязмам сустрэў рэвалюцыю, быў асабістым сябрам вядомых кубінскіх рэвалюцыйных дзеячаў, у тым ліку і Фідэля Кастра.

Усё ў доме гаворыць пра любімы занятак і звычкі гаспадара. Вось прылады палявання. Бясстрашны чалавек і рэвалюцыянер, Хемінгуэй нярэдка ішоў на вельмі рызыкоўныя ўчынкі. Чалавек вялізнага росту (196 сантыметраў), незвычайнай сілы, ён быў як на сушы, так і ў моры прафесіянальным паляўнічым самага высокага класа. Пра гэта сведчаць яго трафеі — чучалы самых страшных драпежнікаў, якіх забіў ён сам, прызы за першынство па падводным паляванні.

Шматлікія карціны сведчаць пра яго прыхільнасць да карыды. Дарэчы, гасцямі яго ўвесь час былі вядомыя тарэадоры, выдатныя спартсмены і значна радзей — калегі-пісьменнікі. Праўда, апошнія таксама былі заўсёднымі спадарожнікамі Хемінгуэя, але толькі ў вялізнай бібліятэцы з дзевяццю тысячамі тамоў. Кнігі ўсюды ў доме, нават на ложку. З кнігай Хемінгуэй засынаў, з кнігай прачынаўся. А прачынаўся ён вельмі рана — а чацвёртай гадзіне раніцы, і адразу пачыналася творчая работа. Пісаў, як правіла, стоячы, прыкладна да адзінаццаці гадзін раніцы, г. зн. сем гадзін запар.

Больш за ўсе музеі і цуды прыроды ўражвае на Кубе бурны рытм жыцця і выключны аптымізм вызваленага ад прыгнёту народа. Вечарамі на вуліцах вельмі ажыўлена. Рэвалюцыйны народ адмовіўся ад буржуазнага спосабу забаўляцца — наведвання ўсялякіх вячэрніх і начных шоу. Ён вынес музыку і танцы проста на вуліцы і плошчы гарадоў. Па суботах жа і нядзелях і набярэжная Мексіканскай затокі ператвараецца ў суцэльны танцавальны клас, усе — у танцы, смех і вясёлыя галасы чутны ўсюды.

Нельга забыць сустрэчы з кубінскімі сябрамі. Многія з іх добра гавораць па-руску, некаторыя вучыліся ў Маскве, пра якую ўспамінаюць цёпла і сардэчна. Група маладых журналістаў — энтузіястаў шахмат — вырашыла зрабіць добрую справу: выдаць на Кубе поўны збор партый і прац Х. Р. Капабланкі. Да рэвалюцыі, як гаворыць малады журналіст Эдуарда Эрас, пра гэта нельга было і марыць: Капабланку ведалі ва ўсім свеце, вучыліся на яго партыях і па яго дапаможніках на ўсіх мовах свету, толькі не на Кубе. Цяпер усе ўнікальныя матэрыялы, якія знойдзены на Кубе, будуць апублікаваны. Сын геніяльнага шахматыста, па прафесіі адвакат, вялікі аматар шахмат, таксама быў нязменным наведвальнікам гульняў нашага турніра.





Турнір ужо амаль заканчваўся, калі ў адзін з вольных вечароў дырэктар турніра Х. Л. Барэра запрасіў нас у баскетбольную залу. На гэты раз матч быў не зусім звычайны — у адной з каманд гуляў Фідэль Кастра. Сярод гледачоў — шмат школьнікаў, якія горача занепакоены вынікамі матча і хвалююцца за славутага героя Кубы.

Дарэчы, пра кубінскіх дзяцей. Кідаецца ў вочы іх непасрэднасць, запамінаецца іх музычнасць і выключнае адчуванне рытму.

Прывядзем дзве партыі, сыграныя на VI мемарыяле Х. Р. Капабланкі.

**М. Дамяновіч — Л. Штэйн.** Сіцыліянская абарона (Гавана, 1968): 1. e4 c5, 2. Кf3, Кс6, 3. d4, cd, 4. К:d4 Кf6, 5. Кс3 d6, 6. Cg5 Cd7, 7. f4 Лс8, 8. Кb3.

Чорныя разыгралі адзін з модных варыянтаў атакі Раўзера. Устрымліваючыся пакуль ад ходу e7—e6, чорныя нібы выклікаюць размен на f6, пасля чаго яны атрымліваюць пры выпадку магчымасць ажыццявіць падрыў f6—f5, развіваючы заадно свайго чарнапольнага слана па вялікай дыяганалі. Але пакуль што гэта — планы... Белыя не спяшаюцца з разменам на f6 і маюць намер як мага актыўней размясціць свае сілы.

8. ... a5?!

Экстравагантны выпад! Але ён звязан з далёкім планам, дзе чорныя, не лічачыся з паслабленнямі, імкнуцца, чаго б тое ні каштавала, перахапіць ініцыятыву.

9. Cb5 Кg4?!

Звенні аднаго ланцуга. Чорныя гуляюць насуперак дэбютным прынцыпам. Але белым некалі марудзіць: чорныя намерваюцца працягваць 10. ...h6, а потым g7—g5!, пачынаючы тактычную бітву на ўсім абсягу дошкі.

10. h3 Ке3, 11. Фe2 Кb4?!, 12. Cd3 h6, 13. Ch4 g5, 14. fg hg, 15. Cg5 Кg4.

Можна зрабіць падрахунак гэтаму парадаксальнаму дэбюту. Чорныя ахвяравалі пешку і развілі некаторую актыўнасць. І ўсё ж, па сутнасці, іх ініцыятыву падтрымлівае вельмі малая колькасць сіл. Да таго ж, кароль чорных безнадзейна затрымаўся ў цэнтры. Усё гэта прымушае лічыць, што пазіцыя склалася яўна на карысць белых. Цяпер прасцей за ўсё было б 16. a3, вызначаючы пазіцыю каня «b4». Пасля 16. ...К:d3, 17. Ф:d3 Фb6 (інакш 17. Кd5), 18. Лf1, і чорныя ў поўнай меры рызыкуюць застацца ля «разбітага карыта». Але... наступны адказ белых уносіць істотную папраўку ў ход барацьбы.

16. Cb5?

Элементарны пралік, які, аднак, не з'яўляецца недарэчнай выпадковасцю. Справа ў тым, што белыя, у адрозненне ад іх партнёра, не «паспелі» па-сапраўднаму ўнікнуць у пазіцыю і рабілі да гэтага часу добрыя хады толькі з агульных меркаванняў. А гэта небяспечны шлях гульні ў такіх выключна канкрэтных сітуацыях.

16. ...К:c2+!

Вось ён — схаваны трагічны рэсурс! Цяпер чорныя не толькі адыгрываюць пешку, але маюць аб'ектыўныя падставы перахапіць ініцыятыву. Што ж, трэба прызнаць, што псіхалагічна Штэйн атрымаў верх, хоць на дошцы падзеі развіваліся зусім не па законах строгай логікі.

17. Ф:c2 C:b5, 18. Кd4 Cd7, 19. Фd2 Cg7, 20. Кd5.

Белыя страцілі ніць і не заўважаюць яўнага контрудару праціўніка. Але белым ужо нялёгка знайсці добры працяг. У выпадку 20. 0—0 добра як 20. ...Ке5 з пагрозаю ...Кс4, так і 20. ...Фb6!, 21. К3e2 e5 і г. д.

20. ...Лс4!

Конь не мае магчымасці пакінуць поле d4 з-за 21. ...Л:e4+, застаецца працяг у партыі:

21. C:e7 Ф:e7!, 22. К:e7 Л:d4, 23. Ф:d4.

Сумна, але амаль што вымушанае рашэнне. На 23. Фe2 магло быць 23. ...Кр:e7, 24. 0—0 Ке5, або 24. ...Лb4, і атака чорных павінна вырашыць вынік барацьбы.

23. ...C:d4, 24. Кd5 Кf2!, 25. Лf1 К:e4, 26. 0—0—0 Ce5.

Барацьба прадвызначана. У чорных рашаючая і матэрыяльная і пазіцыйная перавага.

27. Лfe1 f5, 28. Лd3 Крf7, 29. g4 Кf2, 30. Лf3 К:h3, 31. Кb6 Cf4+, 32. Крb1. Вядома, дрэнна і 32. Л:f4 К:f4, 33. К:d7 Кd3+ і г. д.

32. ...Ce6, і белыя здаліся.

**А. Суэцін — Я. Донар.** Французская абарона (Гавана, 1968): 1. e4 e6, 2. d4 d5, 3. Кс3 Cb4, 4. e5 c5, 5. a3 C:c3+, 6. bc Фс7, 7. Кf3 b6, 8. a4 Ca6, 9. C:a6 К:a6, 10. Фd3 Кb8, 11. 0—0 Кd7, 12. a5 Лс8?

Да гэтага часу партыя развівалася, падобна вядомай партыі Таль—Донар (Бевервейн, 1968). Там ферзь белых стаяў на «е2». Але цяпер чорныя дарэмна адмаўляюцца ад ўзяцця на «а5». Па-першае, белым было зусім не проста выявіць слабыя бакі здваення чорных пешак па лініі «а», а галоўнае, цяпер у белых з'яўляецца важная артэрыя ініцыятывы ў выглядзе валодання лініяй «а».

13. ab ab, 14. dc!

Істотны момант! Пасля доўгага роздуму белыя прымаюць рашэнне размяняць сваю «карэнную» цэнтральную пешку. Але гэтым яны ліквідуюць контргульню чорных на лініі «с», развязваючы сабе рукі для ініцыятывы на каралеўскім фланзе.

14. ...bc.

Нядобра 14. ...К:с5? 15. Фb5+? Фс6, 16. Фb4, і пагроза манеўра Кf3—d4—b5 вельмі моцная.

15. Ле1 Ке7, 16. h4! h5, 17. с4 dc, 18. Ф:с4 Кf5, 19. Фf4 Кf8?

А гэты залішне клапатлівы прафілактычны манеўр аказваецца рашаючай памылкай. Чорныя павінны былі без прамаруджання ракіравацца (яны хацелі спачатку адціснуць фярзя з актыўнай пазіцыі ходам Кf8—g6). Пасля 19. ...0—0, 20. Фg5 g6, 21. g4 hg, 22. Ф:g4 Кg7, 23. Сh6 намячалася цікавая гульня ўсё ж з некаторай ініцыятываю ў белых.

20. Лd1!

«Ціхі», але вельмі непрыемны для чорных ход. Пагражае атака з 21. Фа4+. Магчыма, што меншай з непрыемнасцей было б вярнуцца канём на d7. Пасля ходу чорных падзеі развіваюцца фарсіравана.

20. ...Фс6?, 21. Фс4 Кd7, 22. Ла6 Кb6, 23. Фb3 Лb8, 24. Сg5!

Заключны акорд! І чорныя здаліся. Пагрозы 25. Л:b6!, або 25. Лb1, ім нельга парыраваць.

# З ШАХМАТНЫХ АРХІВАЎ

Некалі вядомы шахматны гросмайстар і літаратар С. Тартаковер сказаў, што сіла шахмат—гэта сканцэнтраваны вопыт, **руціна,** як ён вобразна вызначыў такое паняцце. Вядома, з цягам часу адны якасці набываюцца, другія страчваюцца, як, напрыклад, свежасць практычнага мыслення, спартыўны азарт. Але што такое вопыт? Каб адказаць на гэтае пытанне, я парашыў зазірнуць у адну з першых старонак сваёй біяграфіі і расказаць, як адна мая партыя набыла ў далейшай практыцы ролю своеасаблівага каганца для многіх наступных аналагічных сітуацый.

Хочацца прывесці некаторыя прыклады са сваёй практыкі.

**Н. Жураўлёў—А. Суэцін** (Рыга, 1962 год): 1. е2 с5, 2. Кf3 Кс6, 3. d4 cd, 4. К:d4 Кf6 5. Кс3 d6, 6. Сс4 е6, 7. 0—0 Се7, 8. а3 0—0, 9. Са2 К:d4. 10. Ф:d4 b6, 11. Сg5 h6, 12. Сh4 Сb7, 13. Лаd1 Лас8, 14. Лd2 Л:с3!

Вынікі ахвяры тут не такія выгадныя, але дастаткова пераканаўчыя, каб лічыць пазіцыю, што ўзнікае, бясспрэчна, у карысць чорных.

15. bc К:е4, 16. С:е7 Ф:е7, 17. Лd3 d5, 18. Фb4 Фс7, 19. Лh3 Лс8, 20. с4 dc, 21. с3 Кf6, 22. Сb1 Фс6, 23. f3 Кd5, 24. Фb2 Фс5+, 25. Крh1 Кf4, 26. Лg3 Лd8, 27. Ле1 Фе3!, і ў чорных рашаючая перавага.

Спачатку мне здавалася, што эфект ахвяры якасці ўзнікае перш за ўсё з-за слабасцей, якія тут паяўляюцца на ферзевым фланзе. Вядома—гэта сур'ёзны пазіцыйны фактар. Але можа быць не менш важна і знішчэнне пешкі е4—асноўнага «каменьчыка» белых у цэнтры.

Характэрная ў гэтых адносінах ахвяра якасці, зусім не звязаная з разбурэннем пазіцыі пешкі на ферзевым фланзе.

**Хонфі—Суэцін** (Капенгаген, 1965 год): 1. е4 с5, 2. Кf3 е6, 3. d4 cd, 4. К:d4 а6, 5. Кс3 Фс7, 6. g3 Кс6, 7. Сg2 d6, 8. 0—0 Сd7, 9. а4 (?) Кf6, 10. К4е2 Се7, 11. b3 0—0, 12. Сb2 Лfd8, 13. Кf4 Лас8, 14. Лас1 Ке5, 15. Фе2 Фа5, 16. Кd1 b5!, 17. ab С:b5!, 18. с4 Сс6, 19. Сс3 Фb6, 20. Фа2 К:е4!

Ахвяруючы якасцю, тут чорныя кіруюцца камбінацыйнай атакай на караля белых па дыяганалі а8—h1.





21. Са5 Фb7, 22. С:d8 С:d8, 23. Кс3 g5, 24. К:е4 С:е4, 25. С:е4 Ф:е4, 26. Фе2! Фf3!, 27. с5? (Рашаючая памылка. Робячы 27. Ф:f3 К:f3+, 28. Крg2 Кd2, 29. Лfd1 К:b3, 30. Лс3 Ка5, 31. Кh5 К:с4. 32. Л:с4 Л:с4, 33. Л:d6 Сb7, 34. Л:а6, белыя захоўвалі неблагія шансы на выратаванне) 27. ...gf, 28. Ф:f3 К:f3+, і чорныя лёгка рэалізавалі сваю перавагу.

У заключэнне прывяду наступнае эфектнае заканчэнне партыі Купрэйчык—Цімошчанка. Малады беларускі майстар эфектна правёў заключную стадыю барацьбы.

**Купрэйчык—Цімошчанка** (Адэса, 1968 год).



Пасля 19 ходаў.

Белыя: Крf1, Фd2, Ла1, Сf3, Кb5; пп. а4, b2, f6, f2, g2, h4 (11).

Чорныя: Крс8, Фb6, Лd8 і h8, Кс6; пп. а6, b7, d5, h7, h6 (10).

20. Ф:f4! ab, 21. Сg4+ Лd7, 22. ab! Ка5.

Нездавальняюча 22. ...Ф:b5+, 23. Се2, і няма абароны ад 24. Ла8+. Гэтая ж пагроза вырашае і ў выпадку 22. ...Кb8, 23. Ла8!

23. Фb4 Фс7, 24. b6 Фh2, 25. Л:а5 Фh1+, 26. Кре2 Ле8+, 27. Фе7! І чорныя здаліся.

**Ведаеце што, пад Новы год пер態трасаў я свой партфель. Шмат там назбіралася рознай непатрэбшчыны — старонкі неабароненай дысертацыі, лісты ад..., канчуры паспісаваных алоўкаў. Як-ніяк, нешта ж летась крыху крэмзаў і друкаваў, каб павесяліць вас, шаноўныя чытачы. Ну, можа не павесяліць, а каб хаця выклікаць нявымушаную ўсмешку.**

**Перабіраю, перакладваю з месца на месца... І раптам, зачытаўся... Ды і смяяцца пачаў... З чаго! А вось, калі ласка, пачытайце і ўсміхніцеся...**

**Антось ЦЫБУЛЬКА.**

Мал. **С. Волкава.**

# БОЖЫ ДАР

**ГУМАРЭСКА**

Кажуць, што ў мяне ёсць вялікія схільнасці да малявання. Калі іменна абудзіўся гэты мастацкі сверб, дакладна не памятаю, ведаю толькі, што вельмі рана. Мабыць, яшчэ тады, калі пешшу хадзіў пад стол.

А час ішоў. Паступова, непрыкметна ў вузкім коле блізкіх людзей я набыў шырокую вядомасць майстра жывапісу, як Рэмбрант у сусветным маштабе. Старая падслепаватая суседка Агата і тая аднойчы доўга глядзела на мой нацюрморт і ўсё дзівілася:

— А божухна! А матухна! Гуркі ж тут, як з грады, ды ўсё зялёненькія, роўненькія, ні аднаго насенніка! Гэта ж, дзеткі, у цябе не рукі, а дар божы!

Людзі хваляць, некаторыя зайздросцяць, а я дык гэты святы дар не то што каму пазычыў бы, а задарма, яшчэ з прыдачай, аддаў бы. Прыйдзеш раненька ў сваю кантору: работы — во! Квартальная справаздача духі вымае. А які-небудзь Антон Маркавіч ужо лезе да цябе сляпіцаю, нагружае:

— Тут табе даручэнне адно па прафсаюзнай лініі. Крыўдуй сабе не крыўдуй, а трэба прывітальны плакацік. Мо ж чуў, што суседзі да нас едуць?

— Ды я ж...

— Ведаю, браце, што не гуляеш, але трэба. Вось табе тэкст, вось табе папера. Давай!

І пайшло, і закруцілася. Не паспееш управіцца з тым плакатам, як да цябе ўжо рэдактар насценгазеты прэцца. Яму, бачыце, няёмка, каб газета пустою рамкаю глядзела. А там нехта просіць размеляваць папку, каб начальству спадабалася. А там яшчэ нейкая трасца падвернецца.

Наш качагар дзядзька Сцяпан нашто ўжо чалавек далёкі ад мастацтва, а, гледзячы на ўсіх, таксама папрасіў напісаць таблічку для сваёй качагаркі — мудрагелістую, з указаннем і маркі катла і колькі вады ў той кацёл лезе. Быццам без такога ўказальніка людзі падумаюць, што там не качагарка, а атамны рэактар.

Без нажа рэжуць!

А ў роднай хаце, думаеце, соладка? Ледзь толькі пераступіш парог, як дачушка-дашкольніца трэцца ўжо ля кален з пакамечаным сшыткам.

— Намалюй, тата, кароўку. Толькі з рожкамі, з вымечкам — каб харошанькая была.

І вось на аркушку паперы паспешліва вымалёўваюцца абрысы нейкай фантастычнай жывёліны.



— А такіх гарбатых кароў не бывае,— кажа дачка.— Намалюй лепшую. Пярэсценькую, як у цёткі Лізы.

Мусіў улічыць аб'ектыўную крытыку, а заадно з пярэстай каровай намаляваў і цялё, якое, апусціўшы галаву, панура плялося за сваёй маткай. Я, мабыць, выглядаў не весялей за тое цялё, бо трэба ж было яшчэ аформіць альбом, пераманяваць нейкія песцікі-люцікі для швагеркі-завочніцы, гадзюку з келіхам для жонкі-медычкі. Тут ужо як ні круці — не выкруцішся. Чужым, скажа, малюеш, а роднай жонцы дык не. Рэжуць! З усіх канцоў рэжуць!

А ўчора нячыстая звяла яшчэ з тою Агатаю. Я ў дзверы, а яна з дзвярэй са сваім дыванам-анучаю. Фарба на ім патрэскалася, паўздувалася, а там, дзе павінны быць лебядзіныя галовы, і зусім аблупілася. Агата ж сваё: «Гэта, кажа, грэх, каб жывыя істоты без галоў плавалі. Падмаж іх чым-небудзь, дзеткі».



Я прыклаў усе сілы, каб толькі адмовіцца ад рэстаўрацыі гэтага нізкапробнага твора, тыповай халтуры і безгустоўнасці. Горача даводзіў бабулі, што малюнак зроблен фарбай, якая разводзіцца на пакосце, што быццам бы гэтага пакосту ні за якія грошы не купіш.

— А ты развядзі газай,— павучала старая.— Антось жа, як мазаў плот, дык ліў яе ў вядзерца. І нічога, хораша. А я і крэйды прынесла.

Зрабілася горача, млосна.

— Крэйдай, дык крэйдай — хай!

Вось так і жыву: малюю, падфарбоўваю, п'ю валяр'янку і пакуль што трываю. Але, мабыць, вось-вось надыдзе канец маёй мастацкай дзейнасці. Ад суседзяў дачуўся, што Агацін кот пацёрся ля таго дывана і забраў на сваю поўсць усе сляды нядаўняй рэстаўрацыі. Калі гэта так, то набожная бабуля заўтра зноў прынясе сваіх безгаловых птахаў. Не дапусціць жа яна, каб бог — стваральнік усяго жывога — пазіраў з абраза на яўны брак сваё работы. А я ўжо ведаю, што буду рабіць. Страшэнна вылуплю вочы, заляскаю зубамі і, як чэхаўскі дачнік, забегаю па хаце з дзікім лямантам:

— Крыві прагну! Прагну крыві!

**Усевалад ГУРЫНОВІЧ.**

●

**МЕНЕСТРЭЛЬ**



Вы ведаеце Жору?
Не сустракалі нат?
Ды гэта той, каторы
Аматар сэрэнад.

Адкормлены, не кволы,
Семнаццаць, як-ніяк,
А выгналі са школы
За тое, што лайдак.

Ды ён пазбег адчаю,
Прайшло два-тры гады —
І Жора абрастае
Гаржэткай барады.

З такім звышмодным тварам
Зручней мо лайдаку,
Тым больш, што і гітара
У Жоры на баку.

Брынчыць і глупства меле,
Ды так, што пот цячэ,
Назваўся менестрэлем
І неяк там яшчэ.

Спявае ён з запалам
Ды бараду скрабе,
І ін-тэ-лек-ту-а-лам
Ужо назваў сябе.

Бязглуздзіцу ён шпарыць
І ные без канца.
Пустая, як гітара,
Галовачка ў хлапца.

**Мікола АЛТУХОЎ.**

● Мікола ВЯРШЫНІН

### «ЧУЛЛІВЫ»

З кійком заходзіць у трамвай старая.
Сядзіць дзяцюк ды збоку пазірае:
— Чаго стаіце? Я параду дам:
Прайдзіце ўперад — месца ўступяць там.

### НЕДАРМАЕД

Не завіце мяне дармаедам,
Будзе ганьба для ўсіх сваякоў,
Бо жыву я, каб кожны з вас ведаў,
На працоўныя сродкі... бацькоў.





### ВОСЬ ДЫК ДРУЖЫННІКІ!

Хуліганы гуляюць па парку.
Забярыце — наробяць бяды!
— Ого-го! Мы дамо ім прыпарку,
Прывядзіце хутчэй іх сюды!

● Уладзімір ЛЯВІЦКІ

### ТАПОР-НІЗКАПАКЛОННІК

Бярозе пакланіўся ў ногі —
І тая ўпала ля дарогі.



# нашы аўтары

**БРОЎКА Пятрусь** нарадзіўся 25 чэрвеня 1905 года ў вёсцы Пуцілкавічы Ушацкага раёна Віцебскай вобласці. Аўтар паэтычных зборнікаў «Прамова фактамі», «Гады як шторм», «Цэхавыя будні», «Шляхамі баравымі», «Вясна радзімы», «Насустрач сонцу», «У роднай хаце», «Вершы і паэмы» і інш., а таксама аўтар рамана «Калі зліваюцца рэкі». Двойчы лаўрэат Дзяржаўнай і лаўрэат Ленінскай прэмій.

**ГРАЧАНІКАЎ Анатоль** нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Шарпілаўка на Гомельшчыне. Скончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту.

Працаваў на чыгунцы, а пасля быў на камсамольскай рабоце.

Цяпер вучыцца на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве.

**СВІРКА Юрась** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Маргавіца Докшыцкага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна.

Працуе на беларускім радыё. Аўтар зборнікаў «Шэпчуцца ліўні», «Вечнасць», «Баравіна».

**ПАНІЗНІК Сяргей** нарадзіўся ў 1942 годзе ў Міёрскім раёне. Скончыў Вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча.

Аўтар зборніка «Кастры Купалля».

**ПІСАРЭНКА Юрась** нарадзіўся ў 1936 годзе ў Мінску.

Скончыў Беларускі дзяржаўны політэхнічны інстытут. Працуе ў канструктарскім бюро прыборабудавання.

**МЕХАЎ Уладзімір** нарадзіўся ў 1928 годзе ў Рагачове. Скончыў філалагічнае аддзяленне Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Аўтар кніг «Сцяг над рэўкомам», «Апошняя яўка», «Помнік герою», «Станцыя паблізу Тамбова».

Працуе ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва».

**КАЗАНЦАЎ Аляксандр** нарадзіўся ў 1906 годзе. Вядомы пісьменнік-фантаст. Яго раманы: «Палаючы востраў», «Арктычны мост», «Палярная мара», «Ільды вяртаюцца», «Мацней за час» (першая кніга гэтага рамана публікавалася ў нашым часопісе №№ 5 і 6 1966 г.). Інжынер па спецыяльнасці. Пісьменнік пабываў ў Арктыцы. Вынік гэтага падарожжа—шэраг апавяданняў. Адно з іх публікуецца ў гэтым нумары.

**БУЙЛА Канстанцыя** нарадзілася ў 1898 годзе ў Вільні. Яе паэтычныя зборнікі: «Курганная кветка», «Выбраныя творы», «Юрачка».


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 1**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ**. Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА**.
Карэктар **Лідзія ТАЎЛАЙ**.

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592 — аддзелы паэзіі і прозы.
2-93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 29/XI-68 г. Падпісана да друку 3/I-69 г.
АТ 08848. Тыраж 11386 экз. Зак. 1301. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі праcп., 79.**


# БЕЛАРУСКІ КРАЙ МОЙ

**Песня для голасу з фартэпіяна**

**Музыка Кіма Цесакова**
**Словы Ніла Гілевіча**

ПАВОЛЬНА

Край мой беларускі, край! Дай ты мне прыпасці, дай! Да твайго ляснога верасного долу, дзе так шчасця многа выпала на долю, — дай жа мне прыпасці, дай!

1. Для паўтарэння. дай!
2. Для заканчэння. дай!

Край мой беларускі, край!
Дай ты мне прыпасці, дай,
Да твайго ляснога
Вераснога долу,
Дзе так шчасця многа
Выпала на долю, —
Дай жа мне прыпасці, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай жа мне напіцца, дай,
Той вады гаючай
З той крыніцы вечнай,
Дзе ад ран балючых
Ты арлоў вылечваў, —
Дай жа мне напіцца, дай!

Край мой беларускі, край!
Дай мне наглядзецца, дай,
На твае на пожні,
На лугі ды рэкі,
Каб у час апошні
Узяць з сабой навекі —
Дай жа наглядзецца, дай!

